Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**І. Я. ЛЕПЕШАЎ**

# Культура маўлення

Дапаможнік па курсу
«Стылістыка і культура мовы»
для студэнтаў спецыяльнасці 1-210501 –
Беларуская філалогія

Гродна 2007

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3
Л48

Рэцэнзенты: прафесар, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова *В.І.Рагаўцоў*;

прафесар кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук *М.А.Даніловіч*.

Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы.

**Л е п е ш а ў, І.Я.**

Культура маўлення : дапам. / І.Я.Лепешаў. – Гродна : ГрДУ, 2007. – с.

ISBN 985-417-

Разглядаюцца на значным фактычным матэрыяле камунікацыйныя якасці маўлення з улікам іх праяўлення ў тым ці іншым функцыянальным стылі. Упершыню даецца абгрунтаванне некаторых нормаў літаратурнай мовы: лексічных, фразеалагічных, словаўтваральных, марфалагічных і інш.

Для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Можа быць выкарыстаны і ў школьнай практыцы выкладання беларускай мовы.

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3

ISBN 985-417- 

# ПРАДМОВА

У выдавецтве «Універсітэцкае» выйшла ў 1989 г. як вучэбны дапаможнік (з грыфам Міністэрства народнай адукацыі БССР) мая кніга «Асновы культуры мовы і стылістыкі: Практыкум». Загаловак машынапіснага варыянта кнігі быў крыху іншы і больш дакладны: «Асновы культуры *маўлення* і стылістыкі». Але рэдакцыя настойліва патрабавала замяніць *маўленне – мовай*, кіруючыся тым, што тагачасная праграма мела назву «Асновы культуры мовы і стылістыкі». Я мусіў падпарадкавацца, але ўсё ж дамогся, каб далі ў кнізе наступную заўвагу-зноску:

«Ідэю размежавання мовы і маўлення, – адзначаў М.Я.Цікоцкі ў «Стылістыцы беларускай мовы» (1976), – цяпер прызнаюць амаль усе лінгвісты». Мова і маўленне суадносяцца паміж сабой як сутнасць і з’ява, як абстрактнае і канкрэтнае. Мова – гэта сродак зносін, сістэма структурных адзінак і правіл іх функцыяніравання, а маўленне – гэта мова ў дзеянні, працэс зносін, канкрэтнае функцыяніраванне таго, што даецца ў граматыках і слоўніках, рэалізацыя закладзеных у мове магчымасцей. У даным дапаможніку паслядоўна размяжоўваюцца паняцці «мова» і «маўленне», аднак у загалоўку кнігі і ў некаторых іншых выпадках выкарыстоўваецца традыцыйны, не зусім дакладны тэрмін «культура мовы», які ў беларускай лінгвістыцы ўжываецца са значэннем ‘культура маўлення’. Гл. аб паняццях «мова» і «маўленне»: Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Мінск, 1986. Т. 3. С. 486; *Тамашэвіч Т.І.* Культура маўлення і стылістыка ў школьным і універсітэцкім выкладанні // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1988. № 2. С. 20–23» [35, с. 4].

Пытанне пра размежаванне мовы і маўлення разглядаецца і ў шмат якіх іншых працах, напрыклад: Асновы культуры маўлення і стылістыкі / Пад рэд. У.В.Анічэнкі. Мінск, 1992. С. 4–8; Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 339-340; *Рагаўцоў В.І.* Уводзіны ў мовазнаўства. Магілёў, 2004. С. 30–33. Гэта пытанне ўпершыню было тэарэтычна абгрунтавана вядомым швейцарскім лінгвістам Ф. дэ Сасюрам (1857–1913). Ён пісаў, што мова – гэта «набор моўных сродкаў», а маўленне – «індывідуальныя акты гаварэння» і што мова і маўленне «цесна звязаныя паміж сабой і прадугледжваюць адно аднаго: мова неабходная, каб маўленне было зразумелае і тым самым было эфектыўнае; маўленне ў сваю чаргу неабходнае для таго, каб склалася мова; гістарычна факт маўлення папярэднічае мове» [56, с. 57].

Хоць «мова» і «маўленне» з’яўляюцца «дзвюма зусім рознымі рэчамі» (Ф. дэ Сасюр), але гэтыя тэрміны, як піша М.Абабурка, «часцей за ўсё падаюцца ў нашым мовазнаўстве як тоесныя». Ды і сам ён на дзвюх старонках кнігі тройчы ўжывае «культура мовы (маўлення)» [1, с. 4-5]. У наступных, напрыклад, кнігах размова ідзе пра маўленчыя з’явы, але працы маюць такія назвы: Сучасная беларуская мова: пытанні культуры мовы. Мінск, 1973; Культура мовы журналіста. Вып. 5. Мінск, 1990; Пытанні культуры пісьмовай мовы / Пад рэд. А.І.Падлужнага. Мінск, 1991; *Абабурка М.* Культура беларускай мовы. Мінск, 1994.

Недакладнасці ва ўжыванні гэтых тэрмінаў і вытворных ад іх прыметнікаў сустракаем і ў школьнай практыцы. Так, пры ацэнцы вучнёўскіх творчых прац, у адпаведнасці з «Адзіным моўным і арфаграфічным рэжымам школы» і «Нормамі ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў...», улічваюцца не толькі арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі, але і «недахопы зместу», «граматычныя памылкі», «моўныя недахопы». Апошні від памылак больш правільна і лагічна называць «маўленчымі недахопамі». І вось чаму. Цяпер ужо ў 4 класе вучні знаёмяцца з такімі паняццямі, як мова і маўленне, размежаванне мовы і маўлення, а ў 10 класе вывучаецца раздзел «Маўленне». У вучнёўскіх творчых працах маем справу не з мовай, а з маўленнем, таму ў ім могуць быць толькі *маўленчыя* недахопы, але не *моўныя.*

У беларускім мовазнаўстве пытаннямі культуры маўлення пачалі займацца ў 20–30 гады мінулага стагоддзя. Больш інтэнсіўна гэта праца стала весціся пачынаючы з 1960-х гадоў, пасля выхаду ў свет акадэмічных слоўнікаў, спачатку перакладных, а затым тлумачальных.

Універсітэцкі курс, які ў цеснай сувязі з праблемамі стылю вывучае камунікацыйныя якасці маўлення (правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чысціню, дарэчнасць, багацце, выразнасць), стаў выкладацца на філалагічных факультэтах у 1980-х гадах. Спачатку ён меў назву «Асновы культуры мовы», а з 1985 г. стаў называцца «Асновы культуры мовы і стылістыкі». Але гэта не зліццё або механічнае аб’яднанне дзвюх лінгвістычных дысцыплін у адну. Маецца на ўвазе адна, новая дысцыпліна, якую можна кваліфікаваць як «культуру маўлення на стылістычнай аснове», як курс, у якім камунікацыйныя якасці маўлення вывучаюцца з абавязковым улікам таго, як яны праяўляюцца ў тым ці іншым функцыянальным стылі. Аб сучасных разнастайных і супярэчлівых поглядах адносна размежавання культуры маўлення і стылістыкі і сувязі паміж імі гл. больш падрабязна ў маім памянёным напачатку дапаможніку [35, с. 196-199].

Канчатковая назва гэтага курса яшчэ не ўсталявалася. У базавым вучэбным плане 2001 г. курс называецца «Культура і стылістыка беларускай мовы», а ў плане на 2005-2006 навучальны год – «Стылістыка і культура мовы». Праграма, складзеная Н.І.Гілевіч і зацверджаная Вучоным саветам філалагічнага факультэта БДУ, мае назву «Стылістыка і культура маўлення» (1998), а праграма, зацверджаная Саветам ГрДУ, называецца «Культура і стылістыка беларускай мовы» (2005). Аўтар апошняй праграмы Т.І.Тамашэвіч у тлумачальнай запісцы зазначае: «Праграма разлічана на вывучэнне якасцей маўлення, а не мовы. Таму лічым, што ў навучальным плане філалагічнага факультэта дапушчана памылка ў назве курса. Ён павінен мець назву «Культура і стылістыка беларускага маўлення». У Мазырскім педуніверсітэце працуюць па дзвюх асобных праграмах: «Культура маўлення» і «Стылістыка беларускай мовы» (абедзве выдадзены ў 2004 г. і складзены С.І.Солахавай). Дарэчы, аналагічны курс ва універсітэтах Расіі называецца «Русский язык и культура речи».

У гэтай маёй кнізе разглядаюцца не ўсе пытанні, пазначаныя названымі вышэй сучаснымі праграмамі курса (1998, 2005). Тут у цэнтры ўвагі – камунікацыйныя якасці маўлення. Адзначым, між іншым, што ў словазлучэннях тыпу *камунікацыйная функцыя, камунікацыйныя якасці, сітуацыйны кантэкст, канструкцыйна абмежаванае значэнне*, як сведчыць маўленчая практыка апошніх гадоў, больш лагічна і правамерна ўжываць у прыметніках суфікс *-н-*, а не штучны дублікат *-тыйн-*.

«Каб выхаваўчая работа ў галіне культуры маўлення была дзейснай і плённай, – пісаў акад. В.У.Вінаградаў, – трэба вызначыць, з чым змагацца, што прызнаць маўленчымі памылкамі і няправільнасцямі, тыповымі для сучаснасці. І галоўнае: трэба выдзеліць іменна хадавое, тыповае, а не забаўляцца анекдотамі, недарэчнасцямі індывідуальнага словаўжывання» [9, с. 5]. Менавіта гэтым і кіраваўся я пры напісанні «Культуры маўлення».

Пры разглядзе камунікацыйных якасцей маўлення шырока выкарыстоўваюцца сказы і ўрыўкі як з пазітыўным, так і з негатыўным маўленчым матэрыялам, сабраныя за апошнія два дзесяцігоддзі з друкаваных крыніц. Шмат якія прыклады з «адмоўным маўленчым матэрыялам» (Л.У.Шчэрба) па зразумелых прычынах не пашпартызуюцца.

У раздзеле «Правільнасць маўлення» ўпершыню абгрунтоўваецца шэраг нормаў літаратурнай мовы: лексічных, фразеалагічных, словаўтваральных, марфалагічных і інш.

# ПРАВІЛЬНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

Сярод вядомых навуцы сучасных прыкладна 4 200 моў толькі каля пяцісот моў належаць да развітых, г.зн. вывучаных, даследаваных, унармаваных. У іх ліку і сучасная беларуская літаратурная мова.

Літаратурная мова як найвышэйшая форма нацыянальнай мовы таму і называецца літаратурнай, што пачынае сваё жыццё ў літаратуры, найперш мастацкай, а пасля становіцца агульнанародным здабыткам. У падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы ляжыць мова В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа і іншых літаратараў.

Каб літаратурная мова як найважнейшы сродак зносін магла найлепшым чынам ажыццяўляць свае функцыі, яна павінна быць унармаванай. «Паняцце нормы, – пісаў В.У.Вінаградаў, – цэнтральнае ў азначэнні нацыянальнай літаратурнай мовы (як у яе пісьмовай, так і гутарковай форме)» [11, с. 26].

Н о р м а – гэта сукупнасць правіл, прынятых у дадзены перыяд моўным калектывам і ўсвядомленых ім як правільнае і ўзорнае ўжыванне моўных сродкаў. Моўныя нормы складаюцца ў працэсе самой маўленчай практыкі людзей, «куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення» [65, с. 116], а не выдумляюцца асобным чалавекам, хто б ён ні быў: пісьменнік, мовазнаўца, журналіст і г.д. Спачатку моўныя нормы існуюць як «няпісаныя правілы», якія рэгулююць вымаўленне, націск, утварэнне слоў і іх формаў, фразеалагізмаў, прыказак, пабудову словазлучэнняў і сказаў. Афіцыйнае прызнанне нормы называецца яе кадыфікацыяй. Кадыфікацыя – гэта «пісанае правіла», пісьмовая фіксацыя нормы ў нарматыўных граматыках, даведніках і слоўніках пры апоры на маўленчую практыку аўтарытэтных аўтараў, рэгулярнасць ужывання таго ці іншага варыянта і на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі нормы. Кадыфікаваныя, узаконеныя нормы становяцца абавязковымі для ўсіх носьбітаў мовы.

Ёсць нормы арфаэпічныя, акцэнталагічныя, словаўтваральныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, лексічныя, фразеалагічныя, прыказкавыя, лексіка-семантычныя, фразеалагічна-семантычныя, парэмійна-семантычныя, стылістычныя, а таксама ўласцівыя толькі пісьмоваму маўленню арфаграфічныя і пунктуацыйныя. Добрым веданнем лексіка-семантычных, фразеалагічна-семантычных і парэмійна-семантычных нормаў забяспечваецца такая камунікацыйная якасць, як дакладнасць маўлення. Строгім прытрымліваннем стылістычных

нормаў забяспечваецца дарэчнасць маўлення. Іншыя моўныя нормы звязаны з правільнасцю маўлення – яго асноўнай, галоўнай камунікацыйнай якасцю.

Маўленне правільнае, калі ў ім няма парушэння арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных, прыказкавых нормаў. У гэтых нормах ёсць моцныя ўчасткі, якія звычайна ніколі не парушаюцца. Напрыклад, наўрад ці памыліцца хто-небудзь пры ўжыванні дзеяслова *чытаць* у любой з яго словазмяняльных формаў (*чытаю, чытаеш, чытае* і г.д.). Ёсць у гэтых нормах і слабыя ўчасткі, якія патрабуюць аховы. «Можна спадзявацца, што з часам, – піша Б.М.Галавін, – навука будзе мець надзейнае апісанне моцных і слабых нормаў, моцных і слабых, па прымеце захоўвання ці парушэння нормы, участкаў» [19, с. 85].

Асноўная ўмова правільнасці маўлення – добрае веданне названых нормаў літаратурнай мовы, а значыць, і ўмелае валоданне імі.

## Правільнасць маўлення: арфаэпічныя нормы

У беларускай літаратурнай мове ў адных выпадках напісанне адлюстроўвае вымаўленне *(галава, зямля, глыток, брызент)*, а ў другіх вымаўленне не супадае з напісаннем. Напрыклад, вымаўляем: [горат], [с’м’эх], [гарацк’і], [н’а бачыў], а пішам: *горад, смех, гарадскі, не бачыў.*

Пры напісанні і вымаўленні шматлікіх слоў дапускаецца варыянтнасць у межах нормы. У многіх варыянтных парах адзін варыянт мае прыстаўны гук *і* перад збегам зычных, а другі не мае: *амшара – імшара, замгліць – заімгліць, ігруша – груша, даімчаць – дамчаць, аржаны – іржаны, іграць – граць* і пад. Шмат якія варыянты склаліся ў выніку чаргавання *о – а, а – ы, а – э, о – э,* галоснага *і* з зычным *й, к – х, т – д, ф – п* і г.д.: *загаворваць – загаварваць, квоканне – кваканне, мачаха – мачыха, зарава – зарыва, збляknуць – зблекнуць, змёрзнуць – змерзнуць, даіграць – дайграць, квактуха – квахтуха, крактун – крахтун, сутарга – сударга, кафтан – каптан, калодзеж – калодзесь, траверса – траверза.*

Правільнае вымаўленне – істотны кампанент паняцця «культура вуснага маўлення». Існуюць адзіныя, абавязковыя для ўсіх носьбітаў мовы нормы літаратурнага вымаўлення, якія, аднак, нярэдка парушаюцца па трох розных прычынах.

П е р ш а я з іх – захаванне ў вымаўленні дыялектных рыс роднай гаворкі. У мастацкіх творах пісьменнікі нярэдка абгрунтавана выкарыстоўваюць такія фанетычныя дыялектызмы для маўленчай характарыстыкі персанажаў. Напрыклад, у рамане І.Мележа «Людзі на балоце» чытаем: «Ціхо ты, ціхо, Ганначко!»; «Корч ездзіў у мясцечко па дохтара»; «Прынясіце спадніцу, каторая ў клетку, кохту хвабрычную, чаравікі і хвартух белы». Або ў А.Карпюка: «Вечарам набліжаюсо да поля – штось бомкае, а ветру няма! Ліхо на яго, чэрці звоняць, ці што?!».

У некаторых беларускіх гаворках звонкія гукі [б], [г], [д], [дж], [дз], [з], [ж] на канцы слоў і перад глухімі не аглушаюцца, а глухія гукі перад звонкімі не азванчаюцца. І гэтыя дыялектныя асаблівасці часам адчуваюцца ў вусным маўленні асобных носьбітаў беларускай літаратурнай мовы. Недакладна, не ў адпаведнасці з літаратурнымі арфаэпічнымі нормамі вымаўляюцца, напрыклад, такія словы: *зуб, хлеб, луг, маг, дзед, агарод, катэдж, дождж, моладзь, газ, адрэж, замуж, галубка, жэрдка, сцежка, сядзьце, касьба, барацьба, носьбіт, малацьбіт.*

Д р у г о й прычынай парушэння арфаэпічных нормаў «з'яўляецца двухмоўная сітуацыя, пры якой адзін і той жа чалавек карыстаецца то рускай, то беларускай мовай. Пры слаба выпрацаваных навыках вымаўлення звычайна парушаюцца арфаэпічныя правілы як той, так і другой мовы» [45, с. 6-7]. Для беларускай літаратурнай мовы, у адрозненне ад рускай, характэрна поўнае аканне. Так, у наступных словах ненаціскны галосны гук [а] вымаўляецца выразна, не губляючы сваёй асноўнай якасці: *барада, галава, малады, выпрацаваць, выламаць, шарсцяны, высакаваты, дапамагчы, прагаладацца, прагаласаваць, гараваць, ганарыцца.*

Ненаціскныя [о], [э] пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам супадаюць з [а] (на пісьме абазначаецца літарай *я*): *вёска – вясковы, вецер – вятры.* У іншых ненаціскных складах вымаўляецца [э]: *селянін, хлопец.*

Яканне не пашыраецца на словы неславянскага паходжання і вытворныя ад іх: *сезон, сезонны, легенда, легендарны, калектыў, метровы, медаль, метро.* Але ў так званых даўно запазычаных словах [э] пасля мяккіх зычных вымаўляецца ў адпаведнасці з правіламі якання: *яфрэйтар, сяржант, каляндар, дзяжурны, яўрэй, ялейна.*

Каранёвае [а] пасля мяккіх зычных захоўваецца незалежна ад месца націску (як і ў рускай мове): *свята, святкаваць, лямантаваць, завязь, месяц, пояс, памяць, цягнікі, цяжкаваты, выгляд, ясянёвы, ядавіты, языкаты, яравізацыя, ястрабок.*

У нас ёсць амаль сотня слоў, і складаных у тым ліку, з коранем *пяць: пяцёра, пяцярня, пяцігоддзе, пяцізначны* і г.д. І ўсе яны захоўваюць каранёвае [а] (арфаграфічна – *я*). Здавалася б, ні ў кога не павінна выклікаць сумнення, што і *пяцёра* ва ўскосных склонах трэба вымаўляць з [а] у першым складзе, а на пісьме захоўваць літару *я*. Але ў «Слоўніку беларускай мовы» (1987, с. 663) памылкова даюць так: *пяцёра... пецярых, -ым, -ымі*; аднак параўн.: *упяцярых* (с. 825). І вось промах гэтага нарматыўнага слоўніка набывае сілу аўтарытэту і ўкараняецца ў практыку. Карэктары ўжо ўсюды папраўляюць *пяцярых* на *пецярых* (гл., напрыклад: Полымя. 1998. № 12. С. 30). І ў падручніку-хрэстаматыі для 7 класа («Жураўліны крык» В.Быкава) чатыры разы даецца *пецярых*. Цяпер ужо, калі сямікласнік скажа *[п'а]цярых* або ў пераказе ці сачыненні напіша, як і трэба, *пяцярых, пяцярым, пяцярымі,* настаўнік, відаць, мусіць папраўляць так, як пададзена ў хрэстаматыі.

«Пад уплывам рускай мовы магчыма не зусім цвёрдае вымаўленне *ч* [*авечка, чалавек, нячысты*], губна-зубнога гука *в* на месцы губна-губнога *ў* [*настаўнік, на ўра, праўда*], вымаўляецца *дж* як спалучэнне гукаў або замена яго на *ж* [*дажджы, джала, адпуджваць*], паўмяккае *р* [*рабіна, рабая, прыараць*]» [45, с. 7].

Асобна можна спыніцца на вымаўленні гука [г]. У рускай мове ён выбухны, а ў беларускай часцей за ўсё шчылінны (фрыкатыўны) і толькі ў параўнальна рэдкіх выпадках – выбухны. Але часам пад уплывам рускай арфаэпіі і беларусы ўжываюць выбухны [г] (замест шчыліннага). Пра выбухны [г], парны звонкі з [к], ва ўсіх беларускіх падручніках пры разглядзе арфаэпіі зычных гаворыцца, што ён вымаўляецца толькі ў асобных словах небеларускага паходжання: *гузік, гонта, швагер, гвалт, гарнец, ганак, нягеглы, газа, гізаваць, гільза.* Часам да гэтых дадаюцца яшчэ словы з гукаспалучэннем *зг: абрызгаць, брызгаць, бразготка, мазгі, мазгавіты, розгі, рэзгіны* і некаторыя іншыя. А Я.Лёсік ілюстраваў вымаўленне выбухнога [г] не толькі словамі *мазгі, розгі, ганак*, але і шматлікімі іншымі, у якіх [к] пераходзіць у [г], «калі яму, будучы прыназоўнікам, прыходзіцца стаяць перад словамі, што пачынаюцца звонкімі *г, д, ж: г гары, г дому, г дзераву, г жалезу*» [40, с. 111]. Выбухны [г] вымаўляецца, аднак, не толькі ў гэтых выпадках. Азванчэнне глухога [к] адбываецца ў сярэдзіне вельмі многіх слоў, найчасцей запазычаных з неславянскіх моў, а таксама на стыку двух слоў. Вось толькі некалькі прыкладаў, дзе замест [к] вымаўляецца выбухны [г]: *анекдот, вакзал, Вялікдзень, гекзаметр, штрэйкбрэхер, экзамен, экзатычны, экзекуцыя, экзэмпляр, экзотыка, экзэма, як бы, як бачыш, як жа.*

Т р э ц я я  прычына памылак у вымаўленні – уплыў арфаграфіі. Часам вымаўляюць словы так, як прывыклі іх пісаць: *адкусіць, вучышся* замест [ат]кусіць, вучы[с'а].

Як вядома, шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя, а свісцячыя перад шыпячымі – як шыпячыя. Па гэтай прычыне вымаўленне не супадае з напісаннем, напрыклад, у такіх словах ці спалучэннях: *сшытак, на полачцы, счапляць, у сутычцы, перапісчык, падмазчык, зжаты, на печцы, на рэчцы.* Прыпадабненне шыпячых да свісцячых адбываецца і ў дзеяслоўных формах – у 2-й асобе адзіночнага ліку: *купаешся – купаесься, мыесься, аглядаесься, цікавісься, сустрэнесься* і г.д.

Свісцячыя [з], [с] перад мяккім зычным змякчаюцца. Пішам, напрыклад: *смех, бязлітасна, снег, світанне, разбіць, след, спіс, збегчы*, а вымаўляем: *сьмех, бязьлітасна, сьнех, сьвітаньне, разьбіць, сьлет, сьпіс, зьбехчы.* Перад мяккімі *г, к, х* змякчэнне не адбываецца: *скінуць, згінуць, схіліцца.*

Ёсць і яшчэ шэраг слабых участкаў у галіне арфаэпічных нормаў. Напрыклад, не супадае з напісаннем вымаўленне некаторых спалучэнняў гукаў:

[дч], [тч] вымаўляюцца як падоўжаны гук [ч]: *а[ч]ыніць* (адчыніць), *пераплё[ч]ык* (пераплётчык);

[шс], [жс] паміж галоснымі вымаўляюцца як падоўжаны [с], а паміж галосным і зычным – як адзін гук [с]: *смяе[с']я* (смяешся), *пра[с]кі* (пражскі);

[дц], [тц] вымаўляюцца як падоўжаны [ц]: *а[ц']ягваць* (адцягваць), *ма[ц]ы* (матцы);

[дс] вымаўляецца як [ц]: *сусе[ц]кі* (суседскі).

Варта запомніць вымаўленне і (напісанне) наступных слоў, гукавы склад якіх нярэдка скажаюць (напрыклад, замест *кампасціраваць* кажуць *кампасіраваць*): *бюлетэнь, інцыдэнт, кампасціраванне, кампетэнтнасць, кампетэнтны, кампраметаваць, кампраметаванне, канстантны, канстатаваць, карэспандэнт, карэспандэнцыя, квантытатыўны, прэтэндэнт, прэцэдэнт, манпансье.*

**Правільнасць маўлення: акцэнталагічныя нормы**

Парушэнне нормы націску значна больш, чым іншыя няправільнасці, кідаецца ў вочы, «рэжа вушы». «Правільная пастаноўка націску, – пісаў К.С.Гарбачэвіч, – з'яўляецца неабходнай адзнакай культурнага, пісьменнага маўлення. Ёсць нямала слоў, вымаўленне

якіх служыць як бы лакмусавай паперкай узроўню маўленчай культуры. Часта варта пачуць ад незнаёмага чалавека няправільны націск у слове, як ужо складваецца не надта добрая думка пра яго адукацыю, ступень агульнай культуры, так сказаць, узровень інтэлігентнасці» [20, с. 11]. Яшчэ адно выказванне – К.Крапівы: «Вельмі прыкра слухаць, калі гавораць *беларусы´, таварышы´*, у той час калі трэба гаварыць *беларýсы, товáрышы*. Гавораць *здары´лася* замест *здáрылася*» [29, с. 356]. Дарэчы, у паэме А.Куляшова «Сцяг брыгады» словы *таварышы* і *здарылася* выкарыстаны з перастаноўкай націску:

У суровай цішы
Абняла па чарзе нас Праскоўя:
– Праважаю вас, таварышы,
Нібы родных сыноў я.

Што з ватоўкай? Дзе Ворчык? Дзе сцяг?
Што здарылася? Не разумею.
Ахапіў мяне холад і жах.
Сэрца раптам нямее.

Тут можна было б падаць нямала прыкладаў, асабліва з твораў маладых паэтаў, калі дзеля рытму і рыфмы «калечацца», «ламаюцца» словы. Р.Барадулін, гаворачы пра культуру творчасці, адзначае, што «нават некаторыя сталыя майстры дазваляюць сабе неахайнасць у словаўжыванні: прыстасоўваюць да беларускага тэксту рускія словы, перастаўляюць націск і г.д.» (ЛіМ, 1975. 21 лістап.).

Некаторыя мовы маюць фіксаваны – аднамесцавы націск. Напрыклад, у чэшскай, венгерскай, латышскай, фінскай, мангольскай мовах націск прыпадае на першы склад, у французскай, турэцкай, армянскай – на апошні, у польскай, грузінскай і большасці інданезійскіх мовах – на перадапошні. Націск у беларускай мове, як і ў многіх іншых, разнамесцавы *(стýдзень, лістапáд, кастры´чнік, ідэалізáцыя)* і ў шмат якіх словах рухомы *(áдрас – адрасы´, бой – у баі́, рукá – рýкі).*

Рухомы націск уласцівы і назоўніку *злодзей.* Ва ўсіх склонавых формах адзіночнага ліку націск прыпадае на першы склад. Напрыклад, у прыказках: «Не злавіўшы, не кажы, што злодзей»; «Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа»; «На злодзеі шапка гарыць». У множным ліку націск падае на другі склад: 1) Абышлі ўсе закануркі паблізу вёскі – можа, дзе да часу *зладзеі* кінулі коні (К.Крапіва); 2) Ды і хата адна доўга не пастаіць: могуць і вокны выбіць, могуць і *зладзеі* залезці якія, цяпер гэта не навіна

(У.Дамашэвіч); 3) Адкуль у людзей такія грошы? Пэўна, якія-небудзь спекулянты-ліхвяры або *зладзеі...* (І.Капыловіч). Спалучаючыся з лічэбнікамі *два, тры, чатыры,* гэты назоўнік мае форму *злодзеі*: «Беднага карнета я выратаваў, бо ён адчайна закрычаў, калі *два злодзеі,* палічыўшы яго мёртвым, сарвалі з яго медальён і палезлі абшукваць кішэні» (К.Тарасаў).

Акцэнталагічная норма гэтага назоўніка зафіксавана ва ўсіх нашых акадэмічных слоўніках, напрыклад, у ТСБМ (т. 2, с. 481): «Злодзей, -я, *мн.* зладзеі (*з ліч. 2, 3, 4* злодзеі), зладзеяў; *м.*». Але гэта норма вельмі часта парушаецца ў друку апошніх гадоў (пры ўжыванні назоўніка *злодзей* у формах множнага ліку). Прывядзём толькі некалькі прыкладаў: 1) – А вы сенцы што, не замыкаеце? – Навошта? – А *злодзеі*? (А.Бадак); 2) *Злодзеяў* судзіў Рэвалюцыйны ваенны трыбунал Мінска (А.Лукашук); 3) *Злодзеі* грошай чамусьці не ўзялі (М.Вішнеўская); 4) Мы размаўлялі з госцем хвілін дваццаць, не больш. Але *злодзеям* гэтага аказалася дастаткова, каб угнаць легкавушку з двара (С.Буткевіч). У адной газеце ў загалоўку вялікімі літарамі надрукавана: «Дружыннікі – супраць *злодзеяў*». А далей у тэксце неаднойчы сустракаецца слова *зладзеі* з няправільнай пастаноўкай націску: «набегамі *злодзеяў* на ўраджай», «асабліва ласыя *злодзеі*» і інш.

Некаторыя словы дапускаюць дваякі націск у межах нормы. Напрыклад, ёсць такія акцэнтныя варыянты: *да́рма – дарма́, за́тычка – заты́чка, лі́тасцівы – літасці́вы, кайданы́ – кайда́ны.* Часам дваякі націск вядзе і да фанетычных змяненняў (а таксама арфаграфічных), у выніку чаго ўзнікаюць варыянты, якія трэба называць акцэнтна-фанетычнымі. Іх досыць многа: *адсядзе́ць – адсе́дзець, аду́м – одум, вясновы – веснавы́, доўбня – даўбня́, за́сланка – заслонка, навакол – навокал, су́праць – супроць* і інш. Ёсць назоўнік з траякім націскам: *камфара́ – камфора – ка́мфара.* Зразумела, што ў межах пэўнага тэксту трэба карыстацца якім-небудзь адным варыянтам, а не двума ці трыма.

Акцэнтна-фанетычныя варыянты характэрны для многіх дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу: *габляваны – габлёваны, засмучаны – засмучоны, захаваны – захованы, згушчаны – згушчоны, зламаны – зломаны, забудаваны – забудованы, завербаваны – завярбованы, загартаваны – загартованы, закаваны – закованы, закапаны – закопаны, замураваны – замурованы, наламаны – наломаны, паламаны – паломаны.*

Акцэнтныя і акцэнтна-фанетычныя варыянты ёсць і ў фразеалагічным складзе мовы: *за́тычка (заты́чка) ва ўсе дзіркі,*

*пля́скаць (пляска́ць) языком, абіваць бакі (бокі), хоць воўкам (ваўком) вый* і г.д.

Аналагічная варыянтнасць зрэдку сустракаецца і сярод прыказак: *Ла́скавае (ласка́вае) цялятка дзвюх матак ссе; Дзвюм смёрцям (смярця́м) не бываць, а адной не мінаваць.*

З цягам часу з двух, раней раўнапраўных акцэнтных варыянтаў адзін замацоўваецца як нарматыўны, а другі лічыцца парушэннем нормы. Так, ва ўсіх сучасных акадэмічных слоўніках назоўнік *выпадак* падаецца з націскам на першым складзе. Таму ў наступных вершаваных радках ужыванне гэтага слова трэба ацэньваць як адхіленне ад акцэнталагічнай нормы: 1) Праблему яўную й *выпадак* паставіў у адзін парадак; 2) Дружа, паэт. Мы жывём толькі раз. Болей, хоць лопні, не будзе *выпадку*. Таму над бяздоннем пад назваю час праўду сталюй, як адзіна трывалую кладку.

Моўная норма – гістарычна зменлівая катэгорыя. Напрыклад, у пачатку XX ст. слова *клімат*, запазычанае з французскай мовы, яшчэ вымаўлялі з націскам на апошнім складзе. У камедыі К.Крапівы «Хто смяецца апошнім» цёця Каця гаворыць: «Такі ўжо кліма́т у нас», а яе суразмоўніца Вера адказвае: «Добры клі́мат, цёця Каця!» Яшчэ прыклад: «Адпачываеце? – пытаецца для пачатку [пастух з Мядзельшчыны]. – Але. – Самі з горада? – З Мінска. – Кліма́т у нас добры, – паведамляе ён» (В.Вольскі).

У сучасных слоўніках назоўнік *псеўданім* падаецца з націскам на апошнім складзе. А да арфаграфічнай рэформы 1933 г. гэта слова вымаўлялася з націскам на складзе *до* (як і іншыя ўтварэнні з грэчаскага *опута: сінонім, антонім, амонім, паронім* і г.д.); напрыклад, у вершы К.Крапівы «Фіга на талерцы» (1927):

Аблажыў псеўдонім
Вас учора ў друку,
А сапраўды сёння
Паціскае руку
Ды ляпеча штосьці,
Лезе цалавацца, –

Вам тады ад злосці
Як не разарвацца!
Так рука і просіць
Трэснуць па манерцы:
Гэта ж ён падносіць
Фігу на талерцы.

Прывядзём далей некаторыя пашыраныя адхіленні ад нормаў націску ў словах розных часцін мовы. Асобныя **н а з о ў н і к і** часта выкарыстоўваюцца з адступленнем ад акцэнталагічных нормаў; правільна: *абыча́й, аксю́маран, ана́пест, а́спід, грамадзя́нін, грамадзя́нка, прысту́пка, ста́тус, ста́тут, ста́туя, ты́тул, факсі́міле, ха́бар, падпара́дкаванне, крапіва́, навіна́, садавіна́, кварта́л, спі́на, Укра́іна.* Некалькі прыкладаў з няправільнай пастаноўкай націску ў асобных словах (яны выдзелены курсівам; ва

ўрыўках з вершаў першае слова кожнага радка пачынаецца з вялікай літары): 1) Бацька засланіў нас *спіной*; 2) Другі і званняў нахапаў, і *ардэноў*; 3) Вучні запісваюць выказванні пісьменнікаў, крытыкаў, грамадскіх *дзеячоў*, зробленыя імі па пытаннях літаратуры; 4) Ля стала прэзідыума сабралася з дзесятак старшынь і *дырэктароў*, што хацелі высветліць нейкія пытанні; 5) Сумленне, якое даводзіць *алібі*, Тым самым сябе асуджае на гібель; 6) А з ягад, з *садавіны* Такія гоняць віны – Як хопіш шклянку – зойме аж духі!; 7) Ізноў Той мэр лагодны, ветлівы і звышласкавы І ў нейкім *квартале* гатоў Мае кватэрныя уладзіць справы.

Нярэдка назіраецца няправільны націск у п р ы м е т н і к а х, напрыклад: 1) Гоніць холад турэмнага склепу, Ды вісельняў жах не спужаў. Яшчэ доўга ва *ўкраінскіх* стэпах Яму конь Каліноўскага ржаў; 2) Бадай што ад Любы, *мажнай* і дужай жанчыны ў маладосці, толькі і засталіся шырокія мужчынскія далоні; 3) Чаму гэта іншы журналіст-аграрнік думае, што *морская* лоцыя належыць да паняццяў больш высакародных, чым аграхімічная карта?; 4) Праз хвіліну-другую выбег на пляцоўку чорненькі кудлаты сабачка ў суправаджэнні *мажнай* жанчыны. Прыклады з нарматыўным націскам: *абінелы, аднасаста́ўны* (сказ), *высокаразвіты́, гліня́ны, каме́нны, падпара́дкаваны* (дзеепрыметнік).

Вось некалькі л і ч э б н і к а ў, пры ўжыванні якіх парушаецца акцэнталагічная норма: *адзіна́ццаць, адзіна́ццаты, чатырна́ццаць, чатырна́ццаты, шэсцьдзеся́т, се́мдзесят.*

Не заўсёды правільна ставіцца націск пры выкарыстанні азначальных з а й м е н н і к а ў *сам, самы* ва ўскосных склонах: 1) Вывучэнне курса марфалогіі на сінтаксічнай аснове не парушае дзеяння *самаго* прынцыпу сістэмнасці і паслядоўнасці; 2) Юрый Паўлавіч ведаў яе сына, нібы *самаго* Рысакова; 3) Чалавек прыехаў у Верамейкі ажно з *самага* Мінска.

Пры адмоўных займенніках *ніхто, нішто*, калі яны ў родным (вінавальным) склоне разрываюцца прыназоўнікам, націск можа падаць на розныя склады: *ні на кога* і *ні на каго, ні да кога* і *ні да каго, ні да чога* і *ні да чаго.* Часцей у такіх выпадках націск ставіцца на склады *ко, чо:* 1) Дзед Мікіта, *ні на кога* не пазіраючы, ідзе вон з капліцы (Я.Колас); 2) Ён нікому не скардзіўся, *ні на кога* не наракаў (К.Крапіва); 3) Верасоўскі не стаў *ні ў кога* ні пра што распытваць (Я.Сіпакоў).

Правілы націску ў д з е я с л о в а х таксама парушаюцца досыць часта. Так, у дзеяслове *паве́даміць* націск нарматыўна нерухомы: *паве́дамлю, паве́даміш* і г.д.; тое самае і ў загадным ладзе:

*павéдамі*. Але нярэдка можна пачуць: *паведаміць, паведамлю´, паведамі́* і інш. Прыклад з вершаваных радкоў: «Ды мурагом духмяным Твой шпаркі бег шчыміць. Ты хочаш акіяну Аб чым *паведаміць*?» Ужо ўпаміналася дзеяслоў *здарыцца*, таксама з нерухомым націскам. А ў наступным урыўку ён ужыты з парушэннем нормы, як і ў раней прыведзенай цытаце з паэмы А.Куляшова «Сцяг брыгады»: «На сэрцы цяжка, нібы давіць камень, Жыццё не радуе і свет не люб... Не сцямлю, што *здарылася* між намі, Не ласка, а папрок злятае з губ».

Пададзім яшчэ некалькі прыкладаў з вершаванага маўлення, дзе няправільны націск у дзеясловах, што называецца, як на далоні: 1) Знік птушкаграй. Лістабіццё *канула* ў апрамецце з пушчай; 2) Міжволі – хачу я таго ці не *хочу* ўрываюцца ў памяць страшэнныя сны; 3) Пад напевамі шумных таполяў Пазарос ён травой-муравой. Не *зарастае* сцежка ніколі Да вяршыні яго да крутой.

Часта няправільна ставяць націск у дзеясловах прошлага часу множнага ліку; трэба: *далí, занялí, засталíся, плылí, прадалí, паражылí, пераплылí, аддалí, прынялí.* Адзін прыклад з верша: «Тры дні нарколагі ў раёне засядалі І вось такі зварот да ўсіх *прыняўлі*». Параўн. таксама дзеяслоўныя формы 2-й асобы множнага ліку: *бераце, даяце, жывяце, крычыце, несяце* і інш.

Асобнай гаворкі патрабуе пытанне, на якім складзе трэба ставіць націск у асабовых формах дзеяслова *існаваць*; напрыклад, *існýе* ці *існуé*?

Гэты дзеяслоў, як і ўсе іншыя дзеясловы з асновай інфінітыва на *-ава- (-ява-)* і асновай цяперашняга часу на *-уj- (-юj-)*, належыць да трэцяга прадуктыўнага класа. Сярод дзеясловаў гэтага класа вылучаецца невялікая група слоў з двухскладовай асновай у інфінітыве: *жаваць, злаваць, каваць, кляваць, псаваць, снаваць, цкаваць, пляваць.* Яны маюць у асабовых формах цяперашняга часу націск на канчатку: *жуé, снуéш, псую´* і г.д. Усе астатнія дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа, аснова якіх у інфінітыве мае больш як два склады, характарызуюцца ўстойлівым, нерухомым націскам – для адных дзеясловаў на суфіксе *(зімавáць – зімýю, гасцявáць – гасцю´ю)*, для другіх на корані *(дзя´каваць – дзя´кую, памíлаваць – памíлую)*, для трэціх на прыстаўцы *вы- (вы´ратаваць – вы´ратую, вы´гадаваць – вы´гадую). Існаваць* – трохскладовы дзеяслоў, а таму акцэнталагічнай нормай для гэтага дзеяслова, як і для вытворных ад яго, з'яўляецца націск на прымеце класа: *існавáць – існýю, існýеш, існýе, існýем, існýеце, існýюць; існýючы на сродкі бацькоў; існýючая праграма.*

Норма націску гэтага дзеяслова замацавана ў «Арфаграфічным слоўніку» М.П.Лобана і М.Р.Судніка (1982, с. 164), у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1978, т. 2, с. 561). У працы Г.У.Арашонкавай і В.П.Лемцюговай «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (1987, с. 100) чытаем: *існава́ць, існу́ю, існу́еш, існу́е* (далей у квадратных дужках паметай «не» адзначаецца недапушчальнасць іншага варыянта: «*не* існую´, існуе́ш, існуе́»). Дзеяслоў *існаваць*, хутчэй за ўсё, запазычанне з украінскай мовы, дзе націск ставіцца таксама на прымеце класа: *існува́ти – існу́ю, існу́еш.*

Існуючую норму, кадыфікаваную ў шматлікіх беларускіх даведніках, можна пацвердзіць і практыкай выкарыстання гэтага дзеяслова ў вершаваных тэкстах вядомых беларускіх пісьменнікаў, выдатных знаўцаў мовы і яе нормаў: 1) Той арцелі не *існуе*, Але добра й без яе мы І малочную й мясную Тут развязваем праблемы (К.Крапіва); 2) Значыць, і такая партыя *існуе*, Што аб людзях дбае, Новы свет будуе (А.Александровіч); 3) На жаль, яшчэ *існуюць* людзі, Што праўды ў іх шукаць дарма. Крычаць: «Сумленне!..» Б'юць у грудзі. А паглядзіш, яго няма (П.Броўка); 4) Павінны ведаць вы, сябры, Што вельмі крыўдзяцца Вятры, Калі сказаць, што ў свеце Адзін *існуе* вецер (М.Лужанін); 5) *Існуем* мы з табой як выключэнне, Мая любоў, – як свет і антысвет (А.Куляшоў); 6) Як не *існуе* будніх дзён без свята, Так не *існуе* песня без крыла (А.Звонак); 7) Ды ў тым, як пагушкваюць злёгку каляскі, Прытуптваюць музыцы ў такт, Відаць, што яшчэ між турботай і ласкай *Існуе* душэўны кантакт (М.Аўрамчык).

Толькі ў адзіным даведніку – «Слоўніку беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / Пад рэд. М.В.Бірылы» (1987, с. 313) – пададзены як норма формы *існую´, існуе́ш* і г.д. з націскам на апошнім складзе. Відаць, складальнікі гэтага даведніка і яго рэдактар прынялі пад увагу маўленчую практыку апошніх гадоў, калі амаль усе моўнікі ў формах *існую, існуеш, існуе* сталі ставіць націск на канчатку. І з гэтым можна было б пагадзіцца. Але супаставім іншыя звесткі акадэмічнага і таксама нарматыўнага, на дзесятак гадоў пазнейшага за папярэдні, «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» (1996, с. 259): *існава́ць, існу́еш, існу́е, існу́й.*

Націск у д з е е п р ы с л о ў я х закончанага трывання супадае з націскам у адпаведных дзеясловах прошлага часу: *скасі́ў – скасі́ўшы, падмацава́ўся – падмацава́ўшыся.* У дзеепрыслоўях незакончанага трывання націск падае на канцавы склад суфікса *-учы- (-ючы-)*, калі ў адпаведных дзеясловах цяперашняга часу ў 3-й асобе множнага ліку націск на канчатку: *ідý́ць – ідучы´, смяю´цца –*

*смеючы́ся, вязу́ць – везучы́.* Выключэнні нешматлікія: *ляжа́ць – ле́жачы, стая́ць – сто́ячы, глядзе́ць – гле́дзячы.* Калі ж націск у адпаведных дзеясловах прыпадае на аснову, то ён і ў дзеепрыслоўях незакончанага трывання застаецца нерухомым: *лі́чаць – лі́чачы, то́яць –то́ячы.*

Утворым дзеепрыслоўі незакончанага трывання і абазначым у іх націск: *бе́гчы – бягу́ць – бегучы́; жава́ць – жую́ць – жуючы́; не́сці – нясу́ць – несучы́; псава́ць – псую́ць – псуючы́; існава́ць – існу́юць – існу́ючы; пісаць – пішуць – пішучы; спа́ць – спя́ць – сплючы́; е́хаць – е́дуць – е́дучы; жа́ць – жну́ць – жнучы́; бра́ць – бяру́ць – беручы́; сачы́ць – со́чаць – со́чачы; спадзява́цца – спадзява́юцца – спадзява́ючыся; ісці́ – іду́ць – ідучы́.*

Ваганні ў галіне націску маюць месца і сярод ф р а з е а л а г і з м а ў.

Узнікаючы пераважна на аснове свабодных словазлучэнняў, фразеалагізмы захоўваюць у сваіх кампанентах націск, уласцівы адпаведным словам. Толькі ў некаторых выпадках назіраюцца разыходжанні; напрыклад, слова *мазь* ва ўсіх склонавых формах мае нерухомы націск на аснове, а ў фразеалагізме *на мазі* націск замацаваўся на канчатку; аналагічная з'ява і ў фразеалагізме *хоць шаром пакаці* – пры норме *ша́рам* для слова *шар*. Акцэнталагічныя нормы звычайна аднолькавыя для кампанентаў фразеалагізма і сугучных з імі слоў. І адступленні ад нормы часцей за ўсё супадаюць у фразеалогіі і ў лексіцы, прычым акцэнтныя варыянты ў фразеалогіі ўзнікаюць нярэдка пад уздзеяннем лексічнай сістэмы.

Так, у беларускай літаратурнай мове ёсць дзеясловы *кіда́ць* (мае 8 значэнняў) і *кі́даць* (мае 4 значэнні, якія супадаюць з адпаведнымі значэннямі першага дзеяслова). На гэтай аснове паявіліся акцэнтныя варыянты фразеалагізмаў: *кіда́ць цень* і *кі́даць цень, кіда́ць вока* і *кі́даць вока.* Такая з'ява неаднаразова адлюстроўваецца ў вершаваных тэкстах, напрыклад: 1) На абеліск *кідаю вока*, Дзе землякоў імёнаў шмат; 2) Туды не любяць *кідаць вока...* Паколькі этымалагічна названыя фразеалагізмы звязаны з пэўнымі значэннямі дзеяслова *кіда́ць*, нормай трэба лічыць: *кіда́ць цень, кіда́ць вока.*

Наяўнасць дзеясловаў *кіда́цца* і *кі́дацца* (супадаюць толькі ў адным значэнні), *закі́даць* і *закіда́ць* (сэнсава не супадаюць) спарадзіла акцэнтныя варыянты *кіда́цца ў вочы* і *кі́дацца ў вочы, закі́даць шапкамі* і *закіда́ць шапкамі.* Нормай прызнаюцца першыя варыянты гэтых пар.

Асобныя акцэнталагічныя дублеты можна лічыць раўнапраўнымі. Так, фразеалагічныя разнавіднасці *зачараванае кола* і *зачарованае кола* ўзніклі на аснове агульнаўжывальных варыянтаў-слоў *зачараваны* і *зачарованы* (перавага ўсё ж аддаецца першаму). Назіраюцца акцэнтныя варыянты *закасаўшы рука́вы´, гнуць спіну.* Аднак трэба адрозніваць варыянты ў межах нормы *(зачарованае кола)* ад варыянтаў, адзін з якіх нарматыўны *(закасаўшы рукавы´, гнуць спіну)*, а другі – парушэнне нормы *(закасаўшы рука́вы, гнуць спіну́).*

Акцэнталагічныя нормы з'яўляюцца правіламі, што пашыраюцца перш за ўсё на вуснае маўленне. Памылкі ў пастаноўцы націску адбываюцца, напрыклад, у такіх выразах: замест *віламі па вадзе пісана, губа́ не дура, як у ваду́ ка́нуў, у гарачай вадзе ку́паны, як з кры´жа зняты, на мігі, на мігах* вымаўляюць *віла́мі па вадзе пісана, гу́ба не дура, як у воду кану́ў, у гарачай вадзе купа́ны, як з крыжа́ зняты, на мігі, на міга́х.* Зрэшты, акцэнтная варыянтнасць фразеалагізма *ў гарачай вадзе купаны* адлюстравана і ў фразеалагічных, лексікаграфічных слоўніках: у адных працах («Люд беларускі на Русі Літоўскай» М.Федароўскага) націск у кампаненце на першым складзе, у іншых (напрыклад, «Слова за слова» Г.Юрчанкі) – на сярэднім.

Асобныя акцэнтныя памылкі можна выявіць не толькі ў вусным маўленні, але і ў друкаваных крыніцах, бо ў многіх выпадках пры пераносе націску на іншы склад змяняецца арфаграфічнае афармленне фразеалагічнага кампанента. Параўн.: *стрэляны верабей* і *страляны верабей, язык без касцей (без косці)* і *язык без касці, саламяная ўдава* і *саломенная ўдава.*

У перыядычным друку апошняга часу назіраецца нічым не апраўданае імкненне падправіць ці нібыта абеларусіць некаторыя выразы. Так, фразеалагізм *на самай справе* ўсё часцей і часцей ужываюць з пераносам націску ў займеннікавым кампаненце з асновы на канчатак: *на самой справе.* У адным і тым жа выданні (гл., напрыклад, «Маладосць». 1998. № 7. С. 105 і 146) сустракаем паралельныя ўжыванні: *на самай справе* і *на самой справе.*

Прыхільнікі варыянта *на самой справе*, напэўна, звязваюць фармаванне гэтага выразу з займеннікам *сам*. Але гэта не так. Ва ўсіх нашых акадэмічных слоўніках, тлумачальных і перакладных, гэты фразеалагізм слушна выносіцца за ромбавы знак пад словам *самы*, а не *сам*. Займеннік *самы* мае 5 значэнняў і 7 адценняў. І фразеалагізм *на самай справе* этымалагічна якраз стасуецца з адным са значэнняў займенніка *самы*. Да таго ж гэты выраз знаходзіцца ў шэрагу іншых, дзе фігуруе той жа займеннік *самы* ў розных яго формах: *у самай сіле, самы раз, па самае годзе, ад самага сэрца, пад самым носам* і г.д.

Нярэдка парушэнне акцэнталагічных нормаў сустракаецца ў паэтычных творах. Выраз *сам-насам* нарматыўна (з націскам на сярэднім складзе) ужыты ў вершах В.Дуніна-Марцінкевіча, Я.Купалы, А.Куляшова, М.Лужаніна, Р.Барадуліна і іншых аўтараў. Аднак параўн. памылковае: «Ёсць цішыня-паўночніца... Застацца з ёю – гэта ў той ўвайсці сезам, Дзе *сам-насам* з сусветам, З вечнасцю *сам-насам*». У сувязі з патрабаваннем рытму часам парушаецца акцэнталагічная норма фразеалагізмаў *раз-пораз, галава пайшла кругам, апусціць галаву (галовы), вывесці на чыстую ваду, рассячы гордзіеў вузел:* 1) Што нехта кліча *раз-параз* і трэба адклікнуцца ў адказ; 2) Ад шчасця гэтага ў Асла Аж галава *кругом* пайшла; 3) Што апусцілі вы *голавы*, Сумна глядзіце на зруб?; 4) З Квапенем за дружбу піць нам небяспечна, Калі ўсіх нас вывеў на чыстую *воду*; 5) Не засталося ніякіх ілюзій. Наперадзе чакае небыццё, Што рассячэ *гардзіеў* вузел.

Няўстойлівасць націску ў фразеалагізмах часткова тлумачыцца ўплывам лексічнай сістэмы літаратурнай мовы. Апрача таго, на суіснаванне акцэнтных дублетаў, з якіх адзін ненарматыўны, уздзейнічаюць іншыя фактары.

1. Дыялектная мова. Слова *галава* ў некаторых беларускіх гаворках мае рухомы націск: у вінавальным склоне адзіночнага ліку ён пераходзіць з канчатка на аснову, у сувязі з чым апошні ненаціскны гук адпадае. Гэта з'ява пашыраецца ў дыялектнай мове і на фразеалагізмы з кампанентам *галаву*: *набраць у голаў, на сваю голаў* і інш. Часам дыялектныя фразеалагічныя варыянты выкарыстоўваюцца ў мастацкіх тэкстах як сродак маўленчай характарыстыкі персанажаў: «Паслухай, што мне ў *голаў* прыйшло» (Х.Шынклер). Ужыванне такіх варыянтаў у аўтарскай мове – парушэнне літаратурнай нормы.

2. Акцэнталагічная сістэма рускай мовы. Пры кадыфікаванай норме *журавéль у небе, кішка тонкая, саломя́ная ўдава* нярэдка ўжываюць у вусным маўленні *жура́вель у небе, кішка́ тонкая, саломенная ўдава* (параўн. у рускай мове: *жура́вль в небе, кишка́ тонка, соло́менная вдова*).

3. Няправільнае засваенне месца націску ў запазычаных выразах, асабліва нематываваных ці з рэдкаўжывальным кампанентам. У запазычанні з рускай мовы *ка́нуць у лету* часам у першым кампаненце пераносяць націск на другі склад, не ўсведамляючы роднасці паміж агульнаславянскім *ка́нуць* і ўтвораным на яго аснове *ка́пнуць*. Такая ж памылка сустракаецца і пры ўжыванні фразеалагізма *як у ваду ка́нуў.*

## Правільнасць маўлення: словаўтваральныя нормы

Словы ўзнікаюць па пэўных словаўтваральных мадэлях, веданнем якіх забяспечваецца правільнасць маўлення.

Так, адносныя прыметнікі са значэннем 'які мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам' утвараюцца ад назваў жывёл, птушак, насякомых пры дапамозе суфікса *-ін- (-ын-): звер – звярыны, сава – савіны, гусь – гусіны, птушка – птушыны, качка – качыны.* У двух апошніх прыметніках, як і ў падобных да іх, пры іх утварэнні адсякаецца канцавы гук утваральнай асновы (фіналь). Параўн. выкарыстанне прыметніка *качыны* з адхіленнем ад словаўтваральнай нормы: 1) Пашка хуценька сабраў за пазуху патроны, а «эфку» [гранату] трымаў у руцэ, як вялікае *качча* яйка падняў з купіны на балоце з гнязда; 2) Зноўку месяц плыве бадзячы над ставамі, дзе ўскрай вады не сканчаецца чэкат *качы.*

Такім жа чынам утвараюцца ад назоўнікаў жаночага роду прыналежныя прыметнікі: *бабуля – бабулін, Паўлінка – Паўлінчын, жонка – жончын, цётка – цётчын.* А вось прыклады памылковага ўжывання прыналежных прыметнікаў: 1) *Цёткавы* рукі дрыжалі; 2) Гаворка ідзе пра асабістыя *Паўлінкіны* рэчы, якія яна павінна прыхапіць перад уцёкамі.

Часам нават у адным выданні можна сустрэць *крапівінскі* і *крапівоўскі*, хоць у абодвух выпадках маецца на ўвазе прыметнікавае ўтварэнне ад прозвішча (псеўданіма) *Крапіва.* У часопісе «Полымя» (1976. № 3) на с. 177 знаходзім: *крапівінскіх баек*, а на с. 187 – *крапівоўскі «Дэкрэт».* Або прыклады з іншых крыніц: 1) Вырасла *крапівінская* байка з жыцця; 2) Не выпадкова адзначаны перыяд у Інстытуце мовазнаўства ўсведамляецца як *крапівоўскі* ў высокім і пачэсным разуменні.

Нарматыўным павінен лічыцца той прыметнік, які адпавядае прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі, а менавіта з суфіксам *-оўск-.* І вось чаму.

Прыметнікі, утвораныя ад індывідуальных назваў людзей, а таксама ад геаграфічных назваў, як правіла, захоўваюць націск на тым складзе, на якім ён быў у адпаведным назоўніку: *Купала – купалаўскі, Колас – коласаўскі, Пушкін – пушкінскі, Гогаль – гогалеўскі, Глебка – глебкаўскі, Ясенін – ясенінскі.* Пры гэтым прыметнікі на *-інскі (-ынскі)* звычайна ўтвараюцца ад прозвішчаў і геаграфічных назваў на *-ін (-ын): Шамякін – шамякінскі, Вялюгін – вялюгінскі, Шчучын – шчучынскі.* Што да прыметнікаў на *-оўскі*, то

яны ўтвараюцца ад назоўнікаў з націскным канчаткам: *Літва – літоўскі, Масты – мастоўскі, Масква – маскоўскі.* Значыць, ад прозвішча *Крапівін* нарматыўным будзе адно прыметнікавае ўтварэнне *(крапівінскі)*, а ад прозвішча *Крапіва* – другое *(крапівоўскі).*

У артыкуле «Афіцыяльны ці афіцыйны?», змешчаным у «Беларускай лінгвістыцы» (1980. Вып. 17. С. 62-63), робіцца выснова, што «інтарэсы беларускай мовы патрабуюць аднаўлення ў сваіх правах слова *афіцыяльны* і адмаўлення ад формы *афіцыйны* як несістэмнай і тэндэнцыйнай». Супаставім выказванне К.Крапівы ў артыкуле «Ці будзем мы ездзіць па левым баку?» (Звязда. 1979. 14 чэрв.) адносна слоў-заменнікаў *(выснова, згадаць, нагадаць* і інш.): «А што ж сказаць пра словы-заменнікі? Ці іх таксама «вышпарваць»? Не, не трэба гэтага рабіць. Ужытыя на сваім месцы, ва ўласцівым ім значэнні, яны ніякія не заменнікі, а самакаштоўныя словы». У нарматыўным «Слоўніку беларускай мовы» (1987. С. 94) знаходзім: *афіцыяльны* і *афіцыйны.* А ў маўленчай практыцы апошняга дзесяцігоддзя (вуснай і пісьмовай), як правіла, функцыянуе толькі *афіцыйны.*

Асобныя аўтары апошнім часам рускую мову інакш і не называюць, як «расійская». Цікава толькі, а як у такім выпадку, не парушаючы сістэмнасці, замяніць дзесятак утварэнняў ад прыметніка *рускі*? Што, замест *русізм* будзем пісаць і гаварыць *расізм*?! Або замест *русіст – расіст*, замест *русіфікацыя, русафіл, русістыка, русафоб – расіфікацыя, расафіл, расістыка, расафоб*?!

Усе нашы акадэмічныя слоўнікі даюць як норму: *аднатомны, двухтомны, аднатомнік, шматтомнік* і г.д. У часопісе ж «Полымя» (1998. № 5. С. 255) чытаем: *12-тамовае выданне,* а ў часопісе «Роднае слова» (1997. № 10. С. 62): *двухтомавы слоўнік.* А як загучаць у такім разе заменнікі *двухтомніка: двухтамовік, двухтомавік?*

Ні ў кога з мовазнаўцаў не выклікаюць ніякага сумнення пададзеныя ў этымалагічных слоўніках звесткі пра тое, што *сярдзіты, сердаваць* паходзяць з агульнаславянскага *сьрдь* – «сэрца», і толькі П.Сцяцко, нібы валодаючы ісцінай у апошняй інстанцыі, сцвярджае ў «Настаўніцкай газеце», «Нашым слове» і ў «Родным слове» (1977. № 10. С. 62–64), што ў беларускай мове гэтыя словы «не маюць дачынення да *сэрца*». Не падабаецца яму і прыметнік *сардэчны.* Замест яго, мауляў, трэба ўжываць *сэрцавы,* бо ўсе «вытворныя ад слова *сэрца* не могуць мець гука *д*». А мова не слухае, у яе ў адных словах гэты гук хаваецца, а ў другіх на паверхні: *засердаваць, сярдзіты* і інш. Ф.Янкоўскі ў «Беларускай фразеалогіі» (1968. С. 45) дае прыклады з народных песень, запісаных Р.Шырмай у Карэліцкім і Пружанскім

раёнах, са словам *сэрданька*. Персанажы Купалавай п'есы «Прымакі» спяваюць: «То ў ніт, то пад ніт, То у бердачка, – Прыбівай, прыбівай, Маё *сэрдачка!*» А вось лічбы з фундаментальнай картатэкі Інстытута мовазнаўства (а картатэка – аснова для нарматыўнага слоўніка): *сардэчны* – 108, *сардэчна* – 29, *сардэчнасць* – 18. І ніводнай карткі на *сэрцавы*, бо няма ў прыродзе такога слова. І сілком яго не навяжаш. У ТСБМ слова *сардэчны*, апісанае на аснове картатэкі, мае 7 значэнняў і 5 сэнсавых адценняў. Усе яны падмацоўваюцца ілюстрацыямі з твораў Я.Купалы, Я.Коласа, У.Дубоўкі, Я.Брыля і г.д. Факты, як гаворыцца, рэч упартая.

Слова *зносак* мае два значэнні: 1) маленькае, звычайна апошняе, курынае яйцо; 2) слабы, нікуды не варты чалавек. Яно ўтварылася прэфіксальна-суфіксальным спосабам: *з-нос-ак.* У трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя» адзін з галоўных персанажаў – Мікіта Зносак – «тутэйшы», «тожа беларус, з пароды рэнегатаў і дэгенератаў». Яго прозвішча скланяецца, як і адпаведны назоўнік *зносак* (з выпадзеннем суфіксальнага беглага галоснага ва ўскосных склонах): *Зноска, Зноску, Зноскам* і г.д. У падручніку ж для 10 класа «Беларуская літаратура» (пад рэд. В.Ляшук. 1997) на старонках 286–291 гэта прозвішча аж 10 разоў ужыта ва ўскосных склонах з захаваннем у ім суфіксальнага *а: Зносака, Зносаку.* У самой п'есе Я.Купалы прозвішча фігуруе толькі ў форме назоўнага склону, але ёсць вытворнае ад яго – Гануля *Зношчыха* (а не *Зносачыха*). *Зносака, Зносаку* – гэта несумненная памылка, якую могуць пераняць і настаўнікі, і вучні, і студэнты.

Відаць, хто-ніхто ўжо і пераняў гэтую няправільнасць, як бы і «ўзаконіў» яе. Так, І.Рэзкая ў віктарыне пра Янку Купалу (Роднае слова. 2003. № 7) задае вучням пытанне: «Да якой высновы прыводзіць нас аўтар, малюючы вобраз Мікіты Зносака?». І яшчэ тройчы паўторана: *Зносака, Зносака, зносакі і здольнікі.*

Цяжка высветліць, адкуль пайшло такое памылковае ўжыванне. У 1927 г. вядомы тагачасны літаратуразнаўца І.Замоцін у артыкуле «Драматычныя творы Янкі Купалы» тройчы правільна ўжывае прозвішча ў родным склоне: *Мікіты Зноска.* Гэтак жа пісалі ў 1920-я гады і іншыя крытыкі (М.Гарэцкі, У.Чаржынскі). Пасля п'еса замоўчвалася больш за 60 гадоў. У 1988 г. яна была зноў вернутая да жыцця. Пра яе пісалі В.Каваленка, А.Сабалеўскі, У.Конан і інш. У кнізе П.Васючэнкі «Драматургічная спадчына Янкі Купалы» (1994), як і ў артыкулах іншых аўтараў, неаднойчы паўтараецца *Зносак* у розных склонавых формах: *у доме Мікіты Зноска, пра Зноска, Мікіту Зноску, у спрэчцы са Зноскам* і г.д. У некаторых жа працах

сутыкаемся і са *Зносакам*. Так, У.Гніламёдаў у кнізе «Янка Купала: Новы погляд» (1995) ужывае: *Мікіты Зносака*; І.Жук у кнізе «Сустрэчны рух» (1998): *Зносака, Зносакам, Зносакі*, а таксама *зносакападобных істотаў, зносакава выслоўе*, але і гэтак: *Зноскаў, Зноскава кампанія.*

На няправільнае ўжыванне ў друку згаданага прозвішча звярнуў увагу і А.Каўрус (Полымя. 1999. № 1. С. 265), зазначыўшы, што, разглядаючы «Тутэйшых» у часопісе «Беларуская думка» (1993. № 1), «малады літаратуразнаўца ўжо часткова слова-прозвішча «замарозіў», знерухоміў – піша: *Зносака, Зносакам*». І далей: «У беларускай мове пры скланенні слоў тыпу *дубок, палазок, зломак, малец, перац* «выпадае» суфіксавы галосны: *дубка, палазка, зломка, зломкам, мальца, мальцу, перцам.* Адзначаная заканамернасць захоўваецца і тады, калі такія словы становяцца прозвішчамі: *Антось Дубок – Антося Дубка, Язэп Нырок – Язэпу Нырку, Палазок – Палазку, Моўша Перац – Моўшам Перцам* (прыклады з твораў Якуба Коласа)». Здаецца, да гэтага і дадаць ужо няма чаго.

Ва ўсіх беларускіх нарматыўных слоўніках здаўна падаецца аднолькавае напісанне прыслоўя *спадылба.* А ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, кн. 1, с. 242) прыводзіцца сэнс гэтага слова – ‘з-пад нахмураных броваў, недаверліва, злосна (глядзець і пад.)’ – і дзве ілюстрацыі з ужываннем слова ў кантэксце. Да іх можна дадаць шэраг іншых, напрыклад: 1) Васька пазіраў *спадылба*, чакаў (М.Лынькоў); 2) Ты, гаспадыня, не зіркай *спадылба.* Мы не бандыты з вялікай дарогі (Л.Маракоў). Утварылася гэта прыслоўе ад асновы назоўніка *(лоб,* у родным склоне – *ілба)* пры дапамозе прыстаўкі *с-пад-* і суфікса *-а.* Такое ж ці падобнае ўтварэнне бачым і ў прыслоўях *спадыспаду, спаднізу, спадцішка.*

Арфаграфічныя і пунктуацыйныя навыкі выпрацоўваюцца не толькі, а можа, і не столькі пры вывучэнні граматыкі, колькі пры чытанні кніг, газет, часопісаў. Ад частага бачання надрукаванага слова ствараецца яго зрокавы вобраз і імгненна ўсплывае пры пісьме. Калі ж у друкаваных тэкстах час ад часу трапляюць няправільныя напісанні, то навык можа пахіснуцца. І не толькі ў вучняў, а і ў дарослага чалавека.

Апошнім часам стала чамусьці модным пісаць прыслоўе *спадылба* адразу з некалькімі арфаграфічнымі хібамі. Ужо абрыдла выпісваць з перыядычнага друку сказы з памылковым напісаннем гэтага слова. Вось толькі некалькі прыкладаў: 1) Нават падхалім-падначалены і той зыркнуў *з-пад ілба*, што моцна ўразіла важную птушку (І.Макаловіч); 2) – Не трэба акторства, – *з-пад ілба* зірнуў ён на

палкоўніка (І.Клімянкоў); 3) Фролка *з-пад ілба* паглядзеў на Ілью Аляксандравіча (У.Гніламёдаў); 4) Ён быў па-ранейшаму насуплены, пазіраў *з-пад ілба*, нібы чакаў, што гэтыя хлопцы могуць зрабіць яму нешта кепскае (У.Дамашэвіч); 5) На майго мужа нават і *з-пад ілба* не смей зірнуць (А.Казлоў); 6) Ён жа адчуваў толькі злосць, калі гэтыя малакасосы прыдзірліва, *з-пад ілба* пазіралі на яго (Дзеяслоў. № 7. С. 17). Сустрэўся і такі сказ: «Як воўк, *з падлоб'я* кіне позірк злы!» (М.Мятліцкі).

Цікава: калі вучань у дыктоўцы, пераказе ці сачыненні напіша *з-пад ілба*, то колькі памылак трэба прызнаць у такім напісанні? Як вядома, класічны ўзор непісьменнасці належыць пяру імператрыцы Кацярыны II, якая ўхітрылася ў слове *еще* зрабіць чатыры памылкі *(исчо)*. З той пары нікому не ўдавалася дабіцца такой высокай шчыльнасці правапісных ляпсусаў на адзін квадратны сантыметр тэксту. Аднак, як бачым, аматары спаборніцтва ў парушэнні словаўтваральных нормаў і правапісу не пакідаюць надзеі пераплюнуць імператрыцу.

Памылкі словаўтваральнага характару сустракаюцца і пры выкарыстанні фразеалагізмаў. Напрыклад, выраз *на сваіх дваіх* ужываецца толькі ў сваёй адзінай форме, якая падтрымліваецца яшчэ і рыфмічнай спайкай. Таму няма ніякіх падстаў адхіляцца ад нормы: «Ніколі не даводзілася ездзіць на машынах. Усё больш пехатою, *на сваіх двух*. А *на сваіх двух* ніколі не дрогка».

Фразеалагізм *фількава грамата* – паўкалька з рускай мовы *(филькина грамота)*, у яго прыметнікавым кампаненце суфіксу *-ин-* з мовы-крыніцы адпавядае *-ав-* – паказчык прыналежнага прыметніка, утворанага ад асновы адушаўлёнага назоўніка мужчынскага роду. Ужыванне *фількіна* замест *фількава* – адыход ад нормы, якая ў дадзеным выпадку вызначаецца самой сістэмай беларускай мовы: 1) Гэта *фількіна грамата*, а не дакумент; 2) Ты нікому гэту *«фількіну грамату»* не паказваў?; 3) Яму, вядома, я больш веру, чым вось гэтым... *фількіным граматам*.

Дзеяслоўныя кампаненты фразеалагізмаў *перамываць костачкі, падмазваць пяткі, умыць рукі, паставіць кропкі над «і», на казе не пад'едзеш* не могуць быць выкарыстаны з іншымі прыстаўкамі, аднак параўн.: 1) Хто сыпле пры стрэчы лёстачкі, за вочы ж – *прамые костачкі*; 2) Куды *пяткі намазаў*? Далёка? 3) Потым абяцалкіны з райкамунгаса зусім *памылі рукі*; 4) Жонка Галецкага вырашыла, што трэба, нарэшце, у іх адносінах *расставіць усе кропкі над «і»*; 5) З дзіравай торбай ходзіць, а такім начальнікам зрабіўся – куды там! *На казе не аб'едзеш!* Не падступіцца, вы толькі гляньце!

*Камень спатыкнення* – паўкалька з царкоўнаславянскай мовы (*камень преткновения*). Выток гэтага фразеалагізма – Біблія (Ісаія, 8, 14), дзе першапачаткова спалучэнне мела канкрэтны сэнс, бо гаворка ішла пра пакладзены Богам у Сіёне камень, аб які спатыкаліся няверніки ці тыя, хто не скараўся перад строгімі законамі. У «Настаўніцкай газеце» (2000. 7 кастр.) выраз выкарыстаны з адхіленнем ад нормы (*сутыкнення* замест *спатыкнення*): «Менавіта пісьмовы экзамен па мове з'яўляецца *каменем сутыкнення* для многіх абітурыентаў».

Ёсць памылкі словаўтваральнага характару і пры ўжыванні прыказак. Як вядома, некаторым прыказкам уласціва словаўтваральная варыянтнасць: *Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.* Семантычная тоеснасць варыянтаў прыказкі ў такіх выпадках захоўваецца. Але такую варыянтнасць маюць далёка не ўсе прыказкі. Напрыклад, *Хто пытае, той не блудзіць* ужываецца толькі ў сваёй адзінай форме, якая падтрымліваецца яшчэ і рытмам (у прыказцы чатырохстопны харэй). Таму ў наступным урыўку, дзе замест *пытае* выкарыстана *пытаецца*, – адыход ад нормы: «– Хіба ж не ведаеш, як прозвішча таго, што піша венікам па падлозе? – Ведаю. – Нашто ж пытаеш? – Хто *пытаецца*, той не блудзіць».

Прыказка *Чаму быць, таго не мінаваць* таксама не мае словаўтваральнай варыянтнасці. Толькі ў гэтай форме яна падаецца ў зборніку І.І.Насовіча [53, с. 182], ва ўсіх іншых даведніках. Параўн. яе памылковае «абнаўленне» з заменай суфікса ў апошнім кампаненце: «Страшны, кручаны боль то рве, распінае мяне ўздоўж, то скручвае ў тры пагібелі. Я толькі закусваю губы. Чаму быць, таго не *мінуць*».

## Правільнасць маўлення: марфалагічныя нормы

У адпаведнасці з «Нормамі ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў...» пры ацэнцы вучнёўскіх творчых работ (пераказаў ці сачыненняў) улічваюцца не толькі арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі, але і моўныя недахопы і граматычныя памылкі. Калі іх разглядаць з пазіцый культуры маўлення, то першыя (моўныя недахопы) будуць звязаны з парушэннем такіх камунікацыйных якасцей маўлення, як дакладнасць, лагічнасць, чысціня, дарэчнасць, багацце і выразнасць, а другія (граматычныя памылкі) – з парушэннем асноўнай маўленчай якасці – правільнасці маўлення. Таму граматычныя памылкі можна яшчэ называць (і гэта больш дакладна і лагічна) граматычнымі няправільнасцямі.

Граматычныя памылкі з’яўляюцца вынікам парушэння марфалагічных нормаў. Марфалагічныя нормы – гэта заснаваныя на маўленчай практыцы правілы формаўтварэння і словазмянення паўназначных часцін мовы.

У марфалогіі, як і ў іншых раздзелах мовы, трэба адрозніваць агульнамоўныя варыянты ў межах нормы ад ненарматыўных, індывідуальна-аўтарскіх варыянтаў. Так, марфалагічнымі варыянтамі, кадыфікаванымі ў акадэмічным ТСБМ, з’яўляюцца назоўнікі *зала* (ж. род) і *зал* (м. род), *замша* (ж.) і *замш* (м.), *клавіш* (м.) і *клавіша* (ж.), *каромысел* (м.) і *каромысла* (н.) і інш. Раўнапраўнымі варыянтамі прызнаюцца назоўнікі – назвы маладых істот: *дзіця (дзіцё), дзіцяня (дзіцянё), птушаня (птушанё), ягня (ягнё)* і інш. Аднолькава ўжывальныя *кішэнь* (ж.) і *кішэня* (ж.). Аднак гэта слова нельга ўжываць як назоўнік мужчынскага роду: «Рос ён, гледзячы на лес, і ў кішэнь чужы залез». (Тут і далей усе прыклады з марфалагічнымі няправільнасцямі ўзяты з друкаваных крыніц.)

Ваганні ў марфалагічных нормах сустракаюцца сярод усіх паўназначных часцін мовы. Вось найбольш тыповыя «ачагі аслабленай нормы», «слабыя ўчасткі» (Б.М.Галавін) ці слабыя мясціны ў марфалагічным ладзе **назоўнікаў**.

1. Родавая форма назоўнікаў. Маюцца на ўвазе шматлікія выпадкі ўжывання назоўнікаў у ненарматыўнай родавай форме. Напрыклад, слова *кенгуру*, як і ўсе іншыя нескланяльныя назоўнікі іншамоўнага паходжання, якія абазначаюць адушаўлёныя прадметы, адносіцца да мужчынскага роду, аднак параўн.: «Ма́ю торбу-нару», – хвалілася кенгуру. «Гэта не цуд, – заўважыў вярблюд. – Лепшая з торб – горб». З адхіленнем ад нормы выкарыстоўваюцца і такія назоўнікі, як *гусь, медаль, боль* і іншыя: 1) Ідзём мы неяк з Бобікам. Ажно ляціць качка. Не, не качка – *гусь дзікі*; 2) Дзед меў *дзве* срэбныя *медалі* за турэцкую вайну; 3) Разам злучалася ўсё: і *фізічная боль*, і крыўда, і жаль; 4) Нібы *воблак*, хвалісты курган праплывае траўным задуменнем; 5) Я іду ваяваць, *шынель* апрануўшы *паходную*.

Родавая характарыстыка некаторых назоўнікаў гістарычна зменлівая, можа з цягам часу змяняцца. Так, слова *Сібір* у мастацкіх творах XIX – пачатку XX стст. ужывалася то ў жаночым, то ў мужчынскім родзе, напрыклад: 1) А знаеш, чым гэта пахне?.. *Сібірам* пахне. Сібір, Сібір, галубчык! (В.Дунін-Марцінкевіч); 2) Нявольных судзіці ён будзе, караці *Сібірам* марозным (Я.Купала); 3) Уздзяюць зялезы на рукі, на ногі, вязуць у *Сібір*, у катаргу векавечную!.. (М.Гарэцкі). Гэта слова ў якасці назоўніка мужчынскага роду можна сустрэць і ў творах сучасных аўтараў, але такое ўжыванне, тым больш

у аўтарскай мове, павінна кваліфікавацца як нічым не апраўданае парушэнне літаратурнай нормы: 1) Звон ланцужны з *Сібіру* адно; 2) Некаторых арыштоўвалі, судзілі, ссылалі ў Сібір. З *Сібіру* вярталіся «рыштанты» рэдка.

Марфалагічную норму, як і ўсякую іншую моўную норму, нельга разглядаць як нешта «статыстычна сярэдняе», найбольш пашыранае. «Вялікая ўжывальнасць таго ці іншага варыянта не заўсёды можа быць дастатковай падставай для таго, каб лічыць гэты варыянт узорным, правільным» [61, с. 20]. Распаўсюджаным можа быць і памылковае, ненарматыўнае ўжыванне. Так, у беларускіх мастацкіх і публіцыстычных тэкстах варыянт *што (нібы, як, быццам) з гуся вада* выкарыстоўваецца часцей, чым *што з гусі вада* (апошні ёсць, напрыклад, у творах К.Крапівы, М.Лобана, Л.Арабей, І.Шамякіна). Аднак менавіта гэты варыянт (*што з гусі вада*) трэба лічыць узорным і адзіна правільным, бо моўная норма адлюстроўвае тое, што, як пісаў С.І.Ожагаў, найбольш адпавядае сутнасці дадзенай сацыяльна-гістарычнай з’явы [44, с. 259]. Слова *гусь* у беларускай мове – назоўнік жаночага роду і ў родным склоне мае форму *гусі* (з націскным канчаткам), такую форму ён мае і ў фразеалагізме *што з гусі вада*, напрыклад: *А таму і не бяда: усё нібы з гусі вада* (К.Крапіва). Выкарыстанне варыянта *што з гуся вада* абазначае выхад за межы тых магчымасцей, якія дае сама сістэма беларускай літаратурнай мовы. Вось прыклады з марфалагічнай няправільнасцю пры ўжыванні гэтага выразу: 1) Зірні на Мураўскага – з яго *нібы з гуся вада*; 2) Але з чартоўкі – *што з гуся вада*; 3) Ды адкрывай жа! Груз тэрміновы. Стане там справа ўся. Не разумее рускай мовы. З яго *што вада з гуся.*

2. Форма роднага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду. Адны з гэтых назоўнікаў маюць канчатак *-а(-я)*, другія – *-у(-ю).* Каб адрозніць адну катэгорыю назоўнікаў ад другой, можна карыстацца правілам, якое прапанаваў К.Крапіва: «Канчаткі *-а, -я* маюць у родным склоне назоўнікі, якія можна ўжываць з часцінкай *паў-* і абазначаныя ім рэчы лічыць як адзінкі [напрыклад: *паўдома, паўспектакля, паўсеанса*]. Усе астатнія назоўнікі гэтага скланення маюць ў родным склоне канчаткі *-у, -ю*» [31, с. 375]: *асфальт, адэкалон, антрацыт, апартунізм, вугаль, вылет, гром, голад, змрок, смутак, характар, хмызняк.*

Выдзеленыя словы ў наступных сказах ужыты з адступленнем ад нормы: 1) Наяўнасць такога варыянтнага *раду* – з’ява, заканамерная для нашай мовы; 2) Думкі лёталі ва ўсе бакі, што косы

*пражэктару*; 3) Яна ішла трохі працверазелая і ў душы зычлівая яму, што незнарок засцярог ад *граха*.

Значныя ваганні назіраюцца ў родным склоне адзіночнага ліку пры ўжыванні фразеалагічных зваротаў з кампанентам – назоўнікам мужчынскага роду. Пішуць, напрыклад, *без году тыдзень* (І.Мележ, Я.Брыль, І.Шамякін, М.Лобан) і *без года тыдзень* (І.Шамякін, С.Грахоўскі, А.Ставер, А.Казловіч), *не паказваць носу* (Э.Самуйлёнак, І.Мележ, А.Якімовіч) і *не паказваць носа* (Я.Колас, М.Лынькоў, М.Гарэцкі), *камар носу не падточыць* (І.Мележ, М.Лупсякоў, Э.Валасевіч) і *камар носа не падточыць* (П.Пестрак, М.Лобан, Л.Дайнека).

На ўжыванне ў гэтых фразеалагізмах формаў на *-а* замест старых формаў на *-у* ўздзейнічае лексічная сістэма сучаснай мовы, рэгулярнае выкарыстанне канчатка *-а* ў адпаведных словах свабоднага ўжывання *(года, носа)*. У выніку сфера ўжывання ў названых фразеалагізмах формаў на *-у* паступова звужаецца, хоць на сучасным этапе развіцця мовы абедзве формы могуць лічыцца раўнапраўнымі варыянтамі ў межах нормы (гэта адносіцца і да фразеалагізмаў *з-пад носа, крой з носа, крукам носа не дастаць, не майго носа палоса* і інш.).

Нормай жа для астатніх аналагічных фразеалагізмаў з'яўляецца форма на *-у*, бо яна таксама норма і для адпаведных лексічных адзінак: *без духу, блёкату наеўся, да сёмага поту, даць маху, з агню ды ў полымя, заводзіцца з паўабароту, на край свету, напускаць туману, ні пуху ні пяра, яблык разладу, як жару ўхапіўшы* і г.д. Таму варыянт з формай на *-а* пры ўжыванні, напрыклад, фразеалагізма *як чорт ладану* – парушэнне нормы: «Як чорт ладана, бебурнацы баяцца мірнага суіснавання народаў». Форма на *-у* – адзіная норма і для фразеалагізмаў з кампанентам, невядомым у свабодным ужыванні *(даць дыхту, для блізіру)*, а таксама для выразу *нашага палку прыбывае.*

Слова *страх*, як і іншыя абстрактныя назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай, у родным склоне мае канчатак *-у*. Гэта слова ніяк не можа быць выключэннем пры яго ўжыванні ў прыказцы *У страху вочы вялікія*, напрыклад: 1) – У страху вочы вялікія, – здзекліва пакпіў Хяндога ў часе чарговага вобыску (М.Аўрамчык); 2) У кожным сустрэчным [немцы і паліцаі] бачылі цяпер толькі партызан. У страху вочы вялікія: праходу не было ні старым, ні маладым (В.Праскураў). Аднак можна сустрэць дзесяткі прыкладаў з няправільным выкарыстаннем гэтага слова (у творах Э.Валасевіча, В.Вольскага, С.Грахоўскага, І.Гурскага, У.Дамашэвіча, В.Жуковіча, К.Крапівы, М.Лынькова, В.Праскурава, Б.Сачанкі, В.Супрунчука і

інш.) – у памылковай форме: *У страха вочы вялікія.* Магчыма, тут вінаваты не столькі аўтары, колькі рэдактары і карэктары, якія прыклалі руку да гэтага, кіруючыся нарматыўнымі слоўнікамі; гл. БРС (т. 2, с. 515), РБС-82 (т. 2, с. 450): *У страха вочы вялікія.* Але гэта пярэчыць правілам элементарнай логікі.

3. Форма меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. Параўн., напрыклад, няправільнае ўжыванне выдзеленых слоў у наступных сказах: 1) Формы прыметніка вызначаюцца па *роду*, ліку і склоне назоўніка, з якім ён звязаны; 2) Знаёмых, блізкіх пазнаюць па *голасу*, па адзенні, па паходцы; 3) Сямейнай верны эстафеце, у мірны час, як у *баю*, я мір ахоўваю на свеце і радаслоўную сваю; 4) Толькі паруе след на *снягу* – сонца шчыруе.

Пры ўжыванні прыказкі *На бязрыб'і і рак рыба* ў прыназоўнікава-склонавай форме *на бязрыб'і* маем справу не з вінавальным, а з месным склонам. Гэта форма зафіксавана ў БРС-88 (т. 1, с. 209), ТСБМ (т. 1, с. 440). Аднак сустракаецца: «Што вам? На бязрыб'е, кажа мая матуля, і рак – рыба. Не той гэта чалавек. Не па мне. У Стасі свае дарогі, у мяне – свае». У прыказцы *На злодзеі шапка гарыць* другі кампанент нарматыўна павінен мець у месным склоне канчатак *-і*, менавіта так яна падаецца ў ТСБМ (т. 2, с. 481), БРС-88 (т. 1, с. 521), РБС-82 (т. 1, с. 120). Але часам сустракаемся з парушэннем яе нормы: 1) Праўду кажуць, што на злодзею шапка гарыць; 2) У нас гаворацъ, што на злодзею шапка гарыць.

4. Формы роднага склону множнага ліку. Некаторым назоўнікам уласціва варыянтнасць у межах нормы: *гадоў – год, партызанаў – партызан.* Нормай іншых назоўнікаў з'яўляюцца або толькі канчаткі *-оў (-ёў), -аў (-яў), -эй (-ей): братоў, палёў, матораў, просьбаў, сакляў, бутляў,* або толькі нулявы канчатак: *дрэў, ліній, рук, ног, школ.* З ненарматыўнымі канчаткамі выкарыстаны, напрыклад, назоўнікі *трывога, сляза, мова, слова:* 1) Зямля! Ты росціш дбайна хлеб. Ты ўся – узвільчана прагрэсам. Завошта на тваім чале трывогаў столькі, столькі стрэсаў?!; 2) Чаму шмат на гэтым свеце бяды і гора? Слёзаў і пакут?; 3) ... веданне некалькіх моваў; 4) ... абгрунтоўваецца неабходнасць выкарыстання сваіх словаў замест чужых.

Назоўнік *рог* (у жывёлы), ужываючыся ў пераменным словазлучэнні, нарматыўна мае ў родным склоне множнага ліку або нулявы канчатак *(рог)*, або *–оў (рагоў). Для прыказкі ж Бадлівай карове бог рог не дае* характэрна адзіна магчымая форма кампанента *рог*, яна падтрымліваецца рытмічнай арганізацыяй гэтай прыказкі (у ёй чатырохстопны амфібрахій) і ўнутранай рыфмай *(бог – рог).* Таму,

здаецца, той, хто адчувае мастацкую спецыфіку гэтай прыказкі, ніколі не будзе выступаць супраць яе. Аднак параўн.: «– Каб я была хлопцам, толькі б мяне тут і бачылі. – Не балабонь пустое. Бадлівай карове бог *рогаў* не дае» (Л.Дайнека).

Адзначым, дарэчы, што ў школьнай практыцы аналагічныя няправільнасці ў канчатках назоўнікаў, як і іншых часцін мовы, кваліфікуюцца як граматычныя (дакладней, марфалагічныя) памылкі толькі ў дачыненні да творчых вучнёўскіх работ. Калі ж справу маем з дыктантам, то ў ім такія няправільнасці лічацца арфаграфічнымі памылкамі, «у сувязі з тым, што тэкст дыктанта не складаўся вучнямі самастойна», як пра гэта слушна сказана ў «Нормах ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў IV – X класаў па беларускай і рускай мовах».

5. Лікавая форма зборных назоўнікаў. Вядома, што зборныя назоўнікі тыпу *карэнне, калоссе* ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку, бо абазначаюць сукупнасць прадметаў як адно цэлае, а суадносныя з імі аднакаранёвыя словы тыпу *корань – карані, колас – каласы* маюць формы і адзіночнага, і множнага ліку. Зборныя назоўнікі часта блытаюць з суадноснымі словамі, што абазначаюць адзінкавыя прадметы, і, насуперак норме, ужываюць у множным ліку, напрыклад, *карэнні* замест *карэнне* або *карані*. Чатыры прыклады: 1) Прасцягі нікнуць да зары, і акунькоў усплёск радзее, і *крыллі* складваюць вятры; 2) Сталі сустракацца падводныя *каменні*, і ўжо нельга было думаць ехаць уначы; 3) Гарачыя *праменні* нібы прарэзалі наскрозь усё, што траплялася на дарозе; 4) Лапцеў уставіў дрэўцы, асцярожна расправіў *карэнні*.

Пры ўжыванні **прыметнікаў** найбольш распаўсюджанай марфалагічнай памылкай з'яўляецца няправільнае ўтварэнне ступеняў параўнання. «Вельмі часта, – пісаў К.Крапіва, – няправільна ўжываюць вышэйшую ступень прыметніка: або на польскі лад, напрыклад: *другая частка большая ад першай*, або на рускі лад: *другая частка большая першай*, а па-беларуску трэба сказаць: *другая частка большая за першую*» [29, с. 356]. Дарэчы, тое, што К.Крапіва называе канструкцыяй «на польскі лад», у ТСБМ фіксуецца з паметай «абласное». Зрэшты, і ў самога К.Крапівы ў адной эпіграме-«скарзе» знаходзім (што, магчыма, абумоўлена версіфікацыйнай мэтай): «Я не горшы ад Рагойшы і не меншы ад Камейшы, ды прабіцца не ўдаецца ні ў саюз, ні ў выдавецтва».

З парушэннем згаданай нормы сустракаемся, напрыклад, у такім сказе: «Людская праца ўсіх дужэй на свеце». Яго можна паправіць так: «Людская праца дужэйшая за ўсіх на свеце». У гэтым

выпадку простая форма вышэйшай ступені параўнання будзе выступаць са значэннем найвышэйшай ступені.

Не заўсёды правільна ўжываюць і найвышэйшую ступень параўнання: «Дудзейка і Шанкель прывезлі з сабой альбом навейшай устаноўкі для кармакухні». Тут, у адпаведнасці са зместам, каб выказаць найбольшую меру якасці, трэба ўжыць не *навейшай*, а *самай новай* ці *найнавейшай*. Параўн. таксама: 1) А-а, *цудоўнейшая* з маіх багінь!..; 2) Трактарыст Пётр Ягоравіч за ўборку высокага ўраджаю атрымаў *вышэйшую* ўзнагароду.

Парушэнне нормы можна бачыць і ў прыказках, дзе адзін з кампанентаў – прыметнік вышэйшай ступені. Напрыклад, «на рускі лад» афармлена прыказка *Хрэн за рэдзьку не саладзейшы* ў такім сказе: «У выніку выходзіла, што хрэн рэдзькі не саладзейшы, адзін быў, скажам, п’яніца, а яго замянілі гультаём» (У.Краўчанка). Параўн. нарматыўнае ў БРС-89 (т. 2, с. 672), РБС-82 (т. 2, с. 396 і 575), СБП (с. 403): *Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.*

Аналагічнае сустракаем пры ўжыванні прыказак з кампанентам-прыслоўем *лепш* ці *горш*. Замест нарматыўных *Стары друг лепш за новых двух; Ахвота горш за няволю* часам ужываюць «на рускі лад»: 1) Нездарма кажуць: стары друг лепей новых двух (І.Аношкін); 2) Пакінь свой нумар тэлефона... я пазваню. Стары сябра лепей новых двух (Г.Марчук); 3) Нездарма ж кажуць, што ахвота горш няволі (М.Ваданосаў).

Адхіленні ад нормаў сустракаюцца і пры выкарыстанні **лічэбнікаў**.

1. Лічэбнік *два*, як вядома, мае форму жаночага роду – *дзве*. Яна цалкам залежыць ад роду таго назоўніка, з якім сінтаксічна звязваецца. Параўн., напрыклад, ужыванне *два* і *дзве* ў паэме Я.Коласа «Новая зямля»: «Паміж *дзвюх лаў* пад абразамі туліўся стол з *двума кастрамі* аладак грэцкіх, як пампушак». Іншы раз памылкова ўжываюць ва ўскосных склонах *два* замест *дзве*: «Да двух алешын была прыбіта доўгая бярозавая жардзіна». Супаставім таксама ў прыказцы, дзе замест нарматыўнага *дзвюх матак* выкарыстана памылковае: «Ліслівае цялятка двух матак ссе» (І.Гурскі). Тое самае знаходзім і ў В.Шырко: «Спачатку новы дырэктар стараўся дагадзіць і раённаму начальству, і людзям, мусіць, чуў пагаворку пра ласкавае цялятка, якое двух матак ссе».

2. Састаўныя колькасныя лічэбнікі пры ўжыванні іх ва ўскосных склонах часта не скланяюць або змяняюць толькі апошняе слова; напрыклад, замест *з пяцісот васьмідзесяці сямі выпускнікоў* ужываюць *з пяцьсот восемдзесят сямі выпускнікоў.* Відаць, у такіх

выпадках адбіваецца ўплыў састаўных парадкавых лічэбнікаў, пры скланенні якіх нарматыўна змяняецца толькі іх апошняе слова: *з тысяча дзевяцьсот дваццаць чацвёртага года.*

Хоць **займеннік** – самая бедная ў колькасных адносінах часціна мовы, але і тут назіраюцца «ачагі аслабленай нормы».

1. Для азначальнага займенніка *сама* (ж. род) характэрны раўназначныя варыянты-канчаткі ў вінавальным склоне адзіночнага ліку: *-ую* і *у (самую прыроду, саму схему).* Не адпавядае норме ўжыванне гэтага займенніка ў вінавальным склоне з канчаткам *-ае* ці *-аё*: 1) Найбольш давялося шкадаваць самае зямлянку і лес, дзе яна знаходзілася; 2) Пацюпа прыбраў з воза самае бутлю; 3) Шлёпанне тапачак напамінала пра Веру Антонаўну, пра Васіля Пятровіча, і гнеў яе ўжо абрушваўся на самаё сябе.

2. Прыкладам аслабленага ўчастка марфалагічных нормаў выступае ўжыванне, а заадно і правапіс зваротаў *не хто іншы як, не што іншае як* і *ніхто іншы, нішто іншае.*

Назіранні паказваюць, што калі толькі ў тэкст дыктанта для вучняў ці студэнтаў трапляе хоць адзін з гэтых выразаў, дык ён звычайна выклікае мноства памылак: пішуць асобна, дзе трэба разам, і наадварот, выкарыстоўваюць *ні* замест *не*. Пра тыповасць гэтых памылак сведчаць і нярэдкія выпадкі няправільнай падачы названых спалучэнняў у друку. Напрыклад, у хрэстаматыйным творы: «А вось і вылечыў. І *ні чым іншым, як* паравозам»; у часопісе «Вожык»: «Гэта ж *ні хто іншы, як* гэты самы Сідаровіч арганізаваў паляванне на дзікоў у заказніку»; у «Векапомных днях» М.Лынькова: «Я даўно заўважыў яго работу, якая пахла *нічым іншым, як* дыверсіяй»; у газеце «Літаратура і мастацтва»: «Аўтарам паэмы... з'яўляецца *ніхто іншы, як* ён».

Пашыранасць памылак такога тыпу вытлумачваецца, відаць, і тым, што ў падручніках і дапаможніках па мове няма нават упамінання пра гэтыя спалучэнні. Толькі ў асобных працах сустракаюцца заўвагі агульнага характару пра неабходнасць адрозніваць звароты *не хто іншы як, не што іншае як* ад зваротаў *ніхто іншы, нішто іншае.* Якая ж паміж імі розніца – пра гэта звычайна не гаворыцца.

Між тым гэтыя звароты адрозніваюцца не толькі правапісам, але і семантыкай, стылістычнай афарбоўкай, сінтаксічнай функцыяй у сказе.

Першыя два спалучэнні заўсёды выступаюць са значэннем часціц *іменна, менавіта, толькі.* Гэта іх сінанімічнасць дазваляе ва ўсіх выпадках замяняць звароты *не хто іншы як, не што іншае як* часціцамі *іменна* ці *толькі.* Магчымасць такой замены – дадатковы і

вельмі эфектыўны прыём пры адрозненні спалучэнняў. Параўн.: «Цяпер я пазнаў чалавека – гэта быў *не хто іншы як* (= менавіта, толькі) Гуртавенка» (Б.Сачанка). Больш за тое, гэтыя выразы можна зусім апускаць без істотнай страты для зместу выказвання: «Яны ўсе, у тым ліку і вартавыя, схільны былі думаць, што прычынай пажару з'яўляецца *(не што іншае як)* удар маланкі» (М.Лынькоў). Сэнсавая блізкасць да пэўных часціц не дае, аднак, падставы называць гэтыя спалучэнні «складанымі часціцамі», як часам сцвярджаецца ў асобных працах. Часціцы – нязменныя словы, тады як займеннікавыя кампаненты спалучэнняў *не хто іншы як* і *не што іншае як* могуць ужывацца ў любым склоне, прымаючы склонавую форму таго назоўніка, да якога адносяцца: «Не цяжка было ўстанавіць, што подпіс, хоць і зроблены ён быў не досыць чытальна, належыць *не каму іншаму як* малодшаму камандзіру адной роты» (М.Лынькоў). Названыя спалучэнні – гэта, як слушна называе іх В.У.Вінаградаў, сінтаксічныя ідыяматызмы. У «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» яны апісаны так:

**Не хто іншы як**. *У знач. узмацн. часціцы. Кніжн.* Іменна, толькі; якраз той, пра каго гаворыцца далей...

**Не што іншае як**. *У знач. узмац. часціцы. Кніжн.* Іменна, толькі; якраз тое, пра што гаворыцца далей...

Як сінтаксічныя ідыяматызмы са значэннем часціц гэтыя спалучэнні не з'яўляюцца асобнымі, самастойнымі членамі сказа. Яны могуць быць толькі састаўной часткай дзейніка, выказніка, дапаўнення. Напрыклад, у сказе *Гэта быў не хто іншы як «рэдактар»* (Я.Колас) *гэта* – дзейнік, а *быў не хто іншы як «рэдактар»* – выказнік. Таму наўрад ці можна згадзіцца з думкай, выказанай у «Курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Сінтаксіс» (1959), быццам падобныя сказы трэба разглядаць як складаназалежныя з даданымі выказнікавымі, дзе «словы *не што іншае, не хто іншы* выступаюць у функцыі выказніка галоўнай часткі, слова *як* адыгрывае ролю злучніка» (с. 254). У такім разе штучна аднаўляецца ўнутраная форма гэтых фразеалагізмаў, якая сцерлася ў працэсе зносін і не ўсведамляецца носьбітамі мовы. І, зразумела, няма патрэбы аддзяляць коскай апошні кампанент гэтых фразеалагізмаў ад папярэдніх. Параўн., аднак, у праекце новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1999, с. 123): «не хто іншы, як...», «не што іншае, як...». Гл. таксама аналагічнае пунктуацыйнае афармленне ў «Беларускай граматыцы: Марфалогія» (1985), дзе, дарэчы, гэтыя спалучэнні чамусьці разглядаюцца ў разрадзе няпэўных займеннікаў, хоць і сказана, што яны «адрозніваюцца ад астатніх няпэўных

займеннікаў тым, што яны звычайна канкрэтызуюцца ў кантэксце» (с. 143). Дык тады якія ж яны «няпэўныя займеннікі»?!

У стылістычных адносінах згаданыя спалучэнні з'яўляюцца прыналежнасцю пісьмовай мовы, найчасцей выкарыстоўваюцца ў публіцыстычным, навуковым, афіцыйна-справавым стылях: «Калі браць па вялікім рахунку, то ля вытокаў усіх цудаў навукі, тэхнікі, культуры, вытворчасці стаіць *не хто іншы як* настаўнік – сапраўдны стваральнік духоўнага свету асобы, яе інтэлектуальнага і маральнага патэнцыялу» («Звязда»). Гэтыя спалучэнні часта сустракаюцца і ў мастацкай літаратуры, але звычайна ў аўтарскай мове. У мове персанажаў іх ужыванне заўсёды стылістычна матываванае. Напрыклад, у камедыі К.Крапівы «Хто смяецца апошнім», у сцэне чытання «навуковага» даклада Гарлахвацкім: «Гэта *не што іншае як* цяга да тае самае стыхіі, у якой жылі іх даўнейшыя продкі». Кантактуе выраз *не хто іншы як* з іншымі моўнымі сродкамі і служыць для стварэння лёгкага гумару і ў такім прыкладзе: «Можа, для каго я і дзед Пранук. А паколькі ты салдат і я салдат, то, можа, я для цябе *не хто іншы як* галоўны ад'ютант самога камандуючага» (М.Лынькоў).

Што датычыць спалучэнняў *ніхто іншы, ніштo іншае*, то гэта звычайныя словазлучэнні, у якіх кожнае слова захоўвае сваё лексічнае значэнне. Якога-небудзь новага, цэласнага сэнсу ад спалучэння адмоўнага займенніка з азначальным не ўтвараецца. Семантычная дастатковасць кожнага кампанента і здольнасць іх выступаць паасобку, без другога кампанента, асабліва відаць у тых выпадках, калі гэтыя словазлучэнні абмяжоўваюцца зваротамі з прыназоўнікам *апрача.* Напрыклад, аднолькава мажлівыя тры розныя варыянты: *Нічым іншым, апрача* матэматыкі, ён не цікавіўся; *Нічым , апрача* матэматыкі, ён не цікавіўся; *Іншым, апрача* матэматыкі, ён не цікавіўся. Кожны кампанент словазлучэння з'яўляецца самастойным членам сказа: *ніхто, нішто* – дзейнікам або дапаўненнем, *іншы, іншае* – азначэннем.

У адрозненне ад выразаў *не хто іншы як, не што іншае як*, што заўсёды ўжываюцца ў сцвярджальных сказах, словазлучэнні *ніхто іншы, нішто іншае* выкарыстоўваюцца толькі ў *адмоўных* сказах, дзе ўжо ёсць адмоўе, і ўзмацняюць гэта адмоўе: «Хоць бы зберагчы сілы на тое, каб павесці паравоз. Бо *ніхто іншы* яго не павядзе» (І.Шамякін). Кампаненты могуць выкарыстоўвацца і ва ўскосных склонах: «*Нічым іншым* чалавек, які вёў нас у грыбы, не вызначаўся» (І.Шамякін). Зразумела, што *ні* павінна пісацца асобна, калі часціцу аддзяляе ад астатняй часткі займенніка прыназоўнік: *ні*

*перад кім іншым, ні з кім іншым.* Абодва спалучэнні па сваіх экспрэсіўна-стылістычных якасцях належаць да нейтральных сродкаў і ўжываюцца ва ўсіх стылях мовы.

Апрача разгледжаных, у мове ёсць спалучэнні *і ніхто іншы, а не хто іншы.* Першае спалучэнне – гэта далучальная канструкцыя, якая заўсёды пачынаецца злучнікам *і*: «Векавы вопыт жывёлавода *і ніхто іншы* стварыў гэтую цудоўную прыказку» (А.Асіпенка). Напісанне тут часціцы-афікса *ні* не пярэчыць раней пададзенаму правілу аб ужыванні выразу *ніхто іншы* ў адмоўных сказах. Праўда, у прыведзеным прыкладзе адмоўе толькі падразумяваецца: «Векавы вопыт жывёлавода стварыў гэтую цудоўную прыказку, і ніхто іншы не стварыў». Супрацьпастаўляльна-адмоўнае спалучэнне *а не хто іншы* звычайна пачынаецца злучнікам *а* і ўжываецца ў сцвярджальных сказах: «Хто быў вінаваты ў гэтай спешцы? Вядома, ён сам, *а не хто іншы...*» (М.Лынькоў). Пры адсутнасці супраціўнага злучніка *а* ён лёгка падразумяваецца: 1) Калі Колышаў убачыў гэта, ён спачатку і не паверыў сваім вачам. Не паверыў, што гэта ён, *не хто іншы*, падбіў танк (І.Мележ); 2) І калі пазіраў Дубок на гэтую дарогу, на сэрцы ў яго рабілася лягчэй, гэта ж ён, *не хто іншы*, узарваў тады мост... (М.Лынькоў).

Спалучэнне *ніхто іншы* разам са злучнікам *як* можа ўтвараць параўнальны зварот *як ніхто іншы*: «Данька мог круціць трубы, *як ніхто іншы*» (У.Караткевіч). Напісанне ў ім *ні* вытлумачваецца тым, што сэнсава ён уяўляецца як эліпсаваная, рэдукаваная адмоўная канструкцыя (параўн.: *... як ніхто іншы не мог круціць трубы*). Дарэчы, ён можа ўжывацца і ў яшчэ больш скарочанай форме *(як ніхто)*, што з'яўляецца дапаможным прыёмам пры вызначэнні яго арфаграфіі.

Як бачым, правільнае ўжыванне і напісанне пералічаных спалучэнняў звязана з разуменнем іх семантыкі, з уменнем лагічна аналізаваць сказы, у якіх ёсць гэтыя звароты.

Парушэнні марфалагічнай нормы ў **дзеяслоўных і дзеепрыметнікавых** формах таксама нярэдкія.

1. Пры ўжыванні асабовых канчаткаў дзеясловаў няправільнасці назіраюцца ў 1-й і 2-й асобе множнага ліку. Напрыклад, замест нарматыўных *бяром – бераце (-ё), нясём – несяце (-ё)* нярэдка можна пачуць або прачытаць *бярэм – бярэце, нясем – нясеце.* Часам у мастацкіх творах такія дзеяслоўныя формы выкарыстоўваюцца для маўленчай характарыстыкі персанажа – носьбіта гаворкі пэўнай мясцовасці: «– Божа, як у вас накурана, – зусім па-дамашняму сказала Лізавета Аркадзьеўна. – Вы, мужчыны,

зусім не *беражэце* здароўе» (А.Асіпенка). А вось прыклады нематываванага адступлення ад марфалагічнай нормы: 1) *Імкнемся* мы на ўлонне прыроды; 2) Лісты не пішам. Не ідзём у госці, сустрэўшыся – не *падаем* рукі; 3) Як гэта будзе слаўна: *збярэмся* і туды *махнем*, мая Заслаўна. З няправільнасцямі крыху іншага характару (*падкашам, перасёк* замест *падкасаем, перасек*) сустракаемся ў такіх сказах: 1) Калошы з Сашам не *падкашам* – я расу люблю; 2) Сакевіч *перасёк* пярэднюю, зазірнуў у вялікі пакой.

2. У дзеясловах *саромецца* (незакончанае трыванне) і *пасаромецца* (закончанае трыванне) на аснове маўленчай практыкі замацаваліся пэўныя словазмянальныя формы. Яны засведчаны ў граматыках і ў акадэмічных нарматыўных слоўніках. У цяперашнім часе гэта формы 1-й, 2-й і 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку: *саромеюся, саромеешся, саромеецца, саромеемся, саромеецеся, саромеюцца.* У прошлым часе: *саромеўся, саромелася, саромеліся.*

Гэта можна праілюстраваць шматлікімі прыкладамі. Вось толькі некаторыя з іх: 1) Не *саромецца* трэба роднай мовы, а ганарыцца ёю (ЛіМ); 2) Але ж я не *пасаромеюся* і паслаць... Падумаеш, фігура! (І.Шамякін); 3) Нават за напісанне ліста не *саромеешся* браць сала (Я.Колас); 4) Валя *саромеецца* хадзіць на вечарынкі (І.Шамякін); 5) Кіраўніца кажа: – *Саромеюцца.* А я адкажу так... (С.Законнікаў); 6) Рукі яе не пацалаваў. Гэта мая цемната, прастата вясковая. *Пасаромеўся* (Ф.Янкоўскі). А ў наступным урыўку з аповесці «Дабрасельцы» А.Кулакоўскага ёсць аж чатыры дзеяслоўныя формы: «Відаць, *саромеешся* перада мной сваёй сённяшняй роляй. Так? А я табе скажу на гэта, што калі ты не *саромеўся* быць Мокрутавым фурманам, то не *саромейся* быць і вартаўніком. І наогул няма чаго *саромецца*». Пададзім яшчэ і сказ з дзеепрыслоўнай формай: «Ён расказаў, нічога не хаваючы і не *саромеючыся,* як спавядаўся мне» (В.Казько).

Фактычнае выкарыстанне ў маўленні гэтых дзеясловаў, аднак, трэба лічыць аслабленым участкам марфалагічнай нормы. Сустракаюцца нярэдкія выпадкі яе парушэння. Асабліва прыкра бачыць гэта ў навучальнай літаратуры. Напрыклад, у падручніку для студэнтаў гуманітарных і тэхнічных факультэтаў ВНУ, навучэнцаў тэхнікумаў і ліцэяў Л.Сямешкі, І.Шкрабы, З.Бадзевіч «Курс беларускай мовы» (1996) чытаем: «І школьнікі, і дарослыя *саромяцца,* баяцца арфаграфічных памылак, імкнуцца ад іх пазбавіцца, а да арфаэпічных адносяцца часам спакойна» (с. 116). Яшчэ прыклады з іншых крыніц: 1) Гэты пагромшчык габрэяў стаўся і габрэйскім «бацькам»: зрабіў хаўрус з габрэямі-спекулянтамі, якія не *саромяцца*

дзеля грошай ціснуць ягоную запэцканую крывёй руку; 2) Ды ўжо я не *саромлюся*, – сціснула вусны Ніна; 3) – Гэта ты *саромішся*? А божа! – засмяялася Марына.

Формы загаднага ладу дзеясловаў *саромецца, пасаромецца* такія: *саромейся, саромейцеся, пасаромейся, пасаромейцеся*. В.Дунін-Марцінкевіч пісаў: «Не *саромейся*, а скора гавары, мая сікора!» Або яшчэ такія прыклады: 1) Не *саромейся* ж, Параска, ты для нас – жаданы госць (К.Крапіва); 2) Не *саромейцеся*, не адмаўляйцеся, паглядзіце – усе адсюль разыходзяцца не з пустымі рукамі (С.Законнікаў).

А вось прыклады з памылковым ужываннем формаў загаднага ладу: 1) Бяры-бяры – не *саромся!..*; 2) Добра, не *саромся*. На ўсё свой час; 3) Не *саромцеся*, час не такі цяпер; 4) І не *саромцеся*: хлеб і гарэлка на стале, а рукі свае; 5) – Прашу, прашу, – шчабятала Гужка. – Не *саромцеся*.

3. Беларускай літаратурнай мове ўласцівы дзве формы прошлага часу: простая *(пайшоў)* і складаная *(пайшоў быў)*. У складаную форму ўваходзіць асноўны дзеяслоў (закончанага трывання) у спалучэнні з дапаможным дзеясловам *быць*, які ставіцца ў той жа родавай і лікавай форме, што і асноўны, дапасуючыся да яго. Такая форма прошлага часу захавалася ў нашай мове са старажытнага перыяду; напрыклад, у дзённіку Ф.Еўлашоўскага (XVI ст.) чытаем: «з Москвы был приехал», «з обу сторон знесли были», «сестра Володымирова позвала была пана Троцкого».

Складаная форма прошлага часу выкарыстоўваецца, калі неабходна выказаць даўномінулае дзеянне, якое адбылося раней за іншае, або дзеянне, якое пачалося ці магло пачацца, але перапынілася іншым дзеяннем. Абодва дзеясловы складанага прошлага часу змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку – па родах.

Канфігурацыя гэтай формы ў мужчынскім родзе такая: асноўны дзеяслоў + *быў* (дапаможны дзеяслоў можа стаяць як пасля асноўнага, так і перад ім): «Памятаю, як адзін з карэспандэнтаў, запытаўшы Коласа тут жа на двары аб тым, над чым зараз працуе паэт, зусім *разгубіўся быў*, пачуўшы жартоўны адказ: – А хіба, браток, не бачыш – дровы сяку!» (М.Лынькоў); «у гэтым збожжы *пагрэў быў* рукі» (К.Крапіва). У жаночым родзе: асноўны дзеяслоў + *была*: «Прызба па самыя вокны *зарасла была* лебядою і лопухам» (К.Чорны), «*была ўзялася*» (Л.Гаўрылкін). У ніякім родзе: асноўны дзеяслоў + *было*: «Усё далей адплывала тое, што *было з'явілася* там, у пакоі, за ўспамінамі» (П.Галавач); «*было памкнулася* ўслед» (М.Лужанін). У множным ліку: асноўны дзеяслоў + *былі*: «Каб мір зберагчы, мы *згадзіліся былі* на

унію» (У.Караткевіч); «*перайшлі былі*» (Я.Колас), «*былі пазаставаліся*» (У.Дубоўка).

Хоць у сучаснай беларускай літаратурнай мове, як відаць з прыведзеных і шмат якіх іншых прыкладаў, прошлы складаны час паслядоўна выкарыстоўваецца аўтарытэтнымі аўтарамі ў яго нарматыўнай форме, аднак нярэдка ў друку можна сустрэць і памылковыя ўжыванні: 1) Сяргей Паўлавіч нас *было пахваліў*, дык у нас і закружылася галава; 2) Пад першую печ *пачалі было* ўкладваць апорныя ролікі; 3) Марыя *было падумала*, што, мусіць, пагаварыць не давядзецца, бо Берасцень таго не дапусціць; 4) Стараста *хацеў было* сабраць дзяцей, ды хутка адмовіўся ад сваёй задумы; 5) Мядзведзь *устрывожыўся было*, калі затурчаў матор. Магчыма, такія ўжыванні выклікаюцца ўплывам рускай мовы, дзе дапаможны дзеяслоў у такіх канструкцыях ператварыўся ў нязменную часціцу *было*.

Прайшло 50 гадоў, калі ў акадэмічным падручніку «Курс беларускай літаратурнай мовы: Марфалогія» (1957) ужыванні тыпу *пайшоў было* ацэньваліся як «адхіленне ад літаратурнай нормы» (с. 179). У некаторых жа сучасных падручніках і дапаможніках складаную форму прошлага часу або зусім абыходзяць і нават не ўпамінаюць пра яе, або кваліфікуюць як асаблівасць гутарковага стылю. А ў акадэмічнай «Беларускай граматыцы. Ч. 1» (1985) гаворыцца, што гэтыя складаныя формы «бытуюць пераважна ў гутарковай вуснай мове і ў мове мастацкай літаратуры і выходзяць за межы літаратурнай нормы» (с. 163). З гэтым, аднак, нельга згадзіцца. Ды і «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1, с. 432) падае ўжыванне дзеяслова *быць* у саставе складанага прошлага часу як норму літаратурнай мовы. Несумненна, гэтая форма павінна кваліфікавацца як нарматыўная для ўсіх стыляў мовы. Не зусім зразумела, аднак, чаму ў навучальным дапаможніку па культуры маўлення гаворыцца, што складаныя формы прошлага часу тыпу *быў пайшоў, былі пайшлі* «пашыраны ў гаворках, дапушчальныя ў размоўным стылі і часам у мастацкім» [3, с. 139].

Што да ўскосных склонаў дзеепрыметніка, дык пры ім ужываецца дапаможны дзеяслоў у форме ніякага роду: *ускапаную было градку*. Параўн. і ў санеце Я.Купалы «Для Бацькаўшчыны»: «Я зноў *заснуўшую было* жалейку бяру і пробую ў ёй галасоў».

4. К.Крапіва яшчэ ў 1951 г. пісаў, што некаторыя аўтары злоўжываюць неўласцівымі беларускай мове дзеепрыметнікавымі формамі, і ілюстраваў гэта прыкладамі: *трымаўшаеся за жыццё дрэва, заіскрыўшыміся вачыма, трэск ламаемых галінак.* Аналагічныя дзеепрыметнікавыя формы, на жаль, сустракаюцца і ў

сучасных тэкстах: 1) Напаўзае восень з заўсёдным гаспадарчым клопатам, да якога дадаецца яшчэ і новы, вызначальны ў *склаўшыхся* абставінах варожай акупацыі; 2) Ім нязручна было весці бой з *захаваўшыміся* ў акопах немцамі; 3) *Абстрэльваемая* з берага лодка, праўда, была ўжо далёка. А ў наступным сказе дзеепрыметнік *праязджаючы* супадае з аманімічным дзеепрыслоўем, у выніку чаго выказванне робіцца неакрэсленым, невыразным: «*Праязджаючы* калгаснік зварочвае ўбок і, спыніўшы каня, праводзіць суровым позіркам шэра-зялёную калону».

Веданне слабых участкаў марфалагічных нормаў дае настаўніку магчымасць праводзіць адпаведную папераджальную работу пры вывучэнні тых ці іншых праграмных тэм марфалогіі.

## Правільнасць маўлення: сінтаксічныя нормы

Сінтаксічныя нормы – гэта правілы ўтварэння са слоў больш буйных адзінак маўлення – словазлучэнняў і сказаў.

Найбольш слабыя ўчасткі ў галіне сінтаксічных нормаў звязаны з дапасаваннем і кіраваннем.

Часта парушаюцца нормы дапасавання выказніка да дзейніка. Дарэчы, такую сінтаксічную сувязь апошнім часам нярэдка называюць каардынацыяй, хоць В.У.Вінаградаў, упершыню ўжываючы гэты тэрмін, дастасоўваў яго толькі да сказаў тыпу *Я кажу; Ты чуеш*: «Цяжка сказаць, што да чаго дапасуецца ў падобных выпадках – форма дзеяслова да займенніка ці наадварот» [22, с. 24]. Больш падрабязна пра дапасаванне і каардынацыю гл. у [38, с. 182-184].

Парушэнне сувязі паміж галоўнымі членамі сказа часта назіраецца тады, калі дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка няпэўна-колькаснага значэння (*большасць, меншасць, рад, шэраг, мноства, большая частка* і г.д.) з назоўнікам роднага склону множнага ліку. У такіх выпадках перавага павінна аддавацца не сэнсаваму, а фармальна-граматычнаму дапасаванню выказніка з дзейнікам. Напрыклад: 1) З гэтымі дзвюма задачамі звязваецца рад другіх задач (Я.Колас); 2) Большасць людзей маўчала (І.Мележ).

У наступных жа сказах – відавочнае адступленне ад нормаў дапасавання: 1) Большасць твораў прадэманстравалі нам папулярны сярод цяперашніх пачаткоўцаў падыход да паэзіі, калі натхненне саступае цвярозаму разліку; 2) Паэзію разумеюць і тлумачаць кожны па-свойму, і большасць беспамылкова знаходзяць яе.

У размоўным стылі для выказвання пачцівых адносін да старэйшага чалавека або да ўплывовай асобы выказнік часамі

ставіцца ў форме множнага ліку, і гэта знаходзіць адлюстраванне ў мастацкай літаратуры: 1) Як добра, што *мамка разлажылі* агоньчык і бульбачку печыцё (Я.Купала); 2) І я еду, Алёшка, у горад! *Мама пасылаюць* мяне ў Беласток служыць!.. (А.Карпюк). Параўн. аналагічнае ўжыванне выказніка, але ўжо з іншай стылістычнай мэтай адлюстраванае ў мастацкім тэксце: «Азірнуўся я, а дзяўчо з прафкама: – Сёння сход. Льву Пятровічу – пяцьдзесят, дык *Іван Іванавіч прасілі* вас выступіць» («Вожык»).

Адзначым іншыя тыповыя «ачагі аслабленай нормы» ў галіне дапасавання.

1. Азначэнні, уключаныя ў спалучэнні колькасных лічэбнікаў *два (абодва), дзве (абедзве), тры, чатыры* і назоўнікаў, ставяцца ў форме назоўнага склону множнага ліку. Такі від сувязі пашыраецца на ўсе азначэнні, неадасобленыя і адасобленыя, незалежна ад таго, да назоўніка якога роду яны адносяцца. Напрыклад: *дваццаць чатыры партыйныя, савецкія і гаспадарчыя работнікі раёна* (І.Чыгрынаў); *два іншыя сябры, старэйшыя за мяне* (Я.Брыль); *дзве квадратныя хусцінкі* (П.Глебка); *чатыры супрацьтанкавыя ружжы* (М.Лынькоў). Няправільна: 1) За некалькі тыдняў тры самых асноўных прамысловых раёны будуць у нашых руках; 2) Тры вялізных хвоі ўжо вымалёўваліся над чэзлым хмызам; 3) Два кіеўскіх баярына ў абшытых срэбрам плашчах знялі перад Усяславам вастраверхія куніцавыя шапкі. Азначэнні *цэлы, поўны, добры, які* могуць ужывацца ў родным склоне множнага ліку, калі яны стаяць перад колькасна-іменным спалучэннем: *цэлых сорак кіламетраў* (Я.Брыль); *праз якіх тыдні два* (К.Крапіва); *добрых дзве гадзіны* (Я.Брыль).

2. У часопісе «Роднае слова» (1997. № 10. С. 104) чытаем: «Запомніце: пасля лічэбнікаў *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры* ўжываецца назоўны склон множнага ліку ў адрозненне ад роднага склону ў рускай мове: *два мае таварышы, тры вялікія акны, чатыры маладыя кабеты*». Адзін з прыведзеных тут прыкладаў насцярожвае. *Акно* (адз. л.) – *вокны* (мн. л.). А *акны* – якая ж гэта нечуваная форма назоўніка *акно*?

Амаль ва ўсіх падручніках і дапаможніках па беларускай мове (у тым ліку і для вышэйшай школы), калі гаворка заходзіць пра спалучальнасць лічэбнікаў з назоўнікамі, сцвярджаецца, што пры лічэбніках *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры* назоўнік ужываецца ў форме назоўнага склону множнага ліку. Правіла звычайна ілюструецца прыкладамі, якія не выклікаюць ніякага сумнення: *два сыны, тры крыніцы, чатыры вучні.*

Калі карыстацца гэтым правілам, то трэба было б гаварыць і пісаць так: *нага – ногі* (мн. л.) – *дзве ногі* (мн. л.)*; сям'я – сем'і – дзве сем'і; абедзве дочкі; тры вёдры; два бярвёны, дваццаць дзве вёрсты.* Аднак мы гаворым і пішам інакш, «не па правілах»: 1) Вясна ўжо стала на *абедзве нагі* (А.Лобан); 2) Паабапал вуліцы – двухпавярховыя дамы на *чатыры сям'і* (Я.Сіпакоў); 3) *Дзве дачкі* і дарослы сын як ляглі, так і заснулі, а маці не спала (А.Асіпенка); 4) Дзень упустую праблукаўшы па бары, грыбнік ударыў вобзем *два вядры* і пад сасною зморaны прысеў («Вожык»); 5) Паклалі *два бервяны,* паміж імі паставілі шмат гаршкоў (Я.Маўр); 6) Добрыя *вярсты дзве* не спыняліся жарты, таўханіна, сумятня (Я.Колас). Вымаўленне гэтых і шмат якіх іншых колькасна-іменных спалучэнняў «па правілах» – парушэнне такой якасці маўлення, як яго правільнасць. Названае правіла патрабуе ўдакладнення, неабходна назваць выключэнні з гэтага правіла. А іх вельмі многа.

Па-першае, усе назоўнікі жаночага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* супадаюць і па канчатку, і па націску не з назоўным склонам множнага ліку, а з родным адзіночнага: *рака – ракі – чатыры ракі (*а не *рэкі), сястра – сястры – дзве сястры;* параўн. тое самае ў рускай і ўкраінскай мовах: *две сестры, дві сестри.* Вось толькі некаторыя з гэтых назоўнікаў: *сцяна, дуга, канапа, пара, каса, каза, страха, вайна, сірата, галава, сава, стапа, ступня, пятля, страфа, старана, пята, барада, труба, жняя, душа, зіма, вясна, мяжа, рака, сляза, мятла, нара, гара.* У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» гэтыя і іншыя падобныя назоўнікі пададзены такім чынам: **галава,** -ы; *мн.* галовы (*з ліч. 2, 3, 4* галавы).

Па-другое, многія назоўнікі ніякага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* супадаюць па канчатку з назоўным склонам множнага ліку, а па націску – з родным адзіночнага: *гняздо – гнязда* (р. адз.) *– гнёзды* (мн.) *– два гнязды; акно – акна – вокны – два акны.* Яшчэ прыклады такіх назоўнікаў: *сяло, вясло, пісьмо, гумно, сядло, палатно, пяро, сцягно, сцябло, вядро, бервяно.*

Па-трэцяе, своеасабліва спалучаюцца з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* і некаторыя назоўнікі мужчынскага роду. Напрыклад: *два кані, тры зубы* (параўн. у родным склоне адзіночнага ліку і назоўным склоне множнага ліку: *каня – коні, зуба – зу̀бы* і *зубы*́). Або: *чалавек – чалавека* (р. адз.) *– людзі* (мн.), але *два чалавекі.*

Характэрна, што як ужо гаварылася вышэй, ва ўсіх такіх колькасна-іменных спалучэннях азначэнне, калі яно аказваецца

паміж лічэбнікам у назоўным склоне і назоўнікам, абавязкова ставіцца ў форме назоўнага склону множнага ліку: *дзве вялікія ракі, чатыры поўныя вядры, тры верхавыя кані.*

Апісаныя тут незвычайныя «паводзіны» назоўнікаў у колькасна-іменных спалучэннях тлумачацца гістарычнай зменлівасцю мовы – знікненнем формы парнага ліку, яго выцясненнем множным лікам з захаваннем націску, уласцівага былому парнаму ліку.

3. Зборныя назоўнікі абазначаюць сукупнасць асоб ці прадметаў у іх адзінстве (*народ, настаўніцтва, моладзь*). Пры замене такіх назоўнікаў займеннікамі павінна захоўвацца дапасаванне ў родзе і ліку: «А ці такі ж ужо сапраўды быў забіты ды пакорны беларускі *народ*? Пабояў, праўда, за сваю гісторыю перанёс *ён* нямала» (К.Крапіва). Нярэдка ў такіх выпадках адбываецца падмена зборнага назоўніка яго суадносным займеннікавым адпаведнікам, але ў форме множнага ліку, і, такім чынам, парушаецца дапасаванне; падмена ўзнікае як вынік лагічна сумежных асацыяцый: *народ – людзі – яны; сялянства – сяляне – яны.* Напрыклад: «Аўтар праўдзіва адлюстраваў жыццё беларускага сялянства, іх мары і імкненні да лепшай долі».

Вельмі часта парушаюцца нормы кіравання, асабліва прыдзеяслоўнага. Многія дзеясловы маюць канструкцыйна абмежаванае значэнне, якое заўсёды рэалізуецца ў строга акрэсленай канструкцыі. Такія моцнакіравальныя дзеясловы патрабуюць ад залежнага слова толькі пэўнага склону. У слоўніках яны падаюцца з займеннікавым паказчыкам іх нарматыўнай спалучальнасці: *смяяцца з каго-чаго, дараваць каму-што, запрашаць каго-што.*

Вось некаторыя слабыя ўчасткі нормаў у галіне к і р а в а н н я.

1. Ужываючыся ў якасці залежнага слова пры моцнакіравальных дзеясловах тыпу *пасвіць каго,* адушаўлёныя назоўнікі ў множным ліку маюць форму вінавальнага склону, які супадае з родным. Нярэдка замест нарматыўнага *пасвіць кароў* ужываюць *пасвіць каровы.* Параўн.: 1) Вялікі палетак жыта межаваў з верасаўскімі дзялкамі, і на яго верасоўскія дзеці пускалі ўкрадкам свае авечкі. 2) Шпакоўскі загадаў паліцэйскім адабраць у калгаснікаў яго каровы, свінні, авечкі, якія ў дзевяцьсот дваццатым годзе пасля яго ўцёкаў былі ў маёнтку. 3) Чую, як, нахохліўшыся, зранку на курэй шыпіць стары гусак, як адзіны на ўсю Гальшанку разганяе плотачкі шчупак.

У першым выданні рамана К.Крапівы «Мядзведзічы» было: «Пан Вальвацкі зараз жа загадаў парабкам сагнаць з лугу кармянецкія каровы». Пасля пісьменнік паправіў: «Пан Вальвацкі зараз жа загадаў парабкам сагнаць з лугу кармянецкіх кароў».

2. Дзеясловы *смяяцца, кпіць, здзекавацца, глуміцца, насміхацца, жартаваць, цешыцца, дзівіцца, пасмяяцца, пажартаваць, паздзекавацца* кіруюць родным склонам з прыназоўнікам *з*. Праўда, трэба мець на ўвазе, што амаль усе гэтыя дзеясловы мнагазначныя і ў адным са значэнняў ужываюцца абсалютыўна, г.зн. без залежных слоў. Некалькі сказаў з памылкамі ў прыдзеяслоўным кіраванні: 1) Інквізіцыя, не здолеўшы зламаць дух Скарыны і Адверніка, здзекуецца над іх целамі; 2) Мы пасмяяліся над гэтай своеасаблівай рэкламай прадпрымальнага негацыянта; 3) Над няўдалым мужыком смяяліся ўсім сялом.

3. Дзеясловы ветлівасці *(дзякаваць, падзякаваць, аддзякаваць, дараваць, прабачыць, выбачыць)* кіруюць давальным склонам. Аднак часам іх ужываюць, насуперак норме, з неўласцівай ім спалучальнасцю: 1) У глебы ёсць адзін закон: каго – караць, каго – аддзячыць; 2) Аб’ектыўна я павінна была б дзякаваць свякроў; 3) Закончыўшы размову, Сяргей падзякаваў усіх, пажадаў добра адпачыць перад прэм’ерай.

4. Дзеясловы *ажаніць, ажаніцца, жаніцца* кіруюць творным склонам з праназоўнікам *з*. У прыведзеным сказе дзеяслоўнае словазлучэнне ўжыта з парушэннем сінтаксічнай нормы: «Андрэй, іх адзіны сын, закахаўся і павінен ажаніцца на Верачцы, мілавіднай і сціплай дзяўчыне».

5. Дзеясловы *ісці, хадзіць, бегчы, ехаць, плыць, выправіць, паслаць* пры паказе на мэту дзеяння звычайна кіруюць вінавальным склонам з прыназоўнікам *па (пайсці ў магазін па хлеб).* Як засведчана ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», рэдкаўжывальнымі варыянтамі ў межах нормы з’яўляюцца канструкцыі з творным склонам і прыназоўнікам *за (пайсці да студні за вадой).* Той жа слоўнік кваліфікуе канструкцыі *пайсці ў грыбы* і *пайсці па грыбы* як раўнапраўныя, аднолькава ўжывальныя варыянты.

6. Як паказана ў ТСБМ, адназначны прыметнік *уласцівы* ўступае ў сінанімічныя адносіны з другім значэннем трохзначнага прыметніка *характэрны*, але першы патрабуе паказчыка *каму-чаму*, а другі — *для каго, для чаго.* Іх вельмі часта блытаюць. Такія парушэнні сінтаксічнай нормы сустракаюцца не толькі ў вусным маўленні ці на старонках газет, часопісаў, кніг, але і ў нарматыўных даведніках.

Так, у ТСБМ на пэўных алфавітных месцах правільна апісваюцца гэтыя прыметнікі, ілюструюцца адпаведнымі прыкладамі з абавязковай сінтаксічнай сувяззю паміж прыметнікамі і залежнымі словамі: *уласцівую толькі жанчынам, з уласцівай толькі яму*

*іранічнай манерай, характэрны для любой справы*. А ў прадмове да 1-га тома гэтага слоўніка бачым няправільнасць: «Паметай *абл.* (абласное) пазначаюцца словы ці асобныя значэнні, *характэрныя* вузкаму тэрытарыяльнаму рэгіёну» (с. 10). У гэтым жа слоўніку, насуперак нарматыўнаму *ўласцівы каму-чаму*, даецца (т. 3, с. 369, 372): *неўласцівы для каго-небудзь, уласцівы для чалавека*.

Падобныя памылкі ёсць і ў навучальнай літаратуры. Напрыклад, у падручніку па беларускай мове для X-XI класаў агульнаадукацыйных школ з рускай мовай навучання (1999) знаходзім: «Кароткія формы якасных прыметнікаў уласцівы высокаму стылю паэзіі, фальклорным тэкстам, але не характэрны дзелавому і навуковым стылям» (с. 75). У часопісе «Беларуская мова і літаратура» (1997. № 7): «Фразеалагізмы-сінонімы трэба адрозніваць ад сінанімічных формаў аднаго і таго ж фразеалагізма, *для якіх уласціва* абавязковая структурная аднатыпнасць і варыятыўнасць ужывання іх кампанентаў» (с. 66).

Варта прывесці і яшчэ шэраг прыкладаў як сведчанне таго, што гэта сінтаксічная норма патрабуе падтрымкі, аховы: 1) Усе гэтыя словы не *ўласцівы для* маёй *гаворкі*; 2) Гэта фанетычная рыса *характэрна* ўсім беларускім *помнікам* пісьменнасці; 3) Лічылася, што савецкаму *ладу характэрны* новыя рысы чалавечых адносін; 4) Гэта словы, што называюць прадметы, з'явы, паняцці, характэрныя для жыцця і быту іншых народаў і не *ўласцівыя для* нашай *рэчаіснасці*.

7. Як правільна: «гвалт *над кім-чым*» ці «гвалт *з каго-чаго*»? Мнагазначнае слова *гвалт* у адным са сваіх значэнняў часткова супадае з адным значэннем таксама мнагазначнага назоўніка *здзек*. На гэтай падставе ў «Нашым слове» (2000. № 22) робіцца паспешлівая выснова: раз *здзек* (як і *здзекавацца* з каго-чаго) кіруе родным склонам (*здзек* з каго-чаго), значыць, аналагічна трэба ўжываць і *гвалт* (з каго-чаго), а *гвалт* над кім-чым — «небеларуская канструкцыя». Але ж такая аналогія дзейнічае далёка не заўсёды. Зусім не абавязкова, каб утваральнае і вытворнае слова, як і два сінанімічныя словы, мелі аднолькавую спалучальную сувязь. Параўн. напрыклад: *удзельнічаць* (у чым) — *удзельнік* (чаго), *напаўняць* (што) — *напаўненне* (чаго), *уласцівы* (каму-чаму) — *характэрны* (для каго-чаго).

У нашай мове *гвалт* патрабуе толькі творнага склону, а не роднага. Найлепшым пацвярджэннем з'яўляецца маўленчая практыка нашых класікаў, іншых аўтарытэтных аўтараў: 1) Ды покі будзе сэрца біцца, яно не можа пагадзіцца ні з гэтым *гвалтам*, ні з бядою над нашай роднаю зямлёю (Я.Колас). Іншыя (скарочаныя) прыклады: *і*

*гэты гвалт над намі* (Я.Колас); *гвалт над нашым цёмным чалавекам* (З.Бядуля); *нібы сатыра на нібы паэму — гвалт над формай* (К.Крапіва); *гвалт над натураю* (Я.Лёсік); *супраць гвалту над афіцэрамі* (І.Мележ); *не чыніць гвалту над сваім талентам* (Р.Шкраба); *гвалт над думкаю* (У.Конан). Яшчэ ілюстрацыі — з газеты «Літаратура і мастацтва» за 28 ліпеня 2000 г.: *гвалт над сялянскай душой; гвалт над розумам і сэрцам школьніка; гвалт над Рагнедай*; з часопіса «Полымя»: *ганебны гвалт над ягонай душой.* У Н.Гілевіча чытаем: *гвалт над мовай, над усім здаровым сэнсам наогул; гвалт над чалавечай асобай.* І яшчэ толькі два прыклады з сучаснай перыёдыкі: *несусветны гвалт над мовай і культурай; гвалт над патрыётамі Бацькаўшчыны.*

Як бачым, факты — рэч упартая і спрачацца з імі не выпадае.

8. У многіх працах па беларускай мове сцвярджаецца, што дапаўненне пры пераходных дзеясловах з адмоўем *не* павінна ставіцца толькі ў родным склоне: *не выканаў задання, не чытаў кнігі.* Калі першы прыклад не выклікае сумнення, то пры ўспрыманні другога прыкладу (*не чытаў кнігі*) узнікае няяснасць: не чытаў якой-небудзь адной кнігі ці наогул не чытаў ніякія кнігі? Двухсэнсавасць можна ліквідаваць толькі ўстаўкай займенніка: *не чытаў гэтай кнігі.* Таму ў другім прыкладзе больш прымальная канструкцыя з вінавальным склонам: *не чытаў кнігу.*

Нельга ў гэтай сувязі згадзіцца з такім выказваннем: «Форма вінавальнага склону, якая часам сустракаецца пры дзеясловах з адмоўем *не*, для беларускай мовы не характэрная; яна не нясе якой-небудзь дадатковай сэнсавай ці стылістычнай нагрузкі, таму, па сутнасці, з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы» [70, с. 64]. Аднолькава магчыма ўжыванне формаў роднага і вінавальнага склонаў прамога дапаўнення *мовы (мову)*, напрыклад, у такіх сказах: *Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі* (Ф.Багушэвіч); *Ствараючы раман, аповесць, п'есу на гістарычную тэму, пісьменнік не імітуе мову пэўнага часу* («Полымя»).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове, як і ў рускай ці ўкраінскай, адбываецца паступовае выцясненне роднага склону ў адмоўных канструкцыях. Найбольш прымальным варыянтам «і цяпер застаецца форма роднага. У той жа час і многія канструкцыі з вінавальным ужо не могуць быць адхілены як ненарматыўныя» [20, с. 204]. Таму ўжыванне вінавальнага, а не роднага склону ў наступных сказах з адмоўнымі канструкцыямі нельга лічыць парушэннем сінтаксічнай нормы: *Антось Марціна прыплятае і ўсё шукае ды шукае, і не знаходзіць сваю страту* (Я.Колас): *Твар не хаваю ад ветру*

(П.Трус); *А цяпер ты Міколу не бачыў?* (Э.Самуйлёнак); — *Што ж ты мазуту не возьмеш? — спытаў Жарнасек* (А.Асіпенка); *Архітэктары, падобна было, не стрымлівалі творчую фантазію* (Я.Радкевіч); *Хату Аўдотка не замыкала* (П.Місько).

Норма ўсталёўваецца на аснове маўленчай практыкі. З улікам яе ў «Беларускай граматыцы: Сінтаксіс» (1986) зроблена спроба выявіць пэўныя заканамернасці, калі перавага аддаецца вінавальнаму склону: пры акцэнтаванні ўвагі «чытача на пэўным прадмеце ці якой-небудзь з'яве» (*не знаходзіў сваю страту*), пры ўжыванні «ўласных назоўнікаў, якія абазначаюць назвы асоб» (*не ўзлюбілі Зосю*), пры знаходжанні дапаўнення «ў прэпазіцыі да дзеяслова»: *Лес не сякуць языкамі* (с. 141).

Кіравальная сувязь пры прамым дапаўненні, уласцівая свабодным словазлучэнням, пераносіцца і на дзеяслоўныя фразеалагізмы аналагічнай структуры: *Я не хвалько і носа не задзіраю. Калі і задзірае хто нас, дык гэта ты* (Я.Колас). Параўн., аднак, выказванне А.І.Малаткова, які піша, што «нязменнай застаецца форма другога кампанента і пры пастаноўцы перад фразеалагізмам адмоўя: правільна — *не змотваў вудачкі* адкуль або куды, *не загаворваў зубы* каму.., але зусім немагчыма: *не змотваў вудачак* адкуль або куды, *не загаворваў зубоў* каму.., хоць па законах спалучальнасці слоў рускай мовы ў словазлучэнні гэтыя формы былі б адзіна магчымымі» [43, с. 23]. Аднак катэгарычнасць такога сцвярджэння здаецца занадта рызыкоўнай, бо яму пярэчыць маўленчая практыка вядомых рускіх майстроў слова: *не выносит сора из избы* (А.Пушкін), *из избы не вынесено сору* (І.Крылоў), *сору из избы не выносит* (І.Тургенеў), *из избы сора не вынесет* (Ф.Дастаеўскі), *не выносишь сора из избы* (Ю.Герман), *не успел рта разинуть* (А.Чэхаў), *и рта не раскроешь* (Б.Лаўранёў), *не дала ему раскрыть рта* (К.Федзін), *и рта открыть ему не дав* (А.Твардоўскі) і г.д.

У беларускай літаратурнай мове, відаць, больш паслядоўна, чым у рускай, ужываецца форма роднага склону ў фразеалагізмах з адмоўнай часціцай перад імі, хоць таксама нярэдка сустракаецца раўнапраўнае, паралельнае ўжыванне то р о д н а г а: *не мазольце вачэй, другім ямы не капай, не раскрывае карт* (Я.Колас), *не згубіў галавы* (М.Лынькоў), *языка не распушчай* (Ядвігін Ш.), *не схіліў галавы* (К.Чорны), *не дурыце галавы* (С.Баранавых), *не скруцяць яму галавы* (М.Лобан), *не падлажыць свінні, не перагнуць палкі* (П.Пестрак), *не курыце фіміяму* (К.Кірэенка), *пагоды не зробіць* (І.Шамякін) і г.д., то в і н а в а л ь н а г а склону: *не тлуміце галаву* (І.Мележ), *не абіваць парогі* (М.Лобан), *не чмуры мне галаву* (І.Новікаў), *не ўскружыў яму*

*галаву* (П.Броўка), *не задзірай нос* (К.Каліна), *не тлумі мне і сабе галаву* (С.Грахоўскі), *не насій камень за пазухай* (Р.Барадулін), *галаву не дуры* (С.Грахоўскі) і інш. Такім чынам, і форму вінавальнага склону трэба лічыць варыянтам у межах нормы.

9. Спалучэнні *адзін аднаго, адна адну, адно аднаго* сэнсава звязваюцца з назоўнікамі пэўнага роду так: *адзін аднаго (адзін другога)* — з назоўнікамі мужчынскага роду (*Браты любяць адзін аднаго*); *адна адну (адна другую)* — з назоўнікамі жаночага роду (*Сяброўкі паважалі адна адну*); *адно аднаго (адно другога)* — з назоўнікамі ніякага роду і розных родаў *(Дзеці любяць адно аднаго; Пасля таго здарэння Зіна і Васіль перасталі паважаць адно аднаго).*

Сінтаксічна гэтыя спалучэнні кіруюцца найчасцей дзеясловамі. Прыведзеныя вышэй канструкцыі — аднатыпныя: «дзейнік + выказнік + дапаўненне-спалучэнне». У іншых жа сінтаксічных канструкцыях другі кампанент спалучэння можа ўжывацца, як таго патрабуе граматычна галоўнае слова-дзеяслоў, у форме ўжо не вінавальнага, а іншых склонаў: *назалялі адзін аднаму, спрачаліся адзін з другім* і г.д. Вось больш шырокія кантэксты: 1) Дзяўчаты, стараючыся *адна перад адной*, зграбаюць сшаткаваную зялёную масу ў кошык і ссыпаюць на вазы (В.Палтаран); 2) Мы сварымся, выгаворваем *адзін аднаму* (Я.Брыль); 3) Іван Аляксеевіч і Нэла Іванаўна таксама часам сварыліся, але, пасварыўшыся, так востра адчувалі кожны сваю неправату, што тут жа мірыліся і яшчэ больш гарнуліся *адно да другога* («Маладосць»).

Пры дзейніку-назоўніку *людзі* спалучэнне павінна выкарыстоўвацца ў форме *адзін аднаго, адзін аднаму* і пад. Параўн. памылковыя ўжыванні: 1) У перыяд эканамічных і палітычных цяжкасцей сярод насельніцтва назіраецца разгубленасць, калі людзі ў многім адасоблены *адно ад аднаго*; 2) Мужчыны выказвалі тыя сумныя філасофскія ісціны, якія выказваюцца, можа, не адно тысячагоддзе: людзі *адно аднаго* не шануюць, псуюць па дробязях нервы і здароўе, а жыццё кароткае, і трэба яго берагчы...

Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў з парушэннем правільнасці маўлення: 1) Мае красаўцы [сын і яго жонка] скубуцца як не штодня, чубяць *адзін аднаго*; 2) Практычна ўсе пытанні вырашаюцца адначасова, у комплексе, бо яны ўзаемна звязаны і дапаўняюць *адзін аднаго*; 3) Я абняў яе за тонкія плечы: — Не патрэбна гэта нам, калі мы ашукалі *адзін аднаго*; 4) Але куды паехаць? Гэта яны [Манг і дзяўчына] не маглі растлумачыць *адзін аднаму* і нават самім сабе.

10. Часопіс «Роднае слова» (1999. № 10. С. 92—94) змясціў артыкул «*На Беларусі* ці *ў Беларусі*», у якім робіцца выснова, што «словазлучэнне *на Беларусі* — натуральная, заканамерная адмысловая сінтаксічная канструкцыя ў беларускай мове» і што яе «шырока выкарыстоўвае сучасны нацыянальны друк». Як пацвярджэнне прыводзіцца тры прыклады з перыёдыкі на спалучэнне *на Беларусі* (аўтары — Т.Грыб, Э.Зайкоўскі, С.Законнікаў). Дадаецца, што «выкарыстоўвалі гэтую канструкцыю і класікі беларускай літаратуры, да прыкладу, чытаем у Янкі Купалы: *Да сягоння жыве памяць / Аб злым гэтым дусе / На ўсёй чыста Украіне / І на Беларусі*».

Тут адразу напрошваюцца некалькі контраргументаў.

Па-першае, у Купалавай страфе нельга ўжыць *у Беларусі*, бо гэта парушыла б рытмамеладычны лад і паралелізм пабудовы апошніх двух радкоў. Дарэчы, паэт шырока скарыстоўвае абедзве канструкцыі. Вось прыклады (скарочаныя) з кнігі «Жыве Беларусь» (1993): у гэтым краі, *у Беларусі*; кожнае лета праводзіць *у Беларусі*; Мураўёў гаспадарыў *у Беларусі*; праз два гады *на Беларусі*; будзе *на Беларусі* не такое свята; дык жа ўцям: *на Беларусі* жывуць беларусы.

Па-другое, «сучасны нацыянальны друк» (і ранейшы) выкарыстоўвае і *на Беларусі*, і *ў Беларусі*. Апошняе спалучэнне, хутчэй за ўсё, больш частотнае. Так, у сталай калонцы «Кола дзён» газеты «ЛіМ» (2000. 5 мая) тройчы ўжыта *ў Беларусі: Цяпер мяркуйце самі, каму ў Беларусі жыць добра; На сённяшні дзень у Беларусі...; І ўсё ж у Беларусі...* Некалькі прыкладаў на гэта спалучэнне з твораў аўтарытэтных аўтараў: 1) *У Беларусі* прафесійным літаратарам ёсць Васіль Быкаў. Быў прафесіяналам і Уладзімір Караткевіч (Р.Барадулін); 2) *У Беларусі* таксама ёсць, вядома ж, і таленавітыя, і добра падрыхтаваныя прадстаўнікі гэтай катэгорыі літаратараў... (Я.Брыль); 3) Іван... і на фронце *ў Беларусі* ўспамінае свае «далёкія сенажаці, роднае поле...» (Дз.Бугаёў); 4) Толькі *ў Беларусі* за час яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій 30-х гадоў знішчана каля двух мільёнаў чалавек (В.Быкаў); 5) «*У* адроджанай эканамічна *Беларусі*, — пісаў Г.Гарэцкі, — закрасуюць мастацтва, навука, закрасуе беларуская мова» (А.Вярцінскі); 6) Па-дурному зразуметы ў нас, *у Беларусі*, «інтэрнацыяналізм» дагэтуль не дае цвяроза паглядзець на рэальны стан рэчаў у сферы міжнародных адносін (Н.Гілевіч); 7) Я раздумваў над тым, якім павінен быць рускі буквар *у Беларусі*. Не той усесаюзны рускі буквар, якім карысталіся *ў Беларусі* і ў якім, зразумела, нічога не было пра Беларусь (А.Клышка); 8) Мала *ў Беларусі* / Разумных гісторыкаў, / Якія любяць і ведаюць / Родную

гісторыю (П.Панчанка). Можна працягваць і працягваць аналагічныя прыклады з твораў гэтых і шмат якіх іншых аўтараў.

Па-трэцяе, праблема функцыянавання шматлікіх прыназоўнікава-склонавых канструкцый з прасторавым значэннем дэталёва і на вялізным фактычным матэрыяле даследавана прафесарам М.С.Яўневічам у яго вядомай манаграфіі «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове». Ёсць у гэтай кнізе і апісанне спалучэнняў *у Беларусі* і *на Беларусі.* Яны слушна кваліфікуюцца як сінанімічныя, узаемазамяняльныя. «Сэнсавыя адрозненні паміж імі настолькі нязначныя, што пры выбары канструкцыі з *у* ці *на* яны амаль не ўлічваюцца. Аднак пры выкарыстанні гэтых спалучэнняў варта мець на ўвазе, што прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* паводле значэння блізкая да спалучэння *на тэрыторыі Беларусі*, а *ў Беларусі* — да спалучэння *ў Беларускай рэспубліцы*» [69, с. 234].

У вуснай народнай творчасці таксама можна напаткаць выпадкі раўнапраўнага, варыянтнага ўжывання гэтых канструкцый: *На Белай Русі (у Беларусі) пчолы як гусі, рэзгінамі мёд носяць* [47, кн. 1, с. 68].

Калі прыназоўнікава-склонавая форма разрываецца залежным ад назоўніка азначэннем, то выкарыстоўваецца толькі канструкцыя *ў... Беларусі*, замяніць якую іншай (з прыназоўнікам *на*) нельга. 1) І словам я сцверджу усё, што люблю / Ў народзе сваім і *ў* сваёй *Беларусі* (П.Панчанка); 2) Важнейшыя дакументы паміж сабой падзялілі, каб вывозіць прасцей было, — і думалі дзе-колечы *ў* Заходняй *Беларусі* затрымацца («Маладосць»); 3) Мясцовае [крымскае] радыё, газеты ва ўсе званы званілі, якое добрае жыццё *ў* братняй *Беларусі*, пенсіі і заробкі выдаюцца своечасова («Народная воля»).

У часопісным артыкуле, згаданым напачатку, гаворыцца, што «прыназоўнік *на* мае куды больш шырокае выкарыстанне ў беларускай мове параўнальна з рускай, дзе яму нярэдка адпавядае прыназоўнік *в*», і што «ў шэрагу выпадкаў словазлучэнні з прыназоўнікам *у* механічна пераносяцца з рускай мовы (канструкцыі з прыназоўнікам *в*)». Але дастаткова знайсці ў ТСБМ апісанне прыназоўнікаў *у* і *на*, як становіцца відавочным, што прыназоўнік *у* больш функцыянальна нагружаны, чым *на*, перадае аж 14 розных семантычных адносін (*на* — 11), і што яго лексікаграфічная распрацоўка займае ў слоўніку куды большую плошчу, чым апісанне *на*.

А што да таго, як у нашай мове склаліся паралельныя спалучэнні *ў Беларусі* і *на Беларусі,* дык тут не ўсё так проста, як

здаецца, і гаварыць пра «механічнае пераняссенне з рускай мовы» канструкцыі *ў Беларусі* наўрад ці ёсць падставы.

У дачыненні да ўсіх дзяржаў свету для выражэння прасторавых адносін ужываецца пры назве краіны прыназоўнік *у*: *у Індыі, у Польшчы, у Францыі, у Грузіі, у Літве* і г.д. Выключэнне складаюць толькі Украіна і Беларусь: *на Украіне, на Беларусі.*

Самі ўкраінцы ў дасавецкі час не гаварылі, што яны жывуць *на Украіне*. Ужывалі толькі: *в Україні.* І Тарас Шаўчэнка ў 1847 г. пісаў: *Мені однаково, чи буду / Я жить в Україні /, чи ні.* Або: *Сю ніч будуть в Україні / Родиться близнята. / Один буде, як той Гонта, / Катів катувати!* Спалучэнне *на Украіне*, хутчэй за ўсё, узнікла ў Расіі. Пасля таго як Украіна стала часткай Расійскай імперыі, слова *Украіна* пачалі (з шавіністычных пазіцый) атаясамліваць з *окраиной (ускраінай)*. Па аналогіі з *на окраине* стала ўжывацца *на Укра́ине* (Украйне) — з пераносам націску з трэцяга на другі склад. Напрыклад, у паэме Пушкіна «Палтава» 9 разоў выкарыстана *Украйна* ў розных склонавых формах: *Украйна глухо волновалась; И перенес войну в Украйну; Но независимой державой / Украйне быть уже пора* і г.д. Параўн. і ў аповесці Гогаля «Тарас Бульба»: *Начались разыгрываться схватки и битвы на Украйне за унию.* Хоць першае ўпамінанне назвы *Украіна* фіксуецца летапісцамі ў 1189 г., яшчэ задоўга да ўпамінку пра Маскоўскае княства, але на гэта не зважалі. Нават на пачатку XX ст. адзін з губернатараў у рапарце міністру ўнутраных спраў Расіі прапаноўваў слова *Украіна* «тлумачыць як «окраину» Расійскай дзяржавы з даўніх часоў» [25, с. 181]. А ў савецкі перыяд, як піша прафесар Я.Радзевіч-Вінніцкі, «ужыванне прыназоўніка *в* са словам *Україна* кваліфікавалася як буржуазна-нацыяналістычнае» [48, с. 32].

Можна меркаваць, што прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* сфармавалася пад уплывам *на Украіне*. Прыгадаем, дарэчы, словы Сталіна: «Белоруссия — не просто *окраина* нашей державы. Она — форпост социализма на западе страны» [46, с. 84].

Характэрна, што ў сённяшняй Украіне рашуча адмовіліся ад навязанай ім канструкцыі *на Украіне*. Два прыклады. У кнізе «Мова і нація» дзесяткі разоў сустракаем *в Україні* і ніводнага — *на Україні: Уже другий раз у нашому столітти в Україні йде мова про українізацію* [25, с. 195]. А вось урывак з парламенцкай газеты «Голос України» (1996. 9 крас.): «Однойменне аповідання друковалося в Україні; Фільм, правда, заборонений для прокату в Білорусі. Я дуже радий, що в Україні становище не таке безнадійне». Сёння ва ўкраінскіх сродках масавай інфармацыі ўжываюць толькі *в Україні.*

Больш за тое, і ў сучасных рускіх, а таксама беларускіх тэкстах амаль ва ўсіх выпадках выкарыстоўваюць *в Украине, ва Украіне*.

З гэтага, аднак, не вынікае, што і мы не павінны ўжываць *на Беларусі*. Далейшы лёс паралельных спалучэнняў можа вырашыць толькі маўленчая практыка.

З іншых парушэнняў сінтаксічнай нормы, не звязаных з асаблівасцямі дапасавання або кіравання, найперш варта назваць **нанізванне аднолькавых склонаў**.

Яшчэ ў XVI ст. славуты французскі пісьменнік Франсуа Рабле іранізаваў з сінтаксічных канструкцый, у якіх нанізаны адна на адну аднолькавыя склонавыя формы назоўнікаў, у выніку чаго цяжка зразумець, пра каго ці пра што ідзе гаворка: *Дзед траюраднага брата старэйшай сястры цёткі зяця дзядзькі нявесткі яго цешчы пахаваны ў Маезе*.

На падобныя канструкцыі са збегам аднолькавых склонаў, асабліва родных, неаднойчы звяртаў увагу рускі пісьменнік К.Чукоўскі. Працытаваўшы чарговы прыклад з працы, напісанай метадыстам, К.Чукоўскі з абурэннем і здзіўленнем усклікнуў: «Зноў пяць родных склонаў у самай дзікай, ненатуральнай сувязі! – і дадаў: — Аказваецца, гэтаму прафесійнаму славесніку ўсё яшчэ застаецца невядомым правіла, якое забараняе такія доўгія ланцугі родных склонаў» [62, с. 131].

Відаць, гэтага правіла не ведаюць і нашы шмат якія не толькі школьнікі, але і аўтары друкаваных прац. Рэцэнзуючы новую кнігу, Дз.Бугаёў заўважае, што ў ёй трапляюцца «не вельмі зграбныя фразы, у якіх нагрувашчаны ланцугі з назоўнікаў шматступеньчатага падпарадкавання», і прыводзіць прыклад: «Рэтраспектыўны план драмы не адыграў (чаго?) значэння (чаго?) вытлумачальніка (чаго?) вытокаў (чаго?) станаўлення (чаго?) характараў (каго?) герояў». Як бачым, калі побач аказваюцца некалькі родных склонаў, залежных адзін ад аднаго, сказ успрымаецца з цяжкасцю. А такія сказы-прыклады казённа-канцылярскай манеры пісьма, «дэпартаменцкага жаргону» (К.Чукоўскі) можна сустрэць у навуковым і публіцыстычным стылях досыць часта. Так, у перыядычным друку пра навукова-практычную канферэнцыю сказана, што ў цэнтры ўвагі яе ўдзельнікаў будзе «ўдакладненне *стратэгіі рэалізацыі якасці адукацыі* ў дэмакратычным устойлівым грамадстве».

Яшчэ некалькі прыкладаў з розных крыніц: 1) Аддзел народнай адукацыі вядзе мэтанакіраваны пошук шляхоў павышэння эфектыўнасці вучэбна-выхаваўчага працэсу; 2) З мэтай далейшай актывізацыі дзейнасці настаўнікаў працуючай моладзі праведзены грамадскі

агляд-конкурс на лепшую пастаноўку развіцця настаўніцтва; 3) Спрэчкі аб правамернасці падыходу да літаратуразнаўства з пункту гледжання псіхалогіі Юнга вядуцца дасюль.

Калі назоўнікі «прыкрыты» папярэднімі азначэннямі, то «ланцугі шматступеньчатага падпарадкавання» амаль не заўважаюцца і тэкст успрымаецца належным чынам: «Мерапрыемства праводзілася з улікам патрабаванняў новай праграмы фізічнага развіцця дзяцей дашкольнага ўзросту». Такія сказы нельга лічыць заганнымі.

Сказы з нанізанымі ў іх назоўнікамі роднага склону характэрны для афіцыйна-справавога стылю. Там яны прымальныя. Зразумела, што ў некаторых іншых маўленчых сітуацыях яны не толькі дапушчальныя, але часта і адзіна мажлівыя (напрыклад, пры выкарыстанні састаўных найменняў): *гэта ж словы з выступлення дэпутата Палаты прадстаўнікоў; паводле рашэння Міністэрства адукацыі; атрымаў выпіску з пратакола пасяджэння кафедры.*

«З творным канцылярскага стылю, — пісаў К.Чукоўскі, — справа яшчэ і горшая» [62, с. 131]. Праўда, ланцужок з творнымі склонамі складаецца не больш як з двух звёнаў, ды і сустракаюцца такія сказы значнай радзей, чым папярэднія: *У школе працэс авалодвання* (кім?) *дзецьмі* (чым?) *мовай працякае няспынна.* У асобных выпадках сэнс азначэння перад другім творным склонам не адразу ўспрымаецца адназначна, а толькі пры паўторным, запаволеным чытанні: 1) Высокая густая шэрань вісела над пакалечанымі вёскамі, над *успоранымі* выбухамі, там-сям удзірванелымі палямі; 2) Ён хадзіў пад квітнеючымі дрэвамі, нахіляўся над кволымі саджанцамі, прывязанымі да тычак, *агароджанымі* акуратнымі дошчачкамі.

Звернем увагу і на такі прыклад з нядаўняй публікацыі ў часопісе «Крыніца»: «У кухню нячутнай мышкай ушмыгнуў праўнук — сямігадовы Янка, смешна рыжанькі, з *абкусанымі* камарамі і *падрапанымі* сукамі ножкамі і ручкамі».

Парушэннем якой камунікацыйнай якасці маўлення варта лічыць апісанае вышэй нанізванне аднолькавых склонаў? З гледзішча сінтаксічных нормаў кіравальныя сувязі паміж словамі ў такіх сказах не парушаюцца: «Былі ўпушчаны пытанні (чаго?) арганізацыі (чаго?) зімоўкі (каго?) рыбы». Але тут не захоўваецца такая норма, як правільная структурная арганізацыя разгорнутых словазлучэнняў. Таму перад намі парушэнні маўленчай правільнасці, або, калі карыстацца школьнымі «Нормамі ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў...», — граматычныя памылкі.

Яшчэ адна даволі пашыраная памылка — **падваенне дзейніка**, яго займеннікавае дубліраванне. Яна асабліва частая ў вусным

маўленні. У мастацкіх тэкстах падваенне дзейніка выкарыстоўваецца для маўленчай характарыстыкі персанажа, а таксама як адлюстраванне асаблівасцей гутарковага маўлення: 1) Парасон ён заўсёды парасонам і застанецца, адна ў яго служба — у дажджлівае надвор'е людзей укрываць (М.Лынькоў); 2) Спосаб работы — ён, брат, усё пераверне, усё перайначыць (А.Макаёнак); 3) Вайна — яна ні з кім не лічылася. Ды яшчэ ў блакаду (В.Быкаў); 4) Я адно скажу: жыццё — яно кожнаму заданне дае (В.Іпатава).

Сярод разнастайных уменняў і навыкаў, якія павінны набыць школьнікі пры вывучэнні граматычнай тэорыі, праграма па беларускай мове называе і такі маўленчы навык, як правільнае ўжыванне **дзеепрыслоўнага словазлучэння**. Гэты навык грунтуецца на разуменні граматычнай структуры дзеепрыслоўя — другараднага выказніка ў сказе, звязанага з дзейнікам і асноўным выказнікам.

1. Няўмелае карыстанне дзеепрыслоўем прыводзіць да памылак тыпу «Гледзячы на залацістае поле пшаніцы, сэрца напаўняецца радасцю». Каб пазбегнуць такіх памылак, трэба кіравацца наступным.

Дзеепрыслоўе, абазначаючы дадатковае дзеянне, адносіцца не толькі да выказніка, але і да дзейніка, г.зн. і асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, і дадатковае, выражанае дзеепрыслоўем, павінна выконвацца той самай асобай ці прадметам. Сувязь дзеепрыслоўя як з выказнікам (прымыканне), так і з дзейнікам (сэнсавая суадносанасць) схематычна выглядае так:

Дрэвы ⟶ скрыпелі,



пагойдваючыся ад ветру.

Сказы, у якіх дзеянні, абазначаныя дзеясловам і дзеепрыслоўем, належаць розным дзейнікам, сэнсава і граматычна няправільныя, у іх парушаецца і лагічнасць, і правільнасць маўлення. А такія сказы — нярэдкая з'ява не толькі ў вучнёўскіх і студэнцкіх пераказах, сачыненнях, курсавых працах, але і на старонках газет, часопісаў, кніг. Вось толькі некалькі прыкладаў з перыёдыкі апошніх гадоў: 1) Часта пры галенні, *гледзячы* ў люстэрка на свой «амбітны» нос, успамінаецца м а л а д о с ц ь; 2) У мяне, *згадаўшы* радкі з пісьма, міжволі выкаціліся с л ё з ы; 3) Яму балюча зашчымела с э р ц а, *уявіўшы* разгублены, заплаканы твар Чудакоўскага; 4) *Ведаючы* характары многіх творцаў, цяжка чытаюцца іхнія т в о р ы; 5) Цяпер, *перабіраючы* лісты ад Уладзіміра, часта прыгадваецца журботнае к о т л і ш ч а. У кожным з гэтых сказаў

гаворыцца пра дзеянні двух зусім розных прадметаў у граматычным значэнні гэтага слова; напрыклад, пра мяне (*я згадаў радкі*) і пра слёзы (*выкаціліся слёзы*). Выдзеленыя вышэй дзееспрыслоўі не паказваюць на дадатковае дзеянне пададзеных разрадкай адзіных тут дзейнікаў-назоўнікаў у назоўным склоне і ніяк не кантактуюць з імі *(гледзячы — маладосць, згадаўшы — слёзы, уявіўшы — сэрца, ведаючы — творы, перабіраючы — котлішча).*

Як праверыць, ці правільна ўжыта дзеепрыслоўе? Першы прыём — трансфармацыйны: перабудоўваем сказ, замяняем дзеепрыслоўе дзеясловам і злучаем аднародныя выказнікі злучнікам *і*: *Дрэвы скрыпелі, пагойдваючыся ад ветру — Дрэвы пагойдваліся ад ветру і скрыпелі.* У няправільна пабудаваным сказе такой замены не зробіш: «З лётчыкам Куніцыным, лятаючы на ваенным самалёце, здарылася аварыя».

Другі прыём. Паколькі дзеепрыслоўе мае адносна свабоднае размяшчэнне ў сказе і сэнсава звязваецца з дзейнікам, магчыма перастаноўка дзеепрыслоўнага словазлучэння бліжэй да дзейніка: *Дрэвы, пагойдваючыся ад ветру, скрыпелі.* Зрабіўшы такую перастаноўку ў няправільна пабудаваным сказе, лёгка выявіць бяссэнсіцу: «Аварыя, лятаючы на самалёце...». Тое самае выяўляецца пры аналагічнай перастаноўцы і ў кожным з прыведзеных вышэй прыкладаў: «Маладосць, гледзячы ў люстэрка...» і г.д.

Дзеепрыслоўі ўжываюцца і ў абагульнена-асабовых сказах, у якіх, як вядома, няма дзейніка, а дзеянне, выражанае дзеясловам і дзеепрыслоўем, адносіцца да кожнага, да любой асобы: *Нарабіўшыся за дзень на тых сотках, пад вечар ледзь ногі цягнеш* («Маладосць»).

У безасабовых сказах дзеепрыслоўе ўжываецца толькі тады, калі яно адносіцца да неазначальнай формы дзеяслова, г.зн. калі галоўны член безасабовага сказа выражаецца спалучэннем дзеяслова ці безасабова-прэдыкатыўнага слова (*трэба, неабходна, нельга, можна, варта* і інш.) з інфінітывам: *Слухаючы яго выступленні, нам ад няёмкасці хацелася нават залезці пад лаўку* (А.Карпюк); *На чужы лоб сягаючы, трэба і свой падставіць* (Прыказка). Калі ж у безасабовым сказе няма інфінітыва, дзеепрыслоўе ўжываць нельга: 1) Адчувалася, слухаючы Казлову: тое, што яна гаварыла, ніколі не забудзе; 2) Там, у кіно, гледзячы на яе, мне падумалася, што Таня прыгажэйшая за Аню і цяпер ужо я іх не зблытаю.

Названыя правілы ўжывання дзеепрыслоўя поўнасцю стасуюцца і з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія сталі фразеалагізмамі: *Растуць яны там у нас на лес гледзячы* (Я.Брыль). У

безасабовых сказах такія фразеалагізмы таксама адносяцца да інфінітыва: *Не ісці ж на ноч гледзячы* (Ф.Янкоўскі).

Некаторыя словазлучэнні толькі знешне падобныя на дзеепрыслоўныя. Дзеепрыслоўе, утворанае ад дзеяслова маўлення, у іх складзе не абазначае дадатковага дзеяння і не выступае ў сказе ў ролі акалічнасці. Такія словазлучэнні выконваюць функцыю пабочных выразаў: *па праўдзе кажучы, між намі кажучы, прасцей кажучы, інакш кажучы* і інш. Яны паказваюць адносіны асобы да спосабу перадачы думкі і, як і іншыя пабочныя кампаненты, часцей за ўсё сэнсава звязваюцца з усім сказам, а таму не маюць абмежаванняў ва ўжыванні, уласцівых дзеепрыслоўям са значэннем дадатковага дзеяння. Іх ужыванне свабоднае: *Уласна кажучы, гэта дарога служыла вуліцай двум дзесяткам хат* (К.Чорны); *Дакладней кажучы, усюды відаць любоў да працы* (П.Пестрак).

2. Чытаючы паэму «Тарас на Парнасе», сустракаем такі сказ: *Крупені ўволю я паеўшы, усіх падзякаваў багоў.* Тут — незвычайнае дзеепрыслоўнае словазлучэнне: яно ўключыла ў свой склад і дзейнік *я* — галоўны член граматычнай асновы ўсяго сказа. І гэта не традыцыйная «паэтычная вольнасць», звязаная з неабходнасцю захаваць чатырохстопны ямб. Перад намі архаічная з’ява, характэрная для мінулых эпох. Л.А.Булахоўскі прыводзіць амаль два дзесяткі аналагічных прыкладаў з твораў рускіх паэтаў XIX ст. У гэтых урыўках дзейнік таксама разрывае спалучэнні дзеепрыслоўя з залежным ад яго словам. Яшчэ раней такі парадак слоў быў уласцівы і рускай прозе, пасля трымаўся толькі ў паэзіі. «Гэты парадак слоў гістарычна бярэ пачатак з глыбокай старажытнасці, калі дзеепрыслоўяў яшчэ не было, а «тяготеющие» да выказніка дзеепрыметнікі, з якіх яны вылучыліся, гэтак жа, як і прыметнікі, маглі папярэднічаць свайму паяснёнаму слову» [6, с. 436].

У беларускай паэзіі выпадкі, калі дзейнік знаходзіцца ўнутры дзеепрыслоўнага словазлучэння, таксама не адзінкавыя. Два прыклады з твораў канца XIX ст.: *Мінуўшы я млын той, еду ўжо лесам* (Ф.Багушэвіч); *А хлопчык маленькі над кніжкай сядзіць, яе ён раскрыўшы, на вершы глядзіць* (А.Гурыновіч). Канструкцыі з дзейнікам у сярэдзіне дзеепрыслоўнага словазлучэння сустракаюцца і ў вершаваных творах Я.Купалы: *Звесіўшы людзі галовы, слухаюць, думкі снуюць; Захапіўшы ў першай пары Янка Майку, Юрка Раю, даюць дыхту, даюць жару, «Сербіянку», «Польку», шпараць, а гармонік грае, грае.*

У сучаснай паэзіі падобныя канструкцыі не выкарыстоўваюцца. Яны б лічыліся парушэннем нормы.

3. Нярэдка ў дзеепрыслоўнае словазлучэнне ўваходзіць адносны займеннік *які*, адначасова з'яўляючыся кампанентам дзеепрыслоўнага словазлучэння і злучальным словам даданай азначальнай часткі: *Астаюцца два арсеналы, узяўшы якія мы ўзброім сябе і абяззброім ворага* (У.Караткевіч); *Бойка з бацькам была той апошняй рысай, пераступіўшы якую адразу змяніўся ён сам* (Л.Дайнека).

Хоць канструкцыі «дзеепрыслоўе + які» і выдзяляюцца інтанацыяй, але не павінны аддзяляцца коскай у складзе дадзенай азначальнай часткі.

Дзеепрыслоўнае словазлучэнне ў такіх выпадках «не можа быць адасоблена ад даданага сказа без разбурэння яго структуры (адрыву злучальнага слова); дваякая функцыя адноснага займенніка *які* робіць адасабленне немагчымым» [23, с. 297]. А між тым у друку досыць часта можна сустрэць няправільнасць пунктуацыйнага характару — коску пасля *які*: 1) Метэарыты — гэта толькі кручок для затраўкі, кончык жылкі, трымаючыся за якую, можна выцягнуць сучасную домну; 2) Каля ног хлопца ляжала тарбінка з завязкамі, згледзеўшы якую, маці ўсё зразумела.

## Правільнасць маўлення: лексічныя нормы

Лексічнымі нормамі звычайна называюць правілы словаўжывання, прынятыя ў мове ў дадзены перыяд яе развіцця. Правамернасць існавання таго ці іншага слова ў літаратурнай мове, яго нарматыўнасць абапіраецца на такія паказчыкі: а) рэгулярную паўтаральнасць у маўленчай практыцы, б) адпаведнасць заканамернасцям моўнай сістэмы, в) пацвярджэнне словаўжываннем аўтарытэтных аўтараў (пісьменнікаў, вучоных, адукаванай часткі грамадства).

У межах лексічных нормаў часта асобна вылучаюць лексіка-семантычныя нормы. Імі рэгулюецца ўжыванне слоў з тым значэннем, якое замацавала за імі маўленчая практыка. Пра рэалізацыю гэтых нормаў і нярэдкія адхіленні ад іх гл. у раздзеле «Дакладнасць маўлення». Тут жа ў далейшым размова ў асноўным будзе ісці пра заканамернасць існавання асобных слоў у сучаснай літаратурнай мове.

У адной кнізе пра культуру беларускага маўлення гаворыцца, што лексічныя нормы «замацаваны пераважна ў тлумачальных слоўніках, а таксама падручніках і дапаможніках па беларускай лексікалогіі» [1, с. 15]. Але гэта не заўсёды так.

В.У.Вінаградаў, характарызуючы нарматыўныя слоўнікі рускай літаратурнай мовы, адзначаў, што ў іх «прапускаюцца сотні, калі не тысячы жывых значэнняў слоў, і прыдумваецца мноства

неіснуючых значэнняў» [7, с. 169], падмацаваных адзінкавым індывідуальна-аўтарскім ужываннем. Падобнае можна бачыць і ў нашых акадэмічных слоўніках. Так, прыметнік **апантаны**, паводле ТСБМ, — гэта 'ахоплены крайнім душэўным узрушэннем, якое бурна праяўляецца', а ў «Беларуска-рускім слоўніку» ён перакладаецца рускімі «одержимый, бешеный, неистовый». Гэта слова, аднак, найчасцей ужываецца для абазначэння стану надзвычайнай захопленасці чым-небудзь, вялізнай улюбёнасці ў што-небудзь: «Дзяўчынку назвалі Таццяна... Працаўніца *апантаная*, як маці. Не, бадай, як бацька, *апантаны* ў творчасці, а не ў хатняй працы» (І.Шамякін). Адпаведна і **апантанасць** як 'уласцівасць апантанага' часцей за ўсё звязваецца са згаданым значэннем прыметніка: «Для мяне І.Мележ назаўсёды застаўся узорам пісьменніцкай *апантанасці*, чалавекам вялікай добразычлівасці» (Дз.Бугаёў). Ёсць і прыслоўе **апантана** 'надзвычай захоплена, з поўнай аддачай (рабіць што-небудзь)': «Насця *апантана* працуе ў праектным інстытуце» (І.Шамякін). У акадэмічных слоўніках няма дзеяслова, на базе якога склалася гэта лексічнае гняздо. Але гэты дзеяслоў — **апантаць** (каго) са значэннем 'захапіць, апанаваць каго-н., авалодаць кім-н.' — фіксуецца ў працы А.Каўруса (Роднае слова. 1998. № 11. С. 94) і ілюструецца адпаведнымі прыкладамі з сучаснага друку.

Звернемся цяпер да слова **хутчэй**. У ТСБМ яно зусім не прыводзіцца, а ў «Слоўніку беларускай мовы» (1987) і ў «Беларуска-рускім слоўніку» падаецца толькі як прыслоўе (вышэйшая ступень да *хутка*). Яго ўжыванне можна пацвердзіць, скажам, такімі прыкладамі: 1) Хацелася *хутчэй* падзяліцца з ёю навінамі (П.Місько); 2) Марак апусціў пачырванелы твар і *хутчэй* мінуў жанчыну (Л.Андзілеўка); 3) Дзе ты? *Хутчэй* адгукніся! (М.Шабановіч).

Але ж у мове ёсць яшчэ адно *хутчэй* — мадальнае слова, якое ўжываецца толькі ў ролі пабочнага кампанента са значэннем 'найбольш верагодна'. «Сітуацыя ўзята для ваенных часоў не выключная, а, хутчэй, будзённа-простая» (Дз.Бугаёў). Паміж гэтымі словамі існуюць аманімічныя адносіны. *Хутчэй*$^1$ і *хутчэй*$^2$ — поўныя лексічна-граматычныя амонімы, г.зн. словы, якія адносяцца да розных часцін мовы і супадаюць у адзіна мажлівай для іх форме.

*Хутчэй*$^2$, як і іншыя пабочныя словы, можа быць у пачатку або ў сярэдзіне сказа і аддзяляецца ці выдзяляецца ў яго структуры пры дапамозе коскі: 1) Міфы прыемна ўражваюць, але наўрад ці наталяюць. *Хутчэй*, спусташаюць (В.Быкаў); 2) — Разумее, нябось, пра што гаворыць. — *Хутчэй*, адчувае (Т.Бондар); 3) Я выбірала,

*хутчэй*, разважала, дзе жыць (Н.Маеўская); 4) Гэта, *хутчэй*, вялікая трагедыя... (А.Драбчук).

Пабочнае слова *хутчэй* аддзяляецца коскай ад папярэдняга злучніка, калі яго (*хутчэй*) можна апусціць ці пераставіць у другое месца без парушэння структуры сказа: «Котка нібы бясследна ўзнеслася на нябёсы ці, хутчэй, праваліласяскрозь набрынялую вільгаццю зямлю» (А.Казлоў). Калі ж пропуск пабочнага слова немагчымы, то коска паміж злучнікам (звычайна *а*) і пабочным словам *хутчэй* не ставіцца: «Базыль бачыў, а *хутчэй*, адчуваў толькі таго немца за дарогай, які таксама торгаў затворам карабіна і раз-пораз страляў у бок Базыля» (Б.Пятровіч).

Калі пабочнае слова *хутчэй* суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй і лагічна падкрэсліваецца, то яно аддзяляецца працяжнікам: «Рэабілітацыя? *Хутчэй* — прысуд...» (С.Навумчык).

Аналагічную функцыю выконвае і мадальнае слова *найхутчэй*$^{2}$ — утварэнне ад *хутчэй*$^{2}$ пры дапамозе прыстаўкі *най-*: 1) Алег на сесію не з’явіўся, але акадэмічны не браў і таму, *найхутчэй*, адлічаны (М.Южык); 2) Гэты Янка — *найхутчэй*, вобраз абагульнена-рамантызаваны (В.Жыбуль). У названых жа раней даведніках (СБМ і БРС) фіксуецца толькі прыслоўе *найхутчэй*.

Як *хутчэй*$^{2}$, так і *найхутчэй*$^{2}$ ні ў сэнсавых, ні ў стылістычных адносінах не адрозніваюцца ад мадальнага фразеалагізма *хутчэй за ўсё*: 1) *Хутчэй за ўсё*, гэта пачалося праз бацьку (У.Карпаў); 2) Мікола сам не ведаў, каго больш вінаваціць у тым, што здарылася. *Хутчэй за ўсё* — самога сябе... (У.Дамашэвіч).

У падручніках, навуковых граматыках і разнастайных даведніках чамусьці не згадваецца састаўны расчлянёны, або парны, злучнік *хутчэй — чым*. Праўда, у «Руска-беларускім слоўніку» (т. 2, 1982, с. 392) сустрэліся такія ілюстрацыі: *Ён хутчэй памрэ, чым здасца; Ён хутчэй падобны на маці, чым на бацьку*. Або такія прыклады: 1) У яго голасе адчуваўся *хутчэй* страх, *чым* пратэст (К.Тарасаў); 2) Пераможца на Кангрэсе *хутчэй* беларускі Гавел, *чым* Юшчанка («Нар. воля»); 3) Уся хатняя абстаноўка мела *хутчэй* гарадскі, *чым* вясковы выгляд (У.Гніламёдаў); 4) Надзя *хутчэй* па голасе, *чым* па выгляду пазнавала Майку Светлік (М.Лынькоў); 5) — Ракету! — *хутчэй* жэстамі, *чым* словамі падаў ён каманду (М.Лынькоў).

Адсутнасць у навуковай і навучальнай літаратуры нават упаміну пра пабочныя словы *хутчэй* і *найхутчэй* прыводзіць да таго, што ў друку вельмі часта можна бачыць сказы, у якіх гэтыя словы не выдзяляюць і не аддзяляюць знакамі прыпынку. А гэта ўжо несумненныя пунктуацыйныя памылкі. Вось толькі некалькі прыкладаў: 1)

Дзівіць *хутчэй* іншае: як у такіх цалкам неспрыяльных абставінах наш край змог выразніцца сярод іншых (В.Акудовіч); 2) Гэта *хутчэй* была пушча... (У.Міхно); 3) Хай сабе сольны канцэрт доўжыцца будзе нядоўга — усяго паўгадзіны, але адказнасці і хвалявання не змяншае. *Хутчэй* наадварот («Полымя»).

Амаль усе мы прывыклі ставіцца з вялікай пашанай да філалагічных слоўнікаў як да нашых сяброў і надзейных памочнікаў. Але часам можа надарыцца, што яны не садзейнічаюць культуры маўлення, а аказваюць мядзведжую паслугу.

Разгорнем на пэўных старонках даведнікі: «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 5, кн. 2, с. 76), «Беларуска-рускі слоўнік» (т. 2, с. 631), «Слоўнік беларускай мовы» (1987, с. 832), «Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў» (2000, с. 201). Усюды адно і тое ж: ***усярэдзіне*** — прыслоўе і прыназоўнік з родным склонам.

Выходзіць, што, паводле слоўнікаў, трэба заўсёды пісаць *усярэдзіне* разам, як адно слова. Але неяк рука не падымаецца напісаць, напрыклад, «усярэдзіне лета», «усярэдзіне сказа», бо тут *сярэдзіна* выразна ўсведамляецца як назоўнік, гэтак жа, як, скажам, у аналагічных прыкладах: *у пачатку лета, у канцы лета, у пачатку сказа, у канцы сказа.*

І хоць рэдактары ды карэктары папраўляюць у аўтарскіх рукапісах гэтае слова адпаведна з рэкамендацыямі акадэмічных даведнікаў, усё ж у друк і сёння трапляюць незаўважаныя, прапушчаныя «памылкі»: 1) Галіна *ў сярэдзіне* верасня выправілася ненадоўга ў Кракаў (Ф.Сіўко); 2) *у сярэдзіне* калоны («ЛіМ»); 3) *у сярэдзіне* пячоры (В.Праўдзін); 4) *у сярэдзіне* лютага 1921 года («Полымя»); *у сярэдзіне* 90-х гадоў («Звязда»). Ды і ў самім ТСБМ, толькі ў іншых месцах (т. 5, кн. 1, с. 452) ёсць сказ-ілюстрацыя: «Саракушы паляцелі на зімоўку ў Афрыку, адкуль вернуцца *ў сярэдзіне* мая».

Здзіўляе, што нават такі дасведчаны і тонкі знаўца мовы, як А.Каўрус, схільны пагадзіцца з нібыта сапраўдным існаваннем прыназоўніка *ўсярэдзіне*. У артыкуле «Разгорнем падручнік», змешчаным у часопісе «Полымя» (2001. № 9. С. 210), аўтар слушна крытыкуе адзін з падручнікаў за некаторыя недакладнасці ў ім, цытуе ўрывак з гэтага падручніка (выклічнікі «ў *сярэдзіне* сказа выдзяляюцца знакамі прыпынку»), піша далей, што «пазіцыя выклічніка *ўсярэдзіне* сказа не пацвярджаецца прыкладам», і дадае: «Дарэчы, паводле ТСБМ, трэба прыназоўнік *усярэдзіне* пісаць як адно слова».

Але ж такога прыназоўніка няма. Ёсць назоўнік *сярэдзіна* і прыназоўнік *у*. ТСБМ падрабязнаму лексікаграфічнаму апісанню гэтага прыназоўніка адводзіць амаль 6 старонак (т. 5, кн. 1, с. 586 –

591). З яго дапамогай перадаюцца 57 семантычных адносін і яшчэ вялізнае мноства адценняў. Адно з ягоных граматычных значэнняў — гэта выражэнне прасторавых адносін. Ужываючыся з месным склонам, ён указвае на прастору або месца, у межах якіх хто-, штонебудзь знаходзіцца або што-небудзь адбываецца. Менавіта гэтыя семантычныя адносіны і бачым у спалучэнні *ў сярэдзіне* (лесу, хаты, пакоя, слова, сказа і г.д.).

Той самы Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, які складаў згаданыя слоўнікі, выдаў у 1999 г. праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Тут дзесяткі разоў сустракаем, як і пісалі на працягу стагоддзяў, спалучэнне *ў сярэдзіне*: напрыклад: *у пачатку некаторых слоў... і ў сярэдзіне* (с. 15), *у сярэдзіне слова* (с. 27), *у сярэдзіне або ў пачатку сказа* (с. 110), *у пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа* (с. 116), *у сярэдзіне галоўнай частк*і *сказа* (с. 121). Гэтак жа пісалі і пішуць ва ўсіх падручніках і навуковых граматыках беларускай мовы.

Ды калі звярнуцца і да самога ТСБМ з кадыфікаванай ім нормай *усярэдзіне* (прыслоўе і прыназоўнік), дык можна бачыць няўвязку, нестыкоўку, на розных яго старонках нeяк канцы з канцамі не сыходзяцца. Так, у 4-м томе (с. 98) прыслоўе *пасярэдзіне* тлумачыцца так: «*У сярэдзіне*, у цэнтры...»; тут жа ёсць і яшчэ: «... назва месца або прасторы, *у сярэдзіне* ці ў цэнтры якіх што-н. знаходзіцца, адбываецца». У 5-м томе (кн. 2, с. 28) прыслоўе і прыназоўнік *унутры* атрымліваюць тлумачэнні: «*у сярэдзіне*, у межах», «*у сярэдзіне*, у межах чаго-н.». У гэтым томе (с. 76) падаецца як асобны слоўнікавы артыкул *ўсярэдзіне* (прыслоўе) з такой сэнсавай характарыстыкай: «унутры, у цэнтры чаго-н». Ілюстрацыйныя прыклады пацвярджаюць, што гэта сапраўды прыслоўе. Праўда, адзін з гэтых прыкладаў *(...ныя і ныя ўсярэдзіне, як на што нябодрае)* не стасуецца з іншымі. Ён цалкам ідэнтычны з тымі дзвюма ілюстрацыямі, якія прыводзяцца ў слоўнікавым артыкуле *сярэдзіна* (т. 5, кн. 1, с. 452) да адцення («звычайна з прыназоўнікам *у*») ‘вантроба, нутро’: «...рэзнуўся аб камень, што аж *у сярэдзіне* ў яго нешта трэснула», «ком гарачыні пакаціўся дзесь *у сярэдзіне* каля сэрца». Толькі, звернем увагу, у гэтых двух прыкладах *«у сярэдзіне»* напісана ў два словы, а ў ідэнтычным папярэднім — як адно слова (*усярэдзіне*). Ва ўсіх трох прыкладах прыслоўе *ўсярэдзіне* трэба пісаць разам, злітна. Гэта — яшчэ адно (не зафіксаванае слоўнікам) значэнне ці, можа, адценне значэння прыслоўя *ўсярэдзіне*, звязанае з паняццем ‘нутро’. Як пацвярджэнне можна падаць шэраг прыкладаў: 1) Цела круціла, *усярэдзіне* калола («Маладосць»); 2) У Лазовіка стала

дранцвець *усярэдзіне* (В.Блакіт); 3) У мяне заныла ў душы і як адарвалася што *ўсярэдзіне* (І.Пташнікаў); 4) *Усярэдзіне* нешта балюча звінела, як трэснуты чыгун (А.Бутэвіч); 5) Галіна адчула, як нешта сцялася *ўсярэдзіне* (В.Праўдзін). Або прыклады-прыказкі: 1) З твару яйка, а *ўсярэдзіне* баўтун; 2) Зверху міла, а *ўсярэдзіне* гніла; 3) Зверху шоўк, а *ўсярэдзіне* шчоўк.

Што да пададзенага ў ТСБМ нібыта 2-га значэння (прыназоўнік з родным склонам), то яго нельга прызнаваць абгрунтаваным. У адзінай прыведзенай тут ілюстрацыі («Каровы равуць, грабуць капытамі зямлю... *Усярэдзіне* статка — на невялікім пятачку — воўк») — памылковае напісанне (замест правільнага *ў сярэдзіне статка*).

Адкуль з’явілася ў слоўніках гэтае прыназоўнікае значэнне? Хутчэй за ўсё, у выніку перакладу рускіх *посреди*, *посредине*, якія сапраўды выступаюць то як прыслоўе, то як прыназоўнік. «Руска-беларускі слоўнік» дае такія адпаведнікі згаданых слоў: прыслоўе *пасярэдзіне* і прыназоўнік з родным склонам *сярод* (каго-чаго), *пасярод* (каго-чаго), *пасярэдзіне* (каго-чаго). А ў «Беларуска-рускім слоўніку» адпаведнікам рускіх *посреди*, *посредине*, *внутри* ўжо выступае *ўсярэдзіне* (як прыслоўе і як прыназоўнік з родным склонам). Пасля гэтае нібыта двухзначнае *ўсярэдзіне* перайшло і ў іншыя акадэмічныя слоўнікі.

Хацелася б спадзявацца, што выказаныя тут, як здаецца, небеспадстаўныя меркаванні будуць улічаны складальнікамі новых слоўнікаў і прымуцца пад увагу ў сённяшняй маўленчай практыцы. У імя аб’ектыўнасці і дзеля культуры маўлення.

Бывае так, што які-небудзь промах, зроблены ў адным слоўніку, з цягам часу набывае сілу аўтарытэту і аўтаматычна пераходзіць у іншыя, пазнейшыя слоўнікі. Менавіта гэтак здарылася са словам **шчэлепы**.

У акадэмічным «Руска-беларускім слоўніку» (1953) і ва ўсіх яго наступных перавыданнях рускае *жабры* перадавалася па-беларуску двума словамі (нібыта сінонімамі): *жабры*, *шчэлепы*. «Беларуска-рускі слоўнік» (1962, 1989) падае *шчэлепы* з паметай «абласное» і перакладае на рускую мову словам *жабры*. Паўтарае гэтую ж недакладнасць і «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». У ім (т. 5, кн. 2, с. 425) *шчэлепы* памылкова тлумачацца як ‘жабры’, але адзіная пададзеная тут цытата не пацвярджае дэфініцыю (азначэнне, тлумачэнне), а аспрэчвае яе: «*Шчэлепамі* разбітымі пакутліва кратае камбала бездапаможна пляскатая» (Р.Барадулін). Выразна відаць, што ў цытаце гаворыцца не пра жабры, а пра сківіцы.

*Шчэлепы* ў беларускай мове, як дарэчы, і ва ўкраінскай, — тое самае, што *скіВіцы*. Гэта можна пацвердзіць, па-першае, такімі кантэкстамі: 1) Юстын узяў шчанюка на рукі, к лямпе паднёс, расшчапіў яму *шчэлепы* і прамовіў: — Чорна ў роце — ліхі будзе (Л.Калюга); 2) Твар Улада, абцягнуты бляклай скурай, крывіўся ад працы *шчэлепаў*, якія пераціралі гумку («Крыніца»); 3) Магнат [сабака] яго не ўкусіў, нават сіняка на руцэ не пакінуў, злёгку сціснуў *шчэлепамі*, а не зубамі (М.Гіль).

Па-другое, як засведчана ў тэматычным слоўніку «Жывёльны свет» (1999, с. 125), для абазначэння костак у роце, у якія ўмацаваны зубы, выкарыстоўваюцца такія словы-сінонімы: *скіВіцы, санкі, шчэлепы, пашчэнкі* і інш.

Па-трэцяе, у «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак» (т. 1, 1993, карта 13) засведчана тое самае. Тут паказана, што са 142 абследаваных пунктаў *скіВіцы* ўжываюцца ў 21 пункце, *санкі* — у 45, *шчэлепы* — у 38.

У нашай мове ёсць і фразеалагізм з кампанентам *шчэлепы*: *браць (узяць) за шчэлепы* (каго). Ён абазначае ‘прымушаць паступаць пэўным чынам’, напрыклад: «Пасля першай чаркі ўсе філасофствуюць, пасля другой звычайна пытаюцца: «Ты мяне паважаеш?», пасля трэцяй лезуць цалавацца. Вось пасля трэцяй ты яго і *бяры за шчэлепы* цёпленькага» (А.Петрашкевіч). Выраз узнік у выніку метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваецца да жывёл, а таксама і да чалавека.

У «Беларуска-польскім фразеалагічным слоўніку» (Warszawa, 2000, с. 70) А.Аксамітава і М.Чурак *браць за горла (жабры, шчэлепы)* пададзены як адзін фразеалагізм з лексічнай варыянтнасцю назоўнікавага кампанента. Але гэта няправільна, бо тут кожны з трох сінанімічных выразаў адрозніваецца сваёй непаўторнай унутранай формай і геаграфіяй бытавання: *браць за горла* — калька з французскай мовы (*prendre qn á la gorge*), *браць за жабры* — агульны для ўсходнеславянскіх моў, а *браць за шчэлепы* — уласна беларускі.

Выраз *браць (узяць) за жабры* абазначае ‘прымушаць паступаць належным чынам’: «На тваім бы месцы я тваіх работнікаў так *узяла б за жабры*, так бы іх прымусіла круціцца, што…» (А.Макаёнак). Паходзіць ён са свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваецца да лоўлі рыбы. Злоўленую рыбіну, а яна вельмі слізкая, нялёгка ўтрымаць у руках, не ўзяўшы яе за жабры.

Адзначым, дарэчы, памылковае аб’яднанне ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т.1, с. 405) фразеалагізмаў *браць за жабры* і *браць за горла* ў адзін з нібыта ўласцівай яму варыянтнасцю

назоўнікавага кампанента: *браць за горла (жабры)*. Гэта, як ужо гаварылася, два самастойныя фразеалагізмы. *Браць за горла* адрозніваецца ад двух папярэдніх не толькі сваім паходжаннем, але і сэнсавым адценнем (абазначае ‘сілай прымушаць да чаго-небудзь’), здольнасцю выступаць выказнікам пры дзейніку са значэннем як асобы, так і абстрактнага прадмета, варыянтнасцю дзеяслоўнага кампанента: *браць (хапаць) за горла, узяць (схапіць) за горла.* Напрыклад: 1) Ёсць такія, што *за горла бяруць*: давай неўміручасць, душа з цябе вон (К.Крапіва); 2) Калі не будзеш працаваць, голад *за горла схопіць* (П.Галавач); 3) Гарлахвацкі не з тых, хто будзе ціха сядзець на чужым месцы. Ён, каго толькі можна, *хапае за горла* («Полымя»).

У 2-м томе ТСБМ, дзе апісваюцца разнастайныя функцыянальныя значэнні прыназоўніка *да*, у пункце 7 (с. 104) гаворыцца, што ён «ужываецца пры абазначэнні прадмета, асобы, з’явы і пад., да якіх што-небудзь далучаецца, дабаўляецца. *Да пяці прыбавілі два*». Тут жа за знакам рыскі дадаецца: «У выразе: д а т а г о ж: *Да таго ж Мініч яшчэ меў недахоп у вымаўленні: ён шапялявіў*. Колас».

Другая частка гэтага апісання, змешчаная за знакам рыскі, недакладная. Па-першае, ілюстрацыйная цытата з Коласавага твора несамадастатковая: яна не можа быць зразуметая без пяпярэдняга кантэксту, без таго, што было сказана раней. Па-другое, **да таго ж** — не прыназоўнік і не выраз, а далучальны састаўны злучнік.

Ён ужываецца: а) пры адасобленых далучальных членах сказа: 1) Александрына — нямая, *да таго ж* бязрукая (І.Грамовіч); 2) Адмовіць чалавеку, *да таго ж* мясцоваму, ён не меў права (П.Кавалёў); б) перад другой часткай у складаным сказе: 1) Мы гадаваліся жорстка, з маленства непрызвычаены да ласкавых слоўцаў, *да таго ж* мы мужчыны, салдаты (Я.Брыль); 2) Шчыльнасць пасеваў добрая, *да таго ж* у ранні перыяд яны не паддаюцца шкоднікам («Звязда»).

Акрамя таго, гэты злучнік досыць часта выкарыстоўваецца ў тэксце паміж самастойнымі сказамі, другі з якіх змяшчае нешта дадатковае да зместу папярэдняга сказа, напрыклад: 1) Ты, здаецца, натура ўлюбчывая. *Да таго ж* — горад які! Хлопцаў прыгожых... (І.Мележ); 2) Зімчуковы словы пакрыўдзілі Васіля Пятровіча. *Да таго ж* ён чамусьці быў упэўнены, што мае права на спачуванне і яго абавязаны суцяшаць (А.Карпаў); 3) У дакуменце гаварылася, што рэдактар не зрабіў ніякіх захадаў да ліквідацыі парушэнняў. *Да таго ж* да газеты прад’яўляліся наступныя прэтэнзіі... (В.Класкоўская).

Беларускаму злучніку *да таго ж* у рускай мове адпавядае *к тому же*. Але ў «Руска-беларускім слоўніку» (1982, т. 2, с. 487) *к тому же* чамусьці пераклалі спалучэннем *апроч (апрача) таго*. А ў ТСБМ (т. 1, с. 213, 255) знаходзім: «*Акрамя таго, апрача таго* (у знач. пабочн.) — да таго ж». Але дастаткова толькі ў любым з прыведзеных вышэй сказаў замяніць злучнік *да таго ж* згаданым пабочным словазлучэннем, каб пераканацца ў недарэчнасці такой замены. Відаць, такія няправільныя звесткі, пададзеныя ў слоўніках, часткова сталі прычынай таго, што шмат якія аўтары памылкова разумеюць функцыянальнае значэнне, уласцівае спалучэнню *да таго ж*, успрымаюць яго як пабочны кампанент і аддзяляюць коскай ад суседняга сказа. Тут можна было б прывесці больш за 20 прыкладаў з «адмоўным маўленчым матэрыялам» (Л.Шчэрба), выпісаных за апошнія два гады з мастацкіх, публіцыстычных і навуковых тэкстаў. Абмяжуемся толькі трыма ўрыўкамі: 1) Маці мая Антося ў славе і гонары паважаная ўсімі. *Да таго ж*, яна была такая пявуха галасістая — заслухаешся («Полымя»); 2) Гэты напітак у грамадскай свядомасці цесна асацыіраваўся з будысцкім цырыманіялам. *Да таго ж*, чай у самой Карэі не расце («Полымя»); 3) Усё тут перанесена з [расейскіх] даведнікаў... *Да таго ж*, у акадэмічным чатырохтомным слоўніку адмыслова падкрэслена... («Роднае слова»).

У трылогіі Я.Коласа «На ростанях» ёсць такі дыялог: «—Як лепей назваць па-беларуску: чай ці гарбата? — Як ні называеш, — усё будзе добра, абы смачна, — адказаў жартам Лабановіч». Назоўнік **гарбата** шырока ўжываўся ў жывой народнай мове беларусаў у XIX і ў першых дзесяцігоддзях XX ст. Больш за 10 разоў ён выкарыстаны ў «Паўлінцы» Я.Купалы: «Мужчыны сядзяць з аднаго канца стала, а жанчыны — з другога. П'юць гарбату, наліваючы на сподкі». Пасля гэты назоўнік перайшоў у пасіўны склад. У пяцітомным ТСБМ ён падаецца з паметай «устарэлы». А цяпер ён зноў вяртаецца ў мову, як і многія іншыя (напрыклад: *кавярня, травень, паасобнік*), актыўна ўжываецца ў перыядычным друку, у мастацкай літаратуры і заслугоўвае ўключэння ў нарматыўныя слоўнікі: 1) Цім прывітаўся. Света прамаўчала. Пачалі піць *гарбату* (А.Федарэнка); 2) Завару ў парцалянавым кубку *гарбату* (У. Арлоў); 3) — Але пачаставаць вас няма чым. Хіба *гарбаткай*? — Добра — *гарбаткай*! — аж узрадаваўся я, учуўшы гэта знаёмае з дзяцінства слова. Так некалі вымаўляла маці, вясковая настаўніца, бацька ж заўсёды казаў «чай», а маці ўпарта папраўляла яго: «*гарбата*» (В.Быкаў).

Далей гаворка пойдзе пра два словы, да якіх выдатна падыходзіць прыказка *Усё новае — гэта добра забытае старое.* Яна

прыгадалася, калі аднойчы ў газеце «Народная воля» (2003. 29 кастр.) сустрэўся сказ: «Я адчуваю, як новая, будучая Беларусь **пакрыёма**, але няўхільна набірае моцы». Можна падумаць, што тут *пакрыёма* — новае слова, якога няма ў нашых акадэмічных слоўніках. Але яно «добра забытае старое». Яго ў свой час выкарыстаў Я.Купала ў паэме «Курган» (1910): «Толькі модлы раслі небу ў сэрцах людзей і пракляцце расло *пакрыёма*». Ужываў яго і В.Ластоўскі: «Забарона літоўскага друку прымусіла ліцьвінаў вучыцца граматы *пакрыёма*, па хатах». А паходзіць гэта слова з польскага спалучэння *po kryjomu* і абазначае ‘ўпотай, непрыкметна для другіх’. Можна гаварыць, што яно зноў пачало актыўна ўжывацца ў літаратурнай мове і варта таго, каб трапіць у нарматыўныя слоўнікі. Вось некалькі прыкладаў з перыёдыкі апошніх гадоў: 1) Ні ў форме палкоўнік, ні ў штацкім маёр мяне на кручку не трымаў *пакрыёма*. І хоць у пакутах сумленне маё — мне ніцая радасць раба незнаёма (Н.Гілевіч); 2) Бацька не ганяў мяне памагаць яму ў гаспадарскіх клопатах, сам рэзаў сечку карове, насіў з далёкага гумна сена авечкам, парыў бульбу свінням і *пакрыёма* шаўцаваў (С.Яновіч); 3) Бурбоны баяцца, што двайнікі могуць дапамагчы Напалеону *пакрыёма* пакінуць востраў (У.Арлоў); 4) Сышлі *пакрыёма* і адранцвенне, і холад магільны ад сонца, цяпла, ад бадзёрага плёскату вёслаў…(А.Мінкін); 5) Каб *пакрыёма* злавіць тое, што ў яве не страціў… (Э.Акулін); 6) Зварганілі яму калісь плоцік з арматурнага жалеза ў калгаснай кузні. Па блату, *пакрыёма* ад старшыні: «жалеззя» не хапала нават на рамонт калгаснай тэхнікі (П.Місько); 7) Аркадзь Рыгоравіч *пакрыёма* баіцца, што пакіне Людка яго тэатр (М.Южык); 8) І я *пакрыёма* адчуў на сабе: гады — след у след за падзеямі, словамі… (К.Жук).

На аснове прыслоўя ўтварыўся ўжо ўласна беларускі прыметнік **пакрыёмны**: «Павылазілі на свет сціжмы слухачоў, віжоў і даказчыкаў, што на вуліцах і ў дамах размовы ціхія падслухоўвалі і ў твары людскія пільна ўглядаліся, *пакрыёмныя* думкі ў злачынствы прыдумляючы» (У.Арлоў).

Двойчы сустрэўся ў сучасным перыядычным друку назоўнік **пеpакінчык**, якім называюць таго, хто перакінуўся на бок праціўніка, хто стаў яго прыхільнікам ці хаўруснікам. І гэта слова не новае, а забытае старое. У артыкуле «А ўсё ж такі мы жывём!» (1914) Я.Купала пісаў пра вялікадзяржаўнікаў «паноў саланевічаў і таму падобных»: «Для *перакінчыкаў* законы жыцця і праўды-справядлівасці ў рахунак не ідуць». Часам у друку лічаць гэтае слова наватворам Я.Купалы. Але гэта не так. Яшчэ раней, у 1911 г., В.Ластоўскі пісаў: «… бадай толькі адны *перакінчыкі*-беларусы крыва глядзелі на

беларушчыну». Неаднойчы ўжыў гэтае слова Я.Лёсік: «Найгоршымі ворагамі нашага руху ёсць беларусы-*перакінчыкі*, атрымаўшыя выхаванне расійскае ці польскае». Яшчэ прыклад: «Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і з польскім, але не з панамі, прыхваснямі польскага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і *перакінчыкамі*, забыўшымі бацьку і мацер сваю» (А.Гарун). Відаць, гэты назоўнік варты ўвагі лексікографаў, тым больш што ён нікольки не страціў сваёй актуальнасці. А паходзіць ён з украінскай мовы (*перекинчик*), дзе фіксуецца ў слоўніках як звычайнае нарматыўнае слова, праўда, з паметай «размоўнае».

Апошнім часам сталі даволі моднымі асобныя словы і выразы. Сустракаючы іх у друкаваных тэкстах ці чуючы ў вусным маўленні, не заўсёды лёгка дакапацца да іх сэнсу. Ды і многія з тых, хто іх ужывае, наўрад ці адкажуць, што абазначае той ці іншы выраз або слова.

Модным стала слова **кшталт** і яго формы. У 1996 г. Г.Шупенька ў часопісе «Крыніца» (№ 3. С. 16) пісаў: «Калі мая даўняя сяброўка-эрудзітка піша пра «старасвецкую гжэчнасць і сучасны кшталт», то першае, ведаючы збольшага польскую мову, я разумею, а другое — ну ніяк... Ні пяцітомны «Тлумачальны слоўнік», ні «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (1926) такога слова не ведаюць».

З неадназначным і незразумелым зместам ужываюць назоўнік *кшталт* многія аўтары, напрыклад: 1) Відаць, цяперашняя «Паўлінка» набудзе новы *кшталт* у межах задумы і распрацоўкі п’есы; 2) Пісарчук пратакаліраваў вулічнае пасяджэнне мястэчковага суда, які меў класава-шляхецкі *кшталт*, і зачытваў прысуд; 3) Кіраўнік, пацалаваўшы юбіляра, выцягнуў насоўку і акуратна выцерся. Што і казаць, быў педагог меў *кшталт*.

У нашай літаратурнай мове ўжываўся і ўжываецца прыназоўнік *накшталт*, этымалагічна звязаны з польскім спалучэннем *па kształt,* дзе *kształt* — ‘выгляд, форма’. Дарэчы, у польскай мове ёсць значнае лексічнае гняздо слоў, якія паходзяць ад гэтага кораня: *kształcenie* (навучанне, станаўленне, развіццё), *kształcić* (адукаваць, навучаць), *kształtny* (стройны, зграбны), *kształtować* (фармаваць), *wykstałcony* (адукаваны) і інш. Ёсць назоўнік *кшталт* і ва ўкраінскай мове (з тым жа значэннем ‘выгляд, форма’), ёсць і прыназоўнік *накшталт*. У часы І.І.Насовіча, як сведчыць яго слоўнік, у народнай мове ўжывалі назоўнік *кшталт* (манера, узор, выгляд) і дзеяслоў *кшталціць* (прымаць лепшы выгляд). На пачатку ХХ ст. у нашай літаратурнай мове выкарыстоўвалася толькі словаформа *кшталтам*

(быццам бы, накшталт), якая ў сучасных акадэмічных слоўніках падаецца з паметай «устарэлае».

У друку апошніх гадоў вельмі актывізавалася слова **кшталту**, прычым не заўсёды з акрэсленым зместам. Магчыма, у ім фармуюцца два ці тры значэнні.

У адных выпадках яго ўжываюць са значэннем прыназоўніка *накшталт*: 1) Цяперашні саюз пісьменнікаў — нешта *кшталту* арцелі з малымі правамі і абавязкамі (Р.Барадулін); 2) Сталічныя пісьменнікі мелі магчымасць дабірацца не толькі да «правінцыі» *кшталту* Уручча («ЛіМ»); 3) Ёй усё ж больш даспадобы былі людзі *кшталту* жалезнага Генрыха... (В.Казько).

У другіх — выкарыстоўваецца як назоўнік у форме роднага склону са значэннем 'тыпу, узору': 1) На помніках надпісы пэўнага *кшталту* (В.Быкаў); 2) Арганізацыя такога *кшталту* так і не з'явілася («ЛіМ»); 3) У першым выпадку залежнасць асаблівага *кшталту*, залежнасць палемічная (Г.Кісялёў).

У трэціх — гэта таксама назоўнік, але ўжо ў сэнсе 'ўзроўню': 1) Што да паэзіі, дык яна тут самага высокага мастакоўскага *кшталту* (А.Марціновіч); 2) Яшчэ нядаўна літаратура найвышэйшага *кшталту* імкнулася эстэтычна вартасна адлюстроўваць праўду жыцця ў адметных мастацкіх вобразах (В.Козіч); 3) Голае жыццё! Публіцыстыка высокага *кшталту* з пэўным наборам жарсцяў і антаганізмаў («ЛіМ»).

Досыць часта, аднак, кантэкст не дазваляе вызначыць, які сэнс мае гэтае *кшталту*. Возьмем, напрыклад, такі сказ: «Міжволі ловіш сябе на думцы, што перад табой выданне *кшталту* літаратурнай энцыклапедыі». Тут *кшталту* можна замяніць і прыназоўнікам *накшталт*, і словамі «тыпу, узору», «узроўню». Немагчыма дакладна выявіць, што абазначае *кшталту* і ў такіх, напрыклад, сказах: 1) Нешта ў жыцці змянілася, калі людзі майго *кшталту* пад пільным рэпрэсіўным наглядам; 2) Ейны бацька — баярын, і не апошняга *кшталту* ў тваім войску; 3) Літаратурная праўда гэтага (рэалістычнага) *кшталту* прыйдзе да пісьменнікаў і чытачоў пазней.

Такія ўжыванні, зразумела, не на карысць нашай літаратурнай мове.

Разгледзім нарматыўнасць (у сэнсе: правільнасць) яшчэ некаторых слоў.

**Наўрад** і **наўрад ці**. У беларускай мове ёсць прыслоўе *наўрад*, якое абазначае 'мала верагодна'. Яно, як правіла, ужываецца ў размоўным стылі ў якасці самастойнага сказа і сэнсава звязана з папярэднім выказваннем. Часцей за ўсё гэта сумніўны адказ на пытанне: 1) Плануецца замежных інвестыцый за год мець 1,5

мільярда долараў. Ці атрымаецца? *Наўрад* (А.Драбчук); 2) Законы развіцця грамадства — таямніца вялікая. Ведалі іх Талстой, Дастаеўскі? *Наўрад* (І.Шамякін). Параўн. таксама ў эпіграме Р.Барадуліна на І.Шамякіна: «Хвалілі партыя і ўрад і ставілі класічна ў рад. Ды сціх узнагародны град. Што ўзяць з літаратурных град? Як спадзяванне мець на ўрад? Цяпер Шамякін рад? *Наўрад*». Гэта прыслоўе, займаючы тую самую пазіцыю, можа выступаць у суседстве з іншым словам, якое, аднак, сінтаксічна не звязана з ім: «— Як, дзядзька Архіп, па зімніку яшчэ можна прайсці? — Конна *наўрад*» (С.Грахоўскі).

Ад прыслоўя *наўрад* трэба адрозніваць часціцу *наўрад ці.* Яна заўсёды ўжываецца перад выказнікам для выражэння сумнення ў верагоднасці сказанага: 1) На карту Сюзанна *наўрад ці* глядзела (І.Навуменка); 2) *Наўрад ці* трэба тлумачыць, што пафас верша — адмаўленне вульгарнага калектывізму (Р.Бярозкін).

Гэтыя словы нярэдка блытаюць у маўленні, замест *наўрад* ужываюць *наўрад ці*, напрыклад: 1) І мне абсалютна не верыцца, калі паэт піша, што той самы «нямоглы Парыж цярпліва чакае маіх вершаў». *Наўрад ці* (Л.Галубовіч); 2) — Ну, а ты сама добрая? — *Наўрад ці* («Полымя»); 3) — Можа, забарона была ад Напалеона? — Можа, і была, хоць *наўрад ці* (К.Тарасаў); 4) — Атрымліваецца, ім усё дазволена, тут, у нашым свеце... — *Наўрад ці.* Яны ж не Богі (Ю.Станкевіч); 5) — А сабака не ўкусіць? — Пры мне *наўрад ці*, — запэўніў гаспадар (Р.Харытановіч). Блытаніна адбываецца, хутчэй за ўсё, пад уздзеяннем рускай мовы, дзе беларускім *наўрад* і *наўрад ці* адпавядае *вряд ли.* Ва ўсіх пададзеных вышэй прыкладах, калі іх перакласці на рускую мову, трэба ўжываць *вряд ли* або *едва ли.* У «Беларуска-рускім слоўніку» (т. 1, 1988, с. 764) адпаведнікамі беларускага *наўрад* выступаюць менавіта гэтыя *вряд ли, едва ли.*

Дарэчы, прыслоўе *наўрад*, агульнае для ўсходнеславянскіх моў (рус. *навряд.*, укр. *навряд*) у сучаснай рускай літаратурнай мове не выкарыстоўваецца, а ў слоўніках падаецца з паметай «устарэлае». У XIX ст. яно было яшчэ жывой моўнай адзінкай. Параўн., напрыклад, у А.С.Грыбаедава: «Вот люди, есть ли им подобные? *Навряд*».

**Паўстагоддзя.** У часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 6. С. 23–29) быў змешчаны артыкул М.Супрунчука «Статус і спалучальнасць марфемы *паў-* у беларускай мове». Тут знаходзім шмат новых, аргументаваных звестак пра марфему *паў-*. У артыкуле закранаюцца і пытанні культуры маўлення; напрыклад, ужыванні тыпу *паўгады* (замест *паўгода*), *з паўлітрам, купіў паўлітру* ацэньваюцца як парушэнне літаратурнай нормы. Сярод больш як 140 слоў

з часткай *паў-*, выкарыстаных у артыкуле, чамусьці, аднак, няма назоўніка *паўстагоддзя*. А між тым якраз пры ўжыванні гэтага слова досыць часта сустракаюцца няправільнасці.

У складаных назоўніках тыпу *паўгода*, *паўстагоддзя*, *паўсутак*, *паўгадзіны*, *паўкіламетра* першая састаўная частка абазначае ‘палавіна чаго-небудзь’ і спалучаецца з адпаведным назоўнікам у форме роднага склону.

Для назоўніка *паўстагоддзя* менавіта гэтая ягоная форма — зыходная, першапачатковая. У такой форме (з паметай «назоўнік ніякага роду») ён падаецца ў нашых нарматыўных слоўніках. Вось толькі некалькі прыкладаў яго правільнага ўжывання: 1) На вайне раніцай не ведаеш, ці дажывеш да вечара, а думаць пра тое, што і як стане праз некалькі гадоў, а тым больш на *паўстагоддзя* наперад, — і ў галаву не прыходзіла (В.Быкаў); 2) Ці змянілася што на сяле за *паўстагоддзя*? (П.Місько); 3) У такім уборы можна гуляць па людным праспекце сёння, праз пяць гадоў і, мабыць, праз *паўстагоддзя* (С.Бязлепкіна); 4) *Паўстагоддзя* таму знаны настаўнік прапаведаваў у Амерыцы сваё вучэнне (А.Іванчанка). Параўн. таксама правільнае ўжыванне гэтага слова ў блізкім суседстве з аднакаранёвымі *стагоддзе*, *дзесяцігоддзе*: 1) Ці ўсё тое, што пішуць сёння нашы пісьменнікі, тым больш тое, што пісалі *паўстагоддзя* ці нават *стагоддзе* таму назад, цікава сённяшняму маладому чытачу? («Маладосць»); 2) Яго ўнук вынайдзе тут праз *паўстагоддзя* камп’ютэр... Глядзі, бачыш, той, што залез на дрэва... Ён праз *дзесяцігоддзе* будзе самым славутым архітэктарам (Р.Баравікова).

Акурат, відаць, пад уплывам гэтых *стагоддзе*, *паўгоддзе*, *дзесяцігоддзе* і інш. шмат якія аўтары аўтаматычна і не задумваючыся пішуць і *паўстагоддзя* з памылковым канчанткам *–е*, напрыклад: 1) Больш за *паўстагоддзе* ён лічыў, што яго навука — гісторыя — па дакладнасці і «вучоным кансерватызме» набліжаецца да матэматыкі (І.Шамякін); 2) Праз *паўстагоддзе* чуцён камісараўскі голас.... (У.Ліпскі); 3) Падобнае здараецца раз на *паўстагоддзе* (Л.Славік); 4) Няма ўжо там, у Пружанах, ні мамы, ні таты, шмат каго няма. *Паўстагоддзе* забрала іх у нябыт («Нар. воля»); 5) За *паўстагоддзе* працы ён зрабіў столькі, што мог бы ўжо тры разы па ордэну атрымаць, але, як кажуць, дзякуй і за медаль («Наша слова»).

У акадэмічнай «Беларускай граматыцы. Ч. 1» (1985. С. 65-66) апрача першага, другога і трэцяга скланення назоўнікаў вылучаюць «так званае нулявое скланенне», якое ўтвараюць нязменныя назоўнікі. Тут пералічваюцца аж 7 груп такіх нязменных, ці нескланяльных, назоўнікаў. Адна з іх — «словы, якія складаюцца з часткі *паў-* і

роднага склону адзіночнага ліку назоўніка: *паўбутэлькі*, *паўвярсты*, *паўгода*, *паўлімона*, *паўнеба*, *паўяблыка*, *паў-Мінска*». Думаецца, што *паўстагоддзя* варта лічыць выключэннем з гэтай групы. Наўрад ці можна ацэньваць як адхіленне ад нормы ўжыванне *паўстагоддзем* у наступным сказе: «З'явай, прыглушанай больш чым *паўстагоддзем* маўчання, сталася і аповесць Власта «Лабірынты», апублікаваная ўпершыню на старонках «Крывіча» (Я.Янушкевіч). Або *паўстагоддзю*: «Лірычнымі радкамі распачаўся ўрачысты вечар, прысвечаны *паўстагоддзю* тэхнічнай вучэльні..» (Я.Тышко).

У памянёным напачатку арыкуле М.Супрунчука сказана: «Азначэнне пры назоўніку з марфемай *паў-* павінна быць у множным ліку: *тыя цяжкія паўмесяца, твае паўзвода ўжо на пазіцыі*». Але ў дачыненні да азначэння пры назоўніку ніякага роду *паўстагоддзя* неяк язык не паварочваецца ўжываць гэта азначэнне ў множным ліку. Яно дапасуецца ў родзе да базавага назоўніка (*стагоддзе*). Параўн. прыклады менавіта такога дапасавання (праўда, з памылковым напісаннем *-е* замест *-я* ў слове *паўстагоддзя*): 1) Прайшло цэлае *паўстагоддзе* з таго часу, як адбылася гэта выдатная, добра памятная мне падзея (К.Крапіва); 2) Дорага каштавала Еўропе тое *паўстагоддзе*, наступствы яго не ліквідаваны і да сёння (В.Быкаў); 3) На цэлае *паўстагоддзе* імя Вацлава Ластоўскага было кінута ў бяспамяцтва (Я.Янушкевіч).

**Перадусім**. У.Дамашэвіч у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (2004. 2 крас.) сцвярджае, што прыслоўе *перадусім*, якое ў творчасці маладых «сустракаецца цяпер даволі часта», — непатрэбная нашай мове калька з польскага «пшэдэ вшысткім» і што ў ёй «чуецца нешта цынічнае». Цяжка здагадацца, што ж тут цынічнага. Гэта слова з тым жа значэннем 'найперш' і ў форме *перадусім* здаўна з'яўляецца нарматыўным ва ўкраінскай літаратурнай мове. Бытуе яно ў жывой народнай мове паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, фіксуецца ў некаторых дыялектных слоўніках, занатавана ў даведніку А.Каўруса «Словы без прапіскі». Яго выкарыстоўваць не толькі маладыя аўтары. Яно сустракаецца ў У.Дубоўкі, у давераснёўскіх творах М.Танка і ў яго не так даўно апублікаваных «Дзённіках». Н.Гілевіч тройчы ўжыў гэта слова ў невялікім артыкуле «Добры ангел беларускасці», напрыклад: «Ад чаго пайшло ў мяне такое пісанне [дробна-дробна і густа-густа]? *Перадусім* — ад беднасці». Нярэдкае гэта слова і на старонках «Літаратуры і мастацтва» (нарыклад, за 31.10.1997 г. ці 13.02.1998 г.). Або два такія прыклады: 1) Чалавек інтэлігентнай прафесіі ўспрымаўся *перадусім* як індывідуальнасць (У.Караткевіч); 2) Браты Гарэцкія не толькі і не столькі летапісцы, а *перадусім* пераўтва-

ральнікі жыцця (М.Мушынскі). Таму наўрад ці трэба сустракаць гэта прыслоўе ў штыкі. Няхай яно ўзбагачае слоўнік літаратурнай мовы, папаўняе сінанімічны рад слоў і спалучэнняў: *найперш, перш за ўсё, у першую чаргу, першым чынам.*

**Дзякуй.** Э.Ялугін у газеце «Наша слова» (2003. 5 кастр.) спрабуе аспрэчыць выказванні аднаго журналіста наконт слова *дзякуй.* Дарэчы, свае, так бы мовіць, не зусім прымальныя адносіны да гэтага слова ён выяўляў і раней. Э.Ялугін, былы рэдактар «Нашага слова», у гутарцы з супрацоўнікам часопіса «Роднае слова» (1996. № 11. С. 202) рэкамендуе выказваць сваю ўдзячнасць толькі словам *дзякую*, а не «з дапамогай загаднай формы дзеяслова — *дзякуй*», бо гэтае *дзякуй* — «нонсэнс, недарэчнасць, якая ўзнікла пад уплывам рускамоўя».

А народ наш здавён-даўна, не ведаючы гэтых рэкамендацый, ужываў і ўжывае і *дзякую*, і (найчасцей) *дзякуй*, замацаваў менавіта апошняе ў фразеалагізмах *дзякуй у шапку, за дзякуй, дзякуй богу, дзякуй за ласку* ды ў шматлікіх прыказках. Вось толькі некаторыя з іх: *За дзякуй пірага не купіш; Не кажы дзякуй, калі цябе не частуюць; Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш; Дзякуй не з'ясі; Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому; Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому.*

*Дзякуй* — гэта не «загадная форма дзеяслова», як лічыць Э.Ялугін, а двухзначнае слова, якое ў адных выпадках выступае як часціца (*Дзякуй за хлеб-соль*), а ў другіх — як нескланяльны назоўнік у значэнні ‘падзяка, удзячнасць’. Дарэчы, у ТСБМ (т. 2, с. 179), дзе пададзены абодва гэтыя значэнні, пры апісанні другога, назоўнікавага значэння ёсць граматычная памета *н.* (ніякі род). Але, як паказвае маўленчая практыка, *дзякуй*, ужываючыся ў значэнні назоўніка, выкарыстоўваецца, бадай, з аднолькавай частотнасцю то ў ніякім, то ў мужчынскім родзе. Вось некалькі прыкладаў: *Дзякуй, вялікі дзякуй* (А.Вярцінскі), *вялікі табе дзякуй* (А.Бачыла), *даўшы адпаведны дзякуй* (І.Чыгрынаў), *сардэчны дзякуй* (Я.Скрыган), *вялікі вам дзякуй* (Я.Колас), *вялікае дзякуй* («ЛіМ»), *дзякуй шчырае пачуеш* (М.Чарот), *вялікае дзякуй нашым шэфам* (П.Броўка). Праўда, у апошняе дзесяцігоддзе амаль ва ўсіх выпадках прыметнікі і займеннікі дапасуюцца да слова *дзякуй* у мужчынскім родзе, напрыклад: *мой дзякуй* (Р.Барадулін).

У згаданай напачатку публікацыі Э.Ялугін піша, што «расейскае «спасибо» распаўсюдзілася ў асноўным у савецкі час» і што «ў савецкі ж час распаўсюдзіўся і беларускі аналаг — загадная форма дзеяслова *дзякаваць* у якасці назоўніка». Але, па-першае, няма ніякіх падстаў звязваць з савецкім часам распаўсюджанне рускага слова *спасибо.* У рускіх акадэмічных слоўніках яно ілюструецца прыкладамі-

цытатамі з твораў Пушкіна, Гогаля, Ганчарова і іншых аўтараў XIX ст., а таксама і пазнейшага перыяду. Існавала гэтае слова і ў папярэднія стагоддзі — да Пушкіна.

Па-другое, наша *дзякуй* сфармавалася не ў савецкі час. Яно фіксуецца ў вядомым слоўніку І.І.Насовіча (1870), запісанае складальнікам непасрэдна ў жывой народнай мове. Яно фігуруе ў шэрагу пералічаных вышэй народных прыказак, а яны ўзніклі, зразумела, не ў савецкі перыяд. Яно выступае кампанентам некалькіх раней названых фразеалагізмаў, сярод іх — *дзякуй богу*. Гэты выраз выкарысталі ў сваіх творах В.Дунін-Марцінкевіч — у «Шчароўскіх дажынках» *(Дзякуй богу, што ўжо ачуняла)* і ў «Пінскай шляхце» *(Відна, відна, — дзякуй богу),* Ф.Багушэвіч — двойчы ў паэме «Кепска будзе» (*Дзякуй богу, добры ўдаўся; Надта есці стаў памногу і паправіўсь, дзякуй богу).* Ужывалася гэтае слова (як часціца) у іншых дасавецкіх творах: *Дзякуй, дзякуй, ягамосці, за весці такія!* (Ф.Багушэвіч), *А за гэта дзякуй!* (Цётка).

Па-трэцяе, ніяк нельга гаварыць, што наша *дзякуй* склалася пад уплывам і па аналогіі з рускім *спасибо* (з «спаси Бог») і з'яўляецца «загаднай формай дзеяслова *дзякаваць* у якасці назоўніка». У далейшых разважаннях Э.Ялугіна шмат блытаніны. Ён звязвае ўзнікненне *дзякуй* то з назоўнікам *дзяка*, *дзякло*, то з дзеясловам *дзякаваць*.

*Дзяка*, як засведчана ў тлумачальных, гістарычных і этымалагічных слоўніках беларускай мовы, абазначала і абазначае (фіксуецца ў ТСБМ) 'падзяка, удзячнасць', г.зн. тое самае, што і *дзякуй* у значэнні назоўніка. А паводле Э.Ялугіна, *дзяка* — «гэта самы пачэсны падарунак, знак асаблівай павагі да чалавека — хлебам». Што да назоўніка *дзякло*, дык ён даецца ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (выпуск 9, с. 135) са значэннем 'падатак збожжам' і 'мера збожжавага падатку' і, як бачым, гэтак жа, як, скажам, і *дзяк*, не мае ні этымалагічнай, ні сэнсавай сувязі са словам *дзяка*, *дзякуй*. *Дзякло* — гэта, паводле А.М.Булыкі, запазычанне з літоўскай мовы.

Пад канец свайго артыкула Э.Ялугін ледзь не сенсацыйна аб'яўляе: «Цяпер назаву імя таго, хто яшчэ дакладна ведаў сэнс гэтага слова [«дзякую»] і ўжываў яго ў сваіх творах на пачатку XVI стагоддзя. Маю на ўвазе вялікага беларуса Францішка Скарыну». Аднак далей прыводзяцца тры цытаты са Скарынавых перакладных твораў, але ва ўсіх цытатах замест чаканага *дзякую* знаходзім дзеяслоў: *дякуеть*, *дяковал*, *дяковал.* Затым гаворыцца, што «не складана прывесці і яшчэ пераканаўчыя прыклады з твораў самых аўтарытэтных беларускіх майстроў літаратуры самых розных пакаленняў, у тым ліку

дасавецкага Янкі Купалы, але, мяркую, дастаткова аўтарытэту Скарыны». Шкада, што Э.Ялугін не заглянуў у «Слоўнік мовы Янкі Купалы» (т. 2, с. 52). Тут паказана, што Я.Купала 47 разоў выкарыстаў слова *дзякуй* у сваіх творах у значэнні як часціцы, так і назоўніка. І ёсць прыклады з Купалавай дасавецкай творчасці, сярод іх і такі: «Пашлём *дзякуй* «Нашай долі», родненькай газеце».

Як сведчыць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 3, с. 137) і манаграфія А.М.Булыкі «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (с. 104), словы *дзяка* і *дзякаваць* прыйшлі ў нашу мову з польскай, назоўнік *дзяка* ў польскай мове (*dzięka*) паходзіць ад нямецкіх *dank*, *danken*. Беларускае ж *дзякуй* (у такой форме не фіксуецца ў іншых мовах) утварылася на базе назоўніка *дзяка*. Дарэчы, у слоўніку І.І.Насовіча (с. 134) фіксуюцца з тоесным значэннем *дзякі*, *дзяку*, *дзякуй*.

**Парус, ветразь.** Адзін з аўтараў «Нашага слова» (2001. № 22) піша, што яму шмат разоў «даводзілася выступаць у ролі словатворцы. Напрыклад, сучасныя слоўнікі перакладаюць расейкае *парус* як *ветразь*, а *парусник* чамусьці як *паруснік*. У маіх пісаннях гэтае слова падаецца як *ветразень*. Буду настойліва карыстацца «сваім» словам у спадзяванні, што яно некалі стане нормай».

*Парус* не «расейскае слова». Яно прыйшло да нас з Грэцыі. Як паказана ў тлумачальных слоўніках, яно мае не адно, а чатыры значэнні. І толькі ў першым, зыходным значэнні яно сэнсава супадае со словам *ветразь*. Сэнсава, але не стылістычна. Таму ў акадэмічных слоўніках *ветразь* мае памету «паэтычнае», г.зн. яго ўжыванне абмяжоўваецца толькі ўрачыста-ўзнёслай паэзіяй. Прапанаваны наватвор *ветразень* (як заменнік слова *паруснік*) нелагічны, нічым не апраўданы. Да таго ж *паруснік* мае тры значэнні: 1) паруснае судна, 2) той, хто шые парусы, 3) той, хто займаецца парусным спортам.

Уявім сабе такую карціну. Дапусцім, замест *парус* (хоць бы ў яго першым, не батанічным і не архітэктурным значэнні) сталі ўжываць *ветразь* не толькі ў паэзіі, а ва ўсіх стылях мовы. Тады трэба было б прывесці ў сістэму ўсё лексічнае гняздо. А ў ім аж 8 слоў: *парус*, *парусіна*, *парусінавы*, *парусна-вяслярны*, *парусна-маторны*, *паруснасць*, *паруснік*, *парусны*.

**Закадычны**. Акадэмічны пяцітомны ТСБМ на алфавітным месцы апісаў прыметнік *закадычны*, паказаўшы, што ён мае формы мужчынскага, жаночага і ніякага роду, абазначае 'вельмі блізкі, сардэчны (пра сябра, сяброўскія адносіны)'. Прыводзіцца два адпаведныя пацвярджэнні — ілюстрацыйны матэрыял. Адно з іх — з трылогіі класіка беларускай літаратуры і аднаго з заснавальнікаў

беларускай літаратурнай мовы Якуба Коласа: «Смалярня стала на некаторы час галоўным штабам двух *закадычных* прыяцеляў, Лабановіча і Тукалы». Яшчэ адзін слоўнікавы прыклад — таксама не з другарадных аўтараў — Алеся Якімовіча: «[Юзік] ахвотна згаджаўся з усім, з чым былі згодны яго *закадычныя* сябры Васіль і Міхась».

Можа, каму здасца, што тут мала прыкладаў-ілюстрацый (усяго два). Але такая была дадзена ўстаноўка «зверху»: у ЦэКа дазволілі выдаць першы ў жыцці Беларусі вялікі тлумачальны слоўнік беларускай мовы, але не больш як у пяці тамах (параўн.: у рускай мове — 17-томны, ва ўкраінскай — 11-томны). І складальнікі (пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы) як ні стараліся ўкласціся ў дазволеную норму, але не ўклаліся. Прыйшлося прасіць дазволу выдаць пяты том ў дзвюх кнігах. «Зверху» крыху прыгразілі, але далі дазвол.

Між іншым, у рускіх слоўніках (напрыклад, у 17-томным) часам прыводзяцца пад загаловачным словам па 5, а то і па 10 цытат. Думаецца, гэтак жа і складальнікі пяцітомнага ТСБМ маглі б, калі б іх не абмяжоўвалі, праілюстраваць слова *закадычны* не дзвюма цытатамі, а дзесяткамі. Вось некалькі прыкладаў — з картатэкі аўтара гэтых радкоў. К.Крапіва (рэдактар амаль усіх нашых акадэмічных слоўнікаў) у адной байцы піша, што хлопчык «меў шмат *закадычных* адданых сяброў, гусей з імі пасвіў і нават кароў». Яшчэ прыклады: 1) — Земляком прыкінуўся, сябрам *закадычным*! — усё больш распальваў сябе Андрэй (М.Лынькоў); 2) Сёння нават пабыў Марцін у свайго *закадычнага* сябра Рыгора Галузы (М.Лупсякоў); 3) Міша і Грыша сапраўды былі *закадычнымі* сябрамі (А.Якімовіч).

Чаму тут ідзе размова пра гэты прыметнік? Справа ў тым, што ў «Нашым слове» (2004. 9 верас.) змешчана невялікая нататка пра слова *закадычны.* Хто яе аўтар, невядома, бо яго прозвішча пад нататкай не пазначана. У ёй робіцца выснова, што гэта «неўласцівы беларускай мове фразеалагізм». Ёсць тут і іншыя няправільнасці, а яшчэ і падтасоўкі, зробленыя, каб толькі сцвердзіць згаданую выснову.

Перш за ўсё гэта ніякі не фразеалагізм, што выразна відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў і з апісання прыметніка *закадычны* ў ТСБМ (т. 2, с. 318-319). Праўда, ён адрозніваецца ад многіх іншых прыметнікаў найперш сваімі спалучальнымі магчымасцямі. Скажам, прыметнік *вясёлы* свабодна ўступае ў лексічную сувязь з вялікім мноствам розных слоў-назоўнікаў (*хлопец*, *жартаўнік*, *настрой*, *характар*, *спектакль*, *чалавек* і інш.), але, зразумела, не з усімі: сувязі паміж словамі абумоўлены прадметна-лагічна. Прыметнік жа

*закадычны* абмежаваны ў сувязях не прадметна-лагічнымі адносінамі, а ўнутранымі семантычнымі заканамернасцямі моўнай сістэмы. Яго лексічнае значэнне 'вельмі блізкі, сардэчны' выяўляецца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленымі назоўнікамі, сваімі пастаяннымі кантэкставымі партнёрамі (*сябар*, *прыяцель*, *друг*). Інакш кажучы, гэтаму прыметніку ўласціва валентна абмежаванае значэнне. І да фразеалогіі гэта не мае ніякага дачынення.

Такіх слоў (з абмежаванай спалучальнасцю-валентнасцю) даволі многа. Напрыклад, прыметнік *праліўны* рэалізуе сваё значэнне 'вельмі моцны' толькі пры спалучэнні з назоўнікамі *дождж*. Яшчэ прыклады: *прасёлачная* (дарога), *траскучы* (мароз), *расквасіць* (нос, твар), *насупіць* (бровы), *патупіць* (вочы), *воўчы* (апетыт), *вытарашчыць* (вочы), *бляе* (авечка), *высалапіць* (язык), *воўчыя* (ягады) і г.д. Зразумела, што ні *закадычны сябар*, насуперак сцвярджэнню невядомага аўтара, ні *праліўны дождж* і сотні іншых падобных спалучэнняў ніяк нельга залічваць у фразеалогію, бо кожны фразеалагізм мае цэласнае, сэнсава непадзельнае значэнне, несуадноснае са значэннямі слоў-кампанентаў. Напрыклад, *і жук і жаба* абазначае 'ўсе без выключэння, усякі, кожны чалавек'.

У нататцы сказана, што «Руска-беларускі слоўнік» (1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі падае: «Закадычный: 3. друг *разг.* неразлучны друг, шчыры друг». Пасля дадаецца: «Пацвярджаецца гэта ўсімі наступнымі перавыданнямі гэтага даведніка. Напрыклад, РБС-82, РБС-93 і інш.»

Нельга, аднак, забываць, што згаданы даведнік (1953 г.) укладаўся ў крайне неспрыяльных умовах, без належнай картатэкі і даведачнай літаратуры. А што да перавыданняў гэтага даведніка (1982, 1993 гг. і інш.), дык перавыдаюцца яны амаль што стэрэатыпна, толькі часткова папаўняючыся новымі, нядаўна ўзніклымі словамі. Праўда, у гэтых слоўніках ёсць адна відавочная супярэчнасць. Рэдактары РБС-53 Я.Колас і К.Крапіва як бы адмаўляюць існаванне ў беларускай мове прыметніка *закадычны*, а самі, як было паказана вышэй, выкарыстоўваюць яго ў сваіх творах.

Ёсць у нататцы і іншыя падтасоўкі. Сцвярджаецца, напрыклад, што, апрача ТСБМ (т. 2. с. 318-319), «ніводзін іншы беларускі слоўнік не фіксуе гэтага выслоўя». Аднак гэта няпраўда. У «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (1988, т. 1, с. 441) чытаем: «Закадычны *разг.* закадычный». Фіксуецца гэта слова і ў нарматыўным акадэмічным даведніку «Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» пад рэдакцыяй М.В.Бірылы (1987, с. 246): закадычны *разм.*

Цікава: на каго разлічана такая дэзінфармацыя і на чый млын лье ваду гэты невядомы аўтар?

Сцвярджаецца, што «новы «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) справядліва не падае на сваіх старонках гэтага неўласцівага беларускай мове фразеалагізма». Але ж гэты слоўнік аднатомны. У ім усяго 60 тысяч слоў. Як жа ён мог змясціць у сабе абсалютна ўсе словы, якія даюцца ў ТСБМ (у ім 100 тысяч слоў) ці ў СБМ (у ім 118 тысяч слоў)? Як бачым, тут з боку аўтара нататкі чарговы ход канём.

Пачынаецца нататка вялікім ўрыўкам з ТСБМ, дзе апісваецца прыметнік *закадычны*. Але ва ўрыўку знарок апускаецца ілюстрацыйны прыклад з трылогіі Я.Коласа. Бо гэта не на карысць аўтару нататкі. І гэта зноў ход канём.

Далей робіцца нібыта выкрыццё складальнікаў ТСБМ, якія як быццам скапіравалі прыведзены раней урывак — з вядомага «Слоўніка рускай мовы» С.І. Ожагава (1982, с. 184). Але ж калі супаставіць абодва ўрыўкі, дык няцяжка заўважыць, што яны шмат у чым адрозніваюцца. Да таго ж азначэнні, якія даюцца словам у тлумачальных слоўніках, аднолькавыя ў сусветнай лексікаграфічнай практыцы. Усюды — і ў Францыі, і ў Расіі, і ў Польшчы, і ў Беларусі — сэнс слова раскрываецца адным з чатырох вядомых у свеце спосабаў: апісальным, структурна-семантычным, сінанімічным і адсылачным. У тлумачальных слоўніках амаль усіх краін свету значэнне, скажам, назоўніка *стол* раскрываецца аднолькава ці амаль аднолькава: ‘прадмет мэблі ў выглядзе гарызантальнай дошкі на высокіх падпорках’. І гэта ніхто не лічыць спісваннем, капіраваннем і г.д.

Як бачым, усё ў разгледжанай нататцы хісткае, непраўдападобнае, у ёй тэндэнцыя бярэ верх над логікай фактаў.

Што да паходжання прыметніка *закадычны*, дык ён прыйшоў у беларускую мову з рускай, дзе, як засведчана ў этымалагічных слоўніках, утварыўся шляхам суфіксацыі прыназоўнікава-склонавай формы *за кадык* на аснове фразеалагізма *заліць за кадык*, што абазначала ‘напіцца гарэлкі’. На пачатку свайго жыцця словазлучэнне *закадычны друг* абазначала ‘сабутэльнік’, а пасля, даўно ўжо, прыметнік стаў ужывацца з сучасным значэннем ‘вельмі блізкі, сардэчны’. Гэты прыметнік, як і тысячы іншых слоў, запазычаных з рускай, польскай, украінскай, англійскай, французскай і іншых моў, даўно стаў фактам беларускай мовы і зусім неразумна і нелагічна заносіць сякеру над ім.

***Палутарка***. У часопісе «Роднае слова» (1997. № 10. С. 61-62) і ў кнізе «Культура мовы» [60, с. 147] П.Сцяцко пазбаўляе слова

*палутарка* «правоў літаратурнага грамадзянства» ў нашай мове, называе яго недарэчным запазычаннем, перанесеным з расейскіх слоўнікаў, рэкамендуе: «*паўтарачка* — а не *палутарка*».

У літаратурнай мове *паўтарачкай* называюць розныя прадметы велічынёй у паўтары адзінкі якой-небудзь меры, а таксама бутэльку ёмістасцю ў 0,75 літра. Напрыклад: *дошка цалёвая, а не паўтарачка; ложак-паўтарачка.* Або ў такім сказе з рамана Г.Далідовіча «Заходнікі»: «Адзін з п'яных старшынь прылюдна аглушыў другога п'янага *паўтарачкай* з-пад шампанскага». Грузавую ж машыну грузапад'ёмнасцю ў паўтары тоны называюць *паўтаратонкай* або *палутаркай* — словам, запазычаным (разам з самой машынай) з рускай мовы. У фундаментальнай картатэцы Інстытута мовазнаўства ёсць 11 ужыванняў на *паўтаратонку* і 16 — на *палутарку*. Так замацавалася ў мове, і тут ужо нічога не зробіш. А П.Сцяцко настойвае, каб і машыну-палутарку называлі толькі *паўтарачкай* (як і бутэльку з-пад шампанскага). Але ж моўную норму не выдумляюць і не дыктуюць. Яна складаецца сама па сабе. Ф.Янкоўскі прыгадвае словы П.Глебкі: «Калі б норму літаратурнай мовы вызначалі галасаваннем, то я падняў бы абедзве рукі за «тамсама», бо «тамсама» — як і «таксама».

***У абарону ворана***. Гаворка пойдзе не пра самую птушку, а пра слова, якім называецца гэта птушка. Яно пакрыўджана нашымі акадэмічнымі слоўнікамі: прыводзіцца толькі ў «Беларуска-рускім слоўніку», ды і то з адсылкай да другога, часцей ужывальнага — *крумкач*.

Калі браць пад увагу толькі фіксацыю ў слоўніках, няхай сабе і акадэмічных, і не ўлічваць іншыя важкія фактары, то можна зрабіць паспешлівую выснову, што *воран* — «з чужой моўнай практыкі». Менавіта так і робіцца ў газеце «Наша слова» (1998. № 40) і ў [60, с. 222], дзе слоўнікавыя вышукванні пачынаюцца сказам: «Расейскае *воран* В.Ластоўскі перакладае наступным чынам: ...крук..., крумкач». Дарэчы, нельга кананізаваць слоўнік В.Ластоўскага, бо, як адзначана ў энцыклапедыі «Беларуская мова» [5, с. 288], ён «мае выразны індывідуальна-творчы характар і не прэтэндуе на нарматыўнасць». Складальнік слоўніка кіраваўся прынцыпам: «трэба высцерагацца ўжываць сходныя з суседскімі словы, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але існуюць у здаровай народнай стыхіі».

Вось некаторыя аргументы, якія гавораць на карысць таго, што слова *воран* мае права на жыццё ў нашай мове.

1. Гэта слова, апісанае і ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы», не «расейскае». Яно, як засведчана ў шматлікіх этымалагічных слоўніках (М.Фасмера, М.Шанскага і інш.), агульнаславянскае. Ужываецца яно ва ўсіх сучасных славянскіх мовах, у некаторых узнікла і паралельная назва, у польскай, напрыклад: *kruk* і *wran*, ва ўкраінскай: *воран* і *крук*. Ёсць сугучны адпаведнік у літоўскай мове: *varnas* — «воран». Этымалагічна назоўнік *воран* ставяць у сувязь з прыметнікам *вараны* («чорнай масці»), назву гэта вялікая чорная птушка атрымала па колеры апярэння. У гэта ж этымалагічнае гняздо ўваходзіць і слова *варона* з усімі ўтварэннямі ад яго.

2. «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» (т. 3, с. 79) выкарыстоўвае *крумкач* і *груган*, а *воран* і *крук* характарызуе як «народныя назвы» гэтай жа птушкі. У «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак» (т. 1) на карце № 132 адлюстравана пашыранасць гэтых слоў на тэрыторыі Беларусі: *крумкач* — у 72 абследаваных пунктах, *груган* — у 12, *крук* — у 38, *воран* — у 26. Слова *воран* бытуе ў гаворках многіх раёнаў Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абласцей, Барысаўскага раёна Мінскай вобласці, а таксама ў паўднёвых раёнах Брэстчыны.

3. Усе чатыры словы тоесныя ў сэнсавых і экспрэсіўна-ацэначных узаемасувязях, але аднясенне кожнага з іх да фактаў літаратурнай мовы найперш залежыць ад таго, як часта ўжываецца гэта слова ў пісьмовых крыніцах, пераважна ў маўленні аўтарытэтных аўтараў-літаратараў. Тут можна было б прывесці больш за 20 прыкладаў выкарыстання слова *воран* у мастацкіх творах. Абмяжуемся толькі некаторымі: 1) *Ворану* вышай арла не лятаць (К.Крапіва); 2) Прылятае *воран*, крача... (М.Танк); 3) Над табою *воран* крача... (М.Лужанін); 4) — Апусціліся веі, як *ворана* пяро на снег. — І над хлопцамі *вораны*... (У Караткевіч); 5) Двух варанят нёс *воран* на спіне (Р.Барадулін); 6) У падалі *воран* найперш выклёўвае вочы (У.Паўлаў). А вось два ўрыўкі з нядаўніх вершаў Г.Бураўкіна: 1) Крача *воран*. Чуеш, *воран* крача? Да чаго б яно, браток Рыгор?; 2) Слімак... Богам створан — ніякі *воран* не павінен яго крануць.

Досыць часта *воран* ужываецца са сталым эпітэтам, утвараючы з этымалагічнага гледзішча таўталагічнае спалучэнне; напрыклад: 1) Песня тая чорным *воранам* да весніц прылятае (М.Танк); 2) Чорна *ворана* крыло хмарна неба заняло (А.Вялюгін); 3) Прыдворныя — чорныя, чорныя *вораны* — у рот мне глядзяць аддана (Я.Сіпакоў); 4) Чорны *воран*, белы лебедзь — хто адолее з дваіх? (С.Гаўрусёў); 5) Не для чорных *воранаў* песня салаўя (Л.Геніюш).

4. Слова *воран* выкарыстоўваецца як кампанент іншых моўных адзінак (прыказак, фразеалагізмаў). В.Дунін-Марцінкевіч у п’есе «Сялянка» ўжывае прыказку *Воран ворану вока не выклюе.* Этымалагічна яна калька з лацінскай мовы: *Corvus oculum corwi non cruet*. Ёсць яна таксама ў творах В.Быкава, А.Якімовіча, С.Александровіча і іншых аўтараў. У гэтай паэтычнай мініяцюры бачым своеасаблівую таўтаграму (усе кампаненты пачынаюцца з літары «в»). У гэтым яе перавага над лексічнымі варыянтамі (даслоўна перакладзенай) прыказкі: *Крумкач крумкачу (груган груганy) вока не выдзеўбе.* У форме *Воран ворану вока не клюець (не клюе)* прыказка занатавана ў «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І.І.Насовіча, у «Прыказках і прымаўках Мінскай губерні» (1898) А.Н.Шымаоўскага. Парэміялагічныя зборнікі падаюць і прыказку *Чорнаму ворану мыла не паможа.*

Прыхавалася слова *воран* і ў шырокаўжывальным фразеалагізме *чорны воран* (хутчэй за ўсё, запазычаным з рускай мовы): «Аўтух спярша думаў, што трапіў у страхавіты *«чорны воран»,* пра якога начуўся ў турме і нават раней — на вёсцы» (В.Быкаў).

5. *Воран* — даволі частае слова ў розных жанрах вуснай народнай творчасці — казках, песнях, баладах, загадках. Шэсць загадак (з адгадкай «жук») тыпу «Чорны, ды не *воран*, шэсць ног без капыт, як ідзе, то зямлю рые», змяшчае том «Загадкі» (1972. С. 184-185). Яны запісаныя ў свой час у розных раёнах Беларусі П.Шэйнам, В.Дыбоўскім, М.Федароўскім, Я.Рапановічам.

У томе «Балады» (1978. С. 10) чытаем: «Ляціць *варон* з чужых сторан, маці сына пытае: — Ах ты, *воран*, ах ты, *воран*, ты па свету лятаеш, часта ў палку бываеш, а ці майго сына ў войску відаеш?...»

У беларускай народнай песні «Вол бушуе — вясну чуе» ёсць такія радкі: «*Воран* крача — сыра хоча, дзеўка плача — замуж хоча. Не крач, *воран*, — нажарэшся, не плач, дзеўка, — нажывешся».

6. Пераасэнсаваўшыся, *воран* і вытворныя ад яго словы жывуць у розных уласных назвах. Ёсць астранамічны тэрмін *Воран*, гарадскі пасёлак *Воранава*, *Воранаўскі раён.* У кнізе з нумарамі кватэрных тэлефонаў г. Гродна ёсць шэсць абанентаў з прозвішчам *Воран.*

Як бачым, гэта слова — не «з чужой моўнай практыкі», а наша, спаконвечнае. І яго законнае месца ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы не павінна выклікаць ніякага сумнення.

***Кляваць* і вытворныя ад яго**. У нататцы «Ці можа рыба кляваць?», змешчанай у «Нашым слове» (1992. № 23), (гл. таксама [60, с. 159-160]), даецца адмоўны адказ: ні рыба, ні птушкі не *клююць*; рыба *торкае* і *бярэцца*, а птушка *дзяўбе*. Катэгарычнае сцвярджэнне

падмацоўваецца спасылкай на «Беларуска-рускі слоўнік» (1988-1989). Дадаецца, што ў гэтым перакладным даведніку слова *кляваць* хоць і прыводзіцца, але пазначана паметай «абласное».

Аднак гэта звычайны, відавочны промах слоўніка, бо ў ім *абклёўваць, абкляваць, скляваць*, утвораныя ад *кляваць*, змяшчаюцца на сваіх алфавітных месцах ужо без паметы — як міжстылёвыя, нарматыўныя словы. Да таго ж гэта перавыданне выйшла ў свет пасля ТСБМ (1977 — 1984) і «Слоўніка беларускай мовы» (1987) і чамусьці не ўсюды ўлічыла тое, што ёсць у гэтых нарматыўных даведніках, складзеных на аснове вялізнай картатэкі Інстытута мовазнаўства. А ў ТСБМ апісаны не толькі міжстылёвы дзеяслоў *кляваць* (з пяццю значэннямі), але і такія аднакаранёвыя словы, як *абкляваць, абклёўваць, выклеваць, выклёўвацца, выклёўваць, клёў, клюнуць, расклёўвацца, расклёўваць, раскляваць, склёўванне, склёўвацца, склёўваць, скляваць, скляваны.*

У гэта вялікае лексічнае гняздо слоў уваходзіць і іх несумненны родзіч *клявец* ‘малаток для кляпання кос’: «Скакалі заўзята кляўцы па бабках, адцягваючы вострыя языкі кос» (К.Крапіва). *Клявец* занатаваны ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, с. 75) як аддзеяслоўнае ўтварэнне, а таксама ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (вып. 15, с. 109) з датай першай фіксацыі — 1555 г.

Усе гэтыя 17 слоў аднаго лексічнага гнязда пададзены і ў згаданым акадэмічным СБМ.

У ТСБМ жыццё слоў у мове (у іх ліку дзеяслова *кляваць* і вытворных) апісваецца толькі на аснове картатэчнага матэрыялу, падмацоўваецца адпаведнымі цытатамі. Да іх можна дадаць і яшчэ дзесяткі прыкладаў з твораў Я.Купалы — заснавальніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Паэт 11 разоў ужыў дзеяслоў *кляваць* у двух значэннях: ‘есці ежу дзюбай (пра птушак)’ і ‘біць, ударыць дзюбай, дзяўбці’. Гэта адлюстравана ў «Слоўніку мовы Янкі Купалы. Т. 2» (с. 375). Яшчэ ў 1907 г. у вершы «Гэта крык, што жыве Беларусь» паэт пісаў: «Тут крычаць вераб’і і *клююць* крапіву».

Некалькі прыкладаў з іншых аўтараў. 1) А суніцы ледзь паспелі, іх дразды *скляваць* паспелі (С.Грахоўскі); 2) Груганнё паспела ўжо *раскляваць* раны аж да шыі (К.Чорны); 3) *Клёву* няма. Ды якое рыбацтва пры кампаніі ды гутарцы (В.Адамчык); 4) Я раз — і падсек акунька, а там другога... У мяне *клюе* і *клюе* (В.Шырко); 5) Паплавок замірае на месцы. Так *клюе* і буйны лешч, і буйная плотка, так *клюе* і драбяза (М.Лупсякоў).

Як бачым, клююць і птушкі, клююць і рыбы. *Клюе* (у іншых значэннях гэтага слова) і чалавек: 1) Швагер *клюнуў*, відаць, ніштавата (Я.Брыль); 2) Яго [Васіля] і без цябе *клюе* кіраўніцтва (У.Шыцік).

Насуперак гэтаму, у «Нашым слове» (2000. № 2) гаворыцца: «У беларускай літаратурнай мове няма слова «клюв», таму і не можа быць вытворнага ад яго дзеяслова *кляваць*. Гэта па-руску: *клевать* — ‘есть, хватая пищу клювом’».

Але ж гэты дзеяслоў трапіў у беларускую мову не з рускай, а ад нашых далёкіх продкаў. Ён, як засведчана ва ўсіх этымалагічных слоўніках, у тым ліку і ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, с. 76), — агульнаславянскае слова. Яно ёсць і сёння ва ўсіх славянскіх мовах. І беларуская — не выключэнне. Гэта слова актыўна функцыянуе не толькі ў літаратурнай, але і ў жывой народнай мове. На карце № 92 у «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак» (т. 1) паказана, што дзеяслоў *клююць* (птушкі корм) бытуе ў 85 абследаваных пунктах Беларусі (з 142) — у формах *клююць, клюе, клюець*, а таксма *глююць, глюе* і інш. У старабеларускай мове фіксуюцца *клюватися* ’дзяўбціся’, *клевец*, у слоўніку І.І.Насовіча: *клюванне, клювацьца, клювъ, клюнуцьца, клевецъ.*

Што да рускай мовы, то ніяк нельга сцвярджаць, быццам дзеяслоў *клевать* утварыўся ад назоўніка *клюв*. Гэты назоўнік — уласна рускае слова (яго няма ў іншых мовах). Яно ўтворана, як занатавана ў этымалагічных слоўніках, з дапамогай суфікса -*въ* ад той самай асновы, што *клевъ,* але на іншай ступені чаргавання (-*ев* перад галоснай, -*у* перад зычнай; параўн.: *плевать — плюю*).

Як відаць са сказанага, няма грунту адмаўляць існаванне ў нашай мове дзеяслова *кляваць* ва ўсіх яго пяці значэннях і ўсіх аднакаранёвых вытворных ад гэтага слова. Тут не лішнім будзе і такі ўрывак з «Лірычных запісаў» Я.Брыля. «У Ластоўскага *каменаклёў* — майстар па выклёўванні надпісаў на валунах».

«Руска-беларускі слоўнік» (1953), складзены ў цяжкіх ваенных абставінах і без належнай картатэкі, перакладаў фразеалагізмы, генетычна звязаныя са словам *кляваць*, так: *клевать носом — торкаць носам, куры не клюют — куры не дзяўбуць.* Але гэтыя штучныя нібыта адпаведнікі, не падмацаваныя маўленчай практыкай, не прыжыліся і не маглі прыжыцца ў літаратурнай мове. Тут можна было б падаць 28 ужыванняў *кляваць носам* (у творах М.Чарота, А.Якімовіча, А.Пальчэўскага, Я.Брыля, У.Дамашэвіча, А.Жука і інш.). Вось толькі два прыклады: «... да Сцяпана, які *клюе носам*» (Я.Купала); «Хвядот... толькі чуць прысядзе, дык і *клюе носам*» (Ф.Янкоўскі). Тое самае

можна сказаць і пра *куры не клююць*. У аўтара гэтых радкоў ёсць 13 ужыванняў *куры не клююць* і 2 — *куры не дзяўбуць.*

З кампанентам *клюнуць* жывуць у мове фразеалагізмы *клюнуць на вудачку* (чыю, каго, якую), *смажаны певень клюнуў у азадак* (каго, каму), напрыклад: 1) Не адна ўжо *клюнула на* яго *вудачку*, асабліва зялёныя першакурсніцы (У.Дамашэвіч); 2) Усе вы разумныя, пакуль *смажаны певень* не *клюне* вам... Бачыла я такіх!... (І.Шамякін).

***Гелій, геній, амфібрахій...*** Для студэнтаў нефілалагічных спецыяльнасцей ва універсітэтах яшчэ пакуль што выкладаецца спецыяльная дысцыпліна «Беларуская мова: Прафесійная лексіка». Выкладчыкі часта апынаюцца на ростанях: якіх поглядаў прытрымлівацца пры падачы матэматычных, фізічных, хімічных, анатамічных або іншых тэрмінаў? Ці называць студэнтам тэрміны ў такім афармленні, у якім яны прыводзяцца ў акадэмічных слоўніках, ці лепш карыстацца перакладнымі руска-беларускімі тэрміналагічнымі слоўнікамі, выдадзенымі ў 1993 — 1998 гадах?

Праўда, пры супастаўленні гэтых перакладных даведнікаў можна бачыць досыць часты разнабой. У адных слоўніках раяць ужываць, напрыклад, *стронцый, фермій, палоній, тэхнецый*, у другіх — *стронц, ферм, палон, тэхнец*, у трэціх — *стронт, фэрм, палён, тэхнэт*. Яшчэ ў адным слоўніку гэты разнабой як бы і заахвочваецца, даецца права выбару з двух варыянтаў аднаго, які, на думку самога чытача, «можна лічыць найбольш прыдатным», які найбольш адпавядае «законам нацыянальнай беларускай мовы»: *барый, бар; магній, магнэз; радый, рад*. Тут ужо не дакапаешся да ісціны, тут, як кажуць, сам чорт нагу зломіць.

Амаль у такой сітуацыі аказваюцца і настаўнікі хіміі або фізікі, анатоміі ў тых сярэдніх школах, дзе, можа, яшчэ выкладаюць гэтыя прадметы па-беларуску. Але тут, насуперак рэкамендацыям перакладных слоўнікаў, дзе тэрміны падаюцца і так і сяк або з «правам выбару», у школьных навучальных кнігах цвёрда трымаюцца традыцыі, той нормы, якая замацавалася шматгадовай маўленчай практыкай. У падручніку для 7 класа «Фізіка» (1998) або ў падручніках «Неарганічная хімія» (для 8 класа), «Хімія» (для 9 класа) вучні сотні разоў сустракаюцца з аднастайным напісаннем такіх слоў, як *алюміній, гелій, кальцый, натрый* і інш. У «Хіміі» на с. 140-141 даецца «Перыядычная сістэма хімічных элементаў» Д.І.Мендзялеева, дзе 61 назва мае канцавы *-ій, -ый (берылій, калій, літый, кальцый...).*

Прыхільнікі «абсячэння», «абразання» фінальнай часткі *-ій, (-ый)* у словах тыпу *гелій* матывуюць гэта тым, што яе, апрача рускай мовы, «не маюць іншыя славянскія і неславянскія мовы» і што яна

«беларускай мове неўласціва». Але гэта не зусім так. Фіналь *-ій* шырока выкарыстоўваецца (без навіслай пагрозы ўкарочвання) ва ўкраінскай мове ў хімічных і розных іншых тэрмінах *(гербарій, солярій, епіталій, санаторій* і г.д.), а таксама ва ўласных імёнах (*Андрій, Юрій, Сергій, Олексій* і інш.). У нашай мове ёсць спрадвечна беларускі назоўнік *кій.* І.І.Насовіч падае ў сваім слоўніку таксама незапазычаны, але цяпер ужо ўстарэлы назоўнік *стрый* ('дзядзька па бацькавай лініі') і вытворныя *стрыечка, стрыёк, стрыешны.* У «Матэрыялах...» (1898) Я.Ляцкага фіксуецца фразеалагізм *не стрый дык дзядзька*, аналагічны з выразам *не кіем дык палкай.* Ёсць аднолькавага гучання з займеннікам назоўнік *чый*, якім называюць высокі стэпавы кавыль.

Пакуль што рэфарматары, аўтары некалькіх перакладных даведнікаў, абрэзалі каля сотні хімічных, фізічных, анатамічных тэрмінаў тыпу *алюміній, цэзій, калій*, прычым, напрыклад, з двух першых атрымаліся *алюмін, цэз*, а трэці замест чаканага *кал* ператварыўся ў *каль*. Але ж, апрача іх, у мове ёсць яшчэ вельмі многа слоў з фіналлю *-ій (-ый).* Гэта тэрміны астранамічныя (*афелій, перасяленій),* біялагічныя *(сімподый, пескарый)*, геалагічныя *(алювій, дылювій),* гістарычныя *(карбанарый, патрыцый),* лінгвістычныя *(гласарый, герундый),* літаратуразнаўчыя *(амфібрахій, пірыхій),* медыцынскія *(аэрарый, кантагій),* палеанталагічныя *(дынатэрый, мегатэрый),* палітычныя, тэхнічныя, царкоўныя і яшчэ шмат якія: *дэпазітарый, магналій, вікарый, аграрый, гербарый, дынарый, інструментарый, кафетэрый, кіналекторый, крэматорый, мараторый, планетарый, санаторый* і г.д.

Калі захоўваць сістэмнасць, дык тады ўжо трэба разам з гэтымі словамі ставіць на адну дошку і такія, напрыклад, уласныя імёны: *Авідзій, Вергілій, Гарацый, Лукрэцый, Юлій Цэзар*, хан *Батый*, гогалеўскі *Вій*, вулкан *Везувій, Каспій*, рака *Стрый, Меркурый, Маўрыкій, Лаўрэнцій Зізаній, Андрэй Мрый.* Цікава, як у такім разе паправіць напісанае У.Караткевічам: «Латынь і зараз уплывае на нас творамі Катула і Вергілія, Гарацыя і Авідзія, прымушаючы нас смяяцца і плакаць»?

А як утвараць прыметнікі ад укарочаных тэрмінаў? І гэта часткова ўлічана ў слоўніках, зробленых з мэтай «нацыянальна-культурнага адраджэння». Чатыры прыклады: *гелиевый — гелевы; магниевый — магнэзавы: радиевый — радавы; цезиевый — цэзавы.*

Праўда, нічога не гаворыцца, як павінны паводзіць сябе, не парушаючы сістэмнасці, іншыя словы, утвораныя ад абноўленага, падкарочанага тэрміна. «Слоўнік беларускай мовы» (1987) падае 29 утварэнняў з коранем *гелій* (у грэкаў абазначае 'сонца'): *геліевы,*

*геліёграфы, геліёметр, геліяскоп, геліястат, геліятэрапія, геліяфільны* і інш. Як іх падправіць суадносна з абноўленым «гель» (замест *гелій*)?

Або возьмем словай *геній*. Калі яго абрэзаць паводле прапанаванай методыкі, атрымаецца *ген*. А як будуць выглядаць пасля абнаўлення словы *геніяльны, геніяльнасць*? Ці выразы *добры геній, злы геній*?

Апошнім часам некаторыя выданні, іншы раз папраўляючы аўтара, ужываюць падкарочаныя словы *сцэнар, каментар, крытэр*. А рэцэнзент у часопісе «Полымя» (1998. № 1. С. 246) папракае «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) за тое, што тут ёсць толькі *сцэнарый*, але няма *сцэнар*.

Канешне, калі якое-небудзь абноўленае слова пачне больш-менш актыўна ўжывацца ў маўленні і ў складальнікаў слоўніка назапасіцца шмат пацвярджэнняў гэтаму, яго варта прыводзіць у слоўніку як паралельнае абазначэнне пэўнага прадмета. Дарэчы, у «Слоўніку беларускай мовы» (1987) чытаем: **пралетарый** і **пралетар**; **пралетар** *уст. (=устарэлае)*, часцей **пралетарый**.

Ва ўсіх краінах свету змены ў моўныя нормы ўносяцца не індывідуальна-партызанскім спосабам, не самачынна, а толькі з удзелам шырокай грамадскасці ці на дзяржаўным узроўні. Іначай узнікае хаос, разнабой. А гэта на руку толькі непрыхільнікам беларускай мовы. Асабліва цяпер, калі сфера яе выкарыстання ў грамадскім жыцці звузілася ледзь не да крытычнага мінімуму.

## Правільнасць маўлення: фразеалагічныя нормы

У паняцце фразеалагічнай нормы ўваходзіць правільнасць выбару фразеалагізма, аптымальнасць яго прымянення з захаваннем уласцівых яму асаблівасцей. Маўленчая практыка замацавала за кожным фразеалагізмам пэўнае значэнне ці значэнні, кампанентны склад, структурную арганізацыю, лексіка-граматычную спалучальнасць са словамі ў сказе. Некаторыя фразеалагізмы маюць архаічныя, перажытачныя кампаненты (*напрамілы бог*), спецыфічны націск (*шапкамі закідаць*), своеасаблівую арфаграфію (*збоку прыпёку*) і пунктуацыю (*то бокам то скокам*), якія не падтрымліваюцца сістэмнымі адносінымі мовы. Фразеалагізмам уласцівы «даволі жорсткія ўмовы ўзнаўляльнасці» (Л.І.Скварцоў). Гэтыя выразы ў параўнанні з іншымі моўнымі адзінкамі — «дэспатычна капрызная і няўлоўная рэч» (О.Есперсен).

Складанасць фразеалагізмаў як моўных адзінак, супярэчнасць паміж іх семантычнай непадзельнасцю і расчлянёнай формай, паміж актуальным і этымалагічным значэннем стварае пэўныя цяжкасці пры іх ужыванні і патрабуе добрага валодання іх нормамі.

Назавём найбольш тыповыя адхіленні ад фразеалагічнай нормы, звязаныя з парушэннем правільнасці маўлення (іншыя хібы пры выкарыстанні фразеалагізмаў разглядаюцца ў апісанні дакладнасці, лагічнасці, чысціні, дарэчнасці маўлення).

1. Ненарматыўная спалучальнасць. Каб правільна рэалізаваць фразеалагізм, трэба ведаць яго спалучальныя ўласцівасці, якія даволі часта бываюць вельмі складаныя. Так, выразу *зубы з'еў* ('мае вялікі вопыт, навыкі ў чым-небудзь') уласціва абавязковае суб'ектнае і аб'ектнае акружэнне або семантыка-граматычная сувязь «злева» і «справа»: хто + фразеалагізм + на чым. «Злева» ён спалучаецца з дзейнікам, які абавязкова павінен мець значэнне асобы, а «справа» — з дапаўненнем-назоўнікам, які мае семантыку абстрактнага прадмета. І гэта з'яўляецца нормай для дадзенага фразеалагізма: *Я, малады чалавек, зубы з'еў на гэтых планіроўках* (І.Шамякін).

Будучы структурным элементам сказа, фразеалагізм уступае ў пэўныя сувязі і адносіны з іншымі словамі ці (значна радзей) фразеалагізмамі. У залежнасці ад таго, як ажыццяўляецца гэта сувязь, выдзяляюцца чатыры тыпы фразеалагічных значэнняў: а) адносна свабоднае (напрыклад, у выразе *бабіна лета*), б) сінтаксічна абумоўленае (выразы з гэтым тыпам значэння, назоўнікавыя і прыметнікавыя, выступаюць у сказе пераважна ў ролі іменнага выказніка, радзей звароткa і прыдатка: *як костка ў горле, стрэляны верабей, бяздонная бочка, выяда душы, аршын з шапкай, кату на пяту, лыка не вяжа* і інш.), в) валентна абмежаванае, г) канструкцыйна абмежаванае.

Найбольш часта назіраюцца парушэнні спалучальнасці пры ўжыванні фразеалагізмаў з двума апошнімі тыпамі значэнняў. Так, фразеалагізмы з валентна абмежаваным значэннем нярэдка выкарыстоўваюцца з суправаджальнікам, неўласцівым пэўнаму выразу. Фразеалагізм *душа ў душу* абазначае 'вельмі дружна, у поўнай згодзе' і ўступае ў сувязь толькі з дзеясловамі *жыць, пражыць, зажыць*. Выкарыстанне гэтай фразеалагічнай адзінкі з якім-небудзь іншым дзеясловам-суправаджальнікам змяняе яе семантыку, надае фразеалагізму іншы, ненарматыўны сэнс: 1) Мы з ім сышліся душа ў душу (І.Грамовіч); 2) Не, не можа яна паехаць, не дачакаўшыся Сяргея, не пагаварыўшы з ім душа ў душу, не паглядзеўшы яму ў вочы (І.Стадольнік).

Аўтар артыкула пра культуру маўлення сцвярджае, што выраз *на ўласныя вочы* ўступае ў лексіка-граматычную сувязь толькі з дзеясловам *убачыць*, а таму лічыць, што ў сказе *Я на ўласныя вочы пераканаўся, што на маёй Радзіме шмат перамен*, ёсць парушэнне літаратурнай нормы. На самай жа справе гэты фразеалагізм (гл. «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І.Я.Лепешава, т. 1, с. 193) нарматыўна ўступае ў кантакт з такімі дзеясловамі-суправаджальнікамі: *бачыць (убачыць), пераконвацца (пераканацца), упэўнівацца (упэўніцца)*.

Канструкцыйна абмежаванае значэнне фразеалагізма заўсёды рэалізуецца толькі ў строга акрэсленай канструкцыі. Фразеалагізмы з гэтым тыпам значэння маюць абавязковую спалучальнасць «справа». Самастойна, толькі сваім кампанентным складам яны не могуць праявіць свайго рэчыўнага значэння і не ўжываюцца без аб'ектнага акружэння: *насіць на руках* (каго), *віць вяроўкі* (з каго), *да лямпачкі* (каму што), *увесці ў вушы* (каму што).

Вось толькі некалькі прыкладаў з няправільным ужываннем фразеалагізмаў, якія маюць валентна абмежаванае або канструкцыйна абмежаванае значэнне (пра іх нарматыўную спалучальнасць гл. пры неабходнасці ў ФСБМ): 1) На рабоце Зоя Сцяпанаўна ставіць сваіх настаўнікаў *ні за панюх табакі*, не лічыцца з іх думкамі і меркаваннямі; 2) У школу пойдзеш, на *аршын з шапкай* вымахаў, хоць у трэці аддавай; 3) Выручка ў буфеце — *кот наплакаў*; 4) Ён прайшоў шафёрскія курсы і пачаў жыць сам сабою. Як бы *ўвесь свет* яму *сышоўся клінам* у аўтамабільным механізме; 5) Чамусьці не *ляжыць душа* ісці сярод ночы да магазіна.

2. Падмена фразеалагічнага кампанента іншым словам. Гаворачы пра фразеалагізмы, К.Чукоўскі адзначае: «Канструкцыі гэтыя надзвычайныя тым, што яны заўсёды застаюцца непарушнымі, не падлягаюць абнаўленню. Замест «зарубіць на носе» нельга сказаць «зарубіць на падбародку», «зарубіць на шчацэ» і г.д. І замест выразу «грошай у яго і куры не клююць» было б дзіка сказаць у размове: — Грошай у яго і гусі не клююць» [63].

Аднак пры няведанні ці слабым веданні фразеалагічнай нормы іншы раз падмяняюць стабільны кампанент прыблізным, часта недарэчным словам.

Ёсць фразеалагізм *сэрца крывёй абліваецца* (чыё, у каго), але часам, насуперак яго ўнутранай логіцы, замест *крывёй* пішуць *слязьмі*: 1) Бывала, пагляджу, як ты, падшыванец, ростам з гарохавы стручок, поўныя мажы снапоў з поля вязеш... у мяне, паверыш, сэрца

*слязьмі* абальецца; 2) Сэрца *слязьмі* абліваецца. Вы паспрабуйце самі хоць тыдзень пражыць без работы.

Пра сэнс і гісторыю ўзнікнення фразеалагізма *пракрустава ложа* ведаюць, бадай, усе, пачынаючы са школьнікаў. Першы (прыметнікавы) кампанент не ўжываецца па-за межамі фразеалагізма. У акадэмічным ТСБМ на сваім алфавітным месцы пададзена так: «Пракрустаў, -ава; у выразе: *пракрустава ложа, гл.* ложа». А ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (1984. 22 чэрв.) чытаем: «Памеры для перыёдыкі — усё ж не тое, каб *пракруставы межы*, але... Толькі б пагаварыць, а тут закругляцца трэба».

У нашай мове, як і ў шмат якіх іншых, ёсць фразеалагізм *шостае пачуццё* — калька з французскай (*sixieme sens*) або англійскай (*sixth sense*) моў. Ён абазначае ‘здольнасць інтуітыўна ўспрымаць, прадбачыць, угадваць што-небудзь’. І яго выток, здаецца, зразумелы: чалавек і вышэйшыя жывёлы ўспрымаюць з’явы навакольнага асяроддзя з дапамогай пэўных органаў пяці пачуццяў — зроку, слыху, нюху, смаку, дотыку. Выразам *шостае пачуццё* назвалі інтуіцыю — як бы дапаўненне да гэтых пяці пачуццяў. Першы (лічэбнікавы) кампанент фразеалагізма не можа быць заменены ніякім іншым. Але супаставім надуманую, памылковую, нелагічную замену ў такіх кантэкстах: 1) «Не! Нешта тут не так», — *сёмым* пачуццём Аляксандр адчуваў, што ўсё тут намнога складаней (Т.Дубоўская); 2) Пуол вышмыгнуў за дзверы. Ён нейкім *дзесятым* пачуццём улавіў: гэта той Яго Вялікасці Выпадак, які трэба хапаць за хвост (П.Місько); 3) Тэмпературу Люба не мерала, нейкім *дзесятым* пачуццём адчуваючы, што прастуда тут ні пры чым (Т.Бондар); 4) *Сёмым* пачуццём адчуваю — наслалі на мяне бяссілле і ніякіх іншых прычын не можа быць (А.Казлоў); 5) Люба нейкім, як кажуць, *сёмым* пачуццём адчувала, што размова Ашота па тэлефоне будзе тычыцца яе (В.Праўдзін); 6) — Ты ўпэўнены, што хочаш са мной гаманіць? — раптам перайшла на «ты» Саня, нейкім *сёмым* пачуццём адчуўшы, убачыўшы тую глыбіню пакут, з якой імкнуўся выбрацца Стас (Т.Бондар).

У складзе выразу *адным мірам мазаны* (‘вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-небудзь адносінах, з аднолькавымі недахопамі’) ёсць царкоўнае слова *міра*, якім называюць духмяны алей для хрысціянскага абраду памазання. У часе хрышчэння, перад смерцю і ў некаторых іншых выпадках робіцца крыжападобнае мазанне мірам. У супярэчнасці з генетычнай асновай гэтага фразеалагізма знаходзяцца такія памылковыя ўжыванні: 1) Начальства ўсё адным *маслам* мазанае (М.Машара); 2) Усе яны такія, адным *помазам*

мазаныя (І.Чыгрынаў); 3) Яна ўпэўнена, што ўсе яны адным *мёдам* мазаныя, і гэта звычайная барацьба за ўладу, як у любым калектыве (Н.Маеўская).

Яшчэ некалькі прыкладаў з парушэннем нормы (падменены кампанент падаецца курсівам): 1) Давялося ладзіць прыём напоўніцу, па ўсіх правілах і на шырокую *руку*; 2) Што ўцякаеш ад мяне як *вару* ўхапіўшы?; 4) Мы *першай* пробы на зямлі гаспадары!; 4) Ты непазбежны быў, як свежы ранак, каб не разменьваць *чыстай* пробы дні на медзякі парожняй мітусні, — лунаць у гуле перуноў, маланак.

У.Дамашэвіч у артыкуле «Кніга павінна ачышчаць нашу мову» (ЛіМ. 2004. 2 крас.) сцвярджае, што *на языку* — «гэта беларуская форма рускага *на слыху*, што [без патрэбы] ужываецца цяпер у нашай прэсе». Але гэта не зусім так. Па-першае, абодва выразы агульнаўсходнеславянскія (рус. *на языке, на слуху;* укр. *на язиці, на слуху*). Па-другое, *на языку* і *на слыху* — не сінонімы, не тоесныя выразы. Першы (*на языку* ў каго) мае два значэнні: 1) гатова сказацца, быць вымаўленым; напрыклад: «І ў кожнага на языку: «Што, што там, за лесам?» (Б.Сачанка); 2) пастаянна паўтараецца, абмяркоўваецца што-небудзь: «Такое пытанне, мусіць, у кожнага калі не на языку, то ў галаве...» (І.Мележ). Другі выраз (*на слыху* ў каго) абазначае 'пастаянна вымаўляецца кім-небудзь, мае шырокую вядомасць, папулярнасць': 1) Цяпер на слыху ў газет і крытыкаў Ганна Ахматава, Пастэрнак, Мандэльштам, Бродскі і г.д. (П.Панчанка); 2) А зусім нядаўна яго імя было ва ўсіх, як гэта кажуць, на слыху (Л.Арабей); 3) Верш амаль у кожнага, што называецца, на слыху (В.Зуёнак).

3. Скажэнне структуры фразеалагізма. Як вядома, фразеалагізмы падзяляюцца на тры структурна-граматычныя разнавіднасці: фразеалагізмы-словазлучэнні (*абіваць парогі, белая варона*), фразеалагізмы-сказы (*кот наплакаў, мора па калена*), фразеалагізмы-спалучэнні (*не ў галаве, ні даць ні ўзяць*). Кожная разнавіднасць характарызуецца некалькімі структурнымі тыпамі, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на шэраг структурных мадэляў. За кожным фразеалагізмам замацавалася свая структура. Яна на ўзроўні нормы такая ж устойлівая і нязменная, як, скажам і семантыка фразеалагізма.

У маўленні, аднак, беспадстаўна парушаюць структуру фразеалагізма. У «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча (1874) падаецца выраз *збор-дружына*, структурна арганізаваны як спалучэнне двух назоўнікаў у форме назоўнага склону; у такім афармленні фразеалагізм ужываецца і цяпер (напрыклад, у творах Л.Калюгі, А.Карпюка, П.Місько, А.Васілевіч), але падчас яго структура

скажаецца, ён ператвараецца ў *збор дружыны,* выклікаючы недарэчную асацыяцыю, відаць, з піянерскай дружынай: 1) Збор дружыны, а не войска; 2) Праўда, кадравых рабочых — кот наплакаў. Усё больш — збор дружыны.

Скажэнні структурнай схемы фразеалагізмаў разнастайныя. Так, трохкампанентная структура замяняецца двухкампанентнай і наадварот; ужываюць, напрыклад, *чорта два* замест *чорта з два*; *браць сэрца* замест *браць за сэрца.*

Часам некаторыя аўтары не зважаюць на канстантнасць фразеалагічнай формы, перадаюць яе прыблізна, нібы пераказваюць сваімі словамі. Так, ужываюць *як нажом паласнуць па сэрцы* пры норме *(як) нож у сэрца (*каму*); між трох сосен заблытацца* замест *заблудзіць у трох соснах*; *дзе Макар цялят пасе* пры норме *куды Макар цялят не ганяў*; *збух-тарарах* замест *з бухты-барахты.*

«Сама трансфармацыя фразеалогіі носіць падчас эстэтычна бястактны характар, які мяжуе з парушэннем логікі і сэнсу выслоўя» [20, с. 24]. З фразеалагічнымі кампанентамі, якія, як вядома, дэактуалізаваліся і не маюць самастойнага лексічнага значэння, іншы раз абыходзяцца як са звычайнымі словамі. Расчляняюць, напрыклад, фразеалагізм *настаўляць рогі* 'здраджваць мужу' так, што яго асобны кампанент-назоўнік паясняецца даданай азначальнай часткай: «Хацела б паглядзець на тыя рогі я, што настаўляе жоначка яму!». Што ў гэтым выпадку абазначаюць *рогі* і як на іх можна паглядзець? Параўн. яшчэ: «Быў цяжкі, быў трудны, быў горкі той крыж, які Вы неслі...»; «Ён пераступіў ужо мяжу пенсійнага ўзросту, але не збіраецца спачываць на лаўрах, здабытых за чвэрць веку нязменнага кіраўніцтва гаспадаркай». Якое значэнне атрымалі *крыж* і *лаўры*, паяснёныя даданай часткай ці дзеепрыметнікавым словазлучэннем, — састаўныя элементы сэнсава непадзельных фразеалагізмаў *несці крыж* 'цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці' і *спачываць на лаўрах* 'бесклапотна праводзіць час'?

Яшчэ прыклад: «Дыялектычная складанасць жыццёвых вузлоў не дае магчымасці, як таму Гордзію, секчы іх адным махам». Тут можна было б лічыць удалым расчляненне выразу *секчы гордзіеў вузел*, калі б не пярэчыла этымалогія гэтага фразеалагізма: выходзіць, што не Аляксандр Македонскі, а Гордзій, які завязаў заблытаны вузел, сам жа і рассек яго.

4. Пашырэнне кампанентнага складу. Далучэнне да фразеалагізма ці ўключэнне ў фразеалагізм якога-небудзь слова часам выкарыстоўваецца як мэтанакіраваны мастацкі прыём. Усякае іншае, немэтанакіраванае пашырэнне кампанентнага складу, а

значыць, і змяненне яго нарматыўнай структуры трэба кваліфікаваць як парушэнне правільнасці маўлення. Так, фразеалагізм *лыка не вяжа* (‘такі п’яны, што ледзьве гаворыць’) выкарыстаны з уключэннем у яго кампанентны склад слова *языком*, спараджае бяссэнсіцу: «І лыка языком не вяжа, а граззю кожнага абмажа». Гэтак жа нелагічна ўвядзенне слова *зялёным* у фразеалагізм *галава пайшла кругам* (‘хто-небудзь страціў здольнасць цвяроза разважаць’): «У твар — сасонак маладых паўкруг. І галава пайшла зялёным кругам». У адным вершы так выкарыстоўваецца выраз *наламаць дроў*: «Ты, рэўнасць мая, па вясне яловых дроў наламала». Дастаткова накласці на фразеалагізм яго нарматыўнае значэнне ‘нарабіць грубых памылак’, як стане відавочным, што слова *яловых* тут лішняе, недарэчнае.

Пярэчыць разумнаму сэнсу ўскладненне словам *варожы* фразеалагізма *лезці на ражон*: «Ды ці варта на варожы лезці з дурасці ражон».

Часам далучаюць да назоўнікавага кампанента злучальнай сувяззю яшчэ адзін назоўнік. Як вынік, узнікае сэнсавая таўталогія або разбураецца фразеалагізм: *трымаць язык* і слова *за зубамі*, *адводзіць душу* і сэрца, *не знаходзіць сабе* ні *месца*, ні занятку і інш.

Даволі пашыраная памылка — ужыванне пры фразеалагізме спалучэння *ледзь не*, у выніку без патрэбы актуалізуюцца кампаненты фразеалагізма, і ён у спалучэнні з *ледзь не* ‘амаль’ перастае абазначаць тое, што павінен абазначаць. *Кусаць сябе за локці* — гэта ‘горка шкадаваць аб чым-небудзь няздзейсненым, непапраўна страчаным’; параўн. яго ўжыванне з *ледзь не*: «Потым шкадаваў Яўген, ледзь не кусаў сябе за локці, але было позна». Аналагічныя адмоўныя вынікі атрымліваюцца і тады, калі пры фразеалагізме ставіцца часціца *як (як бы, быццам, нібы, нібыта)*, якая паказвае на няпэўнасць, умоўна-ўяўную дапушчальнасць выказвання: «Зазыба цяпер бачыў Драніцу нібыта наскрозь»; «Тут лірыка нібы за вушы прыцягнута». Ва ўсіх шматлікіх падобных выпадках спалучэнне *ледзь не* і часціца *як* лішнія, непатрэбныя.

5. Кантамінацыя фразеалагізмаў. Кантамінацыя, або зліццё аб’яднанне двух фразеалагізмаў у адзін, павінна разглядацца па сваёй рэзультатыўнасці па-рознаму, траяка. Па-першае, зрэдку яна выступае як адзін з працэсаў утварэння новых фразеалагізмаў: *стрэляны верабей* + *стары воўк* = *стрэляны воўк*. Па-другое, яна часам выкарыстоўваецца як індывідуальна-аўтарскі стылістычны прыём, як сродак стварэння камізму ці іншых эфектаў (*хоць бы што* + *і ў вус не дзьме* = *хоць бы ў вус; недзе ўпасці яблыку* + *яблык разладу* = *недзе ўпасці яблыку разладу*): «І шанцуе ж чалавеку... аграбае сабе

грошы, і хоць бы ў вус» (М.Лынькоў); «Хутка чалавецтва на зямлі падвоіцца, недзе будзе ўпасці яблыку разладу» (П.Панчанка). Патрэцяе, кантамінаваныя ўтварэнні — гэта часцей за ўсё нематываваныя адступленні ад нормы.

Як несвядомае і беспадстаўнае змешванне двух фразеалагізмаў варта кваліфікаваць, напрыклад, такія кантамінаваныя наватворы: *як гром на галаву (як снег на галаву + як гром з яснага неба), абвесці вакол носа (абвесці вакол пальца + вадзіць за нос), законы па вадзе віламі пісаны (закон не пісаны + віламі па вадзе пісана), усплываць на чыстую ваду (усплываць на паверхню + вызводзіць на чыстую ваду), на цугундар ды на сонейка (браць на цугундар + за вушка ды на сонейка)* і г.д. Больш падрабязна спынімся на трох прыкладах.

Адзін матэрыял, змешчаны ў газеце «Народная воля» (1998. 11 лют.), мае надрукаваны буйнымі літарамі загаловак *Рана біць у фанфары.* Тут сутыкаемся з фразеалагічным гібрыдам, нічым не апраўданым аб'яднаннем, зліццём двух выразаў у адзін: *біць у літаўры* + *трубіць у фанфары*. Абодва выразы сінанімічныя і абазначаюць 'празмерна хваліцца чым-небудзь'. Фанфарай называюць, як вядома, медны духавы інструмент у выглядзе падоўжанай трубы. Ніхто ніколі не б'е ў фанфары (у прамым значэнні гэтых слоў), у іх толькі трубяць.

Крыху падобную кантамінацыю, зліццё частак двух фразеалагізмаў, толькі аднаго — рускага (*кишка кишке кукиш кажет*), а другога — беларускага (*кішкі марш іграюць*), знаходзім у рамане Л.Дайнекі «Людзі і маланкі»: «Праскоўя на фабрыцы працуе, трохі зарабляе, ды я свой салдацкі паёк прыношу. Перабіваемся. Як кажуць: *кішка кішцы марш іграе*». Тут яшчэ ёсць і стылеўказальная ці засцерагальная агаворка «як кажуць», але менавіта *так* не кажуць ні ў літаратурным, ні ў дыялектным маўленні.

А.Звонак у вершы «Беларускія жанчыны» піша: «Гэта ваша бессмяротнасць увасоблена ў Харужай, з вашай мужнасцю Мазанік *меч дамоклаў узняла*!» Тут, з парушэннем элементарнай логікі, аб'яднаны два сэнсава несумяшчальныя фразеалагімы: *узняць меч* ('выступіць са зброяй супраць каго-небудзь') і *дамоклаў меч* ('пастаянная нябеспека, неадступная пагроза').

Непасрэднае дачыненне да правільнасці маўлення мае пытанне аб правамернасці існавання і выкарыстання таго ці іншага фразеалагізма ў літаратурнай мове. Гэта пытанне сёння надзвычай актуальнае, бо ў апошнія гады асобныя «наватары» даволі актыўна выступаюць у друку з моўнымі папраўкамі разнастайнага характару, адкідваюць шматлікія выразы, словы, сінтаксічныя канструкцыі, якія

трывала прыжыліся ў маўленні, замацаваліся маўленчай практыкай, сталі прывычнымі, усведамляюцца як правільныя, нарматыўныя. А пачалося гэта, бадай, ці не з паракладнога даведніка З.Санько «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем» (1991).

Складальнік слоўніка пры падборы фразеалагічных адпаведнікаў не размяжоўвае агульнанародныя, літаратурныя і вузкамясцовыя, дыялектныя выразы. Ён бярэ фразеалагічны матэрыял не з картатэкі, якая шматлікімі прыкладамі пацвярджае жыццё пэўнага выразу ў мове, і не з нарматыўных слоўнікаў, а, як сказана ў прадмове, з запісаў фалькларыстаў, часткова з мастацкай літаратуры, а таксама «ад сваіх бацькоў» і не зважае на тое, ці мае гэты выраз устойлівасць і ўзнаўляльнасць на агульнамоўным узроўні. З прыкладна 870 фразеалагізмаў, вынесеных у загалоўкі, не менш як чацвёртая частка прыпадае на выразы, якім складальнік беспадстаўна надае статус рускага першародства. Адпаведна адмаўляецца існаванне аднолькавага ці блізкага гучаннем беларускага фразеалагізма. Напрыклад, няма ніякіх падстаў не лічыць беларускімі такія фразеалагізмы: *аршын з шапкаю, без задніх ног, як снег на галаву, валіцца з ног, узяць за жабры, віляць хвастом, віць вяроўкі, ганяцца за двума зайцамі, даць дуба, жаваць жвачку, задзіраць нос, ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі.*

Нельга выкідаць з мовы тое, што ўсталявалася ў ёй, ужыванне чаго можа быць падмацавана дзесяткамі апраўдальных цытат і не парушае нашых моўных законаў. Тое, што, напрыклад, выразы *ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі* даўным-даўно сталі нарматыўнымі адзінкамі беларускай літаратурнай мовы, можна пацвердзіць больш як 70 ілюстрацыйнымі прыкладамі з нашай картатэкі. Так, В.Дунін-Марцінкевіч аж 4 разы выкарыстаў фразеалагізм *памінай як звалі*, у тым ліку ў вершаванай аповесці «Халімон на каранацыі»: «Я хваць за талакно! Памінай як звалі!»

Выразы *памінай як звалі, ні рыба ні мяса* занатавалі ў жывой народнай мове Я.Чачот, І.Насовіч, М.Федароўскі. Гэтыя фразеалагізмы, а таксама *мець зуб* даюцца ў нашых акадэмічных слоўніках — тлумачальным, беларуска-рускім, руска-беларускім. Дарэчы, выраз *ні рыба ні мяса* трапіў у беларускую мову як калька з нямецкай мовы (*nich Fisch nich Fleisch*), дзе склаўся ў перыяд Рэфармацыі (XVI ст.), а выраз *мець зуб* — калька з французскай мовы (*avoir une dent*). Гэтыя фразеалагізмы, як і сотні іншых, сталі міжнароднымі. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца

толькі гучаннем, кампанентным складам, а ў роднасных мовах супадаюць і гучаннем.

Як паказалі даследаванні Э.Саладухі і Ю.Саладуба, у любой развітай літаратурнай мове больш як трэцяя частка ўсяго фразеалагічнага фонду прыпадае на калькі і паўкалькі. Перафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы. Вось толькі некалькі скалькаваных выразаў: *божая кароўка, вадзіць за нос, востры на язык* — з французскай, *браць быка за рогі* — з іспанскай, *асінае гняздо* — з англійскай, *скура ды косці* — з лацінскай, *ні богу свечка ні чорту качарга* — з польскай мовы.

У слоўніку З.Санько вельмі многія з падобных скалькаваных фразеалагізмаў (напрыклад, *делать из мухи слона* — з грэчаскай, *как на иголках* — з нямецкай, *на седьмом небе* — з французскай мовы) прызнаюцца, відаць, як рускія, і аўтар падбірае да іх беларускія адпаведнікі, хоць на самай справе такія выразы павінны перакладацца паслоўна.

Спынімся яшчэ толькі на двух выразах. Ёсць у беларускай мове фразеалагізм *у імгненне вока,* зафіксаваны ўсімі нашымі слоўнікамі. Ён ужываўся ў нас яшчэ ў XVI ст., напрыклад у «Катэхізісе» С.Буднага, і, магчыма, трапіў у рускую мову (*в мгновение ока*) як паўкалька з беларускай. У слоўніку ж З.Санько гэтага фразеалагізма не знойдзем, тут даецца *в мгновение ока* з такімі аналагамі: *вокам маргнуць, як змаргнуць, на вокамгненні, як у воку мгнене, як га.*

У Я.Купалы ёсць верш «Не ўсе дома», дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня камедыі «Паўлінка» гаворыць: «У Якіма *не ўсе дома*, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат». У Я.Коласа знаходзім: «Сам жа рэдактар для іх быў чалавекам, у якога *не ўсе дома*». Не цураліся агульнавядомага выразу *не ўсе дома* К.Крапіва, Р.Мурашка, І.Мележ, Р.Барадулін і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, украінскай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове зафіксаваны ўжо ў XVI ст. У слоўніку ж З.Санько выраз *не все дома* кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор беларускіх эквівалентаў, сярод якіх, зразумела, няма *не ўсе дома.* Выходзіць, і Я.Купала, і Я.Колас памыляліся, калькавалі фразеалагізм, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Нападкі на беларускія фразеалагізмы актыўна здзяйсняе і П. Сцяцко як у сваіх выдадзеных у Гродзенскім універсітэце дзвюх кніжках, так і ў шматлікіх публікацыях. Асабліва ў газеце «Наша слова», дзе ён пад агульнай назвай «З чужой моўнай практыкі» рэгулярна выступае з моўнымі папраўкамі разнастайнага характару.

Дастаецца і фразеалагізмам. І яны трапляюць пад татальную рэвізію мовы.

Пра выраз *драць (задзіраць) нос* сказана, што яго варыянт *драць нос* «механічна перанеслі ў беларускую частку з расейскай (гэта асабліва практыкавалася ў 80-х гадах)». Па-беларуску гэты выраз, паводле П.Сцяцко, павінен выглядаць так: *задзіраць нос*. Але гэта няпраўда. Абодва варыянты не «механічна перанесены з расейскай», а жывыя адзінкі народнай мовы. Яны фіксуюцца ў слоўніках народнай фразеалогіі Г.Юрчанкі, Е.Мяцельскай і Я.Камароўскага. Параўн. таксама ва ўкраінскай мове: *дерти (задирати) носа.* Як складальнік двухтомнага «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» (1993), я маю ў сваёй картатэцы 45 ужыванняў выразу *драць (задзіраць, задраць) нос*. Сярод іх 11 — *драць нос*. Каго-каго, а Ф.Багушэвіча ўжо ніяк нельга абвінавачваць у імкненні, як дзесяткі разоў паўтарае П.Сцяцко, «зліць мовы», «падагнаць пад усесаюзны стандарт» і г.д. Паэт, які заклікаў шанаваць і «не пакідаць мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі», у вершы «Ахвяра» пісаў: «Перад меншым я *носу* не *драў...*» Варыянт *драць нос* тройчы ўжыў К.Крапіва, двойчы — В.Шырко, па адным разе — І.Мележ, В.Гарбацэвіч, Р.Сабаленка, П.Місько, Н.Рыбак.

У нашай мове ёсць дзеяслоўныя фразеалагізмы *складваць рукі, сядзець склаўшы (злажыўшы) рукі* і прыслоўны *склаўшы (злажыўшы) рукі.* У маёй картатэцы адпаведна 12, 43 і 24 іх ужыванні з твораў такіх аўтарытэтных аўтараў, як Я.Купала, Я.Колас, Ц.Гартны, П.Галавач, М.Зарэцкі, К.Чорны, К.Крапіва, З.Бядуля, М.Лынькоў, І.Мележ і інш. Усе тры выразы фіксуюцца ў слоўніках як літаратурная норма. А П.Сцяцко імкнецца пераканаць чытача, што *(сядзець) склаўшы (злажыўшы) рукі* «амаль даслоўна» пераклалі з адпаведнага «расейскага ўстойлівага спалучэння» і што замест *склаўшы рукі* трэба ўжываць «сваё адмысловае выслоўе *згарнуўшы рукі*». Прыводзяцца і нібыта аргументы: ім, маўляў, «вельмі актыўна карыстаюцца ў гаворках Зэльвеншчыны» (даецца прыклад з роднай вёскі Грабава). І яшчэ аргумент: «Карыстаецца гэтым фразеалагізмам і класік нашай літаратуры, выбітны майстра мастацкага маўлення Кузьма Чорны: «*Я не сядзеў тады на камені, паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі*». Але ж у гэтым прыкладзе фразеалагізмам і не пахне, тут усе словы свабоднага ўжывання. А што да К.Чорнага, дык ён у творах «Семнаццаць год», «Вясна» і інш. ужывае толькі *склаўшы рукі.* Вось такія пірагі. Да таго ж *згарнуць рукі* ў беларускай мове мае значэнне зусім іншае — ‘памерці’: «Матка ў марцы й ручанькі згарнула»

(Ф.Багушэвіч); «Вось леташняй вясною малады яшчэ чалавек і — рукі згарнуў. Нейкі бежанец з-пад Гродна» (А.Якімовіч).

*Чорным па белым, хадзячая энцыклапедыя* ёсць у беларускай, рускай, украінскай (*чорним по білому, ходяча енциклопедія*), некаторых іншых мовах. Прыйшлі гэтыя выразы з французскай мовы, першы — як калька, другі — як паўкалька. Толькі ў такой традыцыйнай форме іх і ўжываюць шматлікія аўтары (К.Крапіва, М.Лынькоў, М.Танк, Б.Сачанка і г.д.). У 1918 г. В.Ластоўскі пісаў: «Трэба гэта даказаць *чорным па белым…*» На аснове гэтых ужыванняў выразы трапляюць у слоўнікі і кадыфікуюцца як норма. П.Сцяцко ж хоча абеларусіць гэтыя фразеалагізмы. Не маючы канкрэтных пашпартызаваных моўных пацвярджэнняў, ён спасылаецца на абстрактнага беларуса: «Беларус кажа: *жывая энцыклапедыя*» (а не *хадзячая*), «у жывой мове бытуе натуральная сінтаксічная структура *чорным на белым*». Вось ужо сапраўды, як пісаў Салтыкоў-Шчадрын, нішто не акрыляе так фантазію, як адсутнасць фактаў.

*На самай справе, у чым справа* — гэта, паводле П.Сцяцко, выразы, скалькаваныя слоўнікамі 60 — 80 гадоў «з чужой моўнай практыкі». Грунтам для такіх сцвярджэнняў стала тое, што ў «Руска-беларускім слоўніку» (1953) *в самом деле* перакладалася адпаведнікам *сапраўды.*

Але, па-першае, ці варта ўвесь час абапірацца на РБС-53 як на бясспрэчны аўтарытэт? Калі падумаць, дык пры чым тут гэты слоўнік? Ён жа перакладны даведнік, разлічаны на перакладчыкаў з рускай мовы. Руская частка ў ім нарматыўная, а беларуская — гэта падбор больш-менш дакладных адпаведнікаў. Многія сучаснікі не ведаюць, што ён укладаўся ў цяжкіх ваенных умовах і ў першыя пасляваенныя гады і што ў складальнікаў і рэдактараў не было пад рукамі ні картатэкі, ні даведачнай літаратуры. А без шматтысячнай картатэкі з ілюстрацыйным матэрыялам як асновы любога слоўніка, перакладнога і тлумачальнага, цяжка пазбегнуць памылак. І іх там хапае. Напрыклад, рускі назоўнік *кожимит* (утварэнне ад «имитация кожи») пераклалі адвольна, штучна, без апоры на маўленчую практыку і з парушэннем яго этымалагічнай матывацыі: *скураміт.*

Па-другое, пералічаныя вышэй выразы — не «з чужой моўнай практыкі». Яны ўвайшлі ў сучасныя слоўнікі як норма, бо сталі неаспрэчным фактам мовы. А ўжываліся гэтыя выразы і да «зліцця моў» — у 20-я гады; напрыклад, *на самай справе* — у творах П.Галавача, Ц.Гартнага, а *ў чым справа* двойчы выкарыстаў Я.Купала ў п’есе «Тутэйшыя» (1922).

Па-трэцяе, лексічны і фразеалагічны склад мовы ўвесь час развіваецца, папаўняецца новымі словамі і выразамі, у тым ліку і за кошт запазычанняў з іншых моў. Існуе агульная для ўсіх моў і прызнаная ўсімі заканамернасць: «Літаратурная мова, нават калі яна засноўваецца на якім-небудзь адным дыялекце, ніколі не застаецца тоеснай апошняму, а развівае свае ўласныя рысы — у галіне фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу і слоўніка» (Р.Оці) [13, с. 27].

Выразы *па праву, больш таго,* канешне ж, запазычаныя з рускай мовы. П.Сцяцко абеларушвае іх, замяняе, падрабляе: «*справядліва, па справядлівасці, заслужана*, а не *па праву*», «*больш за тое, яшчэ больш*, а не *больш таго*». Але ж яны замацаваліся ў маўленні, перад імі не паставіш жалезабетонную заслону накшталт Берлінскай сцяны. І сілком іх не выганіш, не навяжаш замест іх іншыя заменнікі. Менавіта гэтак пісалі ці пішуць не абы-якія аўтары, а Я.Брыль, В.Быкаў, В.Вітка, А.Вярцінскі, Ц.Гартны, У.Караткевіч, К.Крапіва, Я.Лёсік, Х.Шынклер і інш. Да таго ж, напрыклад, выраз *па праву* мае не адно, а тры значэнні, да якіх аніяк не падыходзяць прапанаваныя словы-заменнікі «справядліва, заслужана». Першае (абсалютыўнае) — 'законна, з поўнай падставай (лічыцца, называць, прызнаваць, рабіць і пад.)': «Панчанка *па праву* ўваходзіць у кагорту тых, хто рыхтаваў перабудову» (А.Вярцінскі). Другое (*па праву* каго) — 'у якасці каго- ці на становішчы каго-небудзь': «У кабінеце, побач з Альшэвічам, шафёрам, сядзеў, *па праву* старэйшага, Хоміч» (Я.Брыль). Трэцяе (*па праву* чаго) — 'на падставе чаго-небудзь, абапіраючыся на што-небудзь': «Да гэтага часу ты валодаў мною *па праву* штыка і нагайкі» (Я.Лёсік); «Я гэтыя словы *па праву* сілы кідаю пад ногі...» (У.Караткевіч).

Яшчэ на адным выразе варта спыніцца больш падрабязна.

«*Па шчупаковай волі* — а не *па шчупаковаму загаду*», — устанаўляе норму П.Сцяцко і іранізуе наконт *па шчупаковаму загаду*: «Якая штучнасць?! Нібы шчупак піша загады?» Але калі звярнуцца да рускай народнай казкі, адкуль паходзіць гэты выраз («по щучьему велению»), дык іронія тут залішняя. Да таго ж для шматлікіх фразеалагізмаў з нерэальным вобразам у іх аснове знешняя нелагічнасць — звычайная рэч: *кот наплакаў, і куры не шэпчуць, сабакам сена касіць, выдраць лысаму валоссе, грушы на вярбе, ад яйка адліць, смаловы дуб, голаму за пазуху.*

Пра пошукі фразеалагічнага адпаведніка да памянёнага рускага выразу ўжо не раз пісалі ў друку, асабліва Ф.Янкоўскі. У «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І.І.Насовіч занатаваў тоесны выраз *на шчупакова казанне.* Гэты ж выраз апісаў Ф.Янкоўскі [68, с.

255], пацвердзіўшы яго ўжыванне двума ілюстрацыйнымі прыкладамі, адзін — з вядомай працы М.Федароўскага «Люд беларускі...», другі — з гаворак Мядзельскага раёна. У раней названым слоўніку З.Санько чытаем пад нумарам 1089: «*По щучьему велению* — на шчупакова казанне». Акадэмічны «Руска-беларускі слоўнік» ва ўсіх выданнях паўтарае аднолькавы пераклад: «*по щучьему велению* — па шчупачынаму загаду, цудам».

Цяпер настойліва прапануецца (як нібыта фразеалагізм) спалучэнне *па шчупаковай волі*. Яго яшчэ раней, чым П.Сцяцко, падаў, праўда, не за ромбавым знакам, «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996): «*Шчупакоў... Па шчупаковай волі* або *на шчупакова казанне* (само сабой, як бы дзякуючы чарадзейству)». Адкуль узялося гэта *па шчупаковай волі*, на аснове якіх літаратурных крыніц уключаецца ў акадэмічны слоўнік? Як прыгадвае А.Каўрус [50, с. 101], гэта ён на пачатку 70-х гадоў стварыў і прапанаваў Тэрміналагічнай камісіі БелСЭ словазлучэнне *па шчупаковай волі* як адпаведнік рускага *по щучьему велению*.

Аднак у літаратурных тэкстах не даводзілася сустрэць хоць бы адно пацвярджэнне, што гэтыя аналагі (*па шчупаковай волі, на шчупакова казанне, па шчупачынаму загаду*) бытуюць у мове. Таму пра адпаведную норму можна будзе гаварыць толькі тады, калі назапасяцца факты ўжывання якога-небудзь з гэтых, магчыма, патэнцыяльных выразаў. А пакуль што маўленчая практыка, насуперак рэкамендацыям слоўнікаў, сведчыць пра іншае: 1) І неўзабаве на круглым стале, нібы *па шчупаковым загадзе*, з'явіліся каралеўскія прысмакі... (В.Іпатава); 2) Я пачынаю разумець, што не ўсё робіцца, як кажуць, *па шчупаковым загадзе*: атрымаў пісьмо, пайшоў да міністра ці напісаў у выканком — і ўсё ў парадку (М.Замскі); 3) На нейкую хвілю заплюшчыў вочы і ўявіў: робіцца ўсё — нібы *па шчупаковым загадзе* (Р.Бохан). І яшчэ — у крыху іншым афармленні: 1) Не *па шчупаковаму загаду* падніmаліся з руін гарады і вёскі (Х.Жычка); 2) Праект новага агрэгата. Думаеш, *па шчупаковаму загаду* гэта робіцца? (М.Чавускі).

Гаворачы аб правамернасці існавання ў літаратурнай мове пэўнага выразу, можна адзначыць, што «Руска-беларускі слоўнік» (1953) у якасці адпаведніка фразеалагізму *в порядке вещей* падаў свабоднае спалучэнне слоў *звычайная рэч*. Гэты слоўнік пасля перавыдаваўся шмат разоў, але ва ўсіх выданнях так і захавалася: «*в порядке вещей* — звычайная рэч». А між тым *в порядке вещей* — гэта паводле свайго ўзнікнення не ўласна рускі выраз, а калька з французскай мовы: *s'est dans j'ordre des choses* (літаральна «гэта ў

парадку рэчаў)». Таму ў форме *ў парадку рэчаў* ён мае ўсе падставы на функцыянаванне і ў беларускай літаратурнай мове. Сведчаннем яго нарматыўнасці з'яўляецца маўленчая практыка аўтарытэтных аўтараў. Ён шырока выкарыстоўваецца ў нашым друку. Вось толькі тры прыклады з шэрагу іншых: 1) Цяжар таго, што застаецца толькі тваім, да болю ясны позірк на самога сябе збоку, незадавальненне сабой наогул і апошняй работай у прыватнасці. Няўжо гэта — *у парадку рэчаў*, нармальна? (Я.Брыль); 2) Жонка бегала па магазінах, варыла, мыла бялізну, нават машыну вадзіла. Ён [муж] лічыў, што гэта *ў парадку рэчаў* (І.Навуменка); 2) Тут усё *ў парадку рэчаў*. А зямля так пахне зямлёй! (А.Вярцінскі). Як бачым, і ў нашай мове, гэтак жа, як у французскай, рускай і некаторых іншых, фразеалагізм ужываецца як выказнік, часцей пры дзейніку-займенніку *гэта*, і абазначае 'звычайна, нармальна, натуральна'. Можна спадзявацца, што беларускія акадэмічныя слоўнікі ўключаць гэты выраз у фразеалагічны фонд мовы як неаспрэчны моўны факт.

## Правільнасць маўлення: прыказкавыя нормы

Прыказкі як моўныя адзінкі актыўна функцыянуюць у вусным і пісьмовым маўленні (больш падрабязна пра гэта гл. у раздзеле «Багацце маўлення»). І гэта неаспрэчна сведчыць, што яны павінны быць аб'ектам вывучэння не толькі і не столькі ў фальклоры, колькі ў мовазнаўстве — у раздзеле «Парэміялогія». Яны, як і словы ці фразеалагізмы ў адпаведных раздзелах мовазнаўства, павінны разглядацца з розных бакоў: семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага (гл. [36]). А таксама ў святле культуры маўлення.

У парэміялогіі існуюць на ўзроўні мовы даволі частыя варыянты ў межах нормы; напрыклад, аднолькава дапушчальныя *Стары вол баразны не псуе* і *Стары конь баразны не псуе*. Або: *Для старца міля не круг* і *Старцу міля не круг*; *Тапелец і за саломінку хапаецца* і *<Той> хто топіцца, <і> за саломінку (саломку) хопіцца.* На ўзроўні ж маўлення неабходна адрозніваць матываваныя і нематываваныя адхіленні ад прыказкавай нормы.

Параўн. ужыванне адной і той жа прыказкі ў наступных урыўках: 1) — Будуем то шмат. Ды вось кепска, што не заўсёды з розумам... — Ёсць, ёсць! Але *лес сякуць — трэскі ляцяць* (П.Васілеўскі); 2) — Уражанне гнятлівае: у майстэрні холад, хоць ваўкоў ганяй. — Людзям холадна, а мне горача! Перабудова! Гэта вам не плот пераскочыць. Вось тут часам і нявыкрутка. Словам, *лес сякуць — трэскі ляцяць.* — Дык ці не дужа многа *трэсак*, Мікалай Сцяпанавіч? — А мне на *трэскі* працэнт не ўстаноўлены. Сам паспрабуй, падлічы розныя плюсы і мінусы... (М.Пянкрат); 3) Я спачатку адкажу наконт студняў... Тут вельмі да месца прымаўка: *«Лес рубаюць — трэскі ляцяць».* Так, сапраўды, калі спраміць рачулку, узровень грунтовых вод недзе знізіцца і студні ў вёсцы прыйдзецца паглыбляць... (М.Замскі). У першым урыўку ўжыванне прыказкі адпавядае норме (менавіта ў такой форме прыказка прыведзена ў БРС-88, т. 1, с. 640; у РБС-82, т. 1, с. 403; у СБП, с. 222). У другім урыўку маем справу са стылістычным прыёмам семантычных змяненняў: выкарыстанне на фоне прыказкі яе кампанента. У трэцім урыўку беспадстаўна парушана форма прыказкі, яе другі кампанент заменены пазалітаратурным словам *(рубаюць)*, якое не фіксуецца ў нашых акадэмічных слоўніках.

Аб некаторых больш-менш пашыраных парушэннях прыказкавай формы ўжо гаварылася ў падраздзелах пра словаўтваральныя і марфалагічныя нормы. Далей спынімся на парушэннях іншага характару.

Часам у маўленні скажаюць структуру прыказкі. Ёсць прыказкі *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку; Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці; Чакай Пятра — сыр з'ясі; Лепей біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы.* Параўн., аднак, з якім скажэннем структурных схем выкарыстаны гэтыя прыказкі і як некаторыя з іх у выніку гэтага змянілі свой сэнс: 1) Канешне, пры першых іншых абставінах яна імгненна паставіла б на месца гэтую нявыхаваную хамку, але ж, як кажуць, *хто заказвае музыку, той і правіць баль* (В.Праўдзін) (Між іншым, тут ёсць і агаворка «як кажуць», але нарматыўна гэтак не кажуць.); 2) Я, канешне, ваяваў, як мог, на ўсіх гэтых падрыхтоўчых этапах, розных рэдсаветах, каб пакінуць у тэксце хоць крыху нацыянальнага, ды «*не нашаму цяляці з ваўком ваяваці*» (А.Федарэнка); 3) Чаго варта, скажам, такое абяцанне... Словам, *чакай, Мар'я, сыр з'ясі* (Вожык. 1987. № 9); 4) Трудзяга твой бацька, рабіў сумленна. Казаў: «*Лепей лічыць свае вошы, чым чужыя грошы*» (У.Ліпскі).

Іншы раз у навуковай і навучальнай літаратуры падаюць якую-небудзь прыказку не ў той нарматыўнай форме, якая замацавалася за ёй. Так, у школьных падручніках [33, с. 24; 15, с. 216] прыводзіцца як прыказка: *Напішаш пяром — не высечаш тапаром.* Але яна не ўжываецца ў форме бяззлучнікавага сказа. Яе нарматыўная структура (з усімі уласцівымі варыянтамі), занатаваная ў парэміялагічных зборніках і пацверджаная адпаведнымі прыкладамі-цытатамі ў СБП (с. 444), такая: *Што напісана (напішаш) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.* Гэта ж прыказка яшчэ ў адным падручніку [16, с. 164] змешчана ў не зусім дакладнай форме: *Што напісана пяром, таго не высечаш і тапаром.* У гэтым жа падручніку некаторыя прыказкі часам падаюцца з парушэннем іх фіксаванага словапарадку. Напрыклад, прыказка *Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць*, як і многія іншыя, характарызуецца сіметрычным размяшчэннем назоўнікавых і дзеяслоўных кампанентаў, аднак прыведзена ў такім выглядзе: *Баяцца воўка — у лес не хадзіць.*

Як нематываваныя адступленні ад нормы трэба ацэньваць і выпадкі кантамінацыі — зліццё дзвюх прыказак у адну. Памылковае змешванне дзвюх прыказак (*Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца* і *Ніхто не ведае, як хто абедае*) і ўтварэнне на іх аснове нейкага гібрыда бачым у такім урыўку: «Цікава, што беднейшыя ахвяруюць ахвотней. *Багаты не ведае, чым бедны абедае*» (У.Міхно). Міжвольна ўзнікае пытанне: а што значыць «ч ы м абедае»?

У рамане Л.Дайнекі «Жалезныя жалуды» сустракаемся з такім кантамінаваным утварэннем, як *Свой лёс і канём не аб'едзеш*: «— З

усіх бакоў ідуць на варуцкага кунігаса. Не ўтрымацца яму. — *Свой лёс і канём не аб'едзеш*, — падумаўшы, адказвае Далібор. — Але здаецца мне, што ты дрэнна ведаеш кунігаса Міндоўга». Гэты прыказкавы гібрыд — вынік несвядомага змешвання, ненаўмыснага аб'яднання частак дзвюх сінанімічных прыказак: *Свайго лёсу не мінеш* і *Суджанага канём не аб'едзеш*.

Ёсць шэраг іншых тыповых адхіленняў у галіне прыказкавай формы.

1. Падмена прыказкавага кампанента. Калі адхіленне ад нормы зроблена з разуменнем самой нормы, то яно і ўспрымаецца, на фоне нарматыўнага, як мастацкі прыём. Як пісаў Л.У.Шчэрба, «аўтараў, якія зусім не адступаюць ад нормы, канешне, не існуе — яны былі б нясцерпна нудныя... Калі пачуццё нормы выхавана ў чалавека, ён пачынае адчуваць усю прыгажосць абгрунтаваных адступленняў ад яе ў розных добрых пісьменнікаў (я гавару «абгрунтаваных», таму што ў дрэнных аўтараў яны часта бываюць недастаткова матываваны ўнутраным зместам — таму гэтыя аўтары і лічацца дрэннымі» [66, с. 10].

Часам беспадстаўна падмяняюць прыказкавы кампанент іншым словам. Прыказка *Свая рука ўладыка* — запазычанне з рускай мовы, у такой форме занатавана ў працах І.Насовіча [53, с. 147], Я.Ляцкага [42, с. 40], у БРС-88 (т. 2, с. 606), РБС-82 (т. 2, с. 340), СПБ (с. 348); параўн. і ва ўкраінскай мове: *Своя рука владика*. Іншы раз апошні кампанент прыказкі падмяняецца словам *уладар*: «Адміністрацыя дзейнічала па прынцыпу: свая рука — *уладар*» (Звязда. 1986. 6 мая).

*Мір* — агульнае для ўсходнеславянскіх моў, цяпер ужо ўстарэлае слова са значэннем ‘сельская грамада’. Яно захавалася ў фразеалагізме *ўсім мірам* і ў прыказках *Што будзе міру, тое і бабінаму сыну; З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля)*. Таму нелагічнай, абсурднай з'яўляецца яго замена словам *свет* ці спалучэннем *усёй грамадой*: 1) *Са свету* па нітцы, беднаму — кашуля (Вожык. 1983. № 2); 2) *Усёй грамадой* па нітцы, голаму кашуля (І.Гурскі).

Ёсць прыказка *Дарма і каза вайку не скача*. А С.Лобач памылкова памяняла месцамі назоўнікавыя кампаненты: «Хлеб дарма не даюць. Усюды трэба працаваць. *Дарма і воўк казе не скача*».

Часта прыказка з падмененым кампанентам укладваецца ў вусны персанажа, і калі пры гэтым няма ніякай ацэначнай рэакцыі з боку аўтара або іншых герояў твора, то гэта не столькі персанажава, колькі аўтарская памылка. Вось прыклады няправільнага ўжывання ў маўленні персанажаў прыказак *Пужаная варона куста баіцца; Вайка*

*ногі кормяць; На лаўца і звер бяжыць; На жывой касці мяса нарасце*: 1) Грунтоўнай падставы сумнявацца ва ўзаемаадносінах з саслужбоўцамі не было. «Нервы, — заключыла Ніна. — *Палоханая* варона куста баіцца» (І.Новікаў); 2) — Пасля пачастуемся, — сказала яна. — Няма мне сёння калі. *Сабаку* ногі кормяць, так і мяне. Я да цябе, Хведар, па справе (І.Шамякін); 3) — На *паляўнічага* і звер бяжыць, — прамовіў ён, — сядай, Глеб Кузьміч, я, прызнацца, збіраўся шукаць цябе, ёсць размова (І.Капыловіч); 4) — Нічога, Дзяменцьеўна, на жывой касці *цела* нарасце. От набегаюся за сваім канём, дык чыгун бульбы ўбяру (С.Грахоўскі).

Параўн. прыклад іншага характару, дзе другі суразмоўнік падпраўляе першага: «— Хадзем лепш абедаць. Наш госць, пэўна, галодны, а *вераб'я байкамі не кормяць*. — Не *вераб'я,* а *салаўя*, — паправіў яе Янка. — *Салаўя байкамі не кормяць*. — Хай будзе *салаўя,* — засмяялася яна» (Ф.Сіўко).

2. Пашырэнне кампанентнага складу прыказкі. Прыказка *Жыццё пражыць — не поле перайсці* мае стройную будову. Па-першае, яна рытмічная, у ёй пяцістопны ямб. Па-другое, яна ўтворана па адной з тыповых мадэляў (два дзеяслоўныя словазлучэнні, супрацьпастаўленыя адно другому, з адмоўем «не» перад другім словазлучэннем); да прыкладу: *Век зжыць — не мех сшыць*. Таму лішнім, непатрэбным варта лічыць слова *чалавеку*, уведзенае ў гэту прыказку, выкарыстаную ў такім урыўку: «Жыццё *чалавеку* пражыць — не поле перайсці, у жыцці чалавеку багата чаго трэба знаць і ўмець» (І.Капыловіч). Гэта прыказка прымяняецца толькі ў дачыненні да чалавека (прычым не да канкрэтнай асобы, а да чалавека як грамадскай істоты), а таму аўтарскае ўскладненне прыказкі гэтым назоўнікам ніколькі не ўзбагачае яе сэнс, а толькі шкодзіць ёй.

Думаецца, лішняй выступае ўзмацняльная часціца *нават*, уключаная ў сярэдзіну прыказкі *Пад ляжачы камень вада не цячэ*, у такім урыўку з рамана К.Чорнага «Люба Лук'янская»: «Гэта праўда, што *пад ляжачы камень нават і вада не цячэ*». Тут побач аказваюцца дзве сінанімічныя часціцы, адну з якіх можна лічыць непатрэбнай. Дарэчы, як паказвае маўленчая практыка (гл. СПБ, с. 302), а таксама фіксацыя прыказкі ў многіх даведніках, яна звычайна функцыянуе наогул без часціцы: *Пад ляжачы камень вада не цячэ*.

Асобна варта спыніцца на няправільнасцях пры міжмоўным перакладзе прыказак. Як вядома, асноўным прынцыпам, якім кіруюцца пры складанні перакладнога слоўніка, з'яўляецца вызначэнне, падбор дакладнага эквівалента да моўнай адзінкі, што перакладаецца з адной мовы на другую. Калі прыказка не мае прамога аналага, то

падбіраюць блізкі ў сэнсавых і стылістычных адносінах адпаведнік і абазначаюць гэта знакам прыблізнага падабенства (≅).

Аднак некаторыя складальнікі слоўнікаў не заўсёды прытрымліваюцца гэтага прынцыпу. Так, у слоўніку З.Санько [52] досыць часта можна бачыць неабгрунтаваны падбор адпаведнікаў да пэўнай прыказкі. *Гара нарадзіла мыш* — прыказка, агульная для вельмі многіх моў, у якія трапіла як калька з французскай мовы, дзе склалася на аснове лацінскага афарызма, і ў РБС-82 (т. 1, с. 184) знаходзім адзіна правільнае: *Гора родила мышь* — бел. *Гара нарадзіла мыш.* У слоўніку З.Санько гэта прыказка, як і шмат якія іншыя, беспадстаўна прызнаецца рускай і перакладаецца на беларускую мову не адным, як прынята, якім-небудзь адпаведнікам (яго наогул няма), а аж 4 прыказкамі, як агульнанароднымі, так і вузкамясцовымі, дыялектнымі, мала каму вядомымі: *З вялікага гуку не будзе чаго браць у руку; Шырокі двор, ды невялікі збор; З вялікага грому малы дождж; З вялікай хмары малы дождж.* Але на самай справе ніводная з іх не мае нават прыблізнага ў сэнсавых адносінах падабенства да згаданай прыказкі.

Або яшчэ адзін прыклад. Прыказка *Быў конь, ды з'ездзіўся* запісана вельмі многімі збіральнікамі беларускага фальклору: Я.Чачотам (1848), Я.Тышкевічам (1847), П.Шпілеўскім (1853), І.Насовічам (1874), В.Дыбоўскім (1881) і інш. Ёсць гэта прыказка ва ўкраінскай мове (занатавана М.Номісам у 1864 г.), а таксама ў рускай (апублікавана У.Далем у 1879 г.). У БРС-88 (т. 1, с. 515) не без падстаў лічаць гэту прыказку беларускай і даюць ёй рускі адпаведнік: *Укатали сивку крутые горки.* У слоўніку ж З.Санько прыводзіцца *Был конь, да изъездился* як руская прыказка і перакладаецца чатырма беларускімі нібыта адпаведнікамі: *Быў конь, ды з'езджаны, быў хлеб, ды з'едзены; Быў ляснічым, а цяпер нічым; Быў піўчым, а застаўся нічым; Быў калісьці Яўхім, ды цяпер чорт ухапіў.* Такія пераклады, што называецца, не вытрымліваюць ніякай крытыкі.

Сярод 478 прыказак, вынесеных у загалоўкі, каля 140 прыпадае на долю агульных для беларускай і рускай моў, і ў перакладным слоўніку яны павінны падавацца як аднолькавыя ці вельмі блізкія сваім гучаннем і кампанентным складам. Аўтар не прымае пад увагу таго, што яны засведчаны ў шмат якіх парэміялагічных даведніках, у тым ліку ў акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі», у зборніку Ф.Янкоўскага «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». З.Санько не прызнае беларускімі такія, напрыклад, прыказкі: *Баба з воза — кабыле (каню) лягчэй; Беражонага бог беражэ; Будзе і на*

*нашай вуліцы свята; Век жыві, век вучыся; Вайкоў баяцца — у лес не хадзіць; Вайка ногі кормяць; Гарбатага магіла выправіць; Голад не цётка; Голаму разбой не страшны.* Відаць, цяжка знайсці беларуса, які б не ведаў прыказкі *У нагах прайды няма*; фіксуецца яна ў розных беларускіх слоўніках, парэміялагічных зборніках, шырока ўжываецца ў мастацкіх творах (напрыклад, В.Адамчыка, М.Гіля, Л.Дайнекі, М.Лынькова, І.Новікава, І.Сіняўскага, І.Шамякіна). У слоўніку ж З.Санько да рускай прыказкі *В ногах правды нет* падбіраюцца зусім іншыя паралелі. Ігнаруецца рэальнае існаванне ў сучаснай моўнай практыцы прыказкі біблейскага паходжання *У чужым воку сучок бачым, а ў сваім бервяна не заўважаем* (ёсць у творах Я.Купалы, Я.Коласа, І.Гурскага, Я.Брыля, Э.Валасевіча), калькі з лацінскай мовы *Рука руку мые* (выкарыстана ў творах П.Пестрака, І.Гурскага, І.Дуброўскага).

Вось адзін прыклад слоўнікавага артыкула ў даведніку З.Санько:

**173. Куй железо, пока горячо** — Касі, каса, пакуль раса = Гні галіну, пакуль маладзенькая = Гні дрэўца, пакуль гнецца = Дзяры лыка, як дзярэцца, бо прысохне — не ўдзярэш = Ідзі, пакуль дзверы адчынены (бо потым рады не дасі) = Куй жалеза, пакуль гарачае, як астыне, не ўкуеш.

Артыкул выклікае пярэчанні. Па-першае, загаловачная прыказка трапіла ў рускую мову, як і ў шмат якія іншыя, як калька з лацінскай мовы. Па-другое, прамым аналагам гэтай рускай прыказкі з'яўляецца беларуская *Куй жалеза, пакуль гарачае* (яна ёсць у зборніках М.Федароўскага, Ф.Янкоўскага, акадэмічным зводзе прыказак, у шмат якіх іншых даведніках, ужываецца ў творах Я.Коласа, С.Александровіча, М.Гамолкі, П.Місько, Б.Сачанкі, В.Гігевіча, А.Дзятлава і іншых аўтараў). Гэта прыказка — алегарычнага характару і мае толькі пераноснае значэнне 'спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы'. Па-трэцяе, *Касі, каса, пакуль раса* ніяк не можа быць эквівалентам папярэдняй прыказкі, бо не мае пераноснага, вобразнага сэнсу, а заўсёды ўжываецца толькі ў прамым значэнні, у дачыненні да касца (дарэчы, тое самае ў рускай і ўкраінскай мовах): «Марцін падаўся разам з хлопцам да Андрэя, які дабіваў апошні пракос. Дзядзька весела сказаў: — *Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў*!» (Я.Колас).

Аналагічны адвольны падбор адпаведнікаў назіраецца і ў «Слоўніку...» С. і Я.Івановых [26], толькі тут, наадварот, да беларускіх загаловачных прыказак падбіраюцца рускія адпаведнікі. Але найчасцей гэта несуадносныя адзінкі. Напрыклад, да беларускай

прыказкі *Чым чорт не арау, тым і сеяць не стаў*, што значыць ‘няхай так і будзе, варта рызыкнуць’, прыраўноўваецца руская *Бог не выдаст — свинья не съест*, сэнс якой — ‘нічога кепскага не павінна здарыцца’. У многіх выпадках беларуская прыказка атрымлівае не адзін сапраўдны эквівалент, а тры-пяць. Так, прыказка *Блізка відаць, ды далёка дыбаць,* першае, непераноснае значэнне якой — ‘не так і блізка што-небудзь, як здаецца’, гаворыцца ў дачыненні да таго, хто ідзе або едзе. С. і Я.Івановы да гэтага непераасэнсаванага значэння даюць 4 рускія прыказкі: *Близок локоть, да не укусишь; Видит собака молоко, да рыло коротко; Глазам видно, да ногам обидно; Видит око, да зуб неймет.* Але ўсе гэтыя прыказкі маюць алегарычны змест і ніяк не стыкуюцца з названым значэннем беларускай прыказкі. Такі шматлікі падбор адпаведнікаў можна кваліфікаваць як недарэчны. Ды і прыказкі павучаюць: «Што задужа, то не здрова» і «Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж».

У друку ў свой час на абодва гэтыя слоўнікі былі крытычныя рэцэнзіі. Разам з тым пра слоўнік З.Санько (а ён выдадзены значным тыражом — 30 тысяч!) часам пішуць, што «хоць зроблены ён на аматарскім узроўні, усё ж практычнае значэнне яго вельмі істотнае» [49, с. 33]. Якраз і бяда, што памылкі слоўніка, набываючы аўтарытэтную моц, укараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага слоўніка ўключаецца ў віктарыны (гл., напрыклад: [57, с. 39, 167]), выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы. Як ні дзіўна, некаторыя фрагменты занадта вольнага перакладу з даведніка З.Санько перанесены ў трэцяе і чацвёртае выданні акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» (1991, 1993); напрыклад, ранейшае «*семь пятниц на неделе* — сем пятніц на тыдні» папоўнена адзінкамі, не падмацаванымі маўленчай практыкай: *на адзін дзень сем перамен; як увосень: на дзень пагод восем.*

Як было паказана, пераклад прыказак ці падбор адпаведнікаў — справа далёка не лёгкая і вельмі адказная, і наўрад ці пад сілу яна выпускнікам школ або ўдзельнікам алімпіяд. Аднак на старонках часопіса «Роднае слова» час ад часу друкуюцца пад рубрыкай «Гаварыце па-беларуску» (гл., напрыклад, № 3, 6, 7 за 2003 г.) беларускія адпаведнікі да рускіх прыказак, і перадрукоўваюцца гэтыя нібыта адпаведнікі слова ў слова з памянёнага «Малога руска-беларускага слоўніка...» З.Санько, але без спасылак на гэты даведнік. Параўн., напрыклад, у «Родным слове» (2003. № 7. С. 43) і ў даведніку З.Санько (с. 10): «рус. *Волка бояться — в лес не ходить* — бел.

*Баючыся ваўкоў, застанешся без грыбоў = Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць = Хто ваўкоў баіцца, па ягады не ходзіць = Баючыся ваўка, у лес не ісці»*. Прыказка ж, якой пачынаецца гэты ўрывак і якая кваліфікуецца як руская, актыўна функцыянуе ў беларускай літаратурнай мове (у форме *Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца — у лес не хадзіць)*, напрыклад, у творах Ц.Гартнага, С.Грахоўскага, І.Гурскага, В.Зуба, М.Клімковіча, К.Крапівы, П.Місько, Б.Сачанкі, І.Сіняўскага, І.Шамякіна. Амаль усе іншыя прыказкі, якія ў рубрыцы «Гаварыце па беларуску» падаюцца (услед за З.Санько) як рускія, у аднолькавай меры ўжываюцца ў абедзвюх мовах, а то і ў некалькіх іншых: *Век жыві, век вучыся; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж; Беражонага бог беражэ; У цеснаце, ды не ў крыўдзе; Бачыць вока, ды зуб няйме; У сям'і не без вырадка.*

У «Родным слове» (2001. № 3, 7) змешчаны пад рубрыкай «Займальны матэрыял» заданні і адказы да іх, падрыхтаваныя М.Верціхоўскай, пад загалоўкам «Знайдзіце адпаведнікі». У адным заданні прапануецца падабраць да беларускіх прыказак рускія адпаведнікі, а ў другім — наадварот. Абодва заданні фактычна складзены на аснове слоўніка З.Санько і характарызуюцца тымі ж самымі хібамі. Па-першае, амаль усе прыказкі, якія ў заданнях і адказах падаюцца як рускія, ёсць у беларускіх слоўніках, зборніках, ужываюцца ў нашай літаратуры: *Яблык ад яблыні недалёка падае; Будзе і на нашай вуліцы свята; Паспяшыш — людзей насмяшыш* і г.д. Па-другое, многія так званыя адпаведнікі нідзе больш, апрача як у З.Санько, не фіксуюцца, напрыклад: *Первый блин комом — Першае цялятка — шчанятка.* Па-трэцяе, шмат якія адпаведнікі ніяк не адпавядаюць гэтаму тэрміну. Скажам, даецца бел. *Кінь перад сабою — знойдзеш за сабою* (сэнс прыказкі 'калі зробіш каму-небудзь ласку, то і табе адплацяць тым самым') — рус. *Что посеешь, то и пожнешь* (у 1-м значэнні гаворыцца пра залежнасць ураджаю ад сяўбы, а ў 2-м абазначае 'за свае справы, учынкі даводзіцца расплачвацца').

## ДАКЛАДНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

Калі гавораць пра культуру вуснага ці пісьмовага маўлення, то сярод найважнейшых яго якасцей побач з правільнасцю называюць дакладнасць. І ў «Нормах ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў...» пералік асноўных моўных (дакладней, маўленчых) недахопаў пачынаецца з «ужывання слова ў неўласцівым яму значэнні». І гэта зразумела: становячыся элементам сказа, словы і фразеалагізмы павінны рэалізавацца з тым значэннем, якое замацавала за імі маў-

ленчая практыка. Толькі пры такой умове паміж тым, хто піша або гаворыць, і тым, хто чытае ці слухае, усталёўваецца ўзаемаразуменне.

Маўленне дакладнае, калі словы, фразеалагізмы, прыказкі ўжыты з уласцівым ім значэннем. Недакладна выкарыстанае слова (фразеалагізм, прыказка) выклікае няправільнае ўспрыманне тэксту, скажае сэнс выказвання, дэзінфармуе чытача (слухача), спараджае лексічныя, фразеалагічныя, прыказкавыя памылкі семантычнага характару.

Дакладнасць з'яўляецца (павінна з'яўляцца) неад'емнай якасцю любога маўлення, кожнага функцыянальнага стылю літаратурнай мовы. Праўда, у мастацкім маўленні яна мае сваю спецыфіку. Тут слова можа свядома і мэтанакіравана атрымаць незвычайнае, кантэкстуальнае значэнне. І гэта, вядома, не парушэнне дакладнасці, а найчасцей стылістычны прыём, сродак стварэння выразнасці, які і чытачом успрымаецца як эфектыўнае выкарыстанне слова.

Вось урывак з верша А.Куляшова «Я хаце абавязаны прапіскаю...», дзе многія словы атрымалі вобразнае пераасэнсаванне, набылі сэнсавае прырашчэнне:

Я – матчын спеў, я – матчыны трывогі,
Я – матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад – у нару з нары –
Трацілаваю пугай перамогі.

Тут, перш за ўсё, слова *матчын* у спалучэнні са словам *спеў* рэалізуе прамое значэнне, а ў выразе *матчын гнеў* абазначае 'ўсенародны'. Незвычайная спалучальнасць слоў («гнеў, які ўставаў на ногі», «трацілаваю пугай перамогі») выклікае рой вобразных асацыяцый сацыяльнага і эмацыянальнага характару. Звычайныя словы паводзяць сябе незвычайна. Адны з іх пад уплывам метафарычнага кантэксту атрымліваюць зусім іншае значэнне: *смерць* – гэта 'фашысты; тыя, хто нёс пагібель іншым', *нара* – гэта не 'заглыбленне пад зямлёй, вырытае жывёлінай для жылля', а 'рубеж, сховішча'. Пры гэтым вобразнае значэнне слова *нара* ўзнікае на аснове канкрэтнага ўяўлення, прамога значэння гэтага слова, якое, як і словазлучэнне *гнаў пугай*, дастасоўваецца звычайна да жывёлы, а таму выклікае выразны намёк – параўнанне тых, каго гналі на Захад, з жывёлай. Вобразныя значэнні другіх слоў (*трацілаваю* і *пугай*), не страчваючы жывой сувязі з прамымі значэннямі гэтых слоў, ствараюць нерасчлянёнае ўяўленне. Паасобку іх значэнні цяжка перадаць якімі-небудзь дакладнымі сэнсавымі адпаведнікамі: *трацілаваю пугай* у празаічным перакладзе прыкладна абазначае 'знішчальнай зброяй'.

Нярэдка адно метафарычна выкарыстанае слова ўздзейнічае на семантыку іншых слоў кантэксту, выклікаючы да жыцця ланцужок метафар. Напрыклад, у апавяданні З.Бядулі «У шалашы»: «З недалёкага ўзмор'я *брыло з вадапою* блакітнае *с т а д а* паўночных вятроў. *Па дарозе* гэтае *с т а д а* *таптала* зялёную шчэць балотнай травы, *скубла* стагі і *навальвалася грудзьмі* на стары рыбацкі шалаш». Або ў «Пінскай шляхце» В.Дуніна-Марцінкевіча: «Каб сарваць такую прыгожую і багатую кветку, не шкода і ў балоце пакачацца», – гаворыць стары шляхціц Куторга, маючы на ўвазе 17-гадовую Марысю і сваю місію «пакрывіць душой», стаўшы за сведку супраць Ліпскага.

Недакладнае, прыблізнае ўжыванне слоў узнікае часцей за ўсё ў выніку няведання таго, што абазначае пэўнае слова. У вершаваных радках пра Байкал чытаем: «Напэўна, час цябе ўлагодзіў, бо баргузін вясёлы твой, што быў назад тут паўстагоддзя, цяпер не той, зусім не той». Невядома, каго ці што меў на ўвазе аўтар, ужываючы слова *баргузін*, але толькі не тое, што яно абазначае, – 'паўночна-ўсходні вецер на Байкале'. Парушана дакладнасць і ў такім урыўку: «Майстар на сцяне вырэзваў залатыя фрэскі». Як вядома, фрэскі ніхто не вырэзвае, іх малююць фарбамі на свежым тынку.

Прыметнік *роўны* – полісемічнае слова, але яно ні адным сваім значэннем не ўступае ў кантакт з назоўнікам *хвіліна.* І таму незразумела, што яно абазначае ў такім урыўку: «Роўнаю хвілінай памаўчым, хай яна настрою паспрыяе. Не шанцуе песні, бо зачын толькі легкадумных акрыляе». Прачытаем наступныя радкі: «Хаця мурзатым падшывальцам навуку не ў ахвоту грыз, ды зараз сверб сячэ па пальцах, каб мець не толькі радасць з працы, а дыхаць ёю нарасхрыст». Калі дапусціць, што *нарасхрыст* – гэта індывідуальна-аўтарскі варыянт агульнанароднага слова *наросхрыст*, выкліканы да жыцця версіфікацыйнай патрэбай (у сувязі з рыфмай *грыз*), то ўсё роўна цяжка ўявіць, як жа можна дыхаць працай *нарасхрыст*, г.зн. 'расшпіліўшыся, расхінуўшы краі адзежы'. Недакладна ўжыта і слова *паўза* (замест *мінута* або *секунда*): «Не хочаш нават паўзы памаўчаць, хвалы не просіш нашай узамен ты».

У мове ёсць нямала аднавалентных па спалучальнасці слоў, здольных рэалізаваць сваё лексічнае значэнне толькі пры спалучэнні з адным пэўным словам. Так, слова *прыжмурыць* уступае ў сувязь толькі са словам *вочы (вока)* і абазначае 'прыплюшчыць, сціснуўшы павекі'. Параўн. памылковае ўжыванне гэтага слова: «Хлопчык прыжмурвае весела тварык замурзаны свой».

«Пошукі дакладнага, таго адзінага-адзінюсенькага слова, – піша Б.Сачанка ў аповесці «Не на той вуліцы», – цяжкія, пакутлівыя. У слове ж не толькі сэнс, у ім – і колер, і гук; слова жывапісуе, нясе думку і музыку; слова – расхалоджвае і натхняе; яно – забаўка і зброя...» Пэўным узорам таго, як пісьменнікі дабіваюцца дакладнасці маўлення, як настойліва шукаюць і знаходзяць адзіна магчымы для пэўнага кантэксту моўны сродак, могуць служыць шматлікія тэксталагічныя факты. У першапачатковым варыянце нарыса М.Лынькова «Шляхамі вайны» было: «Праходзілі партызаны, камандзіры, імёны якіх сталі жывымі *казкамі*, подзвігі якіх будуць здзіўляць дзесяткі будучых пакаленняў нашага народа». Пасля пісьменнік замяніў слова *казкамі* іншым, найбольш прыдатным тут – *легендамі*. К.Крапіва пры перавыданні рамана «Мядзведзічы» замяніў мнагазначнае слова *саматужных* адназначным і больш дакладным *саматканых*: «Хадзілі па вёсцы дзяўчаты цэлымі ланцугамі, пабраўшыся за рукі, – наіўна-фанабэрыстыя і баязліва-гарэзныя. Выдыгалі каля іх хлопцы – у картовых пакамечаных галіфэ, у тоўстых *саматужных* суконных фрэнчах з шасцьма кішэнямі».

Як гэта ні прыкра, але прыходзіцца сцвярджаць, што недакладнае словаўжыванне (не толькі ў вучнёўскіх работах, але і ў друку) – даволі пашыраная з’ява. У адных выпадках гэта выклікаецца няведаннем прадмета маўлення, у другіх – нядбайнасцю, няўважлівасцю, у трэціх – неапраўданым імкненнем сказаць не так, як прынята, неяк інакш, па-новаму.

Леў Талстой досыць сурова ставіўся да тых, хто не ведае сэнсу ўжытага ім слова: «Калі б я быў цар, то выдаў бы закон, што пісьменнік, які ўжыў слова, значэнне якога ён не можа растлумачыць, пазбаўляецца права пісаць і атрымлівае сто ўдараў розгаў» [51, с. 288]. Праўда, недакладным словаўжываннем грэшуць не столькі пісьменнікі, колькі людзі іншых прафесій. Так, М.Абабурка ў кнізе «Культура беларускай мовы» [1, с. 32] піша, што выкарыстанне дзеяслова *разбураць* у выказванні *Разбураюць чыстату маўлення беспадстаўна ўжытыя дыялектызмы...* няправільнае, недакладнае. Ён з неаспрэчнай самаўпэўненасцю павучае: «Удакладнім: не *разбураюць*, а *засмечваюць*». Дзіўнае павучанне!.. Гаварыць ці пісаць, што чыстату (або чысціню) маўлення (як камунікацыйную якасць!) *засмечваюць*, – гэта непісьменна. Маўленне – *засмечваюць*, а чысціню маўлення толькі *разбураюць* або *парушаюць*. Параўн. правільнае, дакладнае, напрыклад, у працы вядомага спецыяліста культуры рускага маўлення: *разрушают чистоту речи* [19, с. 166].

Тут можна было б прывесці каля сотні прыкладаў недакладнага словаўжывання ў друку, выяўленых у розных стылях. Абмяжуемся толькі некаторымі, падаючы ў квадратных дужках пасля выдзеленага няправільна ўжытага слова іншае, больш прыдатнае: 1) Кнігі, што з'яўляюцца вынікам такіх роздумаў, не толькі ўносяць значны ўклад у літаратуразнаўства, даючы тлумачэнне многім фактам, што называецца, з першых вуснаў, але і дапамагаюць чытачам пранікнуць у творчую *кухню* [лабараторыю] пісьменніка, паўней і дакладней зразумець грамадзянскую і маральна-этычную яго скіраванасць; 2) Мы цяпер стараемся ў школах ставіць кіраўнікамі – *надта* [асабліва] завучамі – маладых, перспектыўных людзей, выхоўваем іх на дырэктароў; 3) Іван Сямёнавіч спытаў у медсястры пра здароўе Алеся. Яна адказала *неазначальна* [няпэўна], і ён адчуў, што таму нялёгка; 4) Дамовіўся на рабоце. Сяджу дома. Чакаю майстра адрамантаваць тэлевізар. Дванаццаць гадзін – няма майстра. Пятнаццаць – няма... Семнаццаць... Майстар, які *згубіў* [змарнаваў] 8 гадзін майго рабочага часу, так і не з'явіўся; 5) А от я ўжо ўмею гаварыць з *зачыненымі* [заплюшчанымі] вачыма!; 6) У гэты ясны сонечны дзень Віталю чамусьці нечакана *стае* [становіцца] сумна, у душу прарываецца пачуццё адзіноты.

Фразеалагізм, як і слова, можа быць ужыты з неўласцівым яму значэннем толькі тады, калі гэта абумоўлена крытэрыем мастацкасці і ўспрымаецца як стылістычны прыём. Фразеалагічныя памылкі семантычнага характару – даволі частая з'ява ў маўленні. Так, зварот *казанская сірата* мае значэнне 'чалавек, які, каб расчуліць каго-небудзь, прыкідваецца няшчасным, пакрыўджаным'. Аднак у наступным кантэксце гэты выраз не рэалізуе свайго нарматыўнага значэння: «Не, не, ён ужо – не ружовы хлопчык, і таму хай ля яго будзе якая вясковая, хай ля яго будзе тая сірата казанская, якая будзе яму век удзячная за тое, што ён выведзе яе ў людзі».

Сэнс фразеалагізма *з лёгкай рукі* (каго, чыёй) – 'пасля чыйго-небудзь пачынання, прыкладу'. Цяжка здагадацца, якое значэнне ўкладваецца ў гэты выраз, ужыты ў такім урыўку: «Ранак з лёгкай рукі, пакуль засквірчыць патэльня, мае намер такі: Бег. Кісларод. Гантэлі».

Выраз *лебядзіная песня* з'яўляецца калькай з грэчаскай мовы *(kukneion asma).* Яго ўзнікненне звязана з павер'ем, што лебедзь спявае адзін раз у жыцці – перад самай смерцю. Відаць, павер'е мае пад сабою грунт: як сведчаць вучоныя-заолагі, уздыхі раненага лебедзя нагадваюць песню. Гэтым фразеалагізмам называюць апошні, найбольш значны твор каго-небудзь, апошнюю праяву таленту, здольнасцей, дзейнасці: «Глыбокі сімвалічны сэнс ёсць у тым, што яго

[Я.Купалы] лебядзінай песняй стаў верш аб Радзіме, якую паэт бачыў азоранай магутным святлом жыцця» (ЛіМ). А ў наступных прыкладах у выраз укладваецца нейкі іншы, ненарматыўны, незразумелы сэнс: «Агонь любові! Я на ім спалю адчай сумневу шараю гадзінай. Ад нараджэння гэтую зямлю мне славіць песняй лебядзінай» (Т.Мельчанка); «Над вузкім шнуром сагнуўшыся, хадзіла-блудзіла вясна маёй бабы Франусі песняй лебядзінай» (Д.Бічэль-Загнетава).

*Весці рэй* – паўкалька з польскай мовы *(wodzić rej)*. Слова *рэй* у польскай мове па-за фразеалагізмам не ўжываецца, але з'яўляецца часткай складанага слова *wodzirej* ('распарадчык танцаў'), якое ўзнікла на аснове нямецкага *Reigen* ('танец, хор, карагод'). Першапачаткова фразеалагізм *wodzić rej* у польскай мове ўжываўся ў дачыненні толькі да танцаў – са значэннем 'быць распарадчыкам танцаў'. З блізкім да гэтага значэннем ён выкарыстаны ў паэме Я.Купалы «Бандароўна»: «У гульні сама рэй водзіць, весела міргае, задзіўляе ўсіх чыста, як зара якая». Адзінае сучаснае значэнне фразеалагізма – 'быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-небудзь': «Яўхім злаваўся на самога сябе, што баба рэй водзіць у хаце» (З.Бядуля). А цяпер паспрабуем разгадаць, што абазначае гэты выраз, кім ці чым кіруюць гракі ў наступным прыкладзе: «Яшчэ вясне не скора сокам выспець, а ўжо шыбуе сонца напрасткі, і на пагорку талым, як на выспе, на поўны голас рэй вядуць гракі» (А.Звонак). Гэты фразеалагізм пры нарматыўным яго ўжыванні не дапускае ўключэння ў свой склад ніякіх азначэнняў да назоўнікавага кампанента. Аднак параўн. няправільную рэалізацыю гэтага выразу – з парушэннем яго зместу і формы: «І трэці, і пяты, і восьмы вядуць непрыгожы рэй. Не заікніся, – як восы, уджаляць і выпруць з дзвярэй» (У.Карызна).

Фразеалагізм *падымаць (узнімаць) на шчыт* абазначае 'залішне расхвальваць каго- ці што-небудзь'. Ён скалькаваны з нямецкага *der Schild heben*, першапачаткова меў значэнне 'зрабіць правадыром'. Выток фразеалагізма – звычай старажытных германцаў: выбраўшы правадыра, яны ўзнімалі яго на шчыт, каб усе навакол бачылі, каго выбралі. У «Настаўніцкай газеце» (1987. 17 кастр.) выраз ужыты з парушэннем семантычнага характару: «Усе вострыя праблемы выхавання трэба было падымаць на шчыт гадоў дзесяць назад. А мы пляскалі ў далоні па прычыне і без прычыны».

Акалічнасна-прыслоўны выраз *як піць даць* нарматыўна ўжываецца толькі пры дзеяслове-выказніку закончанага трывання, абазначаючы 'абавязкова, бясспрэчна': «Як піць даць Зося апынiцца ў Берагаў» (Ц.Гартны). Параўн. недакладнае: «У капітана сядзеў бела-

брысы цыбаты хлопец... «Як піць даць музыкант», – мільганула ў Корзунавай галаве».

Прывядзём яшчэ толькі некалькі прыкладаў з недакладным выкарыстаннем фразеалагізмаў. *Вушы пухнуць* (у каго) мае сэнс ‘каму-небудзь вельмі хочацца курыць’, а ў наступных урыўках ён надзелены зусім іншым значэннем: «Бацька заводзіў сваю заўсёдную буркатню, ад якой пухлі вушы і хацелася ўцякаць з дому» (М.Южык); «Чуў, чуў, як ты ўчора ўскіпела ў клубе. Такое ўжо вярзуць – вушы пухнуць» (Н.Лабезная). *Свет клінам сышоўся* (на кім, на чым) – гэта ‘хто-небудзь або што-небудзь з’яўляецца адзіным, з чаго можна выбіраць’; параўн. памылковае: «Папраўляйся хутчэй, а то без тваёй падтрымкі і спагады свет клінам сышоўся» (І.Кананові́ч). Прыслоўны выраз *ні сном ні духам* нарматыўна ўжываецца толькі са словамі *не ведаць, не вінаваты* і абазначае ‘зусім, ніколькі, абсалютна’, але параўн. у А.Наварыча: «Дахаты Кастусь з Янінаю ішлі разам, часта моўчкі. Аднакурсніцы Кастуся лічылі іх парай, хоць ён да яе, як кажуць, ні сном ні духам». З няведаннем прадмета маўлення выкарыстаны ў апавяданнях У.Міхно выразы *з плеч ды ў печ* («Такога заробку хлопцы яшчэ ні разу ў жыцці ў руках не трымалі. Ведама, студэнты. Што тая стыпендыя – з плеч ды ў печ»), *кляйма няма дзе ставіць* («Аплаванка ўбачыў сябе ў люстэрку і жахнуўся: бледны, васпаваты твар, увесь вугорысты – кляйма няма дзе ставіць»). Або фразеалагізм *заводзіцца з паўабароту* ў аповесці У.Ліпскага «Бацька»: «І агарод на Лысай гары ўдосталь частуе вітамінамі. Радуюся ўсяму, заводжуся, як жаўрук, з паўабароту».

Часам фразеалагізм ставяць насуперак норме ў сінтаксічную і семантычную сувязь са словам, лексічнае значэнне якога ўваходзіць у сэнсавую структуру гэтага фразеалагізма. У выніку ўзнікае семантычная таўталогія, «масла масленае», парушаецца не толькі дакладнасць, але і лагічнасць маўлення. Так, у фразеалагізме *баявое хрышчэнне* састаўным элементам абодвух значэнняў выступае сема ‘першы’: ‘першы ўдзел у баі’, ‘першае сур’ёзнае выпрабаванне ў чым-небудзь’. Выкарыстанне фразеалагізма з азначэннем *першае* стварае сэнсавую празмернасць, парушае норму яго ўжывання: «Нацярпеліся страху, але ўсё абышлося шчасліва. Першае баявое хрышчэнне адбылося»; «Там, на Украіне, я і прыняў сваё першае баявое хрышчэнне ў якасці камандзіра мінамётнай роты». Без непатрэбнага азначэння *першае*, але ўсё роўна недакладна выкарыстоўваецца гэты выраз і ў такіх прыкладах: «Сёння было маё баявое хрышчэнне. Гаварылі пра работу палкавой школы, падводзілі вынікі вучобы за месяц»; «Вайна застала Максіменку ў Оршы, дзе ён працаваў начальнікам гарадскога

аддзела НКДБ. Там – у сутычках з варожымі дэсантамі – працягвалася баявое хрышчэнне».

Семантычная структура кожнага фразеалагізма складаецца з некалькіх дыферэнцыяльных і інтэгральных элементаў значэння (сем). Так, адна з істотных, рэлевантных (дыферэнцыяльных) сем фразеалагізма *песня (песенька) спета* (чыя, каго) – 'канец, заканчэнне'. Яна абавязкова ўваходзіць у дэфініцыю гэтага выразу: 'наступіў ці наступае канец чаму-небудзь', 'чые-небудзь поспехі скончыліся, канчаюцца'. Пры рэалізацыі фразеалагізма ўжыванне побач з ім сінтаксічна і семантычна залежнага ад яго слова *канчаткова* нічога не дадае ў семантычным плане, а толькі спараджае нелагічнасць, бяссэнсіцу: «Як толькі прарок скампраметаваў сябе канцом свету, гродзенская кансісторыя палічыла, што цяпер песня яго канчаткова спета» (А.Карпюк).

Фразеалагізм *нарадзіцца ў кашулі* абазначае 'быць шчаслівым, удачлівым, вязучым; быць шчасліўчыкам'. Калі часам устаўляюць у сярэдзіну гэтага выразу прыметнік *шчаслівы*, то ён дубліруе семантыку фразеалагізма, абазначае тое, што з'яўляецца асноўным сэнсавым элементам выразу, стварае празмернасць у семантычным плане: «– Нарадзіўся ты, сынок, у шчаслівай кашулі, – зычліва ўздыхае пажылая жанчына» (А.Карпюк); «Зайздросціць сястра Лявону, лічыць, што ён у шчаслівай кашулі нарадзіўся» (В.Ткачоў).

Абагульніць прычыну з'яўлення недакладнага і прыблізнага ўжывання слоў, фразеалагізмаў і прыказак можна, як зазначае А.М.Бабкін [4, с. 6], «пры дапамозе вядомага выразу: чуў звон, ды не ведае, дзе ён».

Звернемся цяпер да недакладнага ўжывання прыказак.

Прыказка *Кінь (кінеш, закінеш) наперад – знойдзеш ззаду* нарматыўна абазначае 'калі зробіш каму-небудзь ласку, то і табе адплацяць тым самым'. З неўласцівым ёй сэнсам яна ўжыта ў аповесці М.Воранава «Перад адлігай»: «– Добра, што хоць управіліся ўчора палонкі прасекчы. – Кінь наперад – знойдзеш ззаду, – дапоўніў Ілья. – Больш часу будзе на лоўлю». Гэта ж прыказка (з неапраўданай заменай другой часткі – *знойдзеш ззаду* – фразеалагізмам *як знойдзеш*) тройчы недакладна выкарыстана І.Гурскім у трох розных творах («Качагары», «У вялікай дарозе», «Сымоніха»): «– Адрамантуем станок! – А як жа, трэба дапамагчы! – Закінеш наперад – як знойдзеш»; «Можа, таварыш старшыня, пачнём колы рабіць?.. Вясна не за гарамі... Закінеш наперад – як знойдзеш...»; «– Будзе чым дзяцей сустракаць з вайны, яны, нябось, па малаку засумавалі... – А помніш, я сказаў: закінеш наперад, як знойдзеш». Зрэшты, яшчэ ў адным

творы І.Гурскага («Хлеб») прыказка мае яе звычайны змест (толькі яе другая частка заменена фразеалагізмам *як знойдзеш*): «[Касперкі:] Як не дапамагчы суседу. Закінеш наперад, як знойдзеш».

Прыказка *Сарока на хвасце прынесла* належыць да кантэкстуальных і ўжываецца як жартаўлівы або ўнікліва адказ на пытанне пра крыніцу навін, чутак, напрыклад: «– А дзе ты ўсё гэта бярэш? – Сарока на хвасце прыносіць, – хітра адказаў дзед Архіп» (І.Гурскі). Параўн. яе памылковае ўжыванне ў п'есе М.Зарэцкага «Ная»: «[Якуб:] Ну што там табе сарока на хвасце прынесла? [Зора, таямніча:] Стаю, мой саколік, на вуліцы, але ідзе маладзіца і з ёй гарадскі нейкі – малады, чарнявы...»

Як засведчана ў працах Я.Ляцкага, М.Федароўскага, а таксама ў акадэмічным зводзе [47], прыказка *Недасол на стале, а перасол на спіне* гаворыцца толькі ў дачыненні да яды, калі на стол пададзена недасоленая ці перасоленая страва. Параўн. прымяненне прыказкі з неапраўданым яе выхадам за межы застолля: «Грыша ўзяўся рыхтаваць украінскую самадзейнасць, хор дэкламатараў са сваіх старых школьных сяброў. – Толькі не зарывайся, знай меру, бо недасол на стале, а перасол на спіне, – папярэдзілі мы яго» (Р.Няхай).

Нарматыўны сэнс прыказкі *Салаўя байкамі не кормяць* – 'размовамі сыты не будзеш'. Яна гаворыцца толькі ў строга акрэсленай сітуацыі, калі, прыпыняючы размову, запрашаюць госця да стала. У п'есе В.Зуба «Тыдзень вечнага кахання» яна ўжыта недакладна, да таго ж з пашырэннем яе кампанентнага складу: «[Матыль:] Буду спяваць... [Алімпіяда:] Ну, а апроч песень, што яшчэ будзе мець ваша будучая жонка? Нават салаўя і то аднымі байкамі не кормяць».

Прыказка *Пераначуем – болей пачуем*, як паказана ў СБП [39, с. 319], мае два значэнні. Ні адно з іх не выяўляецца ва ўрыўку з рамана Л.Дайнекі «Людзі і маланкі». У прыказку ўкладваецца нейкі суб'ектыўны сэнс, які цяжка, немагчыма зразумець: «–Кінь ты хаваць сам сябе, – аж замахнуўся на яго Кузьма... – Заб'юць мяне [на фронце], – уткнуўся тварам у купіну, уздрыгнуў худой спінай Лусковіч. – Пераначуем – болей пачуем, – зноў спрабаваў суцешыць яго Кузьма, але ў гэты час над балотам пачала суха лопацца шрапнель».

Гэтак жа цяжка зразумець, што абазначае прыказка *Поле бачыць, а лес чуе* ў такім урыўку з рамана Л.Дайнекі «След ваўкалака»: «Калі мы спыталіся ў яго, няўжо ён кавалак дрэва лічыць богам, полацкі князь кашчунна адказаў, што тая выява, той чалавечы твар, які мы малюем на дошках і палатне, таксама не бог. Тады мы пачалі горача пераконваць яго, а брат Улеб нават плакаў, прыгаворваючы: «Няўжо ты, князь, не бачыш і не чуеш бога?» – «Поле бачыць, а лес

чуе», – з незразумелай усмешкай вымавіў полацкі князь». А між тым нарматыўны сэнс прыказкі *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць* – ‘тое, што з’яўлялася чыёй-небудзь тайнай, непазбежна будзе раскрыта’.

Пададзім цалкам верш С.Законнікава «На бітай дарозе»:

Выслоўе пакінулі мудрыя продкі:
«На бітай дарозе трава не расце…»
Гісторыі чаша стаіць, як на сподку,
Адпі і даверся яе праваце.
Тапталі наш край капыты і абцасы,
Паўзла смерць на траках і шынах сюды.
Людская атава ўзнімалася з часам,
Але, як заўсёды, пад знакам бяды.
Пасля вынішчэнняў, пасля катаванняў,
А лютасць зазнаў ад чужых і сваіх,
Схаваўся народ у нару выжывання,
Як пушча прад бурай, стаіўся, прыціх.
Ды гвалт дастае, ён людзей валіць долу,
Зняверанасць ные ў крыві і ў касцях.
А ў нас лекаванне адно – валідолам,
Аднак валідолам не вылечыш страх.
Няўжо я скажу і растайнай вярсце:
«На бітай дарозе трава не расце…»?

Наўрад ці апраўдана ствараць на аснове прыказкі, двойчы паўторанай у тэксце, мастацкі вобраз нашага патоптанага ліхадзеямі краю. Прыказка сваім алегарычным зместам выклікае зусім іншыя асацыяцыі, далёкія ад пачуцця радзімы. У акадэмічным зводзе [47, кн. 2, с. 23] яна змешчана ў раздзеле «Каханне. Дашлюбныя адносіны моладзі». І.Насовіч [53, с. 89] тлумачыць прыказку так: «Говорят насчет любодейных женщин, если они не рожают». І ў сучасных літаратурных тэкстах прыказка *На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце* абазначае ‘ў гуляшчай, распуснай жанчыны дзяцей не бывае’ [39, с. 243-244].

Дакладнасць забяспечваецца добрым веданнем прадмета маўлення, аўтарскім кантролем за прымяненнем слова ці фразеалагізма. Гэта – нямоўныя (экстралінгвістычныя) умовы дакладнасці маўлення. Да лінгвістычных умоў, якія садзейнічаюць стварэнню дакладнасці, адносяцца: 1) веданне сінанімічных магчымасцей мовы і ўменне выбраць з сінанімічнага рада найбольш дакладнае для канкрэтнага выпадку слова; 2) веданне і дакладнае размежаванне полісеміі; 3) уменне размяжоўваць паронімы.

Назоўнікі *пагода* і *надвор'е* – семантычныя сінонімы. «Слова *пагода,* – піша К.Крапіва, – проціпастаўляецца слову *непагадзь* і, калі ўжываецца без прыметніка, абазначае сонечную пагоду. «Два дні пагоды, і сена будзе сухое», – скажа старшыня калгаса. Зразумела, што тут гаворка ідзе пра сонечную пагоду. А пра надвор'е так не скажаш, – трэба дадаваць эпітэт – добрае, дрэннае, бо ў паняцце *надвор'е,* апрача яснай і дажджлівай пагоды, уваходзяць і іншыя кліматычныя адзнакі: холад, цяпло, вільготнасць паветра». У прыведзеных ніжэй сказах слова *надвор'е,* у тым ліку і ў складзе фразеалагізмаў *рабіць пагоду, чакаць з мора пагоды,* ужыты недакладна: 1) Камары таўкуць свой мак – быць надвор'ю – добры знак; 2) Нельга аперыраваць фактамі аднаго, хоць і буйнога універмага, які не робіць надвор'я ў продажы нашых тэлевізараў; 3) А чаго чакаюць з мора надвор'я?

Аўтары мастацкіх і публіцыстычных твораў часта карыстаюцца разнастайнымі сінанімічнымі сродкамі выказвання: і агульнанароднымі сінонімамі тыпу *салдат – радавы – баец; настаўнік – выкладчык – педагог*; і кантэкстуальнымі сінонімамі, г.зн. словамі, якія толькі ў кантэксце, толькі часова становяцца сінонімамі, другой назвай прадмета, дзеяння і інш. Сэнсавая і стылістычная нагрузка сінонімаў вялікая: імі дасягаецца дакладнасць маўлення, яны дапамагаюць пазбегнуць таўталогіі, выступаюць як дадатковы ацэначны сродак. Думаецца, аднак, што выдзеленыя ў наступным урыўку кантэкстуальныя сінонімы не забяспечваюць дакладнасці маўлення, а, наадварот, ускладняюць успрыманне тэксту, прымушаюць паўторна чытаць гэты ўрывак, каб нарэшце зразумець, што тут гаворыцца не пра некалькіх асоб, а пра адну і тую ж – Альяша (прарока, дзеда, дзядзьку): «Увесь свой аграмадны капітал, які *Альяш* паспеў накапіць к таму часу, *прарок* вырашыў пусціць на пабудаванне славутага Вершаліна, і за справу ўзяўся *дзед* з размахам. У бліжэйшай вёсцы, у Лешчыной, *Альяш* закупіў сорак гектараў зямлі. На гэтым абшары *дзядзька* пачаў разбіваць садок».

Мнагазначнасць слова – адзін з невычэрпных рэзерваў моўнай выразнасці – у мастацкіх творах выкарыстоўваецца для стварэння разнастайных стылістычных эфектаў. Вось як, напрыклад, абыгрываюцца полісемічныя словы *вырасці, рэзаць, скубці*: «Аўтар прыкметна вырас: мінулагодні касцюм стаў яму малы» (П.Шыбут); «Пеўня спачатку рэжуць, а потым скубуць. А аўтара на кінастудыі спачатку доўга і калектыўна скубуць, а нарэшце хто-небудзь зарэжа. Што выгадней – варта спытацца ў пеўня» (Я.Брыль).

Пры ўжыванні мнагазначных слоў часам узнікае недакладнасць, непажаданая, не запланаваная аўтарам двухсэнсавасць. Напрыклад, у вершаваных радках «Як вясне старац рад – бачыў я» кантэкст не дазваляе зразумець, які сэнс мае слова *старац* (у ТСБМ яно трохзначнае). Тое самае можна сказаць адносна слоў *пранесці, вызначэнне*: «Па гасцінцы міма клёнаў пранясло аўтакалону»; «Празаік па-майстэрску будуе дыялог, дае выверaны, напружаны сюжэт, не злоўжывае вызначэннямі, эпітэтамі».

У артыкуле пра культуру маўлення чытаем: «Сёння нярэдка даводзіцца назіраць... своеасаблівую прывязанасць да аднаго нейкага слова сінанімічнага рада, якое выкарыстоўваецца ў любым кантэксце. Вось, напрыклад, дзеясловы-сінонімы *губляць* і *траціць*. Дзеянне, выражанае першым, стасуецца, як вядома, з аб'ектам канкрэтным, матэрыяльна-рэчавым *(згубіў аловак, грошы)*; дзеянне, выражанае другім, пераносіцца звычайна на аб'ект абстрактнага, адцягненага зместу *(страціў прытомнасць, слых)*. Сэнсавае адрозненне (а значыць, і розніца ў літаратурна-стылістычнай ролі) гэтых сінонімаў, як бачым, вельмі істотнае. Між тым у друку, у тым ліку і ў мастацкіх творах, у апошні час чамусьці захапляюцца дзеясловам *губляць*, што прыводзіць часта да стылістычных недакладнасцей». Далей даецца больш як 20 прыкладаў (тыпу: *губляць час, згубіць сумленне, губляць веру, згубіць сувязь*) памылковага, недакладнага, як сцвярджае аўтар, ужывання дзеясловаў *губляць, згубіць*.

Яшчэ ў адным артыкуле ўжо другога аўтара (ЛіМ. 2004. 2 крас.) сцвярджаецца аналагічная думка, што дзеяслоў *згубіць* спалучаецца толькі з канкрэтнымі прадметамі, а *страціць* – толькі з абстрактнымі і што «*згубіў прытомнасць, згубіў розум* – «гэта непісьменна!» Але з выкарыстаннем дзеясловаў *губляць, згубіць, траціць, страціць* не так усё проста, як здаецца. Усе яны, як засведчана ў акадэмічных тлумачальных даведніках, мнагазначныя, маюць па сем і болей (з адценнямі) значэнняў, і ў некаторых значэннях яны абсалютныя сінонімы, тоесныя ў семантычных і стылістычных адносінах і ўзаемазамяняльныя ў любых кантэкстах. Гэтыя значэнні ці адценні фіксуюцца ў нарматыўных слоўніках не па волі складальнікаў-лінгвістаў, а на аснове маўленчай практыкі людзей, звычайна пры апоры на практыку аўтарытэтных аўтараў, на частотнасць ужывання пэўнага значэння. Нават тады, калі толькі пачынала складвацца сучасная беларуская літаратурная мова, у прыватнасці ў творах В.Дуніна-Марцінкевіча, сустракаем такія раўназначныя ўжыванні: *памяць, розум губляю; не глядзі так на мяне, бо розум страчу.* Яшчэ некалькі (скарочаных) прыкладаў: *згубіўшы свой*

*шляхетны сорам* (К.Крапіва), *не губляючы часу* (І.Мележ), *жывёлы ўжо згубілі сувязь са сваім дзікім станам* (М.Лобан), *гэта «а» некалькі скарачаецца, але не губляе сваёй асноўнай якасці* (Ф.Янкоўскі).

Адносна ўжывання займеннікаў *які* і *каторы* аўтар артыкула пра культуру маўлення піша: «Пытанні тыпу *У якім класе вучышся?* ці *У якім вагоне паедзеш?* можна пачуць не толькі ў двары або на прывакзальнай плошчы. Яны падчас гучаць на кінаэкранах, з'яўляюцца ў друку. А ў іх па нормах нашай мовы замест слова *які* трэба ўжываць *каторы*... У пытаннях маецца на ўвазе не якасная характарыстыка прадмета, а яго парадкавы нумар. А яны, парадкавыя лічэбнікі, адказваюць на пытанне *каторы*? Гэта школьнае правіла ўсе вучылі, а прымяняць яго на практыцы навучыліся не ўсе». Аднак такія катэгарычныя парады нельга прымаць як слушныя. Абодва займеннікі мнагазначныя; пытальны займеннік *каторы* семантычна нічым не адрозніваецца ад пытальнага займенніка *які*, але спалучаецца звычайна з назоўнікамі часавага значэння; займеннік жа *які* практычна не мае абмежаванняў у семантычна-сінтаксічнай сувязі з прадметнымі словамі. Таму заканамернымі будуць пытанні: «Каторая гадзіна?», «Якога скланення гэты назоўнік?», «У якім годзе ты нарадзіўся?». Вось некалькі прыкладаў з дакладным ужываннем слоў *які, каторы*: 1) – З якога ты года? – З трыццаць першага. – Э-э, дык ты вайны не знаеш! (Н.Гілевіч); 2) Дажджу каторы час няма (Я.Брыль); 3) Цывільных рабочых тут было ўсяго якіх чалавек дзесяць (К.Чорны); 4) – Ты ў якім класе вучышся, Надзейка? – У пятым (Т.Хадкевіч); 5) А які нумар дома вам патрэбен? (М.Лынькоў); 6) А ведаеш, у які клас паступаць хачу?.. У пяты... (Я.Колас); 7) Дзе ж вы хаваліся? Мой жа стары каторы дзень шукае вас па лесе (ЛіМ).

Як ужо ўпаміналася, уменне размяжоўваць паронімы – адна з умоў, якія падтрымліваюць дакладнасць маўлення. Зблытванне ж паронімаў вядзе да парушэння маўленчай дакладнасці. І гэта нярэдкая з'ява, пра што сведчыць больш як 70 прыкладаў няправільнага словаўжывання, прыведзеных у слоўніку С.М.Грабчыкава «Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў» (1977). Пададзім яшчэ некалькі прыкладаў.

Блізкія гучаннем, але розныя па значэнні аднакаранёвыя словы *факт* і *фактар* часам падмяняюцца ў маўленні. Так, замест неабходнага ў кантэксце слова *факт* ужыта *фактар*: «У выніку рэвалюцыйных пераўтварэнняў узнікаюць новыя грамадска-палітычныя адносіны. Гэта патрабуе папаўнення мовы словамі для абазначэння новых фактараў рэчаіснасці».

Прыслоўе *бескарысліва* абазначае 'без імкнення да асабістай выгады', а *бескарысна* – гэта 'дарэмна, дарма'. У адным нарысе на месцы першага з гэтых паронімаў стаіць другі: «Самадзейная выяўленчая творчасць ахоплівае дзесяткі бескарысна ўлюбёных у мастацтва людзей, якія ў вольны ад асноўнай работы час ствараюць цікавыя жывапісныя палотны, графічныя лісты, скульптурныя кампазіцыі». У гэтым жа нарысе замест *асаблівы* выкарыстана *асобны*: «Сотні наведвальнікаў з вялікай цікавасцю знаёміліся з жывапіснымі палотнамі, у якіх з асобнай сілай і пранікнёнасцю адчувалася радасць жыцця».

*Метэор* і *метэарыт* – словы-паронімы. Першае абазначае 'распаленае цела касмічнага паходжання, якое хутка рухаецца ў зямной атмасферы', а другое – 'цвёрдае цела касмічнага паходжання, якое ўпала на Зямлю з міжпланетнай прасторы'. Параўн. змешванне гэтых паронімаў у наступных прыкладах: 1) Выконваючы ролю гаспадыні, лётаючы з хуткасцю метэарыта з прыёмнай у кабінет і назад, ён пускаў, што паветраных змеяў, жарты і ўключаўся ў любую размову; 2) А зараз даводзяць, што кратэры ад падзення метэораў; 3) Перакрэсліўшы неба чырвонай рыскай, згарэў, не дасягнуўшы зямлі, метэарыт.

Думаецца, што ў школьнай ці студэнцкай практыцы барацьба з недакладнасцю маўлення можа быць эфектыўнай толькі пры ўмове, калі кожны маўленчы недахоп будзе аналізавацца. Прынцып «на памылках вучымся» больш, чым дзе-небудзь, прыдатны пры авалоданні культурай маўлення.

## ЛАГІЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

Маўленне лагічнае, калі семантычныя сувязі паміж яго элементамі (словамі, фразеалагізмамі, сказамі) адпавядаюць законам логікі, законам мыслення.

Паміж лагічнасцю і дакладнасцю маўлення існуе пэўная сувязь. У шмат якіх выпадках недакладна ўжытае слова робіць маўленне нелагічным. Так, прыслоўе *нагбом* пры нарматыўным яго ўжыванні мае фразеалагічна звязанае (ці, лепш, валентна абмежаванае) значэнне, якое выяўляецца толькі ў спалучэнні з дзеясловам *піць* і ўтварэннямі ад яго: '(піць) з вялікай пасудзіны, нахіліўшы яе'. У вершаваных радках К.Ільюшчыца «І шпак, спацелы ў peралёце, п'е днём бярозавік нагбом» гэта прыслоўе выкарыстана прыблізна, з няведаннем прадмета маўлення, а таму тут маюць месца недакладнасць і, як вынік, нелагічнасць: шпак не можа піць бярозавік нагбом.

Лагічнасць можа парушацца і пры дакладным, нарматыўным ужыванні слоў і фразеалагізмаў. Вось прыклад з праекта універсітэц-

кай праграмы па мове: «Праграма мае на мэце захаванне пастаяннай сувязі з асновамі школьнай граматыкі, асабліва з тымі яе тэмамі, якія вывучаюцца ў сярэдняй школе». Тут няма недакладна ўжытых слоў, але ёсць памылкі лагічнага характару. Па-першае, не праграма, а выкладанне курса мовы прадугледжвае ці мае на мэце і г.д. Па-другое, тэрмін «школьная граматыка» даўно ўжо ўстарэлы, ён аджыў сваё, цяпер у школе вывучаюць не толькі граматыку, але і лексікалогію, фразеалогію, фанетыку, арфаэпію, графіку, арфаграфію, пунктуацыю, стылістыку, культуру маўлення, таму трэба пісаць не «школьная граматыка», а «школьны курс мовы». Па-трэцяе, пры ўспрыманні ўрыўка «асабліва з тымі яе тэмамі, якія вывучаюцца ў сярэдняй школе» ствараецца ўражанне, што ў «школьнай граматыцы» ёсць тэмы, якія не вывучаюцца ў сярэдняй школе.

Памылкі ў логіцы выкладу «могуць быць закладзены ўжо ў працэсе пазнання, калі яно праходзіла з адступленнем ад законаў логікі. А гэтыя законы аднолькавыя і для разважання, і для паведамлення» [19, с. 148]. Так, у адной метадычнай працы пералічваюцца наступныя прыёмы тлумачэння слоў: наглядны, апісальны, сінанімічны, выкарыстанне тлумачальнага слоўніка, марфемны аналіз, этымалагічны аналіз і інш. У гэтым пераліку – грубае парушэнне асноў класіфікацыі, бо, як вядома, ёсць толькі тры спосабы раскрыцця лексічнага значэння слоў: апісальны, сінанімічны і структурна-семантычны. Марфемны ж або этымалагічны аналіз ці выкарыстанне слоўніка – гэта ўжо, як кажуць, з другой оперы.

«Мысленне, – пісаў Ф.Энгельс, калі яно не робіць промахаў, можа аб’яднаць элементы свядомасці ў нейкае адзінства ў тым выпадку, калі ў іх або ў іх рэальных правобразах гэтае адзінства ўжо існавала. Ад таго, што шчотку для абутку мы залічым у адну катэгорыю з млекакормячымі, – ад гэтага ў яе яшчэ не вырастуць малочныя залозы» [67, с. 37]. Няма ніякіх падстаў аб’ядноўваць або супрацьпастаўляць, напрыклад, такія лінгвістычныя паняцці, як «нормы літаратурнай мовы» і «дыялектныя формы нацыянальнай мовы» ці «асаблівасці літаратурнай мовы», як гэта бачым у наступным урыўку: «Гаворачы вобразна, нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы прыходзіцца ўсё больш «спаборнічаць», па-першае, з дыялектнымі, дарэчы, надзвычай «жывучымі» формамі нацыянальнай мовы, па-другое, са шматлікімі асаблівасцямі рускай літаратурнай мовы». Зрэшты, у гэтым сказе нелагічна выкарыстаны і стылеўказальны сродак *гаворачы вобразна*, бо ніякай вобразнасці ў прыведзеным урыўку няма, а ўзяты ў двукоссе дзеяслоў *спаборнічаць* (прэтэндэнт на вобразнасць) тут рэалізуе сваё звычайнае слоўнікавае значэнне.

У адным дапаможніку ёсць заданне вучням: «У якой мове (гутарковай ці літаратурнай) часцей ужываюцца словы, змешчаныя ў практыкаванні?». Гэта пытанне нелагічнае, бо нельга супрацьпастаўляць родавае паняцце («літаратурная мова») і відавое («гутарковая мова»): гутарковы, або размоўны, стыль – адна з функцыянальна-стылёвых разнавіднасцей літаратурнай мовы.

Урывак з навукова-метадычнай працы: «У кнізе разглядаюцца найбольш актуальныя пытанні і тыя, для вырашэння якіх аўтар меў дастатковы матэрыял». Чытаючы сказ, міжволі прыходзіш да высновы, што другая група пытанняў ужо не належыць да «найбольш актуальных».

Лагічная няправільнасць назіраецца і ў такім заданні з дапаможніка для вучняў: «Выпішыце асобна фразеалагізмы: а) якія падобны на сказ, б) у якіх паўтараюцца асобныя словы, в) у склад якіх уваходзяць устарэлыя словы. Растлумачце значэнне фразеалагізмаў апошняй групы». Відавочна, што падзел фразеалагізмаў на тры такія групы беспадстаўны, у аснову класіфікацыі пакладзена штосьці няпэўнае.

Як вядома, усе словы літаратурнай мовы, калі іх класіфікаваць паводле сучаснасці і ўстарэласці ці навізны, аб’ядноўваюцца ў дзве групы: актыўную і пасіўную лексіку. Пры такім падзеле не прымаюць пад увагу, як часта ўжываецца ў сучасным маўленні тое ці іншае слова. Напрыклад, у частотным слоўніку мастацкай прозы найбольш ужывальным выступае займеннік *ён*, а каля 10 тысяч слоў маюць частату 1 *(аб’ектыў, кудахтаць, падлік* і інш.). Але і *ён*, і іншыя ўсё роўна належаць да актыўнай лексікі, бо не маюць адцення ўстарэласці ці навізны. А ў дапаможніку для студэнтаў чытаем сказ з лагічнай няправільнасцю: «Уся лексіка паводле рэдкага ці частага ўжывання падзяляецца на актыўную і пасіўную лексіку».

А.Разанаў у рэцэнзіі піша: «Спашлюся на верш «Жураўлі ляцяць...», якім адкрываецца зборнік А.Ставера:

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць,
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць...

Нават з першага позірку бачна, што думка, выказаная тут, не бясспрэчная. Чаму, каб любіць радзіму, трэба абавязкова ехаць у іншыя краі? Можна згадзіцца, што на чужыне вельмі востра абуджаецца туга па роднай зямлі, але гэта зусім не азначае, што людзі, якія не выязджалі за межы сваіх аселіц, не любяць іх. Хутчэй за

ўсё, яны жывуць у той ці іншай мясціне таму, што любяць яе. Так і з жураўлямі».

Думаецца, што з выказваннем рэцэнзента можна пагадзіцца. А вось наконт *Так і з жураўлямі* варта задумацца. «Жураўлі на Палессе ляцяць» не таму, што гэтак жа любяць яго, як лірычны герой верша. Пералёты птушак з мясцін гнездавання ў месцы зімовак і наадварот склаліся гістарычна і генетычна замацаваны, маюць устойлівы характар.

Іншы раз з пэўнай стылістычнай мэтай у вусны персанажаў мастацкага твора ўкладваюцца нелагічныя разважанні. Дзед Цыбулька (з камедыі «Таблетку пад язык» А.Макаёнка) шмат чаго пераняў ад свайго ўнука – студэнта-завочніка, разумнага і дапытлівага юнака. Дзед сам прызнаецца: «Ды я са сваім завочнікам, з Юркам, усю палітэканомію асіліў. За істмат узяўся. Вот!» І як Цыбулька спрабуе дастасаваць свае веды па дыялектыцы да канкрэтных прыродных з'яў? Пачуўшы раніцой, як «пеўні гарланяць» і «будзяць сонца», «яснае, ласкавае», дзед робіць «дыялектычны» вывад: «Дыялектыка!.. Не прапелі б пеўні, і сонейка не прачнулася б...». Зразумела, што на самай справе паміж гэтымі з'явамі няма ніякай прычынна-выніковай залежнасці. Супастаўм і адпаведную прыказку: *Не заўсёды світае, як певень спявае.*

Лагічнасць, як відаць з разгледжаных прыкладаў, забяспечваецца перш за ўсё экстралінгвістычнай умовай – уменнем лагічна мысліць. «Лагічнасць як якасць маўлення выводзіць нас за межы слова і ўводзіць у межы выказвання як адзінкі маўлення, у галіну сінтаксісу. Пры ацэнцы лагічнасці асабліва важна чуць і бачыць (на пісьме) тое цэлае, якое ўзнікае пры спалучэнні слоў... Для дасягнення лагічнасці неабходна дамагчыся сэнсавай несупярэчлівасці частак у адным выказванні і такой жа несупярэчлівасці выказванняў у цэлым тэксце. І калі дакладнасць звязана з лексічным узроўнем, то лагічнасць звязана з сінтаксічнай арганізацыяй як выказвання, так і тэксту» [19, с. 144].

Адна з канкрэтных лінгвістычных умоў лагічнасці – гэта правільны выбар сінтаксічнай канструкцыі і сродкаў лагічнай сувязі паміж часткамі выказвання і паміж асобнымі сказамі.

Лагічнасць парушаецца, калі ў аднародны рад аб'ядноўваюцца несуадносныя паняцці. Напрыклад, у наступным сказе аб'яднаны фармальна, сінтаксічна аднародныя, але лагічна неаднародныя назоўнікі: «Кожны год са свайго ўчастка школа збірае багаты ўраджай гародніны, садавіны, *іншых культур*».

Вось яшчэ прыклады з навукова-метадычных прац: 1) Настаўнік загадзя вызначае пэўныя мэты і задачы ўрока і потым настойліва дабіваецца ажыццяўлення іх на працягу ўсяго ўрока, карыстаючыся належнымі метадамі і прыёмамі навучання, сістэмай і характарам практыкаванняў; 2) Прыступаючы да вывучэння сінтаксісу, неабходна паўтарыць і замацаваць веды вучняў пра галоўнае і залежнае слова ў словазлучэнні.

У першым прыкладзе апорны кампанент – дзеепрыслоўе *карыстаючыся* – кіруе двума лагічна аднароднымі (*метадамі і прыёмамі*) і двума лагічна неаднароднымі членамі сказа (*сістэмай і характарам практыкаванняў*). У другім – ёсць лагічна заганная канструкцыя – «паўтарыць і замацаваць веды», бо «паўтарыць веды» – нонсэнс.

«Літаратура і мастацтва» – так называецца газета-штотыднёвік творчай інтэлігенцыі Беларусі. Звыкшыся з такой назвай, мы і не задумваемся, што з фармальнага пункту гледжання ў ёй ёсць хіба лагічнага характару, бо тут злучнікам *і* аб'ядноўваюцца відавое і родавае паняцці. У мастацтва як творчае адлюстраванне рэчаіснасці ў мастацка-вобразных формах уваходзяць архітэктура, музыка, літаратура, скульптура, жывапіс, графіка, танец, тэатр, кіно і іншыя віды творчай дзейнасці чалавека. Літаратура – адзін з відаў мастацтва. Але гэта своеасаблівы, адмысловы від, бо, кажучы словамі В.Бялінскага, яна «мае ўсе элементы іншых мастацтваў, як бы карыстаецца разам і непадзельна ўсімі сродкамі, дадзенымі паасобку кожнаму з іншых мастацтваў». Яна і крыніца, якая жывіць сваімі вобразамі і сюжэтамі тэатр, кіно, музыку, жывапіс і г.д. Таму гэта найвышэйшы від мастацтва, а спалучэнне *літаратура і мастацтва* (на пачатку свайго жыцця – быццам бы нелагічнае) цалкам прымальнае і дапушчальнае.

А вось у словазлучэнні «кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства» (ёсць такая кафедра ў адным універсітэце) два прыметнікі, звязаныя злучнікам *і*, утвараюць несумненны алагізм, сумяшчэнне несумяшчальнага.

Што да мастацкіх тэкстаў, дык у іх знарок, найчасцей для стварэння камічнага эфекту, іншы раз два словазлучэнні з аднолькавым граматычна галоўным словам, але ў розных яго значэннях (*пахне галубамі* і *пахне куляй*) аб'ядноўваюцца ў адну сінтаксічную канструкцыю з фармальна аднароднымі, а лагічна разнароднымі членамі: «– А пакгауз я ведаю, як свой вагон, мы вунь колькі разоў туды лазілі галубоў ганяць... – Галубоў, галубоў... – перадражніў яго [Міколку] адзін з рабочых. – Тут, бачыш, не галубамі

пахне, а куляй...» (М.Лынькоў). Такі стылістычны прыём стварэння «аднароднай неаднароднасці» называецца зеўгмай.

Вось толькі некалькі прыкладаў з зеўгматычнымі канструкцыямі (іх апорны двухзначны кампанент выдзелены): 1) За лета я *нажыў* ладныя мазалі, якія сваёй цвёрдасцю маглі паспрачацца з конскім капытом, і сорак рублёў грошай (К.Крапіва); 2) Рачулка, відаць, помніць, як каржакаваты і задуменны хлапчук *лавіў* тут ментузоў і першыя рыфмы ў шале салаўёў (Р.Барадулін); 3) Песень, помню, не спявалі маткі, а бацькі, браты пайшлі ў лясы... І рабілі мы тады рагаткі, *разбівалі* вокны і насы (Г.Бураўкін); 4) Да многага *даходзіў* не розумам, а нагамі (П.Шыбут).

Аналагічная з'ява сустракаецца і пры творчым, эфектыўным выкарыстанні фразеалагізмаў. У такім разе ўзнікае фразеалагічная зеўгма: 1) Вось мы гэта яшчэ паглядзім, на покуці ці *ў лужу сядзем*. Вы – ці мы (Р.Мурашка); 2) Дзяцей *водзяць* за рукі, дарослых – *за нос* (Б.Сачанка); 3) У кожнага сваё: у каго *камень* на сэрцы, а ў каго – *за пазухай* (Р.Румко).

Варта, дарэчы, адзначыць, што ў нашай мове ёсць нямала такіх фразеалагізмаў, якія ўспрымаюцца як залацінкі народнай мудрасці, хоць паводле свайго ўзнікнення гэта тыповыя алагізмы: *адмыкаць адамкнёныя дзверы, выдраць лысаму валоссе, грушы на вярбе, ваду ў ступе таўчы, без году тыдзень, дзірка ад абаранка, сёрбаць лапцем боршч, голаму за пазуху, як босаму разуцца, сабакам сена касіць, сем пятніц на тыдні, хапаць зоркі з неба, наступаць сабе на язык, ад яйка адліць, вароты пірагамі падпёртыя* (у каго), *выходзіць сухім з вады, смаловы дуб, бярозавая каша, абуць сэрца ў лапці, куры будуць смяяцца* і інш.

Іншы раз і ў прыказцы яе першы кампанент мае не толькі звычайнае, слоўнікавае значэнне, але і кантэкстуальнае, няслоўнікавае, якое накладваецца на першае. Так, у прыказцы *Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум* кампанент *вастры* абазначае 'рабі вострым' (у дачыненні да спалучэння *зуб аб зуб* і 'ўдасканальвай, узбагачай' (у дачыненні да *розум аб розум*).

Спынімся цяпер на некаторых парушэннях лагічнасці маўлення, якія назіраюцца ў галіне мовазнаўства.

1. Звычайна пры разглядзе стылістычных функцый антонімаў побач з такім мастацкім прыёмам, як антытэза, называюць і аксюмаран (ад грэч. *oxymoron* – дасціпна-недарэчнае). Але ён мае толькі ўскосную сувязь з антаніміяй, пры якой заўсёды супрацьпастаўляюцца словы адной часціны мовы (*белы – чорны, дзень – ноч*). Аксюмаран жа як фігура маўлення засноўваецца на наўмысным

спалучэнні двух слоў розных часцін мовы, якія выражаюць лагічна неспалучальныя паняцці і выключаюць адно аднаго. Гэта, як правіла, прыметнікава-назоўнікавая канструкцыя. Напрыклад, у К.Крапівы – *дыпламаваны баран*, у Р.Барадуліна – *дойны конь*, у В.Быкава – *сумная радасць*. Іншыя прыклады: *праваслаўны атэіст, песімістычны аптымізм, вашывыя блохі, рынкавы сацыялізм.* Паміж кампанентамі гэтых аксюмаранавых канструкцый няма антанімічных адносін, таму сцвярджэнні, што аксюмаран засноўваецца «на выкарыстанні антонімаў», «з'ява антаніміі ляжыць у аснове аксюмарана», нічым не апраўданыя, нелагічныя.

2. Прыметнікі абазначаюць прымету прадмета (якасную, адносную ці прыналежную). Улічваючы характар гэтай прыметы, лексічнае значэнне і граматычныя асаблівасці прыметнікаў, іх звычайна падзяляюць на якасныя, адносныя і прыналежныя. Іншы раз прыналежныя прыметнікі разглядаюцца як падгрупа адносных.

У некаторых жа навучальных дапаможніках [59, с. 89-90] вылучаюць «тры асноўныя разрады: якасныя, адносныя і прыналежныя» і «тры дадатковыя: прыналежна-адносныя, адносна-якасныя і прыналежна-адносна-якасныя». Апошні з «дадатковых разрадаў» ілюструецца і такім прыкладам з твора М.Танка: «Адступала панская навала, дым клубіўся з гнёзд яе *асіных*». Але вылучанае тут слова – не «прыналежна-адносны прыметнік з якасным значэннем», як сцвярджаецца ў дапаможніку, а кампанент фразеалагічнага адзінства *асінае гняздо* з цэласным, сэнсава непадзельным значэннем 'прыстанішча небяспечных, шкодных людзей' (этымалагічна вобразнасць гэтага фразеалагізма звязана з такой прыметай, як агрэсіўнасць патрывожаных у гняздзе восаў).

У якасці прыкладаў да гэтага ж «дадатковага разраду» даюцца і такія: *лісіная нара, лісіны каўнер, лісіная хітрасць ворага.* Аналізуючы гэтыя і падобныя прыклады, нельга не прымаць пад увагу тое, што тут не проста прыметнік, а мнагазначнае слова і што кожнае яго значэнне, засведчанае слоўнікамі, павінна характарызавацца індывідуальна. У прыкладзе *лісіная нара*, дзе *лісіны* абазначае 'які належыць лісе', – перад намі прыналежны прыметнік, і толькі прыналежны, а не «прыналежна-адносна-якасны». У другім прыкладзе (*лісіны каўнер*) – толькі адносны, у трэцім (*лісіная хітрасць ворага*) – толькі якасны. У кожным выпадку мнагазначны прыметнік выступае не як прыметнік наогул, а як слова ў яго пэўным значэнні.

Калі ж прытрымлівацца іншага погляду і вылучыць «дадатковыя разрады», тады, каб заставацца паслядоўным, трэба было б і, напрыклад, у назоўніках шукаць такія ж «дадатковыя разрады», як

«адушаўлёна-неадушаўлёны», «канкрэтна-абстрактны» і г.д. Так, *конь* у значэнні ‘свойская жывёліна’ – адушаўлёны назоўнік, а ў значэнні ‘шахматная фігура’ і ‘гімнастычны брус’ – неадушаўлёны. *Іскра* і *лес* у словазлучэннях *безліч іскраў, хвойны лес* – канкрэтныя назоўнікі, а ў словазлучэннях *іскра надзеі, лес рук* – абстрактныя.

Гэтак жа нелагічна вылучаць і ў прыметніках «дадатковыя разрады». В.У.Вінаградаў яшчэ ў 1947 г. пісаў: «Граматычная мяжа паміж якаснымі і адноснымі прыметнікамі праходзіць унутры аднаго і таго ж слова, абумоўленая дыферэнцыяцыяй яго значэнняў. Напрыклад, *саматужны* ў яго прамым тэрміналагічным значэнні належыць да адносных прыметнікаў», у іншым значэнні (‘недасканалы, прымітыўны’) мае «чыста якаснае значэнне» [12, с. 204].

Як парушэнне лагічнасці маўлення варта ацэньваць, напрыклад, сцвярджэнні, якія нярэдка сустракаюцца ў падручніках ці дапаможніках для вышэйшай і сярэдняй школы: «Адносныя прыметнікі часта пераходзяць у разрад якасных»; «Якасныя прыметнікі таксама могуць пераходзіць у адносныя».

У акадэмічнай «Беларускай граматыцы. Ч. І» (1985) асобна апісваюцца разрады якасных прыметнікаў (§ 195) і адносных (§§ 196, 197), сярод адносных вылучаецца падгрупа прыналежных прыметнікаў. Але ў раздзеле «Словаўтварэнне прыметнікаў» чамусьці ёсць і падзагаловак «Прыметнікі з адносна-якасным значэннем» (с. 297).

3. Як вядома, абагульнена-асабовым называецца такі аднасастаўны сказ, у якім галоўны член, суадносны з выказнікам, выражаецца дзеясловам 2-й асобы адзіночнага ці 3-й асобы множнага ліку і абазначае дзеянне, што ў аднолькавай меры адносіцца ці можа адносіцца да любой асобы: *Алеся Адамовіча не* ***папікнеш*** *у саўковасці* (М.Тычына); *Аб адсутных не* ***гавораць*** *кепска* (І.Шамякін).

Абагульнена-асабовыя сказы толькі зрэдку ілюструюцца ў навуковай і навучальнай літаратуры прыкладамі накшталт *Машыну за такія грошы не купіш.* Як у гэтым, так і ў папярэдніх прыкладах сапраўды выразна выяўляецца адзінства зместу і формы. У іх кожнае слова рэалізуе сваё слоўнікавае лексічнае значэнне (напрыклад: *машына, малы, грошы, купіць*) і з’яўляецца пэўным членам сказа. У навуковых жа граматыках і навучальных дапаможніках абавязкова падкрэсліваецца, што тыповым узорам абагульнена-асабовых сказаў выступаюць прыказкі, а ў некаторых працах у якасці ілюстрацый даюцца амаль адны прыказкі: *З песні слова не выкінеш; Шыла ў мяшку не схаваеш; Клін клінам выбіваюць* і інш. Але ў такім разе ўжо нельга гаварыць пра адзінства формы і зместу.

Вывучаючы двухсастаўныя сказы, мы ж не аперыруем прыказкамі тыпу *На злодзеі шапка гарыць,* не кажам, што тут *шапка* – дзейнік, *гарыць* – выказнік, *на злодзеі* – дапаўненне. Тут не тая *шапка,* не той *злодзей* і не тое *гарыць*, якія ёсць у слоўніках. Сэнсавы змест гэтай прыказкі не звязаны са значэннямі яе кампанентаў. Яна абазначае 'той, хто правінаваціўся ў чым-небудзь, сам міжволі выдае сябе сваімі паводзінамі'.

Тое самае трэба сказаць і пра іншыя пададзеныя вышэй прыказкі. У іх толькі фармальна можна вылучыць галоўны член, суадносны з выказнікам, але такое вылучэнне адразу ж разбураецца сэнсавым зместам кожнай з гэтых прыказак. *З песні слова не выкінеш* – 'даводзіцца гаварыць усё, усю праўду'. *Шыла ў мяшку не схаваеш* – 'немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае'. *Клін клінам выбіваюць* – 'непрыемныя вынікі якіх-небудзь дзеянняў ці стану ліквідуюцца тымі ж сродкамі, якімі выкліканы гэтыя дзеянні ці стан'.

Пераважная большасць прыказак мае пераносны, фігуральны, вобразны, іншасказальны змест. У іх адбылося аднačасовае і скразное пераасэнсаванне ўсіх ці амаль усіх слоў. У прыказцы ж, напрыклад, *Яйка курыцу вучыць* дзеяслоўны кампанент захаваў сваё прамое значэнне. Але і ў ёй *яйка* (хоць і стаіць у форме назоўнага склону) не з'яўляецца прадметам нашай думкі і, значыцца, дзейнікам.

«Прыказкі, якія ўжываюцца ў іншасказальным сэнсе, сінтаксічна непадзельныя. Спроба сінтаксічнага чляненя або пераводзіць іх з іншасказальнага, вобразнага плана ў літаральны, або ператварае прыказку, калі яна не мае літаральнага плана, у свабодны сказ такога ж сінтаксічнага складу» [24, с. 11]. Вызначэнне галоўных і даданых членаў у падобных прыказках гэтак жа немэтазгодна і пярэчыць цвярозаму сэнсу, як і чляненне фразеалагізмаў, структурна арганізаваных як сказ (напрыклад, *мядзведзь на вуха наступіў* каму). Як у прыказках алегарычнага зместу, так і ў фразеалагізмах кампаненты не маюць самастойнага лексічнага значэння і дэнататыўнай накіраванасці, дэактуалізаваліся, а сінтаксічныя сувязі паміж кампанентамі носяць чыста фармальны характар.

Гэта, несумненна, трэба мець на ўвазе пры разглядзе розных відаў аднасастаўных сказаў. Многія прыказкі па ф о р м е (але не сэнсава) арганізаваны як абагульнена-асабовыя сказы (прыклады прыводзіліся вышэй). Калі гэта прыказкі з алегарычным зместам, тады няма падстаў вылучаць дзеяслоў-выказнік у іх складзе і чляніць іх сінтаксічна. Так, прыказка *Адным пальцам і гузіка не зашпіліш* структурна арганізавана як абагульнена-асабовы сказ, але ў ёй гаворыцца не пра зашпільванне гузіка і не пра палец, яна абазначае 'не-

магчыма справіцца з чым-небудзь у адзіночку’. Улічваючы менавіта гэтую асаблівасць прыказак, якія ўжываюцца ў іншасказальным сэнсе, акадэмічная «Граматыка сучаснай рускай літаратурнай мовы» (1970) пры разглядзе аднасастаўных сказаў не дае ніводнага прыкладу з прыказак.

У беларускіх жа акадэмічных граматыках («Сінтаксіс», 1966, 1986) у ліку абагульнена-асабовых сказаў падаюцца і сапраўдныя сказы гэтага тыпу, і прыказкі алегарычнага характару, і нават фразеалагічныя адзінкі (*што ні кажы, хоць вока выкалі, хоць на воўка ўссунься* і інш.). Пра апошнія гаворыцца: «Абагульнена-асабовымі сказамі па форме з’яўляюцца спалучэнні тыпу *хоць пакаціся, куды ні глянь, што ні рабі, як ні круці* і інш. Яны адыгрываюць ролю даданага сказа пры галоўным, але ў сучаснай беларускай мове ва ўсё большай ступені набываюць устойлівы характар».

У беларускай літаратурнай мове ёсць некалькі дзесяткаў фразеалагічных адзінак, знешне падобных на абагульнена-асабовыя ці даданыя ўступальныя сказы: *за вушы не адцягнеш, на казе не пад’едзеш, кашы не зварыш, пальчыкі абліжаш, хлебам не кармі, язык зломіш, язык праглынеш, вадой не разальеш* і г.д.; *хоць іголкі збірай, хоць сякеру вешай, хоць вяроўкі ві, хоць касой касі, хоць гаць гаці, хоць махалам махай, хоць на сабаку вылі* і інш. Вось толькі два прыклады з ужываннем гэтых выразаў у кантэксце: *Жонка халадзец прыгатавала – за вушы не адцягнеш* (І.Аношкін); *Усё такое нясмачнае, прэснае, як трава, хоць на сабаку вылі* (І.Сяркоў). Як бачым, няма ніякіх рэальных падстаў кваліфікаваць сказы з такімі адзінкамі як абагульнена-асабовыя. У адваротным выпадку перад намі – парушэнне лагічнасці маўлення.

## Парадак слоў і лагічнасць маўлення

Правільны парадак слоў слушна лічыцца адной з канкрэтных лінгвістычных умоў лагічнасці маўлення.

Часта лічаць, што ў беларускай мове, як і ў рускай ці ўкраінскай, парадак слоў у сказе, або іх размяшчэнне ў пэўнай лінейнай паслядоўнасці, не такі цвёрды, як, напрыклад, у англійскай мове, і што ён амаль што свабодны. Свабода гэтая, аднак, абмежаваная мноствам абавязковых правілаў. Таму можна гаварыць толькі пра адносна свабодны парадак слоў. Успомнім у гэтай сувязі выказванне Льва Талстога аб ідэальным «адзіна магчымым парадку адзіна магчымых слоў» або ўрывак з аповесці І.Навуменкі «Замець жаўталісця»: «Не на сваім месцы слова ў сказе – і ад усяго сказа

патыхае фальшам. У матэматыцы ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца, у літаратуры – мяняецца».

Няўдалы парадак слоў прыводзіць да лагічнай невыразнасці, спараджае двухсэнсавасць. Напрыклад, у вершы для дзяцей чытаем: «Дом будуе новы кран. Ён асілак-велікан». Пакольні тут вершаванае маўленне, то яшчэ можна змірыцца з тым, што дзейнік *кран* і дапаўненне *дом* памяняліся месцамі, але што паясняецца азначэннем *новы – дом* ці *кран*? Незразумела, да чаго адносіцца прыметнік *апошнія (вагоны* ці *камандзіры*?) у сказе з апавядання С.Грахоўскага: «У вагоны апошнія селі камандзіры». Дваякае ўспрыманне і незапланаваны камізм дапускае і ўрывак з ранняй аповесці І.Шамякіна «Помста». «Ён [падпалкоўнік] з цікавасцю разглядаў лейтэнантаў, занятых знішчэннем кансерваў і сыру, і заснуўшага маёра».

У першым выданні рамана К.Крапівы «Мядзведзічы» адзін са сказаў меў такі парадак слоў: «Пасярэдзіне балотца было гразкае і куп’істае». Пасля пісьменнік паправіў: *Балотца пасярэдзіне было гразкае і куп’істае.* Аналагічнай праўкі патрабуе і сказ з часопіса «Полымя». «Схавалася ў засень, у цень усё жывое – куры, гусі, свінні; сабака ляжыць *побач* з высалапленым языком».

Адразу цяжка здагадацца, што пры чытанні наступнага сказа трэба рабіць паўзу пасля слова *чытачоў*, якое міжвольна аб’ядноўваецца ў адну сінтагму з далейшымі словамі: «У студзені гэтага года ў газеце былі змешчаны адказы на пытанні чытачоў міністра адукацыі...» А ў наступным урыўку не дапамагае і паўза пасля слова *дзяцей*: «Будзе выдадзена 15-томная «Бібліятэка дзіцячай літаратуры...» Сёлета выходзіць першы том яе. Складаюць яго лепшыя творы для дзяцей беларускіх пісьменнікаў ад Янкі Купалы і Якуба Коласа да нашых дзён».

Яшчэ адзін урывак, які, несумненна, заслугоўвае ўвагі «Вожыка», змяшчэння ў рубрыцы «Пяро нарыпела» пад загалоўкам «Каровып’яніцы»: «Пры куплі-продажы каровы амаль заўсёды п’юць магарыч. Гэта мінімум 3–5 рублёў. Рынак жа ад гэтай буйнай гандлёвай аперацыі атрымлівае 50 капеек. Ці не зноў гэта тая самая «фіга на талерцы»?» (Р.Родчанка). Дарэчы, у гэтым урыўку ёсць і яшчэ дзве памылкі, звязаныя з правільнасцю (трэба: *буйной*) і дакладнасцю маўлення: фразеалагізм *фіга на талерцы* ‘непрыемнасць для каго-небудзь, прыхаваная ветлівасцю, далікатнасцю’ тут беспадстаўна ўжыты з ненарматыўным значэннем.

Прачытаем таксама ўрыўкі з мастацкіх і публіцыстычных твораў і змешчаныя побач крытычныя заўвагі рэцэнзентаў: 1) «Шмат заслуг ва ўпрыгожванні горада Хаткоўскай» – паспрабуйце разабрац-

ца, дзе тут, як кажуць, суб’ект, аб’ект і прэдыкат (А.Каўрус); 2) «Густы туман зялёны спавівае бярозак стройных малады лясок» – цяжка зразумець, адкуль узяўся *зялёны туман*, – што прыметнік *зялёны* адносіцца не да *туману*, а да *ляска*, здагадваешся толькі пасля другога ці трэцяга чытання – як быццам красворд рашаеш (Г.Клюсаў); 3) «Па межах, дзе калгас сеяў проса, расло верабейкава шчаўе» – дзіўна, чаму не ўказваецца адрас калгаса, у якім па межах сеюць проса (Г.Юрчанка); 4) «Тады на дзіва стаялі моцныя марозы нават для гэтых месц» – трэба: *на дзіва моцныя* (Г.Юрчанка); 5) «Да акіяна рэчак скарацілі шлях, і зніклі там. О, як яны хацелі блукаць спакойна па лясах, палях і песціцца ў цяпле зямной пасцелі» – прачыталі першы сказ? Зразумелі, што гутарка не пра *акіян рэчак*? Трэба добра падумаць, каб дадумацца, што тут да чаго: гэтулькі назоўнікаў побач (А.Забярэзскі).

Аналагічныя парушэнні парадку слоў даволі часта сустракаюцца ў перыядычным друку, напрыклад у «Настаўніцкай газеце»: «Аб прафесіянальным станаўленні моладзі ў Астравецкім раёне нельга сказаць, што не клапоцяцца. Каля сямідзесяці працэнтаў школьнікаў паспяваюць па рускай літаратуры на «4» і «5», па мове – на 55 працэнтаў».

Прааналізаваныя тыповыя выпадкі парушэння словапарадку характэрныя для простага сказа, у якім тое ці іншае слова дапускае семантычную і сінтаксічную сувязь не з адным пэўным словам, а з двума ці групай слоў. Падобная з’ява назіраецца і ва ўскладненым сказе з адасобленым дзеепрыметнікавым словазлучэннем, якое можа быць аднесена да двух папярэдніх назоўнікаў, калі яны стаяць у аднолькавым склоне: «Сачыненні праводзяцца на матэрыяле самастойных назіранняў ці ўражанняў дзяцей, выкліканых пэўнымі падзеямі».

Асабліва часта лагічнасць маўлення парушаецца ў складаназалежных сказах з даданай азначальнай часткай. Злучальнае слова *які*, ужытае ў такім сказе, павінна дапасоўвацца ў родзе і ліку да бліжэйшага (папярэдняга) назоўніка і сэнсава збліжацца толькі з ім. Пры парушэнні гэтага правіла ўзнікае блытаніна, двухсэнсавасць, што можна бачыць, напрыклад, у сказе з тлумачальнай запіскі, змешчанай у часопісе «Вожык» пад рубрыкай «Пяро нарыпела»: «Я пайшоў да суседа рэзаць парсюка, з якім дамовіўся пра гэта раней». Або яшчэ – сказ з аб’явы ў той жа рубрыцы: «Патрабуецца на пастаянную работу супрацоўнік для аддзела, які мае вышэйшую адукацыю». А вось прыклады з іншых друкаваных крыніц. 1) Дубаўцы, падняўшы з-пад плота старое пашчапанае карыта, вычасанае з сасновага камля, з якога да вайны паілі скаціну, раздзяваліся дагала і мыліся, як у лазні;

2) Каменціраванае чытанне – гэта чытанне вучня або настаўніка, якому папярэднічае гісторыка-літаратурнае тлумачэнне; 3) На парозе 40-гадовага юбілею гэтага спектакля [«Бахчысарайскі фантан»] хочацца пажадаць, каб і надалей балет меў такое ж слаўнае жыццё, як і фантан у Бахчысараі, апеты Пушкіным, у якім «журчит во мраморе вода... не умолкая никогда»; 4) Вам учора было даверана ахоўваць машыны з дубамі, якія падарваліся на бандыцкіх мінах.

Няма выразнасці і ў такім прыкладзе: «Адразу ўспомнілася ўся гісторыя ў першы дзень вайны. Сенеў страх перад гэтым чалавекам, які ён выказаў сёння раніцой» (І.Шамякін). Пры ўважлівым чытанні здагадваешся, што тут *які* паказвае на *страх*, а *ён* – на адсутны ў тэксце назоўнік *Сеня*. Непаразуменне знікае, калі сказ паправіць: *Сенеў страх перад гэтым чалавекам, выказаны сёння раніцой.*

Падобныя двухсэнсавыя канструкцыі ўзнікаюць у выніку таго, што той, хто піша ці гаворыць, часта сканцэнтроўвае ўсю ўвагу на выбары адпаведных моўных сродкаў, неабходных для выказвання пэўнага зместу, і, як пісаў А.Н.Гвоздзеў, звычайна не заўважае, што некаторыя выкарыстаныя элементы могуць мець не тое значэнне, якое ўкладваў у іх аўтар. Для выяўлення такога «аманімізму» патрабуецца «ўменне стаць у становішча слухача ці чытача і засяродзіцца на тых магчымасцях разумення, якія дапускае дадзены маўленчы матэрыял» [17, с. 381].

Двухсэнсавасць у складаназалежных сказах з дададай азначальнай часткай ствараецца незалежна ад таго, ці два папярэднія назоўнікі стаяць у адным і тым жа склоне, ці ў розных склонах, бо, як ужо гаварылася, злучальнае слова *які* не дапасуецца да назоўніка ў склоне (форма займенніка *які* дыктуецца структурай дададай часткі). Параўн.: 1) У працэсе правядзення заняткаў па эксперыментальным курсе адбываецца фарміраванне найважнейшых маральна-псіхалагічных якасцей юнакоў і дзяўчат, якія вызначаюць іх міжасабовыя адносіны; 2) Удалося ўстанавіць і першакрыніцы артыкула М.Навіцкага, які аказаўся не толькі блытаным і бяздоказным, але – горш таго! – у асноўным, мякка кажучы, скапіраваным; 3) У наш час даволі пашыраны выпадкі няправільнага ўжывання слоў, якія наглядаюцца амаль ва ўсіх стылях літаратурнай мовы; 4) У канцы раздзела змешчана схема асноўных слоўнікаў беларускай мовы, у якой назвы некаторых прац падаюцца ў зашыфраваным выглядзе.

Правільны парадак слоў трэба захоўваць і пры ўжыванні займеннікаў 3-й асобы *(ён, яна, яно, яны).* Выкарыстоўваючы іх, неабходна сачыць, каб было зразумела, на якое слова паказвае зай-

меннік. Лагічнасць маўлення парушаецца, калі ў простым ці, часцей, складаным сказе або ў межах двух суседніх сказаў няма выразнай сувязі паміж назоўнікам і займеннікам, які выступае замест гэтага назоўніка. Таму трэба захоўваць правіла: займеннік звычайна паказвае на бліжэйшы да яго (папярэдні) назоўнік таго самага роду і ліку. Калі гэта правіла парушана, то ўзнікае двухсэнсавасць, незразумеласць, а то і кур'ёз. Напрыклад, у газеце «Літаратура і мастацтва» пад загалоўкам «Звышчалавек» прыводзіўся ўрывак з ліста ў рэдакцыю: «Бычкоў так кормяць даглядчыкі, каб да восені кожны з іх дасягнуў 300 кілаграмаў»; пад загалоўкам «Раскідаюць мужчын»: «Угнаенні на поле дастаўляюць мужчыны, дзе жанчыны адразу ж іх раскідваюць віламі». Яшчэ прыклады з рубрыкі «Пяро нарыпела» ў часопісе «Вожык»: 1) з дакладной запіскі кладаўшчыка: «Калі гаварыць шчыра, дык за лубін адказвае аграном, бо ён яшчэ з восені ляжыць пад брызентам і пакрыўся цвіллю»; 2) з тлумачальнай запіскі: «8-га снежня, калі прыйшоў дамоў, ёдам змазаў рану кату. 10-га я хадзіў да доктара, бо ён укусіў мяне за палец».

Рыхтуючы да перавыдання раман «Мядзведзічы», К.Крапіва звярнуў увагу на двухсэнсавасць займенніка ў дзвюх мясцінах твора і паправіў недакладнасць. Так, у наступным урыўку вылучаны займеннік *яна* быў заменены назоўнікам *жанчына*: «Зямля вільготная зверху, і на ёй месцам таксама прыкметны налёт замаразку, які пячэ босыя ногі, і яны робяцца чырвоныя, як гусіныя лапы. Але *яна* не адчувае гэтага холаду. Проставалосая, раструханая, у адной кашулі і саматканай спадніцы, яна бяжыць, задыхаючыся».

У адным з артыкулаў К.Крапіва, прывёўшы сказ з аповесці Т.Хадкевіча «Рэха ў гарах» – *Яна адчула, як кожная часцінка яе істоты напружылася, гатовая да ўсяго, што выпадзе на яе долю,* – слушна ставіць пытанне: «На чыю долю: жанчыны ці часцінкі?».

Памылкі на парушэнне лагічнай сувязі паміж займеннікам і назоўнікам, калі даводзіцца ламаць галаву над тым, хто ж такі *ён* ці *яна*, сустракаюцца як у мастацкіх, так і ў публіцыстычных і навуковых тэкстах. Напрыклад, не адразу здагадаешся, пра каго або пра што – Піліпа Піліпавіча, госця ці дым – ідзе гаворка ў такім урыўку з апавядання У.Кузьмянкова «Споведзь»: «Пілiп Пілiпавiч амаль што не чуў іх размовы. Жонка ўсё круцілася каля госця, а ён (?) курыў, глытаў раз-пораз дым. І ён (?), здавалася, выпякаў яго (?) нялёгкія ўспаміны. Толькі раз у прамежку паміж зацяжкамі нахапілася думка: а што калі зараз выйсці да іх і сказаць? На міг уявіў, што станецца з жонкай, як паглядзіць на яго Леанід, і гэта ацверазіла яго».

Яшчэ прыклады: 1) У грубцы палалі бярозавыя дровы, і там, гэта значыць на другой палавіне хаты, дзе знаходзіўся цяпер Масей, Астрашаб і немец, які ўмеў неяк губляцца паміж людзей, часам нават здавалася, што яго няма ў хаце, было зусім відна ад іх, нават мала што дадавала газоўка, якую таксама запалілі сёння дзеля гасцей; 2) Прагай тыпізацыі захоплена была беларуская паэзія ў 70-я гады. Ёй характарызуецца яна і цяпер; 3) Да ліку недахопаў кнігі трэба аднесці тое, што этымалагізацыя разглядаемых слоў не заўсёды ўзводзіцца да першакрыніцы, якой пераважна з'яўляюцца грэчаская і лацінская мовы. У радзе выпадкаў яна канчаецца заходнееўрапейскімі мовамі.

Адрэзак тэксту, унутры якога фармальна дапускаюцца два чытанні, называюць «мяжой двухсэнсавасці». Гэта знайшло адлюстраванне ў рамане А.Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», дзе ва ўстаўной канструкцыі паказана рэакцыя гераіні на двухсэнсавы займеннік *ён:* «– Дык вы, мусіць, і ёсць Кацярына Кірылаўна Леўчанка? – Так. – Мірон Аўдзеевіч прасіў прабачэння. Ён у віварыі. У нас, ведаеце, такое гора: памёр Шарык, і Мірон Аўдзеевіч прысутнічае пры ўскрыцці. Але ён (Кацярына Кірылаўна міжволі ўсміхнулася: хто ён? Мірон Аўдзеевіч ці Шарык?) распарадзіўся і прасіў завесці вас да Фёдара Сцяпанавіча». Параўн. яшчэ і такія прыклады, дзе на «мяжы двухсэнсавасці» знарок, каб стварыць камічнае ўражанне, аўтар змяшчае ўстаўную канструкцыю: 1) Калі жонка прынесла на другое талерку смажанай бульбы, Крукові ч, глянуўшы на яе (не на бульбу, а на жонку) цераз плячо, спытаўся: – Дзе ж твае калдуны? Ты ж учора хвалілася, што калдуны будуць (К.Крапіва); 2) Пра альтанку ходзяць розныя байкі. Нібыта пахаваны пад ёю ўлюбёны панаў сабака і нават партрэт ягоны (сабакі, а не пана) выкарбаваны на муры (У.Караткевіч).

У многіх выпадках «мяжа двухсэнсавасці» не знікае, а ўзаемаадносіны паміж займеннікам і назоўнікам не праясняюцца і пасля паўторнага чытання; сказ ці ўрывак так і застаецца неразгаданым рэбусам: «Растлумачце сэнс выразу “прамое і пераноснае значэнне слова” і складзіце з ім сказ».

Займеннік 3-й асобы, калі ён ужываецца не з прыналежным, а з асабовым значэннем, можа выступаць «дублёрам» толькі назоўніка. Таму нельга прызнаць лагічна і граматычна правільнымі сказы, у якіх пасля прыметніка, утворанага ад уласнага назоўніка, ідзе асабовы займеннік як «намеснік» гэтага назоўніка: 1) У Алесінай душы тлела нейкае шкадаванне, што на свеце ёсць шчасце, дабро. І ёй хацелася гэткага шчасця, але ведала, што свет перавярнуўся для яе – і яго не будзе. Як ап'янелая, яна пачынала гаварыць пацеры; 2) Хлопцы з

Дзеткавай каманды адразу ўзгарэліся, каб неадкладна ўключыцца ў бой. Кінуліся ўсе да яго. Дзетка нічога не адказаў, уважліва азіраючы з-за куста месца бойкі.

Як вядома, дапасаванае азначэнне, выражанае прыметнікам ці іншым атрыбутыўным словам (дзеепрыметнікам, займеннікам, парадкавым лічэбнікам), павінна ставіцца перад паяснёным назоўнікам. Аднак, чытаючы мастацкія творы некаторых аўтараў, сустракаем інверсійнае, постпазіцыйнае азначэнне. Звычайна гэта абумоўлена пэўнымі стылістычнымі мэтамі. Так, інверсія выступае як адна з адметнасцей рамантычнага стылю М.Лынькова, асабліва ў творах, напісаных у ранні перыяд яго творчасці. Напрыклад, у апавяданні «Андрэй Лятун»: *Таму на сэрцы толькі сум – аб дарогах пройдзеных, аб пуцях пераезджаных;* у апавяданні «Над Бугам»: *Васька ідзе да вёскі пашукаць яек курыных;* у аповесці «Апошні зверыядавец»: *Молада, як пахучыя вятры вясновыя, поўныя гулу жыццёвага, перазвону палёў і лясоў – перазвону птушынага, срэбнага.*

Разам з тым можна напаткаць нічым не апраўданыя выпадкі інверсійнага дапасаванага азначэння. Напрыклад, незразумела, чаму Л.Дранько-Майсюк у апавяданні «Пра тое, як з поўдня вяртаўся» дзесяткі разоў паслядоўна ставіць азначэнне пасля назоўніка: «У самую ноч апошнюю майго адпачынку на поўдні суверэнным страхоцце мне вялікае выпала. Пад вокнамі санаторнымі стралянінa ўсчалася, порахам пацягло, венікам салдацкім запахла, а ў калідоры кот кантужаны зусім па-вясковаму заяўкаў... Ложкам парожнім дзверы падпёр, а сам у матрац паласаты загарнуўся і да ранку ў шафе рыплівай прасядзеў – не задыхнуўся».

Што да вершаванага маўлення, то ў ім інверсійны парадак слоў звычайна абумоўлены версіфікацыяй, патрабаваннямі рыфмы ці рытму. Нездарма ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» аднойчы быў змешчаны такі іранічны закід:

«На жалезе я сяджу» –  
Так у прозе я скажу.  
«На сяджу жалезе я» –  
Гэта ўжо паэзія.

Нярэдка, аднак, інверсія выступае сродкам узмацнення выразнасці. Найбольш важнае ў ідэйна-мастацкіх адносінах слова знарок ставіцца не на сваё звычайнае месца, атрымлівае адметную інтанацыю, лагічны націск. Напрыклад, у вершы Я.Купалы «У піліпаўку»: *Час бег... Апошняя стухла зара.* Або ў «Новай зямлі» Я.Коласа: *У душу летам патыхала. / А з імі вобразы другія / Ўставалі, сэрцу дарагія.*

Як бачым, парадак слоў выступае істотным фактарам структурнай арганізацыі сказа і важнай умовай лагічнасці маўлення.

## Абзац і лагічнасць маўлення

Лагічна мэтазгоднае чляненне тэксту на абзацы – адна з канкрэтных лінгвістычных умоў лагічнасці пісьмовага маўлення.

Не ўдаваючыся ў нярэдкія спрэчкі паміж мовазнаўцамі наконт таго, ці з'яўляецца абзац сінтаксічнай адзінкай і ў якіх адносінах ён знаходзіцца са складаным сінтаксічным цэлым, адзначым толькі, што паняцце «абзац» не павінна быць беспрытульным, яго трэба разглядаць у курсе мовы і менавіта ў сінтаксісе. Якраз на гэта і арыентуе настаўніка сённяшняя праграма па мове для сярэдняй школы (XI клас), а таксама праграма для IV класа 12-гадовай школы. У адным падручніку для студэнтаў-філолагаў чытаем: «Абзац як прадмет сінтаксісу з'яўляецца перш за ўсё адзінкай кампазіцыйнага падзелу маўлення на часткі, г.зн. сродкам выдзялення змястоўна і кампазіцыйна значымых адрэзкаў тэксту» [55, с. 382].

*Абзац* – слова двухзначнае. Яно абазначае як водступ у пачатку радка (і тады з'яўляецца сінонімам састаўнога тэрміна «чырвоны радок»), так і частку тэксту паміж такімі водступамі. Кароткія звесткі пра абзац даюцца ў некаторых дапаможніках па граматыцы, стылістыцы, літаратурным рэдагаванні. Ёсць упамінанне пра абзац і ў адным школьным падручніку, дзе сярод умоўных абазначэнняў розных памылак прыводзяцца і знакі неапраўданага вылучэння абзаца і яго невылучэння.

На жаль, у сярэдняй школе пытанню пра абзац не ўдзяляецца належная ўвага. Што гэта так, можна пераканацца, прагледзеўшы вучнёўскія творчыя працы ці сачыненні абітурыентаў. Толькі некаторыя вучні карыстаюцца абзацам, прычым у самым прымітыўным яго разуменні: колькі пунктаў у плане, столькі чырвоных радкоў. Што да водступу ў пачатку абзаца, дык тут можна назіраць поўную самавольнасць: адны пачынаюць пісаць з сярэдзіны радка, другія пакідаюць для абзаца месца на адну-дзве літары. Даводзілася бачыць, што і многія дарослыя, нават з вышэйшай адукацыяй, лічаць абзац залішняй раскошай ці прыхамаццю таго, хто піша.

Каб пераканаць вучняў ці студэнтаў, што тэкст засвойваецца горш, калі ён няправільна разбіты на абзацы, варта прывесці спецыяльна падабраныя ўрыўкі са школьных сачыненняў, а то і з друкаваных, пераважна газетных крыніц. Можна таксама прачытаць ці пераказаць эпізод з кнігі К.Паустоўскага «Залатая ружа», дзе

гаворыцца, як вопытны выдавецкі супрацоўнік прасядзеў цэлую ноч над адным рукапісам аўтара-пачаткоўца і, не выкінуўшы і не дапісаўшы ніводнага слова, ператварыў расскубленае, зблытанае апавяданне ў празрыстую, літую прозу. І далей: «Ад ранейшай скамечанасці і слоўнага разброду не засталося і ценю... – Як вы гэта зрабілі? – Ды проста правільна расставіў усе знакі прыпынку, асабліва дакладна я расставіў кропкі. І абзацы. Гэта вялікая рэч, мой мілы».

Можна непасрэдна звярнуцца да звязнага тэксту: узяць, напрыклад, чатыры апошнія абзацы з другога раздзела другой часткі аповесці Я.Коласа «На прасторах жыцця». Калектыўна складаецца план гэтага тэксту, даюцца загалоўкі да кожнага абзаца («Адзінота», «Папаска», «Не, спаць не гадзіцца!», «Смелая думка»). Робіцца выснова, што тэкст паміж двума чырвонымі радкамі ўключае часцей за ўсё некалькі сказаў, аб'яднаных адной думкай, якая адпавядае пэўнаму пункту складзенага плана. Становіцца зразумелым, што абзац выступае сродкам чляненння звязнага тэксту на кампазіцыйна-стылістычнай аснове, паказчыкам новага рада думак і што падзел гэтага тэксту менавіта на чатыры абзацы адзіна правільны і адзіна магчымы.

Варта звярнуць увагу і на тэхнічны бок пытання. Першыя літары абзацаў павінны пісацца з аднолькавым водступам: пачатак чырвонага радка супадае з пачаткам чацвёртай літары звычайнага радка (у газетах, дзе калонка вузейшая, чым старонка ў кнізе або ў сшытку, водступ меншы на адну літару). Гэта ўжо адносіцца да культуры пісьма, да ўмення сачыць за знешнім афармленнем сваёй пісьмовай працы. Захаванне аднолькавага водступу гэтак жа неабходна, як, напрыклад, і захаванне прамежкаў паміж словамі ці дапісванне радка да канца.

Вядома, што на занятках па мове далёка не заўсёды пішуцца звязныя тэксты. Найчасцей даводзіцца падбіраць сказы з розных твораў, багатыя патрэбнымі арфаграмамі, пунктаграмамі ці пэўнымі моўнымі з'явамі або канструкцыямі, што вывучаюцца па тэме. Як жа запісваць такія сказы? Цяпер, калі вучні (ці студэнты) пераканаліся, што ў абзац уваходзяць толькі сказы, якія выражаюць элементы агульнай думкі, не можа быць і гаворкі аб тым, што сказы з розных тэкстаў можна аб'яднаць у адзін абзац. Гэта нелагічна, пярэчыць разумнаму сэнсу. Тым больш што ў такіх выпадках можа атрымацца сукупнасць спалучэнняў, дзівосных сваёй абсурднасцю і ўзаемным знішчэннем першапачатковага сэнсу. Паглядзім, што выйдзе, калі запісаць адзін за адным два сказы з прыкладамі на выкарыстанне фразеалагізма *кінуць вокам*, узятыя з твораў розных пісьменнікаў, – адзін з верша Ф.Багушэвіча «Не цурайся», другі з паэмы Я.Коласа

«Новая зямля»: *А кінь вокам на хату маю: і цячэ, і гніе, і крывая, у сярэдзіне гной, і стаіць на гнаю, і дзіўлюся я сам, як трывае? Міхал яшчэ раз кінуў вокам, э, хата – глупства: лес пад бокам.* Аднолькава непрымальны і запіс кожнага такога сказа з чырвонага радка, і запіс аднаго за адным сказаў, не аб'яднаных адной ідэяй. Тут адзіна магчымы і лагічны такі выхад: лічбавае выдзяленне сказаў нязвязнага тэксту, як гэта робіцца ў падручніках па мове, дзе адзін сказ ад другога аддзяляецца парадкавай лічбай.

Часам абзац можа складацца з аднаго сказа ці нават далучальнай канструкцыі з аднаго ці некалькіх слоў – фактычна часткі сказа, што выклікаецца рознымі прычынамі.

У адных выпадках гэта звязана з пісьмовай традыцыяй. Так, рэпліка кожнай асобы ў дыялогу, калі ён запісваецца не ў адзін радок, пачынаецца з чырвонага радка. У такім разе абзац выконвае раздзяляльную функцыю, аддзяляючы маўленне адной асобы ад маўлення другой асобы. З выдзяляльнай функцыяй выкарыстоўваецца абзац у зваротах, прывітаннях, пісьмах (у пачатку і ў канцы пісьма). Дарэчы, параўн. пісьмо чацвёртакласніка Гены з аповесці А.Марціновіча «Сцюжа»:

Дарагі папчык! Чаму ты стаў так рэдка прыязджаць? Мама плача, нам без цябе вельмі сумна. Ты ж і дроў на зіму не нарыхтаваў, мы будзем мерзнуць. Я трусіху купіў і яшчэ куплю краля, прывязі цвікоў, я клетку буду рабіць... Прыязджай хутчэй! Твае сыны Гена і Міша.

Іншы раз у асобны абзац вылучаецца адзін сказ, важны ў сэнсавых адносінах ці неабходны, каб падкрэсліць прыватныя дэталі. З такім выпадкам сустракаемся ў аповесці М.Лынькова «Міколка-паравоз», у эпізодзе, дзе расказваецца, як нямецкія салдаты вялі групу арыштаваных людзей. Тры заключныя сказы раздзела падаюцца з чырвоных радкоў:

Кружыліся крумкачы над дымнымі папялішчамі.

Паблісквалі штыкі.

Людзей вялі ў склеп.

Нярэдка абзац выступае з эмацыянальна-экспрэсіўнай функцыяй. У аповесці Б.Сачанкі «Апошнія і першыя» чытаем:

Сэрца маё як не разрывалася. Яно білася, тахкала ў грудзях так, што, здавалася, не вытрывае і выскачыць.

Крок... Яшчэ крок...

Я паднімаю галаву, гляджу туды, дзе зеленеюць тры высачэзныя вастраверхія таполі і дзе...

Лісавецінай хаты няма.

Няма!

Там, дзе яна стаяла, чарнее, нібы немаведама кім выкапаная яма, пажарышча...

У апавяданні Я.Брыля «Memento mori» ёсць абзацы з 3-4 сказаў, а кожны з апошніх, заключных сказаў, поўных глыбокага сэнсу, пачынаецца з чырвонага радка, што надае ім большую ўдзельную вагу:

У жудасным ляманце стрэл амаль не пачуўся.

Але пячнік упаў.

Ён яшчэ ўздрыгваў, калі яго паднялі і кінулі цераз парог, пад ногі збою аднавяскоўцаў.

Тады вароты назаўсёды зачыніліся.

І ён згарэў – адзін, хто мог бы ў той дзень не згарэць.

І ён жыве.

Вялікую сэнсавую і эмацыянальную нагрузку нясе абзац, які складаецца з аднаго слова *Паехала!..* у трылогіі Я.Коласа «На ростанях». Толькі што вярнуўшыся з экзаменаў, Лабановіч даведаўся ад бабкі, што яго каханая Ядвіся назаўсёды паехала з родных мясцін:

Бабка выходзіць. Настаўнік застаецца адзін, садзіцца каля стала, сціскае галаву і моцна-моцна задумваецца.

Паехала!..

Ён колькі хвілін думае над гэтым словам. Звычайнае, простае слова. А колькі гора і смутку для яго сэрца ў гэтым слове!

Паехала!.. Нават і не развіталася з ім. А як многа хацеў ён сказаць ёй у гэтыя апошнія дні! Чаму так здарылася?

Многія аповесці В.Быкава, у адпаведнасці з яго творчай манерай, маюць цьмяную шматварыянтную канцоўку. Прыгадаем, напрыклад, «Круглянскі мост», дзе герой аповесці, арыштаваны і пасаджаны ў яму, яшчэ спадзяецца, што яго незайздросны лёс будзе станоўча вырашаны з прыездам «справядлівага камісара». Аповесць заканчваецца трыма сказамі, выдзеленымі ў асобныя абзацы:

Камісар справядлівы, ён зразумее.

Не можа быць, каб не зразумеў.

Хай едзе камісар!

Аналіз пададзеных вышэй і іншых прыкладаў з мастацкіх тэкстаў садзейнічае выпрацоўцы ў вучняў і студэнтаў навыкаў правільна карыстацца чырвоным радком.

Няправільны падзел тэксту на абзацы – гэта лагічная памылка, ці, у адпаведнасці з сучаснымі нормамі ацэнкі ведаў па мове, моўная недакладнасць. Некаторыя лінгвісты (А.М.Гвоздзеў, Ф.К.Гужва і інш.) лічаць абзацны водступ знакам прыпынку і разглядаюць яго (побач з

кропкай і коскай) як «пагранічны знак частак тэксту». Л.У.Шчэрба таксама называў абзац «свайго роду знакам прыпынку». І гэта слушная думка: як кропка раздзяляе два суседнія сказы, так абзац раздзяляе папярэдні і наступны шэраг думак: абзац, як і іншыя знакі прыпынку, мае не толькі сваё знешняе, праўда, своеасаблівае, выражэнне на пісьме – у выглядзе водступу, але і такі спадарожны ўсякаму знаку прыпынку спецыфічны элемент, як інтанацыя. Таму няправільнае выкарыстанне чырвонага радка – гэта ў пэўнай ступені і пунктуацыйная памылка.

## ЧЫСЦІНЯ МАЎЛЕННЯ

Маўленне лічыцца чыстым, калі ў ім няма беспадстаўна ўжытых слоў, фразеалагізмаў і прыказак, неўласцівых літаратурнай мове.

З пытаннямі чысціні маўлення звязаны шматлікія выступленні на старонках перыядычнага друку, грамадскія дыскусіі аб мове. Падводзячы вынікі адной з такіх дыскусій, Ф.П.Філін адзначыў, у прыватнасці, што нікому не дадзена бяскарна парушаць законы літаратурнай мовы, валюнтарыстычна ставіцца да мовы. Ахова чысціні маўлення, ачыстка яго «ад слоўнага смецця, абарона ад засмечвання становіцца вострай, актуальнай праблемай, у галіне культуры не менш важнай, чым клопаты аб ахове навакольнага асяроддзя для нашага жыцця і жыцця будучых пакаленняў». «Лічыцца з нормамі літаратурнай мовы зусім не азначае, што тым самым абмяжоўваецца свабода моватворчасці пісьменніка. Патрэбна толькі ў гэтай свабодзе пачуццё меры, апраўданасці («рацыянальнай» ці яшчэ якой) ужывання дыялектызмаў і іншых «ізмаў»!» [61, с. 29].

Разбураюць чысціню маўлення такія беспадстаўна ўжытыя моўныя сродкі, як 1) дыялектызмы, 2) індывідуальна-аўтарскія лексічныя, фразеалагічныя і прыказкавыя запазычанні з іншых моў, 3) аўтарскія наватворы, 4) жарганізмы, 5) словы-паразіты.

**Дыялектызмы** даволі часта выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах, але звычайна іх ужыванне абумоўлена пэўнай стылістычнай мэтай: яны або выступаюць сродкам маўленчай характарыстыкі персанажаў, або служаць стварэнню мясцовага каларыту.

У рамане І.Мележа «Людзі на балоце» дыялектныя словы сустракаюцца звычайна ў маўленні персанажаў, і толькі ў асобных выпадках найбольш яркія з іх або такія, якіх, на думку пісьменніка, не хапае ў літаратурнай мове для абазначэння пэўнага паняцця, уводзяцца ў аўтарскую мову. Пры гэтым яны ставяцца ў такое слоўнае акружэнне, што празрыстасць іх сэнсу не выклікае сумнення:

«... расліннасць зелянела, буяла летам усюды на куп'істых куранёўскіх *узболатках* і балотах». Чытаючы гэты раман, можна бачыць выпадкі, калі суседнічаюць дыялектнае слова – у мове персанажаў і яго літаратурны адпаведнік – у аўтарскай мове. Вось Ганна, здзіўленая, што Васіль так хутка кончыў вячэраць, пытаецца: «Нясмачная, можа, *картопля*?..» Васіль адказвае: «*Картопля* як *картопля...*» Далей ідзе аўтарская мова: «Ён сапраўды не заўважыў, смачная ці нясмачная была гэта *бульба*. Не да таго было».

Кажучы пра тое, што мова мастацкай літаратуры вызначаецца шырынёй ахопу лексічных і іншых сродкаў, у тым ліку пазалітаратурных, трэба, аднак, памятаць, што іх ужыванне павінна быць унутрана, эстэтычна апраўданае. Гэта адносіцца і да дыялектызмаў. Нічым не абумоўленае выкарыстанне дыялектных слоў лічыцца парушэннем лексічных нормаў сучаснай мовы. Як слушна пісаў К.Крапіва, «зусім няма патрэбы ўводзіць дыялектызм, калі ёсць адпаведныя агульнанародныя словы. Няма патрэбы пісаць, напрыклад, «махнытка», калі ёсць «галавешка». У некаторых мясцовасцях на Палессі пеўняў называюць кабанамі, дык не будзем жа мы пісаць «кабаны пяюць», хоць там іменна так і гавораць» [29, с. 354].

Падобныя выпадкі сустракаюцца ў сучаснай літаратуры. Так, у аповесці А.Карпюка «Вершалінскі рай» без усякай матывацыі аддаецца перавага (у аўтарскай мове) дыялектызму *бытта.* Тое самае і ў творах некаторых іншых пісьменнікаў – і ў аўтарскай мове, і ў мове персанажаў: 1) Ён так прывабна, *бытта* ў рог, трубіў, калі туман блукаў па цёплым лесе; 2) Ат, думаю, запішу ёй чалавекадзень – *быдта* сена грабла; 3) Болю не было. Заўважыў ён гэта абыякава, *бытта* скрозь сон, *бытта* раніла каго іншага... З таго моманту тыдні на два ён *бытта* праваліўся ў нейкі кашмар; 4) Ён ступіў *бытта* ўпэўнена, але лодка калыхнулася пад ім; 5) Раблю выгляд, *бытта* нічога не здарылася. Дарэчы, напісанне дыялектнага слова *быдта* з падваеннем літары *т* пярэчыць нормам беларускай арфаграфіі: *т* на пісьме не падвойваецца; вымаўляем: *натта, аттуль*, але пішам: *надта, адтуль.*

Думаецца, залішняе ўжыванне вузкадыялектных слоў псуе добры раман В.Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», асобныя старонкі якога цяжка чытаць без дыялектных слоўнікаў Гродзеншчыны: *пало, хвічка, сукала з разбітаю к о т к а ю, у адным п а ш а р к у, спомніцца, выслабадзіць, рукаво, ценка, спопаразку, зраджайны* і г.д.

«Густое ўжыванне дыялектызмаў, ды яшчэ ў мясцовым вымаўленні» М.Лужанін называе «крайнасцю»: «Тут патыхае небяспека – аўтар будуе сцяну незразумеласці паміж сабою і чытачом. Адно-два

толькі ёмкія слоўцы (*булы* і *выпілы*) даў Колас свайму дзядзьку Ёсыпу, і перад намі жывы паляшук з яго гаворкай. І не трэба бясконца паўтараць якое-небудзь «ета», «быдта» ці што-небудзь падобнае. Дарма думаюць, нібы такім спосабам можна перасягнуць Коласа, які, бачыце, апісваў Палессе з пазіцый «заезджага настаўніка Лабановіча». Класікі, уводзячы малазнаёмыя шырокаму чытачу словы, выходзілі пераможцамі ў абнаўленні і ўзбагачэнні лексікі, бо ведалі меру, мелі густ распазнаваць, што дае мове свежасці і сакавітасці, што губіць яе» [41, с. 313-314].

Сустракаючы ў мастацкім тэксце дыялектныя словы, трэба пры іх аналізе захоўваць прынцып гістарызму, улічваць гістарычную зменлівасць мовы, наяўнасць ці адсутнасць адпаведных кадыфікаваных нормаў на пэўным этапе развіцця літаратурнай мовы (на канкрэтным яе сінхронным зрэзе). Тыя ці іншыя моўныя факты можна і трэба лічыць дыялектнымі, калі ўзнікае магчымасць звяраць іх «з літаратурнаю нормаю як з'явай агульнапрынятай, суадпаведнай уяўленню «правільнасці» выказвання» [64, с. 247].

Амаль усе прыклады, якія далей будуць разглядацца, павінны кваліфікавацца як *умоўныя* дыялектызмы, ужытыя тым ці іншым пісьменнікам у творы, напісаным у часы, калі яшчэ не было нарматыўных слоўнікаў і нормы літаратурнай мовы толькі ўсталёўваліся.

Так, у вершы Ф.Багушэвіча «У астрозе» чытаем: «На полі слупкі – і да іх яму *на́ўда*». Як адзначаецца ў «Энцыклапедычным слоўніку беларускай мовы» (т. 7, с. 267), гэта слова са значэннем 'патрэба, справа' ўпершыню выкарыстана менавіта Ф.Багушэвічам, ужывалася ў мастацкіх творах 1920-х гадоў, а потым перайшло ў пасіўны склад, сучаснымі нарматыўнымі слоўнікамі не падаецца.

Ёсць у гэтага слова літарны двайнік – амограф *наўда́*, таксама ўмоўны дыялектызм са значэннем 'навіна, дзіва'. Ён выкарыстаны ў байцы К.Крапівы «Мандат», напісанай у 1925 г., калі яшчэ наша літаратурная мова «шукала нормаў» (М.Лужанін). Вось пачатак байкі: «Аслу раз выдалі мандат, – няйначай, памылкова. Такія і ў людзей памылкі – не наўда, але аб іх пасля размова». Зрэшты, і ў рамане М.Лынькова «Векапомныя дні» знаходзім *наўда:* «Захацеў хлопец машыністам стаць ці там майстрам, дык гэта ж яму не вялікая *наўда*, абы галава не пустая была».

Шэраг умоўных дыялектызмаў сустракаецца і ў камедыі Я.Купалы «Паўлінка» (1912). Як вядома, дыялектызмы бываюць лексічныя, семантычныя, фанетычныя, граматычныя і інш. У «Паўлінцы» ёсць лексічныя і граматычныя дыялектызмы.

Быкоўскі хваліцца, што яго каровы «як *загілююць*, дык і на добрым кані іх не дагоніш». Пра авечак гаворыцца, што яны *зыгуюць. Загіляваць* – тое самае, што і літаратурнае слова *загізаваць* ‘пачаць гізаваць, імкліва бегаць, ратуючыся ад укусаў насякомых, пераважна гіза – вялікай мухі-самкі, якая жывіцца кроўю жывёлы’. *Зыгаваць* – амаль тое самае, што і папярэдняе слова, але яно дастасоўваецца звычайна да авечак, якія, шукаючы паратунку ад насякомых, збіваюцца ў кучу.

*Выходзе* («якая песня лепей у пана Адольфа выходзе»), *луча* («а то яшчэ ў дзверы не луча») – граматычныя дыялектызмы, асаблівасць гаворак, родных Я.Купалу.

У «Паўлінцы» знаходзім і такое адлюстраванне граматычнай дыялектнай асаблівасці, як ужыванне назоўнікаў жаночага роду 3-га скланення ў творным склоне адзіночнага ліку з канчаткам *-ай (-яй): з усякай далікатнасцяй, з гэтай дрэняй*. Аналагічнае ёсць у п’есе «Тутэйшыя» *(як павее пошасцяй)*, паэме «Бандароўна» *(дагадзіць і соляй і хлебам)*, вершы «За ўсё» *(змагаўшыся з напасцяй)*. Гэта дыялектная рыса, якая засведчана ў «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» (карты №№ 62, 83), бытуе на параўнальна невялікай тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту. Дарэчы, у «Беларускай граматыцы для школ» Б.Тарашкевіча падаваліся як аднолькава дапушчальныя дзве варыянтныя формы для падобных назоўнікаў у творным склоне: *рэчай (рэччу), касьцёю (косьцю)*. Да арфаграфічнай рэформы 1933 г. адны аўтары аддавалі перавагу канчатку *-ай (-яй)*, другія – *-у (-ю)*. Напрыклад, у зборніку апавяданняў К.Крапівы «Людзі-суседзі» выдання 1928 г. знаходзім: *з гэткаю шпаркасцю*; ды і ў Я.Купалы ў публіцыстычных артыкулах бачым: *з пэўнасцю не можам цвердзіць, соллю ўваччу*. Пасля рэформы 1933 г. стала замацоўвацца адзіная норма *-у (-ю)*.

Як граматычныя дыялектызмы (з сучаснага пункту гледжання) павінны кваліфікавацца назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з канчаткам *-ом (-ём)* у давальным склоне і *-ох (-ёх)* у месным склоне множнага ліку. Вось прыклады з «Тутэйшых» Я.Купалы: *нам, бацьком, галава не баліць; не заміналі важным гасцём; у іншых мясцох, пры бацькох, аб гасцёх, пры людзёх, у вачох*. Тое самае і ў паэме Я.Коласа «Сымон-музыка»: «Цэрквы, стромкія касцёлы вежы ўзносяць к *небясом*». Або ў «Ціхай плыні» М.Гарэцкага: «Бацька яе пры *панох* часта бывае». Да памянёнай рэформы 1933 г. такія канчаткі былі нормай беларускай літаратурнай мовы. У 1933 г. афіцыйна ўзаконена ўжыванне іншых канчаткаў *(-ам, -ах)*.

Цяпер жа некаторыя аўтары самачынна аднаўляюць старую норму, пашыраючы яе нават на назоўнікі жаночага роду. Так, у вершах А.Сыса знаходзім: «А за тое, што жыў, – пасадзіце ў *нагох* арабіну», «Ох, Мікола, Мікола, а як ты памрэш – хто ж мяне па *начох* прысыпаць будзе вершамі!»

Асобна трэба сказаць некалькі слоў пра мову дзеда Цыбулькі з камедыі А.Макаёнка «Таблетку пад язык». Усе персанажы п'есы, у тым ліку і ўнук Цыбулькі, студэнт-завочнік Юрка, гавораць на літаратурнай мове. Драматург, як і трэба, імітуе іх непасрэднае вуснае маўленне. А вось дзед Цыбулька надзелены нейкім незвычайным і нічым не апраўданым жаргонам. Ёсць у мове Цыбулькі і дыялектныя словы, але яны не адлюстроўваюць якія-небудзь асаблівасці пэўнага дыялекту ці групы гаворак. Гэта нейкая дзівацкая сумесь з розных гаворак. Напрыклад, дзеясловы другога спражэння ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку ўжываюцца то з *ць* (на канцы), то без *ць: ён перайначыць, меціць*, але: *бача, уключа.* Чуем з вуснаў дзеда то *ета* («Што ета за машына?»), *етакае* («такое-етакае»), то *гэта* («Гэта як назваць? Што гэта?»), то ў адным выказванні і тое, і другое («Гэта ж трэба, каб етак?»). *Д* і *т* у словах неславянскага паходжання то цвёрдыя *(бактэрыі, дыстанцыя, перспектыва)*, то змякчаюцца *(апеціт, целевізар)*. Ёсць і такія перлы (яны, аднак, выклікаюць у гледача і чытача не смех, а нешта іншае): «Я, можа, вока народнае... Глаз прыжмураны»; «Калі хочаш у сутнасці разабрацца, дык не таму бывала ад таго, а зусім наадварот – ад таго і бывала, таму, што вабчэ і ў часнасці... Паняў? Не-е, не раскумекаць табе ета». Дзед Цыбулька, па задуме драматурга, – станоўчы, перадавы чалавек. Але паслухаем інакшую рэакцыю гледача, выказаную ў вершаваным рамане Н.Гілевіча «Родныя дзеці»: «Вось быў я неяк у тэатры – глядзеў камедыю адну. Дык там якісь артыст на сцэне іграў старога цурбяля і ўсё крычаў, аж пырскаў пенай: «За што любіць цябе, зямля?!» І што жылі мы небагата, і пухлі з голаду парой – зямля была ў тым вінавата, – даводзіў бравы дзед-герой. Я слухаў гэта – і, не блазан, а ўсё ж патомны хлебароб, адчуў, што ён мяне абразіў, і рушыў з залы ў гардэроб».

Што да індывідуальна-аўтарскіх **запазычанняў** з іншых моў, то іх выкарыстанне ў мастацкіх творах часцей за ўсё абумоўліваецца пэўнай прычынай. Яны з'яўляюцца сродкам маўленчай характарыстыкі персанажаў. Напрыклад, у п'есе Я.Купалы «Тутэйшыя» стылістычна апраўдана ўжываюцца рускія, нямецкія, польскія, царкоўнаславянскія словы і словазлучэнні: *нынешнія врэмена, кіндар* ('дзеці'), *фатэрлянд* ('айчына'), *венцэй* ('больш'), *шчэгульносць* ('асаблівасць'),

*агнцы сіі возвращяшэся* (‘ягняты гэтыя вярнуліся’) і сотні іншых. Чужаземныя словы, занесеныя ваенным і акупацыйным ліхалеццем, іншы раз перайначваюцца простым людам. Так, Ганулявая Зношчыха яшчэ не зусім авалодала нядаўна пачутым рускім словам *уплотнение* (у сэнсе ‘дадатковае засяленне жылой плошчы’): «Бачыце, было тут у нас у Менску апошнім часам нейкае *палатненне*, дык нас і *ўпалатнілі* ў адзін пакой, а іншыя – забралі». На пытанне пра крэслы плюшавыя Ганулявая адказвае: «Нашы крэслы недзе ў іншае месца *спалатнілі*».

Я.Брыль у апавяданні «Галя» моўнымі сродкамі падкрэслівае інтэрнацыянальны склад партызанскага атрада: партызан Арцём гаворыць па-ўкраінску (напрыклад: «Так шчо, таварышу ўзводны, моя біда, а ваш наказ залышыцця, мабуць, у сілі. Я конячку сідлаю, так?»), яшчэ адзін – па-руску («Прощай, борода!.. Ты, кстати, эту пакость сбрей…»), іншыя – па-беларуску.

Іншы раз выкарыстанне чужаземнага слова і ў аўтарскай мове эфектыўнае і мэтанакіраванае. Так, Я.Колас у «Новай зямлі» пры апісанні хаты, якая «ў глыбі двара стаяла... і выглядала зухавата сярод запушчанай будовы», ужывае паланізм у разгорнутым параўнанні хаты са шляхцянкай засцянковай:

Што ў дзень святы каля касцёла,
Чуць-чуць падняўшы край падола,
Так важна ходзіць з парасонам,
Спадніцай верціць, як *агонам*,
З дарожак пыл, пясок зганяе
І ў вочы хлопцам заглядае.

Тут польскае слова *оган* (*ogon* – ‘хвост’) вельмі дарэчы ў дачыненні да засцянковай шляхцянкі.

Разам з тым у друкаваных тэкстах нярэдка сустракаюцца беспадстаўна ўжытыя аўтарскія запазычанні з іншых моў, галоўным чынам з рускай. Гэта – відавочнае парушэнне чысціні беларускага маўлення. Як зазначае Я.Брыль, «самазадаволены маэстра піша па-беларуску «шляпа», «укусна», «бракну», «кузнец»... У адказ на крытыку крычыць: «Трэба смялей набліжаць нашы братнія мовы!» На невуцтве – «вялікая палітыка».

Часам некаторыя аўтары не звяртаюцца да нацыянальных рэсурсаў беларускай мовы, а шукаюць неабходны сродак у рускай мове ці самачынна яго калькуюць. У беларускіх слоўніках можна знайсці адпаведнікі, напрыклад, да такіх рускіх слоў: *первозданный* – першапачатковы, некрануты; *первейший* – найпершы, найлепшы, найвышэйшы. Але асобныя аўтары не заглядваюць у слоўнікі,

ігнаруюць іх паказанні, «калечаць» рускія словы: 1) Ён яшчэ не бачыў тут *першазданных* нетраў; 2) *Пярвейшы* абавязак – захаваць мір на зямлі.

Вось толькі некалькі прыкладаў з мастацкіх, навуковых і публіцыстычных тэкстаў, дзе беспадстаўна выкарыстаны рускія словы: 1) Ды недзе ў мазгавых маіх кутках, хоць сам з сабой спраўляюся цяпер я, сядзіць маленькі, як *заноза*, страх, хаваецца сляпое недавер'е; 2) У падручніку часціны мовы разглядаюцца ў сукупнасці трох *прызнакаў*: лексічнага значэння, сістэмы форм і функцыяніравання ў словазлучэнні і сказе; 3) Нам здаецца, што В.Лукша *следуе* гэтаму добраму і мудраму запавету славутага дзіцячага пісьменніка; 4) Не ведаю, чым гэта вытлумачыць, але чамусьці вельмі лёгка ўваходзіць у карціны Г.Вашчанкі (слова «ўваходзіць» нават не бяру ў *кавычкі*); 5) Высока ў небе раздаецца *громкая* песня жаваранка; 6) Вучням прапануецца паназіраць, на якіх дрэвах змянілася афарбоўка лісця, якімі сталі *кустарнікі* і трава.

Некаторыя аўтары запазычваюць або самастойна калькуюць рускія фразеалагізмы. Механічны пераклад фразеалагізма, без уліку яго першапачатковай вобразнасці, можа прыводзіць да кур'ёзаў. Так, рускі выраз *втирать очки* этымалагічна не мае ніякай сувязі з акулярамі. Ён паходзіць з лексікону карцёжнікаў: шулеры, каб выйграць, ішлі на падман, непрыкметна ўціралі, замазвалі на карце ачкі, ператваралі, напрыклад, сямёрку ў шасцёрку. Таму больш чым недарэчным выглядае ўжыванне ў беларускім тэксце выразу *ўціраць акуляры*: «Наша рэдакцыя атрымала пісьмы калгаснікаў пра тое, што раённае начальства і некаторыя старшыні калгасаў спрытна *ўціраюць акуляры* і не па заслугах узносяць да неба сабе хвалу» (Р.Сабаленка). У «Руска-беларускім слоўніку» (1982, т. 1, с. 134) падаецца некалькі адпаведнікаў да рускага фразеалагізма *втереть очки: пускаць пыл у вочы, пускаць туман, замазваць вочы.*

Беларускаму фразеалагізму *кішкі марша іграюць* у рускай мове адпавядае *кишка кишке кукиш кажет*. Штучны, паслоўны пераклад гэтага рускага выразу толькі засмечвае тэкст: «Калі *кішка кішцы будзе дулю паказваць*, дык не наўме будзе бунтаваць» (Р.Сабаленка). Пры такім зусім непатрэбным перакладзе фразеалагізм страчвае свае мастацкія якасці – алітэрацыйную згушчанасць гука *к* і тую каламбурную гульню слоў, пра якую пісаў М.Горкі: «Звяртаючы ўвагу аднаго літаратара, аўтара вялікага рамана, на тое, як з двух слоў, неасцярожна пастаўленых побач, утвараецца непатрэбнае і часта смешнае трэцяе, я напомніў яму прымаўку: «Кишка кишке кукиш кажет». Ён апублікаваў гутарку са мною і паўтарыў прымаўку ў такім

выглядзе: «Кишка кишке кажет кукиш», не заўважыўшы, што з двух апошніх слоў прымаўкі трэці раз створана «кишка-же», – моўная гульня, якая і робіць прымаўку цікавай акрамя яе вобразнасці. Такая глухата вельмі звычайная ў маладых пісьменнікаў» [51, с. 344-345].

Не ўзбагачаюць, не ўпрыгожваюць мову і такія перлы – вынік калькавання рускіх фразеалагізмаў *не ахти, сыграть в ящик, за здорово живешь, не ко двору, смотреть в оба:* 1) І зарплата *не авохці*, канцы з канцамі не звядзеш (І.Аношкін); 2) Памёр. Скапыціўся. Гатоў! *Сыграў у скрынку*, як ні горка (Я.Тачыла); 3) Цалуюцца мужчыны – ведайце: гэта ад душы, без усякай падробкі на шчырасць; *за здароў жывеш* мужчына гэта не зробіць (В.Праскураў); 4) Нешта *да двара* не падышла. Ужо ў Грохаве высватаў (М.Ракітны); 5) *Глядзі*, Пракопка, *у абодва*, ведай, якую птушку сцеражэш (П.Кавалёў).

У друку можна сустрэць неўласцівыя нашай мове фразеалагізмы, запазычаныя асобнымі аўтарамі з рускай фразеалогіі і пададзеныя ў беларускім арфаграфічным афармленні: 1) І, як гаворыцца, *узяткі гладкі* – яму сыходзіла ўсё з рук; 2) Гэтыя першыя прыехалі на машынах у вёску, *хоць пруд прудзі* – поўныя двары набіты былі; 3) Чорта з два пераканаеш гэтых *олухаў цара нябеснага*!; 4) Людзі кажуць, што яна Максіма падабрала *пад свой башмак.*

Калі цяпер асобна гаварыць пра прыказкавыя сродкі, якія падчас разбураюць чысціню маўлення, то тут перш-наперш варта назваць прыказкі, запазычаныя тым ці іншым аўтарам з рускай мовы. Толькі ў вельмі рэдкіх выпадках такія запазычанні можна лічыць апраўданымі, бо яны служаць маўленчай характарыстыцы персанажа. Так, у п’есе М.Грамыкі «Воўк» знаходзім пададзеную ў рускай арфаграфіі прыказку *Федот, да не тот* – у мове Старшага: «[Яська:] Даўно тое было... Цяпер судзілі за іншае... [Старшы:] Ну, да словам – *Федот, да не тот*». С.Шаўцоў у нарысе «Крытычная маса» стылістычна абумоўлена ўкладвае ў вусны жанчыны выдзеленую двукоссем частку рускай прыказкі: «– Потым кінулася работу шукаць – куды там... Кажуць, ты, цётка, старая, нам маладыя патрэбны, даўганогія. А мне 45. У 45 – «*баба ягадка апяць*», – смяецца. Потым уздыхае».

Неўласцівыя нашай мове прыказкі, ужытыя тым ці іншым аўтарам, толькі кампраметуюць нашу мову на старонках кніг, газет, часопісаў. Напрыклад, у творах П.Місько сустракаемся з шэрагам індывідуальна-аўтарскіх прыказкавых запазычанняў з рускай мовы (яны ніжэй выдзелены курсівам): 1) – Ну – зімою можна адпачываць, піць, гуляць... А чаму ж вы летам – і тут? – *Бывае і на старуху праруха...* Прыхварэў, прастудзіўся ў навальніцу...; 2) Быў тады ў

мяне ў атрадзе Ванькам-узводным, і цяпер для мяне – Ванька... Не больш! *Знай свярчок свой шасток...*; 3) Не хацелі і распачынацца камбайнеры... *Шкурка выдзелкі не стоіць.* Або ў Н.Маеўскай: «Ён сумна пагаджаўся, што сапраўды няма за што яго прывячаць, што сам ён вінаваты, на каго наракаць? *Як аукнецца, так і адзавецца*». Аж у трох аўтараў (В.Гігевіча, А.Масарэнкі, Б.Сачанкі) знаходзім ужыванне рускай прыказкі *На чужы раток не накінеш платок.* А між тым у беларускай мове ёсць адпаведнікі да ўсіх гэтых прыказак. Напрыклад, у РБС-82 руская прыказка *И на старуху бывает проруха* перадаецца (са знакам прыблізнага падабенства) прыказкай *Конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца*; рус. *Всяк сверчок знай свой шесток* – прыказкамі *Не сунь носа не ў сваё проса* і *Калі худ, не лезь у кут*; рус. *Овчинка выделки не стоит* – бел. *Не варта аўчынка вырабу;* рус. *Как аукнется, так и откликнется* – бел. *Як гукнеш, так і адгукнецца;* рус. *На чужой роток не накинешь платок* – бел. *Нікому языка не завяжаш.* Дарэчы, непасрэднымі аналагамі апошняга рускага выказу могуць быць аж 4 беларускія прыказкі, апісаныя ў СБП (с. 258-259, 228): *На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Людзям языка не завяжаш.*

Асабліва засмечваюць мову такія прыказкі, у якіх ёсць кампанент, несумяшчальны з лексічнай сістэмай беларускай мовы. У нас няма, напрыклад, слоў *гроб, драка, жыр, стыд, ум, маць,* няма і прыказак з гэтымі кампанентамі, але некаторыя аўтары насуперак норме і логіцы ўжываюць іх у сваіх творах: 1) Прыказка нездарма кажа: *Хвалі сена ў стагу, а пана ў грабу*; 2) *Пайшоўшы ў драку, не шкадуй хахла!* Не пойдзем адгэтуль, пакуль не дазнаемся, у чым справа; 3) – Садзіся ж снедаць... – Тут *не да жыру*, як кажуць, *быць бы жыву.* Дай хлеба ды скварку ў руку ды пабягу, пакуль не засталі; 4) Алесі было брыдка, хоць у зямлю праваліся. – *Стыд не дым*, дзеткі, *вочы не выесць...*; 5) Мудра кажа народная прыказка: *чужую бяду пальцам развяду, а сваёй ума не дабяру.* І не дабраць, як бщцам усе сілы неба і зямлі злучыліся ў адным саюзе і пабажыліся зрабіць канцы. Не! Яшчэ не! Пачакайце... змагацца будзем!..; 6) Зброя давала магчымасць не толькі абараніцца, а і застацца жыць. Іншым нават прыпяваючы. Успомнім народнае: *каму вайна, а каму маць радна.*

Аўтарскія **наватворы** таксама, як і разгледжаныя вышэй дыялектызмы і запазычанні, павінны ацэньвацца неаднолькава.

Літаратурная мова ўвесь час папаўняецца новымі словамі (неалагізмамі). Многія з іх напачатку ўспрымаюцца непрыхільна. 7 мая 1990 г. Максім Танк запісаў у сваіх «Дзённіках»: «Аж не хочацца

браць у рукі сённяшнія газеты. Трэба так засмеціць мову: *мэрыя, стрэс, бестселер, трэнд, сераль, менеджэр, спонсар, шоу, кемпінг, брыфінг, ланч, тэлефакс.* Чамусьці ў нас вельмі ахвотна пераймаюць з Захаду не самае лепшае». А праз 6 гадоў «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) уключыў у лексічны склад мовы і апісаў не толькі гэтыя (за выключэннем двух: *трэнд, ланч*), але і яшчэ больш за сотню нядаўніх неалагізмаў: *бартэр, вернік, кансэнсус, лецішча, менталітэт, рэйтынг, святар, спадар, спадарства...*

Па-за межамі гэтага слоўніка засталіся сотні іншых новых слоў, якія сёння больш-менш актыўна ўжываюцца ў вусным маўленні і ў перыядычным друку, напрыклад, такія: *вертыкальшчык, грабавыя, дземянцееўка, савок, членавоз, досвед, дурдом, насамрэч, макароннік, пазваночнік.*

Многія з нядаўніх неалагізмаў становяцца базай для стварэння іншых слоў у адпаведнасці з прынятымі правіламі словаўтварэння. Так, нядаўняе запазычанне з рускай мовы *бомж* (скарачэнне «без определенного места жительства») спарадзіла шэраг новых слоў: *бамжаваць, бамжоўства, бамжоў* (прыметнік)*, бамжыха, бамжатнік, бамжатня.*

Як толькі новае слова, пачаўшы шырока ўжывацца ў перыядычным друку, мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, уключаецца ў нарматыўны тлумачальны слоўнік, яно перастае лічыцца неалагізмам, становіцца звычайнай моўнай адзінкай, пераходзячы з пасіўнага лексічнага складу ў актыўны. Яно страчвае арэол свежасці, адценне навізны, успрымаецца як прывычнае, звычайнае. Зрэшты, кожнае слова мае свой жыццёвы пачатак і было ў свой час неалагізмам.

Словы тыпу *вертыкальшчык, бамжоўства, імпрэза, насамрэч* нарадзіліся непасрэдна ў жывой народнай мове або былі запазычаныя з іншых моў. Ці ўсе яны атрымаюць «права грамадзянства», пакажа час. Ад іх трэба адрозніваць індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні, аднойчы выкарыстаныя ў якім-небудзь мастацкім ці публіцыстычным творы і найчасцей як бы асуджаныя быць вечнымі неалагізмамі. Абодва прыметнікі ў наступных радках Р.Барадуліна – ёмістыя, шматзначныя аўтарскія наватворы: «Відаць, нас мала перылі, што цягне да імперыі пад сцягам *мусульманістым* з палітбюро *іваністым*».

Нямала наватвораў ёсць у п’есе Я.Купалы «Тутэйшыя». Тройчы рознымі персанажамі ўжываецца назоўнік *светагляд* як аналаг рускага *мировоззрение* (калькі нямецкага назоўніка *Weltanschaung*), але ён не стаў агульнамоўным словам, неабходную нішу ў лексіцы заняў, як сцвярджаецца ў навуковай літаратуры, Коласаў *светапогляд*. Этымалагічны вобраз Купалавых наватвораў празрысты: *як-*

*следны* («якследную асэсарскую кар'еру»), *адбеларушчываць, абеларушчыванне* («ён толькі спец адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула»), *буржуаз* («я не таварыш, а буржуаз»). Гарошка пра Усходняга і Заходняга вучоных кажа, што гэта два *дапатопы*, а паводле Здольніка гэта *дурыгаловы*. Пра Зноска з яго «мацярынскім рускім языком» Здольнік гаворыць: «Эх, *русацяп* вы, *русацяп!*» Наватвор *з'ісціць* («каб з'ісціў бацькаву думку») абазначае 'ажыццявіць, здзейсніць'. Аўтарскім неалагізмам з'яўляецца і перайначанае пад народную этымалогію *абскубанды* («– Мала йшчэ вас гэтыя абскубанды паскубалі. – Не абскубанды, тата, але акупанты, акупанты»). У п'есе ёсць шэраг арыгінальных спалучэнняў слоў. Найчасцей драматург укладвае іх у вусны аднаго з гратэскавых вобразаў – Зноска. Так, затрыманы патрульным начальнікам, Зносак амаль у кожнай рэпліцы звяртаецца да яго інакш, з іншым непаўторным «тытулам»: *ваша чырвонае благароддзе, ваша чырвоная міласць, ваша таварыскае родзіе, мусье таварыш, ваша чырвонасць, ваша таварыскасць, ваша таварыская міласць.*

У многіх мастацкіх тэкстах наватворы выступаюць як яркі стылістычны сродак. Яны, як правіла, лёгка выяўляюцца сваёй свежасцю, нязвычнасцю. Сэнс іх па-за кантэкстам незразумелы, а ў акружэнні іншых слоў становіцца больш-менш празрыстым. Часам значэнне неалагізма падказваецца агульнамоўным сінанімічным словам. Параўн. у камедыі К.Крапівы «Хто смяецца апошнім»: *пабландынілася* і *пафарбавала валасы пад бландынку.* Гэты неалагізм утвораны на ўзор прадуктыўнай мадэлі *пафарбавалася*, і яго месца ў камедыі вельмі дарэчы: аўтар паказвае, як спачатку збянтэжаны Гарлахвацкі спрабуе «выкруціцца» з няёмкага становішча. Цёця Каця гаворыць Гарлахвацкаму, што бачыла, як ён учора ехаў за горад з жонкай:

[Цёця Каця:] Мне здавалася, што ваша жонка чарнявая, адно ж яна бландынка.

[Гарлахвацкі *(збянтэжана)*:] Бландынка? Як бландынка?

[Цёця Каця:] Ну, бландынка, я ж бачыла ўчора.

[Гарлахвацкі:] А можа, і праўда – бландынка. Значыць, яна гэта самае *(круціць рукой каля валасоў)* пабландынілася, а я і не заўважыў. *(Рагоча.)* Так улёг у работу, што нават не заўважыў, калі жонка валасы пафарбавала. Аж смешна! *(Рагоча.)*

[Цёця Каця:] Сапраўды, смешна. Вы думалі чорныя, а яны светлыя, як у нашай Зіначкі. *(Рагочуць абое, разумеючы адзін другога.)*

«Калі ў арыгінальнага, таленавітага паэта наватворы яшчэ могуць успрымацца ў пэўным кантэксце як аказіяналізмы і могуць

несці пэўную эстэтычную службу і быць адзнакай індывідуальнага мастацкага стылю (почырку, манеры), то ў эпігонаў, што капіруюць яго пісьмо, гэта ўжо ўспрымаецца цалкам як прыкрае для сур'ёзнага чытача манернічанне і свавольства. Прыкрае, бо ён, чытач, ведае, што літаратура – гэта не гульня са словам і не забаўка» [18].

Аўтарскія неалагізмы найчасцей сустракаюцца ў вершаваных творах, што вытлумачваецца, відаць, імкненнем паэта да навізны выказвання, да экспрэсіўнасці маўлення, а часам, магчыма, і версіфікацыйнымі прычынамі – пошукамі рыфмы, патрэбай не збіцца з пэўнага рытму. У.Мароз пісаў пра вершы аднаго паэта: чытаючы іх, «спатыкаешся штораз аб яго неалагізмы – *раскапыціла, рэхчацца, белакорыцца, рэчыцца, пярэсціцца, сузорыцца, адраканне, вадаграй, перыць* (капытамі дарогу), *сонцаверад, зеленаграйна, птушкаграй, вятруй, сэрцагуд, цнатлівіца, цнатлівіцца, адпрэчым, вятрыска, узвільчыць.* Не скажу, каб такое давала чытачу эстэтычнае задавальненне».

Вось некалькі прыкладаў з аўтарскімі неалагізмамі, якія засмечваюць маўленне (ёсць тут і прыклад з празаічнага тэксту): 1) А скрычуся ў тайзе грыбной, дзе *развеснена* рэху *рэхчацца*, – будзеш ты, Беларусь, са мной *белакорыцца*, Нёманам *рэчыцца*; 2) Над старонкаю ў роздуме і з дарогаю ў змове час знікае ў *роздыме*, каб вяртацца ў слове; 3) Лісток бярозавы тужліва замітусіўся матыльком. І журавінавы *аском* саспеў на жураўлінай ніве; 4) Я засяваў *зяроны* ў баразну; 5) А тут наўкол *саснова, бярозава* наскрозь; 5) Кожны вучань пры адказе асвятляў *дастасоўна* да зместу пытання білета палажэнні аб матэрыяльнасці і адзінстве свету; 7) *Вугольчыста*, іскрыста. Насмешліва і *кпініста*; 8) Вакол мяне – *ялова* і *клянова* наўсцяж, *асінава, дубова* і лапушыста аж.

З'явай, што засмучае пры чытанні сучаснай мастацкай літаратуры, назваў Н.Гілевіч «празмернае захапленне ўласнай словатворчасцю, захапленне, якое часам выходзіць за межы сур'ёзнай літаратурнай працы, якое інакш як моўным свавольствам не назавеш. Стала даволі модным, амаль не пошасцю ў нашай паэзіі, утвараць новыя словы з дапамогай суфіксаў і прэфіксаў. Спосаб зусім не складаны: бярэцца любы назоўнік і ад яго ўтвараецца дзеяслоў, прыметнік ці прыслоўе, або бярэцца дзеяслоў і ад яго ўтвараецца назоўнік. Скажам, замест: *у рэчцы многа шчупакоў* – пішуць: *у рэчцы шчупачна.* І па гэтым узоры – сотні іншых: у сажалцы – карасьна, у лесе – мурашна, на балоце – гадзючна, на падворку – індычна і г.д. І сёй-той з крытыкаў ацэньвае падобную гульню-забаву як моватворчую вынаходлівасць. Але на такую «вынаходлівасць» здольны і дзеці дашкольнага ўзросту. Скажыце ім: «Дзеці, ад слова *дуб* народ

утварыў дзеяслоў *адубець*, а які дзеяслоў можам утварыць ад слова *вярба*?» – «Авярбець!» – крыкнуць хорам дзеці. «А ад слова *сасна*?» – «Асаснець!» І гэтак далей. Вось такое моўнае наватарства і пайшло гуляць у нашай паэзіі» [18].

Як ужо ўпаміналася, маўленне засмечваецца і такімі пазалітаратурнымі моўнымі сродкамі, як **жарганізмы**. Гэта словы і выразы, ужыванне якіх абмежавана параўнальна невялікім колам людзей пэўных сацыяльных, узроставых, прафесійных і іншых груп.

Жарганізмы функцыянальна апраўдана выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах пры апісанні персанажа з пэўнай групы грамадства. Напрыклад, ёсць такія моўныя сродкі з жаргону зладзеяў у апавяданнях М.Лынькова «Над Бугам», «Баян», «На вялікай хвалі», у аповесці В.Быкава «Жураўліны крык»: *шкет* – ‘падлетак’, *замухрыжаны* – ‘непрыглядны’, *сціркі* – ‘карты’, *стырыць* – ‘украсці’, *блямба* – ‘пляма’, *касая* – ‘сто рублёў’, *туфту заражаць* – ‘верхаводзіць у несумленных справах’, *бузу церці* – ‘паводзіць сябе задзірыста, уносячы бязладдзе ў што-небудзь’ і шэраг іншых.

Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў з жарганізмамі (яны выдзелены курсівам) у маўленні персанажаў: 1) – Ты жулік быў? – Даўно *завязаў*. На заводзе работаў (І.Навуменка); 2) Чаго крычыш, дзядзя? Людзей пабудзіш. *Усёк* ці не? (В.Праскураў); 3) Пасмяяўся студэнт: «Вы, – кажа, – прыйдзіце да нас на экзамены, там гэтымі *шпорамі* вагон можна грузіць». Аказваецца, студэнты *шпорамі* шпаргалкі называюць (Н.Тулупава); 4) Мог бы і Косцік на што прыгадзіцца. Пастаяў бы хоць на *шухары* (Л.Арабей); 5) – Куды *хіляеш*, Сівы? – пераступіў з нагі на нагу даўно няголены – адпускаў бараду – Біба. – На *хавіру*? – Не ведаю. Можа, і дамоў. – А чаго кіслы? – Ай, – нехаця Валера прызнаўся – звольнілі. – Фу. Не бяры да галавы... Падумаеш. Такая бяда. Няхай чэрці *ўкалваюць*. Мы ж – пачакаем. Не *млей*. Паплывём лепш у *булдыр*. Піўка *сербанём*. Далей – пабачым. Сёння *жалезка* аванс атрымлівае. *Смурнякоў* навалам будзе... (Л.Калодзежны). Параўн. прыклад, дзе ў маўленні персанажа ўжыта жаргоннае слова, а ў аўтарскай мове – яго нарматыўны адпаведнік: «– О, гэта мы мігам! На *велік*, – уручыла Валя маці *веласіпед* і ўподбег рушыла да шашы» (І.Шамякін).

Мяжа паміж жаргоннай і агульнанароднай лексікай рухомая, таму некаторыя словы абмежаванага ўжывання з цягам часу пераходзяць у лексічны склад літаратурнай мовы. І гэта абавязкова трэба ўлічваць пры ацэнцы тых ці іншых слоў у вусным або пісьмовым маўленні.

У навучальных дапаможніках для студэнтаў-філолагаў [58, с. 69; 32, с. 81] у якасці прыкладаў жаргоннай лексікі прыводзяцца такія: *абаранак, арганіка, засыпацца, зрэзацца, зубрыць, зубрылка, кол, плаваць, хвост, філон.* Але ўсе гэтыя словы пададзены ў ТСБМ, «Слоўніку беларускай мовы» (1987), «Беларуска-рускім слоўніку», адны з паметай «разм.», другія (*абаранак* – 'рулявое кола') без паметы і, такім чынам, прызнаюцца як звычайныя лексічныя адзінкі літаратурнай мовы ці як асобныя значэнні пэўных слоў. Сказанае варта прымаць пад увагу, чытаючы адпаведныя старонкі згаданых навучальных дапаможнікаў.

У «Курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (1961) сцвярджаецца, што В.Дуніным-Марцінкевічам у «Пінскай шляхце» «былі падвергнуты рэзкай крытыцы» імкненні беларускай засцянковай шляхты стварыць свой асобны жаргон «з неарганічнай сумесі скажоных беларускіх і польскіх слоў» [34, с. 181]. Праз 30 гадоў амаль тое самае паўторана ў навучальным дапаможніку: «У дарэвалюцыйны час беларуская шляхта ўжывала свой асаблівы жаргон з сумесі беларускіх і польскіх слоў. Такі жаргон высмеяў В.Дунін-Марцінкевіч у камедыі «Пінская шляхта» [58, с. 68]. Ні ў першай, ні ў другой кнізе аўтары не прыводзяць ніводнага прыкладу ў пацвярджэнне сказанага.

Уважлівае чытанне п'есы і зварот да розных слоўнікаў не пацвярджаюць, а адмаўляюць гэта сцвярджэнне. У «Пінскай шляхце» няма ні аднаго скажонага беларускага ці польскага слова. Тут выкарыстана толькі 17 польскіх слоў, прычым пераважна ў вершаваных радках, што матывуецца патрабаваннем рытму і рыфмы і назіраецца ў многіх іншых творах В.Дуніна-Марцінкевіча.

Да ліку іншых моўных сродкаў, якія выкарыстоўваюць не на карысць чысціні маўлення, належаць так званыя **словы-паразіты**.

Часам у вусным маўленні асобнага чалавека сустракаецца любімае слова ці выраз, які паўтараецца міжвольна, механічна. Адлюстраванне гэтай з'явы знаходзім у многіх мастацкіх творах, прычым такі стылістычны прыём служыць для іранічнай абмалёўкі персанажа.

Так, у камедыі «Паўлінка» Я.Купалы Пранцісь і Агата маюць свае «стылістычныя пашпарты» – індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні: *вось-цо-да* (на аснове рускага выразу *вот это да!*), *тудэма-сюдэма* (на аснове *туды-сюды*). У гэтых выразах няма сталага фразеалагічнага значэння. Яны ўжываюцца персанажамі як выказванне і абурэння, і прыкрасці, і здзіўлення, і захаплення, і згоды, і любых іншых пачуццяў. Амаль у кожнай рэпліцы Пранціся чуваць *вось-цо-да*, а таксама *собственно* і *пане дабрудзею* (апошняе – нязменнае пры

размове і з мужчынамі, і з жанчынамі). Ён мае асаблівую прыхільнасць да гэтых слоў і выразаў, «аздабляе» імі амаль кожны сказ, ужывае іх аўтаматычна і часцей за ўсё недарэчна. Мінімальнае паведамленне ў яго абрастае гэтымі спустошанымі словамі-паразітамі: «*Собственно, вось-цо-да*, кабыла заблудзіла, *пане дабрудзею*». Некаторыя персанажы востра рэагуюць на слоўнае шалупінне Пранціся, асабліва на *вось-цо-да*, дражняць Пранціся гэтым выразам. Дражніць і жонка Агата, хоць сама не абыходзіцца без выразу-фаварыта *тудэма-сюдэма*. Вось адна з рэплік Агаты: «Тудэма-сюдэма, я сама на свае вушы чула... А так, так, тудэма-сюдэма! І мой як да мяне пасватаўся, бацька-нябожчык і кажа: ідзі, бо ўсё роўна ніхто лепшы не возьме, я падумала, тудэма-сюдэма, ну і пайшла».

У некаторых мастацкіх творах асобны фразеалагізм становіцца своеасаблівым моўным пашпартам персанажа і неаднаразова паўтараецца. Відаць, класічным прыкладам у гэтых адносінах з'яўляецца вобраз Мікіты Зноска з трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя»: Зносак больш як 250 разоў ужывае выраз *меджду протчым* (скажоны, «скалечаны» з рускага «между прочим»), прычым звычайна недарэчна, напрыклад: «Было б няважна, каб звезлі з хаты апошняга, меджду протчым, бацьку... Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светагляд?»

Маўленчай характарыстыкай Фядоса Хадыкі з паэмы «Новая зямля» Я.Коласа з'яўляецца выраз *ядзяць іх (вас) мухі з камарамі*, выкарыстаны 10 разоў як выказванне то непрыемнасці («Пакрыўдзіў бог мяне сынамі, ядзяць іх мухі з камарамі!»), то зачараванасці («Пасябраваць хачу я з вамі, ядзяць вас мухі з камарамі!»), то прыкрасці («Вашы мінскія пясочкі знаёмы добра мне, браточкі, – мясіў уласнымі нагамі, ядзяць іх мухі з камарамі!»). Адзін з суразмоўцаў Фядоса, успомніўшы пасля пра сустрэчу з ім, «Хадыку высмее часамі і яго «мухі з камарамі».

Пададзім яшчэ два прыклады, дзе аўтаматычна паўтараецца прывычны для персанажа выраз *так сказаць*: 1) А вы ведаеце, што такімі сваімі ганебнымі, я сказаў бы, паводзінамі кідаеце цень неблагачыннасці, *так сказаць*, на ўсю ўстанову, вось... Вам вядома, што гэты ваш, як яго... Пархомаў мае сям'ю, *так сказаць*, да якой ён нейкім чынам павінен захоўваць свой абавязак. Вось. І цяпер, у свеце вашага недвухсэнсоўнага прызнання, я, як старшыня мясцкома, буду вымушан не абмежавацца гэтай гутаркай, а прыняць, *так сказаць*, дзейсныя меры, з тым разлікам, каб... (В.Быкаў); 2) – І сёння ўсё яшчэ хварэеш? – Галава, *так сказаць*, баліць... А мо закурым? У мяне, *так*

*сказаць*, тытунец, між іншым, фабрычны. «Дружбай» называецца (А.Рылько).

## ДАРЭЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

У падручніку для 10 класа, у раздзеле «Агульныя патрабаванні да маўлення», сцісла, як таго патрабуе праграма, даюцца тэарэтычныя звесткі пра ўсе камунікацыйныя якасці маўлення. Найменш пашанцавала дарэчнасці маўлення. Тэорыя тут займае ўсяго тры радкі: «Маўленне лічыцца дарэчным, калі яно ажыццяўляецца з улікам месца, часу, мэт і ўмоў зносін, а выкарыстаныя ў ім моўныя сродкі адпавядаюць стылю і жанру маўлення» [16, с. 212]. Потым ідуць тры невялікія практычныя заданні – зноў-такі не канкрэтызаванага, а агульнага характару. З усяго матэрыялу, змешчанага на няпоўнай старонцы, дзесяцікласніку нялёгка ўразумець, што ж канкрэтна ўяўляе з сябе дарэчнасць. Ды і настаўніку, калі ён дадаткова не мае пад рукой больш грунтоўных распрацовак па культуры маўлення, цяжкавата зрабіць урок змястоўным і цікавым.

Літаратурная мова ў працэсе зносін, у залежнасці ад таго, якія патрэбы жыцця і дзейнасці людзей яна абслугоўвае, кожны раз рэалізуецца ў якой-небудзь адной сваёй разнавіднасці – функцыянальным стылі. Аснову гутарковага, навуковага, справавога і іншых стыляў складаюць агульналітаратурныя, стылістычна нейтральныя сродкі. Разам з тым кожнаму стылю ўласцівы свае, толькі для яго характэрныя словы, фразеалагізмы, формы і канструкцыі. Спецыфічнымі моўнымі сродкамі вылучаецца, напрыклад, справавы стыль. Ён, як і кожны з іншых стыляў, не дапускае ўжывання ў ім слоў, фразеалагізмаў, прыказак, якія ўспрымаюцца як прыналежнасць другога стылю. Кожны функцыянальны стыль мае свае стылістычныя нормы. Прыдатнае і неабходнае ў адным стылі можа быць недарэчным, памылковым у другім. Адсюль адно з асноўных патрабаванняў стылістыкі – трымацца адзінства стылю.

Маўленне дарэчнае, калі ўжытыя ў ім моўныя сродкі адпавядаюць месцу, часу, жанру, мэтам і ўмовам зносін. Дарэчнасць – адно з цэнтральных паняццяў як стылістыкі, так і культуры маўлення – забяспечваецца строгім прытрымліваннем найперш стылістычных нормаў.

«Калі хто ў сур'ёзнай кнізе, – зазначае Л.У.Шчэрба, – напіша «фагацыты *ўплятаюць* мікробаў», гэта будзе неразумна і недарэчна» [65, с. 139]. Неабумоўленае суседства рознастылёвых моўных сродкаў непрымальнае і ў мове мастацкіх тэкстаў. «Змешванне або спалучэнне

выразаў, якія належаць да розных стыляў літаратурнай мовы, у мастацкім творы павінна быць унутрана апраўдана ці матывавана. Інакш узнікае камічнае сутыкненне або перапляценне розных стыляў, якое сведчыць (калі яно не з'яўляецца мэтанакіраваным) пра недахопы маўленчай культуры ў аўтара» [10, с. 197].

Стылістычная неаднароднасць, неаднапланавасць дапускаецца толькі як мастацкі прыём, напрыклад, для стварэння іроніі, камізму. Так, у пародыі Г.Юрчанкі «Па дарозе ў Стараградак» размоўны фразеалагізм *цюцелька ў цюцельку* знарок, з парадыйным намерам пастаўлены ў акружэнне кніжных слоў: *Гэта быў удалы прыклад пераходу ад аналізу да сінтэзу, цюцелька ў цюцельку стылявая дамінанта ў яе жыццёвай абумоўленасці.*

Ідэйна-мастацкай пазіцыяй Я.Коласа, які свайго героя часам апісвае з мяккім гумарам, з добразычлівай усмешкай, вытлумачваюцца кніжныя ўкрапіны ў асобныя сказы, што складаюцца з нейтральнай і гутарковай лексікі. Напрыклад, у аповесці «Дрыгва» пра дзеда Талаша гаворыцца: 1) Дзедава напружанасць і страх крыху ачахлі, але ўсё ж такі ён покі што і надалей захоўваў сваё *інкогніта;* 2) Яго *аўдыторыя* складаецца з аднаго толькі слухача; 3) Тады дзед Талаш зрабіў некалькі разоў *экскурсію* ў цёрла з мёдам; 4) На гэтым і скончыў дзед Талаш сваю *аўдыенцыю.*

Ствараючы мастацкі вобраз, пісьменнік раскрывае яго не толькі праз дзеянні і ўчынкі героя, але і праз яго маўленне. Кожны персанаж павінен гаварыць, як пісаў Леў Талстой, «сваёй, уласцівай яго характару мовай». Параўн., як індывідуалізавана маўленне персанажаў у аповесці В.Быкава «Трэцяя ракета» – у дыялогу паміж Задарожным і Лук'янавым (былым студэнтам-архітэктарам): «– От шмат ты разумееш... А ну скажы, Лук'янаў, ці залежыць наступленне ад харчу? – Безумоўна, залежыць, – ціха зазначае Лук'янаў. – Харч – эканамічны фактар, састаўны элемент усіх дзеючых на вайне сіл». Або яшчэ ўрывак (з «Літаратуры і мастацтва»), дзе размаўляюць настаўніца і бабуля пра яе ўнука-вучня:

– Ну добра, бабуля. Давайце бліжэй да справы. Унук вас інфармаваў, што атрымаў двойку?

– Казаў, залатая мая, казаў.

– А за што, ён вам паведаміў?

– Нешта я не дужа раскумекала. Казаў, быццам не тое нешта напісаў. І што гэта з мальцам зрабілася, які на яго маладзік найшоў? Гэта ж ніколі двоек не насіў. Такі ўжо ціхі.

– Па дысцыпліне ў мяне прэтэнзій няма, сядзіць ціха...

Калі ў тэкст уводзіцца іншастылёвае слова або фразеалагізм, словазлучэнне ці прыказка і аўтар выразна ўсведамляе гэта, то ён карыстаецца слоўным стылеўказальным сродкам (тыпу *як кажуць, што называецца*) або графічным прыёмам ацэнкі маўлення (двукоссем), што ў пэўнай ступені нейтралізуе моўны сродак, узяты з іншай стылістычнай сферы, і адмяжоўвае яго ад астатніх слоў. Некалькі прыкладаў: 1) Калі і я, сказаўшы высокім стылем некаторых заслужаных жыццяпісаў, пачынаў сваю працоўную дзейнасць свіным пастушком, насып вузкакалейкі, дзе ён праходзіў па полі, быў ужо амаль зусім роўна разараны, а на пашы яшчэ заставаўся (Я.Брыль); 2) Рэйс адклалі на няпэўны час. Пагодка, як кажуць піжоны, не шэпча – туман, морась (А.Масарэнка); 3) Аргумент неабвержны, і я, што называецца, прыкусіў язык (В.Вітка); 4) Мацнейшага зусім неабавязкова перамагаць у сумленнай бойцы. Можна на яго «стукнуць» (С.Шаўцоў).

А вось прыклады, у якіх выдзеленыя словы ці фразеалагізмы парушаюць дарэчнасць маўлення, ствараючы стылістычны дысананс: 1) Мянялі *параметры*, абмазгоўвалі, як дабіцца меншай шурпатасці; 2) Надзённымі здаюцца мне *сігналы* паэтаў пра адчуванне спаду *прэстыжнасці* паэзіі і *статуса* іхняй прафесіі ў нашы дні; 3) Мы не станем проста *з бухты-барахты* адразу ўсім выкладаць аб мэце свайго візіту; 4) Праз дзесяць гадоў калгас «Бальшавік» па вытворчасці малака ўжо *наступаў на пяткі* сельскагаспадарчаму флагману Полацкага раёна – калгасу імя Сільніцкага.

«Калі ў адным і тым жа вершы, – пісаў М.Горкі, – сустракаюцца два настолькі далёкія адно ад аднаго словы, як – не рускае – «блик» і – вельмі рускае – «клоп», я гавару, што тут няма стылю, няма адзінства. На мой погляд, толькі іронія дазваляе зблiжаць настолькі далёкае...» (цыт. па: [51, с. 347]). Гэтак жа далёкія паміж сабой кніжны фразеалагізм *ва ўнісон* і размоўныя словы *Ясь, хлапчукі* і іншыя ў наступных вершаваных радках: «Пяюць хлапчукі пра Яся, /Што канюшыну касіў.../ Пяюць ва ўнісон, /З любоўю/ І разам».

Дарэчнасць маўлення парушаецца і тады, калі ў ім ёсць неапраўданыя кантэкстам «моўныя прыгажосці», «штучнае спалучэнне «лірыкі» і «публіцыстыкі» (М.Цікоцкі): 1) Непрыметнай птушкай праляцелі заняткі ў Кoханаўскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы; 2) Паміж гэтымі двума раннімі і запозненымі грыбамі можна смажыць, гатаваць, сушыць, марынаваць мноства іншых цудоўных дароў невычэрпнай лясной кладоўкі.

Рытм, рыфма, гукапіс – неабходныя кампаненты вершаванага маўлення. У прозе ж выпадковая рыфма, непрадугледжаныя рытм або алітэрацыя ці асананс становяцца перашкодай для ўспрымання

тэксту і парушаюць дарэчнасць маўлення. Як прыгадвае М.Лужанін, аднойчы Кузьма Чорны, гартаючы свежы часопіс і пасміхваючыся, прачытаў уголас: *Некаторыя апрыёрна сцвярджаюць*... – і так зрэагаваў на гэта: «Крытыкі, ліхаматары, а пішуць, як паэты. Чуеш, як *р* са сказа выломваецца?». А вось што піша Дз.Бугаёў у адной рэцэнзіі: «Не вельмі прыемна, калі такая груваствая фраза з-за непатрэбнага гукапісу і ўнутранай рыфмы не то смяецца, не то рыкае: «П'яны бамбіза ўзламаў ся*керай* дз*веры* кв*атэры пер*санальнага *пенсіянера* абласнога значэння». Аналагічныя прыклады з недарэчнымі ў празаічных тэкстах рыфмамі ці гукапісамі – нярэдкая з'ява: 1) Міронаў-мары*ніст* вядомы і як палымяны публ*іцыст*»; 2) Думаю: заўтра ран*іцой* ста*рой* ізноў важданіна са *мной*; 3) Пя*р*эднія колы ка*р*эты к*р*ута паве*р*нуты ўп*р*ава.

У некаторых працах па стылістыцы ўжыванне канцылярызмаў не ў справавым стылі, а ў іншых разглядаецца як парушэнне чысціні маўлення. Але неапраўданае выкарыстанне канцылярызмаў больш лагічна звязваць з парушэннем дарэчнасці маўлення. І вось чаму. Як вядома, маўленне лічыцца чыстым, калі ў ім няма беспадстаўна, неапраўдана ўжытых моўных сродкаў, неўласцівых літаратурнай мове. Да іх адносяцца: дыялектызмы, індывідуальна-аўтарскія запазычанні (лексічныя, фразеалагічныя, прыказкавыя) з іншых моў, аўтарскія наватворы, жарганізмы і словы-паразіты. Што да канцылярызмаў, то яны ўваходзяць у склад літаратурнай мовы, але іх ужыванне павінна абмяжоўвацца толькі афіцыйна-справавым стылем. Па-за межамі гэтага стылю яны недарэчныя. Да канцылярызмаў адносяць не толькі асобныя словы, а і словазлучэнні, цэлыя выказванні шаблоннага кшталту са шматлікімі аддзеяслоўнымі назоўнікамі, нанізваннем аднолькавых склонаў, асабліва роднага. Некаторыя прыклады: 1) У сажалках калгаса загінула шмат рыбы ад задухі. Былі ўпушчаны пытанні арганізацыі зімоўкі рыбы; 2) У той жа дзень быў аб'яўлены загад: «Ахапіць мерапрыемствамі прадпрыемства ў пытанні карэннага паляпшэння абслугоўвання заказчыкаў».

У нашай літаратурнай мове ёсць нямала слоў, якія існуюць у дзвюх разнавіднасцях-варыянтах (напрыклад, у 2-м томе ТСБМ іх каля 400). Так, назвы маладых істот нарматыўна ўжываюцца ў двух раўнапраўных варыянтах: *дзіця (дзіцё), птушаня (птушанё), ягня (ягнё), парася (парасё), цяля (цялё)* і інш. Аднак у межах аднаго сказа недарэчна выкарыстоўваць неаднастайныя варыянты такіх слоў. Працытуем у гэтай сувязі ўрывак з абразка «І аўтар сумеўся» Ф.Янкоўскага: «Рэдактар аддзела паэзіі кажа аўтару паэтычнага рукапіснага зборніка: – На адной старонцы пішаце *вышэй, бліжэй,*

*далей*, на другой – *бліжай, далей...* Хіба можна? Каб у адной кнізе, нават у адным вершы, было і так, і гэтак?»

Падобнае знаходзім і ў хрэстаматыі для 9 класа («Выбачайце, калі ласка» А.Макаёнка): «Вось паглядзіце на яго. Здаецца, *цяля, ягнё*. А ў душы ён воўк, воўк у авечай скуры». Яшчэ адзін прыклад – з часопіса «Беларусь»: «Домна зірнула ў акно і заўважыла Яўмена. Шапарнула Матруне: – Выгані *цялё* ды *парася*, а не – Яўмен лаяцца будзе».

Спынімся і на такім парушэнні дарэчнасці маўлення, калі ўжыванне пэўнага слова, фразеалагізма ці прыказкі не адпавядае часу моўных зносін. Гэта можна назіраць у творах на гістарычную тэматыку.

Ствараючы раман, аповесць, п'есу на гістарычную тэму, пісьменнік арыентуецца на чытача-сучасніка і піша ў асноўным на мове сваёй эпохі, але з пачуццём меры і мастацкай мэтазгоднасці выкарыстоўвае і моўныя сродкі той эпохі, пра якую апавядае ў мастацкіх вобразах. У выніку ствараецца неабходны гістарычны каларыт. Твор гістарычнага плана не павінен перанасычацца архаічнымі, незразумелымі моўнымі сродкамі. Разам з тым у ім нельга ўжываць словы, фразеалагізмы і прыказкі, якія ўсведамляюцца як храналагічна неадпаведныя пэўнай эпосе. Інакш кажучы, пісьменнік павінен «адчуваць узрост кожнага слова» (С.Маршак), фразеалагізма, прыказкі. Вальтэр Скот, неперазысдзены майстар гістарычнага рамана, слушна лічыў, што ў творы пра даўнейшую эпоху нельга дапускаць слоў і выразаў сучаснага паходжання. Ён пісаў, што адна справа выкарыстоўваць мову і пачуцці, аднолькава ўласцівыя і нам, і нашым продкам, другая – навязваць ім перажыванні і мову, характэрныя толькі для іх нашчадкаў (цыт. па: [14, с. 60]).

Парушэннем дарэчнасці маўлення, а таксама прынцыпу гістарычнай дакладнасці трэба лічыць выпадкі, калі аўтар занадта асучасніве мову таго ці іншага персанажа, пераносіць словы, фразеалагізмы, прыказкі, якія ўзніклі параўнальна нядаўна і звязаныя ў свядомасці чытача з пэўнай часавай характарыстыкай, у другую, ранейшую эпоху.

Несумненным лексічным анахранізмам трэба лічыць, напрыклад, дзеяслоў *рэабілітаваць* (са значэннем 'апраўдаць'), ужыты ў рамане З. Дудзюк «Велясіты», дзе персанаж Базілеус Візантыі (IX ст.) кажа: «Цяпер самы спрыяльны час для вайны супраць славян, дзякуючы якой мы рэабілітуем сябе перад народам». У гэтым жа творы чытаем: «Трэба ўзяць з сабой *гвардзейцаў*, на той выпадак, калі давядзецца сутыкнуцца з войскам». Але, як засведчана ў

энцыклапедыях, упершыню гвардзейскія фарміраванні (для аховы галоўнай асобы ў дзяржаве) з'явіліся ў Італіі ў X ст.; у славян жа людзей, якія непасрэдна ахоўвалі князя, называлі неяк інакш, але толькі не *гвардзейцамі.*

У рамане Б.Сачанкі «Вялікі Лес» дзевяцікласніца Тася Несцяровіч піша ў сваім дзённіку (падзеі адбываюцца ў першы месяц Вялікай Айчыннай вайны): «Сын служыў у арміі недзе пад Мінскам, ён – афіцэр. Як пачалася вайна, старыя, узяўшы ўнучку, кінуліся былі ў той вайсковы гарадок...». У гэтым кантэксце *афіцэр* – лексічны анахранізм, бо вядома, што ў 1941 г. ніхто не называў камандзіраў Чырвонай Арміі афіцэрамі, а байцоў – салдатамі. Нельга было так называць, за гэта каралі. В.Хомчанка ў апавяданні «Я іх ратавала» піша пра студэнтку Гендаль, якую ў 1937 г. «стараннямі Колі выключылі з тэхнікума і з камсамола за тое, што назвала чырвонаармейцаў салдатамі». Афіцэрскія і салдацкія чыны, скасаваныя ў першы год савецкай улады, былі адноўленыя, разам з увядзеннем пагонаў, толькі ў 1943 г. Дарэчы, Б.Сачанка, перавыдаючы раман, замяніў *афіцэр* іншым: *камандзір.*

У рамане Г.Далідовіча «Гаспадар-камень» (рэкамендуецца праграмай для пазакласнага чытання) стары селянін кажа (дзеянне адбываецца ў сакавіку – чэрвені 1914 г.): «Цяпер жа страшнейшая вайна будзе, чым крымская ці японская. Усе кулямётаў, танкаў, аэрапланаў, падводных лодак, газу і яшчэ ўсякай халеры нарабілі ды назапасілі». Сярод слоў, укладзеных у вусны персанажа-селяніна, ёсць і такія, якіх у той час не было і не магло быць, як і не было яшчэ саміх рэалій, абазначаных гэтымі словамі. Кулямёты ўжо выкарыстоўваліся, пачынаючы з англа-бурскай вайны 1899-1902 гг. Былі падводныя лодкі, а таксама аэрапланы (напярэдадні вайны 1914–1918 гг. яны ляталі з хуткасцю каля сотні кіламетраў у гадзіну). А што да танкаў, дык яны ўпершыню выкарыстаны англічанамі ў 1916 г. Не мог персанаж-селянін нічога ведаць і пра газы (атрутныя рэчывы), якія ўпершыню былі ўжыты нямецкімі войскамі 22 красавіка 1916 г. каля бельгійскага горада Іпр (адсюль і назва атрутнай хімічнай зброі – *іпрыт*).

Янка Купала ў трагікамедыі «Тутэйшыя» нідзе не ўжывае слова *белапалякі.* Няма яго і ў 12-томнай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» (у артыкулах, звязаных з Польшчай). А вось у падручніку для 10 класа «Беларуская літаратура» (пад рэд. В.Ляшук. Мінск, 1997, с. 285), калі размова ідзе пра п'есу «Тутэйшыя», выкарыстоўваецца гэтае слова, такое ж анахранічнае і недарэчнае, як і *белафіны* або *душманы* ў дачыненні да фінаў ці афганцаў, што грудзьмі стаялі за сваю радзіму ў барацьбе з няпрошанымі агрэсарамі. Адпаведную

характарыстыку неабходна даваць гэтаму ж слову і ў сказе «Белапалякі адступалі» з аповесці М.Лынькова «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» (вывучаецца ў 5 класе).

Анахранізмы рознага характару можна напаткаць і ў вучнёўскім вусным і пісьмовым маўленні. Часопіс «Роднае слова» (1997. № 10. С. 211–213) змясціў падборку «Хоць смейся, хоць плач» – урыўкі з пісьмовых прац абітурыентаў. Два прыклады з недарэчнасцямі: 1) Скарына ўвесь час вучыўся, вучыўся і вучыўся (як завяшчаў вялікі Ленін); 2) Янка Купала прысвяціў паэму «Тарасова доля» свайму сябру Тарасу Шаўчэнку ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння.

Чытаючы паэму К.Крапівы «Біблія», можна заўважыць нямала лексічных анахранізмаў, але іх выкарыстанне наўмыснае, свядомае, абумоўленае творчай задачай сатырыка. Так, Адам і Ева, пакараныя і прагнаныя з Эдэмскага саду, упершыню зведалі сорам, «што абое галышы». І далей: «Чырванеючы суніцай, Ева тут сказала: – Фэ! Шый, Адам, ты *галіфэ*, ну, а я сабе *спадніцу* гэтаксама буду шыць; дзеля гэтае прычыны купім *швейную машыну*». Або пра Ноя: «Пасля гэтага на свеце трыста год, да самай смерці, так бясклопатна жыў Ной, толькі гнаў ды піў віно, нібы мы цяпер вадзіцу; не было нідзе *міліцый* – не было каму забраць *самагонны апарат*». Яшчэ ўрывак: «– А плаціць ёй *аліменты* я не буду ні *працэнта*, – адказаў тады Абрам». Заўважым, дарэчы, што сама гэтая паэма К.Крапівы сёння стала анахранізмам. Але яна – факт беларускай літаратуры, таму, як кажуць, з песні слова не выкінеш.

«Узрост» уласна беларускага фразеалагізма *спаць у шапку* параўнальна невялікі: яго першую лексікаграфічную фіксацыю знаходзім у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), а яго першае пісьмовае ўжыванне належыць Я.Коласу – у вершы «Плытнікі» (1907): *Варушыся! Мігам! Не спі ў шапку! Жыва!* Гэты фразеалагізм мае ярка выражанае ацэначнае значэнне і пакуль што не можа ўспрымацца інакш, як тыповы размоўны выраз нашых дзён. Яго перанос у другую культурна-гістарычную эпоху ды яшчэ выкарыстанне як нейтральнага сродку ў дачыненні да князя – у перакладзе Я.Семяжона паэмы М.Гусоўскага «Песня пра зубра», выдадзенай на лацінскай мове ў 1523 г. у Кракаве, – неапраўданая мадэрнізацыя: «Ён [князь] паміж войнамі *ў шапку не спаў* і дружыны ў дзікіх аблавах на звера прывучваў змагацца так, як і ў бітвах з татарамі». Фразеалагізм *спаць у шапку* яшчэ больш непрыдатны, гістарычна і стылістычна чужародны ў аповесці Б.Сачанкі «Дыярыуш Мацея Белановіча», ад пачатку да канца стылізаванай пад мову XVII ст.: «Яшчэ пан харужы каронны повеў Яго Мосці, што ён не *спіць у шапку*, сочыць за

Хмяльніцкім, пільна сочыць». *Спаць у шапку* ў гэтых тэкстах – фразеалагічны анахранізм.

Дзеянне ў рамане Л.Дайнекі «Меч князя Вячкі» адбываецца ў XII ст. У адным з эпізодаў расказваецца, як аднойчы «заўважыла княгіня, што маленькая князёўна і маленькі смерд Мірошка сябруюць між сабой...» І далей: «– Крапіўнае семя, – аж задыхнулася Дабранега. – Як смее гэты брудны смерд набліжацца да княжацкай дачкі?» У сучасных фразеалагічных слоўніках як рускай, так і беларускай моў выраз *крапіўнае семя* падаецца з паметай «устарэлы» як пагардлівае абазначэнне чыноўнікаў – кручкатвораў і хабарнікаў. Таму здзіўляешся: няўжо ў XII ст. гэты выраз абазначаў нешта іншае? І яшчэ: а ці існаваў ён наогул у тыя часы? У гэтым самым рамане сустракаемся і з такім дыялогам:

– Дабраслаўчык, ці не дасі мне трут? Я свой згубіў.

– Што я табе з калена выламлю? – вылаяўся Дабраслаў, і воі адышлі ад вазоў.

Тут *з калена выламаць* – бясспрэчны фразеалагічны анахранізм.

У адным творы пра падзеі XIII ст. знаходзім: «– Ну не цягні ката за хвост! – паласкавела Раксана, аж гатовая нават прытуліцца. – Скажы». Каламбурны выраз параўнальна нядаўняга паходжання *цягнуць ката за хвост* тут успрымаецца сучасным чытачом як відавочны, адчувальны анахранізм.

Гаворка ў п'есе А.Петрашкевіча «Напісанае застаецца» ідзе пра Ф.Скарыну, які, як вядома, жыў у 1490–1551 гг. Адзін з персанажаў п'есы, Адвернік, калі Скарына «ўдастоіўся аўдыенцыі самога вялікага рэфарматара Марціна Лютэра», кажа: «Не кожнаму ўдаецца на свае вочы такога чалавека ўбачыць, які на самога папу рымскага бочку коціць». Тут ужыванне фразеалагізма *бочку каціць*, несумненна, неапраўданае, памылковае. Гэта экспрэсіўны выраз з яркім адбіткам сучаснасці, з арэолам навізны. Ён трапіў у нашу мову, хутчэй за ўсё, з рускай мовы, дзе, відаць, яго першае друкаванае выкарыстанне знаходзім у газеце «Правда» (1972. 21 чэрв.): «На Алтае есть выражение «катить бочку», что значит «возвести напраслину на кого-нибудь».

Акрэсленую часавую характарыстыку, відавочны след сучаснасці і абмежаваную геаграфію пашырэння мае фразеалагізм *пярэдні край*. Ён ужываецца са значэннем 'найважнейшы, самы адказны ўчастак чаго-небудзь' (напрыклад, *крытыка – пярэдні край літаратуры*) толькі ва ўсходнеславянскіх мовах і склаўся параўнальна нядаўна – пасля Вялікай Айчыннай вайны, узнікшы ў выніку метафарызацыі ваеннага тэрміна *пярэдні край* 'пярэдняя лінія ў раёне

баявых дзеянняў’. Зразумела, ні гэтага ваеннага тэрміна, ні тым больш аманімічнага з ім фразеалагізма не ведалі і не маглі ведаць у эпоху Адраджэння, калі жыў беларускі паэт-лаціністМ.Гусоўскі. Аднак Я.Семяжон, перакладчык паэмы «Песня пра зубра», піша:

Мы на пярэднім краі хрысціянства заставай
Орды варожыя грудзі на грудзі прымаем.

Прастамоўны выраз *адкуль ногі растуць* склаўся зусім нядаўна – у апошнія 10–15 гадоў. Ён ужываецца пры дзеясловах *ведаць, высвятляць* і пад. і абазначае ‘ў чым сутнасць справы, з-за чаго пачалося што-небудзь’. У рамане ж А.Наварыча «Літоўскі воўк» (дзеянне адбываецца ў 1863 г.) гэты выраз укладваецца ў вусны персанажа і, дарэчы, надзяляецца нейкім іншым, не надта зразумелым сэнсам: «Аканом прыслухаўся... «Пойдуць з торбамі, але гонару не страцяць... Гэта як у Дастаеўскага... Во адкуль ногі растуць у маскоўскага гардзякі... Ад тутэйшай шляхты...»

Фразеалагізм *лапшу на вушы вешаць* таксама нядаўняга паходжання. Таму яго выкарыстанне ў рамане-хроніцы У.Гніламёдава «Усход», у эпізодзе з часоў адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., недарэчнае, анахранічнае: «– Трэба цярпліва чакаць Устаноўчага сходу. Цярпліва! Куды вы спяшаецеся? Будзе закон – возьмеце сваё... – Ды што ён лапшу на вушы вешае! – у голасе Мішы чулася абурэнне». Ёсць у гэтым рамане і такая недарэчнасць. На адной старонцы чытаем дыялог персанажаў: «– Чуў? Мікалашку – каленкам пад зад? – Чуў. Керанскі цяпер заместа цара». А на папярэдняй старонцы сказана, што пасажырам «на дарогу выдалі адпаведнае пасведчанне, складзенае па-новаму, *без цвёрдага знака*». Але ж пры Керанскім не маглі выдаваць дакументы «без цвёрдага знака». Арфаграфічная рэформа ў Расіі была праведзена на год пазней: у 1918 г. спецыяльным дэкрэтам бальшавікі адмянілі напісанне цвёрдага знака на канцы слоў, выключылі з алфавіта *яць, фіту*, унеслі многія іншыя змены.

Раман Г.Далідовіча «Свой дом» храналагічна ахоплівае падзеі 1918 г. у Беларусі. Тут выкарыстаны фразеалагізм *зорны час*, якога тады яшчэ не было на свеце: «Пасярод, на самым ганаровым месцы, селі генерал Фінкельштэйн і Скураны, які за апошнія дні ажывіўся, нават заззяў, адчуваючы свой зорны час». У беларускай мове гэты фразеалагізм ужываецца ў форме *зорная часіна (гадзіна), зорны час*, а этымалагічна гэта крылаты выраз аўстрыйскага пісьменніка С.Цвэйга – з прадмовы да яго зборніка гістарычных навел «Зорныя гадзіны чалавецтва» (1927). Гэты зборнік перакладзены на рускую мову ўпершыню толькі ў 1956 г., пасля чаго выраз замацаваўся ў рускай мове *(звёздный час)* і, як калька, у беларускай.

Звернемся цяпер да прыказкавых анахранізмаў.

У памянёным ужо рамане З.Дудзюк «Велясіты» падзеі адбываюцца ў 805–807 гг., а можа, і раней, бо перад пачаткам рамана даецца ўрывак з гістарычнага даследавання: «Улада славян над Грэцыяй доўжылася, згодна са звесткамі патрыярха Мікалая ІІІ, 218 гадоў, да перамогі грэкаў у Патрасе (805–807 гады)». У рамане, як ужо гаварылася, сустракаюцца анахранізмы лексічныя, а таксама фразеалагічныя: *забіць двух зайцаў, весці рэй, з агню ды ў полымя, толькі за смерцю пасылаць, цягнуць ката за хвост* і інш. Ёсць тут і прыказкавыя анахранізмы, напрыклад: «Вокамір, у сваю чаргу гатовы да самых страшных пакут, стараўся трымацца як мага спакойным. Ён разумеў, што *крумкач крумкачу вока не выдзеўбе* – рамеяў, напэўна, пашкадуюць». Выдзеленая прыказка – калька з лацінскай мовы, і ў VIII ці IX ст. нашы далёкія продкі не маглі яе ўжываць. Яшчэ ў адным урыўку персанаж кажа: «Народ убачыць, што недарма даверыў нам кіраваць сабою, а заадно ўзбагацім казну нарабаваным. Разумею, што будуць і сіраты, але ж *пераможцаў не судзяць*». Выдзеленая тут прыказка – паўкалька з рускай мовы і склалася толькі пры імператрыцы Кацярыне ІІ, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў ім.

Празмернае асучасніванне мовы персанажаў адчуваецца і ў некаторых творах Л.Дайнекі. Ва ўжо згаданым рамане «Меч князя Вячкі» сустракаем: «Ды рана радавалася Гарэлая Весь... Толькі паменела снегу ў пушчы і на рэках, як прыйшла ў Свіслацкае княства дружына друцкіх князёў. Кажуць жа людзі: *куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй...* Дручане палезлі на вал, але сустрэў іх Рагвалод стрэламі калёнымі, каменнямі-галышамі з камнястрэльнай машыны, смалой і агнём». Выкарыстаная тут прыказка – парэміялагічны анахранізм. Да таго ж ужыта яна не з тым значэннем, якое замацавалася за ёй у народнай мове. Яе звычайны сталы сэнс – ‘за старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы, нявопытны’.

У другім рамане Л.Дайнекі – «След ваўкалака» – дзеянне адбываецца ў XI ст. Вось урывак з рамана: «Праўду кажуць: *у голад намруцца, у вайну налгуцца.* Калі вялікі князь салгаў, падмануў, не будзе яму даравання ні на гэтым свеце, ні на тым». Ніяк не верыцца, што ў тыя далёкія часы людзі ведалі выдзеленую прыказку і што наогул яна існавала тады. Тое самае варта сказаць і пра яшчэ адну прыказку ў эпізодзе бітвы паміж русічамі і полаўцамі: «Усяго некалькі імгненняў валтузіліся яны, а здавалася, прайшла вечнасць. Лют у

адзін скок развярнуўся, ляснуў цяжкой дубінай па загрыўку полаўца, крыкнуўшы: – *Не лезь, жаба, дзе коні куюць!*» Гэта прыказка нарматыўна выкарыстоўваецца зусім у іншай сітуацыі, тут яна ўжыта з парушэннем семантычнага характару, яе традыцыйны сэнс – ‘не ўмешвайся ў справы, якія не маюць дачынення да цябе’.

Асобна можна спыніцца на недарэчным суправаджэнні трафарэтнага спалучэння *дзве вялікія розніцы*. Апошнім часам яго даволі часта ўжываюць з дзівацкай дабаўкай. Справа ў тым, што па маскоўскім тэлебачанні ў неаднойчы паўторанай перадачы з удзелам артыста М.Жванецкага гэта спалучэнне прагучала з дадаткам «як кажуць у нас, у Адэсе». Сказанае прынялі за чыстую манету, і цяпер у друку ўжыванне гэтага спалучэння абавязкова суправаджаецца дабаўкай пра Адэсу. Напрыклад, у аповесці І.Навуменкі «Вір» чытаем: «Яго завуць Аляксандрам (а не Грышкам), і гэта, як гавораць у Адэсе, дзве вялікія розніцы». Ці ў «Зацемках...» Л.Галубовіча: «Гэта ж дзве вялікія розніцы, як баюць у Адэсе». Або яшчэ: «Расія і Беларусь – гэта дзве вялікія розніцы, як кажуць у Адэсе» (Л.Гразнова); «У Еўропе ўведзена прынцыпова новая валюта – еўра. У нас жа не ўводзіцца нейкая агульная валюта саюзнай дзяржавы, а расійскі рубель у Беларусі. А гэта, як сказалі б у Адэсе, дзве вялікія розніцы» (А.Драбчук). Але так гаварылі і гавораць не толькі ў Адэсе. Так казаў у 1918 г. і Мікіта Зносак з Купалавай камедыі «Тутэйшыя»: «Меджду протчым, не раздаю, а прадаю, а гэта вялікія дзве розніцы».

## БАГАЦЦЕ МАЎЛЕННЯ

Часам у навуковай і навучальнай літаратуры пішуць, што мова якога-небудзь пісьменніка ці яго пэўнага твора «вельмі багатая», «вылучаецца выключным багаццем». У пацвярджэнне прыводзіцца асобны ўрывак з твора ці некалькі сказаў з курсіўным вылучэннем некаторых рэдкаўжывальных або сэнсава ёмістых слоў, двух-трох фразеалагізмаў з выразнымі прыметамі мастацка-паэтычнага характару ці трапных народных прыказак. У такім разе сэнс слова *багацце* ў дачыненні да мовы ці маўлення застаецца няясным, туманным, расплывістым. А між тым ёсць канкрэтныя паказчыкі маўленчага багацця.

Багацце маўлення – гэта яго аптымальная насычанасць рознымі сродкамі мовы, прычым без нематываванага іх паўтарэння. «Маўленне тым багацейшае, чым радзей паўтараюцца ў ім адны і тыя ж знакі і ланцужкі знакаў, а гэта, у сваю чаргу, азначае, што маўленне тым багацейшае, чым яно больш разнастайнае па сваёй

моўнай структуры, і менавіта гэтая акалічнасць дазваляе як бы атаясамліваць багацце і разнастайнасць маўлення» [19, с. 214-215].

Асноўныя ўмовы, якія забяспечваюць багацце маўлення, – гэта значны актыўны запас моўных сродкаў у таго, хто гаворыць ці піша, і сукупнасць навыкаў іх прымянення.

У стварэнні маўленчага багацця ўдзельнічаюць розныя структурныя элементы мовы. Таму можна асобна гаварыць пра лексічнае, семантычнае, фразеалагічнае, прыказкавае і сінтаксічнае багацце (разнастайнасць) маўлення.

Прыкладам **лексічнага** багацця можа быць верш Я.Купалы «І прыйдзе». У ім 153 словы. Амаль усе яны ўжытыя па адным разе. Выключэнне складаюць службовыя словы (*і, а, не* і інш.), а таксама паўторна ўжытыя *суд* і *гісторыя*, якія тут выконваюць важную ідэйную і канструкцыйную ролю. Такое рэдкае ўжыванне слоў якраз і адпавядае вядомаму закону пра павелічэнне інфармацыйнай каштоўнасці знака з памяншэннем яго частотнасці.

Рэдкаснае ўжыванне адных і тых жа слоў характэрна для вельмі многіх добрых твораў. У байцы К.Крапівы «Дыпламаваны Баран» 171 слова. Амаль усе яны маюць частотнасць 1. Паўтараюцца толькі службовыя словы і займеннікі, без паўтарэння якіх нельга абысціся ў любым тэксце. Са слоў з намінацыйнай функцыяй паўторна ўжыты толькі асобныя назоўнікі, якімі абазначаны дзейныя асобы *(Баран, Кошка)* або якія нясуць у байцы істотную канструкцыйную нагрузку (*дыплом, галава, лоб*). Паўтараецца і дзеяслоў *заслужыў*, але ў дзвюх суседніх рэпліках разам з іншымі паўторанымі словамі (*дыплом, галава, лоб*) як рэакцыя Кошкі на папярэдняе выказванне. Двойчы ўжытыя словы *няма* і *другі* рэалізуюць у байцы свае розныя значэнні: «Калі *няма* разумніка *другога...*»; «Хіба мне пахваліцца *няма чым*?»; «*Другі* баран – ні «бэ», ні «мя»...».

Звернемся цяпер да верша Р.Барадуліна «Чакалі». У ім – своеасаблівы нібыта эпіграф, выдзелены курсівам *(Харон глядзеў / туманна з-пад рукі:/ Каго ў Ляўкі, / Каго на Салаўкі...)*, і ўсяго тры страфы, але яны надта ж ёмістыя, у іх сапраўды словам цесна, а думкам прасторна. Тут у мастацкіх вобразах змяшчаецца багацейшая інфармацыя пра драматычны лёс Янкі Купалы пры сталінскім таталітарным рэжыме.

Душаловы чакалі,
Калі заляціць
Птах,
Якога засватала неба.

І палын саладзіць,
І руку залаціць
Служкі д'яблавы ўмеюць
Што трэба.

Як Тарасу,
Нашэптваў Дняпро: не пішы...
Кпіла з келіхаў
  Поўня, як кварта...
  Краты промняў на шыбінах,
  Ноч на душы.
  Дрэвы й цені –

Падвойная варта.

І сціскаліся марна
Радкоў кулакі.
І баялася восені лета.
Палявалі ваўкі...
Балявалі Ляўкі –
Залачоная клетка Паэта...

У вершы 71 слова (разам з загаловачным). Паўтараюцца службовыя словы: *і, на, як.* З паўназначных слоў паўтораны *чакалі* (у загалоўку і ў тэксце), *каго* («Каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі») – як прыём сінтаксічнага паралелізму, а таксама *Ляўкі,* прычым у гэту назву абодва разы ўкладваюцца няслоўнікавыя значэнні.

Часам у мастацкім творы можна сустрэць неаднаразова паўторанае на адной-дзвюх старонках слова, і калі яно мнагазначнае ды кожны раз ужыта з іншым значэннем, дык перад намі своеасаблівае абыгрыванне слова і сведчанне не беднасці маўлення, а яго багацця ў **семантычным** плане. Напрыклад, у байцы К.Крапівы «Мандат» (вывучаецца ў IX класе) пяць разоў выкарыстана слова *галава.* Яно рэалізуецца ў чатырох значэннях, прычым два значэнні, калі іх параўнаць з агульнамоўнымі, слоўнікавымі, атрымалі семантычны зрух. Адно са значэнняў гэтага слова, як засведчана ў ТСБМ, – ‘чалавек вялікага розуму’. Аднак яно ўжыта ў дачыненні не да чалавека, а да Асла, і гэтым дасягаецца камізм, іранічнасць:

– Ну й розум! Вось дык *галава*! –
  Не раз гучалі хвалы словы,
  Другі дык ледзь не цалаваў
  Капыцікі асловы.

Камізм яшчэ больш узмацняецца тым, што гэтае слова з папярэдняй рэплікі персанажа, ужытае для экспрэсіўна-вобразнай характарыстыкі Асла, потым выкарыстоўваецца ў аўтарскай мове нібыта ў якасці нейтральнага наймення, другой назвы таго ж Асла:

А *«галава»* з мандатам у паўметра
Стаіць над яслямі ў хляве:
Ніводнай думкі ў *галаве...*

Вылучанае тут апошняе слова *галава* абазначае ‘пярэдняя частка цела ў жывёл, якая змяшчае ў сабе мозг’. На незвычайнае выкарыстанне слова *галава* ў радку *А «галава» з мандатам у*

*паўметра* паказвае і тое, што яно ўзята ў двукоссе. Байка заканчваецца мараллю, у якой зноў сустракаемся са словам *галава*, ужытым са значэннем 'розум, свядомасць':

Бывае іншы раз і з нашым братам,
Што *галаву* заменьваюць мандатам,
Ды мы спраўджваем такіх аслоў
Без лішніх слоў.

У тэксце байкі ёсць і яшчэ адна *галава*, але не як самастойнае слова, а як кампанент фразеалагізма *галава кругом пайшла* (у каго) з яго цэласным значэннем 'хто-небудзь страціў здольнасць цвяроза разважаць':

Ад шчасця гэтага ў Асла
Аж *галава кругом пайшла*,
І вылецеў з *яе* апошні розум...

Тут абыгрываецца фразеалагізм *галава кругом пайшла* апрадмечваннем яго назоўнікавага кампанента, замест якога ў радку і *вылецеў з **яе** апошні розум* у якасці «намесніка» заняў месца займеннік *яе* з кантэкстуальным значэннем 'пярэдняя частка цела жывёлы'.

Слова *баран* у байцы К.Крапівы «Дыпламаваны Баран» ужыта пяць разоў, пры гэтым тройчы пададзена з вялікай літары, а двойчы – з малой. У сказах *Хадзіў Баран у чарадзе* і *Што гэта за «дыплом», / Баран – ні «мя», ні «бэ»* назоўнік *Баран*, як і прынята ў алегарычных творах-байках, пішацца з вялікай літары, абазначаючы назву персанажа. У сказе *Разумных бараноў наогул жа нямнога, / А гэты дык дурней дурнога* слова *баран* мае першаснае, зыходнае значэнне 'свойская жвачная жывёліна, самец авечкі'. Байка завяршаецца мараллю: *Другі баран – ні «бэ», ні «мя», /А любіць гучнае імя.* Тут ужо *баран* абазначае 'тупы, някемлівы, абмежаваны чалавек'. У загалоўку ж байкі назоўнік у спалучэнні з прыметнікам набывае дваісты змест. Гэта найперш 'невук з апломбам', а таксама 'жывёліна, якой далі «дыплом»-мету'.

Разнастайныя значэнні слова *кропля*, слоўнікавыя і індывідуальна-аўтарскія, рэалізуюцца ў вершы Р.Барадуліна «Кропля»: «Неразгаданая *кропля* нашай зямлі. Крамяная *кропля* ўрачыстай зоркі. Закаханая *кропля* журботнага вока. *Кропля* мёду ў вуллі. *Кропля* дажджавой гаворкі. *Кропля* кропкі ў запавеце Прарока... *Кропля* жарсці зямносцю сваёй незямная жыццё зачынае».

К.Крапіва ў апавяданні «Мой сусед» (вывучаецца ў школе) абыгрывае мноства значэнняў слова *час*: «Ёсць наш *час* і *час* даўнейшы, *час* залаты і *час* праклятый, *час* доўгі і *час* кароткі. Адзін у свой *час* быў вялікім чалавекам, а ў нашы *часы* нічога не варт. Другі стаў бы вялікім чалавекам, але ён не мае *часу*, каб заняцца сваёю вялікаю справаю. Адзін не мае *часу* носа ўцерці, а другі ные ад таго, што не ведае, куды яму дзець лішні *час*. Ёсць людзі, якія «ўбіваюць» *час*, скарыстоўваюць *час*, нават папярэджваюць *час* і проста марна трацяць *час*». Тут рэалізуюцца розныя значэнні: 'перыяд, эпоха', 'больш-менш пэўны прамежак у паслядоўнай змене гадзін, дзён, гадоў', 'спрыяльная пара', 'паслядоўная змена мінут, гадзін і пад.' і інш., а таксама ў складзе спалучэнняў *у свой час* – 'некалі, калісьці', *у нашы часы* – 'цяпер', *не мае часу* – 'не мае вольнай ад асноўнага занятку гадзіны, дня і пад.'.

Зазначым, дарэчы, што ў мастацкім творы неаднойчы паўторанае слова з аднолькавым значэннем таксама далёка не заўсёды з'яўляецца паказчыкам беднасці маўлення, неапраўданай таўталогіі. Паўтарэнне аднолькавых ці аднакаранёвых слоў, а то і цэлых радкоў нярэдка выкарыстоўваецца як стылістычны прыём. Прыгадаем у рамане Я.Гашака «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка» (пераклад К.Крапівы) адказ на пытанне следчага, ці няма ў Швейка пярэчанняў супраць запісанага ў пратаколе допыту: «Хай *было*, як *было*, бо як-небудзь ды *было*: ніколі ж не *было*, каб ніяк не *было*». Або ў вершы Я.Янішчыц: «Хоць *лютуе люта люты* – / Неба свеціцца вакол». У вершы Я.Купалы «Яшчэ прыйдзе вясна» пасля кожнай страфы ідзе рэфрэн, такі самы, як і загаловак. Купалаў верш «Пойдзем» складаецца з чатырох строфаў, у ім восем разоў (праз радок) паўтараецца дзеяслоў *пойдзем* на пачатку радка, і гэта ўжо стылістычная фігура – анафара.

Сустракаюцца і выпадкі неапраўданай таўталогіі. Так, у рамане У.Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» знаходзім незвычайную эксплуатацыю дзеяслова *сказаў* у наступным урыўку:

– Казырны кароль, – *сказаў* ён.
– У мяне туз і дама, – *сказаў* Война. – Кідай карты.
– Я ведаю, – *сказаў* Мусатаў. – У цябе дзве біткі, у мяне – адна.
– На шчасце, – *сказаў* Война.
– На жаль, – *сказаў* Мусатаў.

– Кідай, – *сказаў* Война.

– Зараз, – *сказаў* Мусатаў.

Параўн. іншае – у аповесці В.Быкава «Пакахай мяне, салдацік». Тут толькі ў трэцяй частцы сказаў, што суправаджаюць простую мову, у ролі выказніка выступае дзеяслоў *сказаў*. У астатніх выпадках гэта або іншыя дзеясловы маўлення і думкі, або дзеясловы, якія характарызуюць манеру маўлення, мэтанакіраванасць выказвання ці абазначаюць пачуцці, міміку, рухі, унутраны стан таго, хто гаворыць. Вось толькі некалькі прыкладаў: *вымавіў, абвясціў, аб'явіў, зазначыў, прамычаў, бурчэў, адказаў, паўтарыў, скончыў, папярэдзіў, паклікаў, схлусіў, прапанаваў, сумеўся, жахнуўся, зазлаваў, вызверыўся, раз'юшыўся, засумняваўся, папытаўся, пацвердзіў, ахалодзіў, згадзіўся, узрадаваўся, здзівіўся.*

Досыць частае і стылістычна апраўданае, мэтанакіраванае ўжыванне фразеалагізмаў – сведчанне **фразеалагічнага** маўленчага багацця: 1) [Размова па тэлефоне:] Я не *ківаю на Пятра*, я толькі гавару, што і мы не *ў бога цялятка ўкралі*... Што?.. Я, таварыш Варонін, *словамі* не *кідаюся*... І вы мне, *калі ласка*... Што?.. (Я.Брыль); 2) *Націснулі, што называецца, на ўсе кнопкі, застукалі ва ўсе дзверы* (К.Крапіва); 3) Каму-каму, а Валошку маніць – *не дай бог. На чыстую ваду ўсё ройна выведзе. Не сёння дык заўтра* (В.Карамазаў).

Фразеалагізмы, як і словы, з'яўляюцца «будаўнічым матэрыялам» для сказа і шырока выкарыстоўваюцца ў вусным і пісьмовым маўленні. Вось некаторыя колькасныя паказчыкі фразеалагізмаў на 100 старонак мастацкага тэксту. У прозе: «Мядзведзічы» К.Крапівы – 367, «Апошні зверыядавец» М.Лынькова – 180, «Сын» Р.Мурашкі – 175, «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава – 167, «Будучыня» Э.Самуйлёнка – 158, «Праз гады» П.Галавача – 155, «Сокі цаліны» Ц.Гартнага – 126. У паэмах: «Біблія», «Хвядос – Чырвоны нос» К.Крапівы – 290, «Новая зямля» Я.Коласа – 198, «Прыгоды дзеда Міхеда» А.Астрэйкі – 170. Параўн. таксама ў п'есах (прыкладна аднолькавага памеру): «Партызаны» К.Крапівы – 248, «Выбачайце, калі ласка» А.Макаёнка – 220, «Папараць-кветка» І.Козела – 135.

Зразумела, ніякай меркі, што акрэслівае, колькі фразеалагізмаў можна ўжываць, няма і не павінна быць. Тут самае галоўнае, з якой натуральнасцю і ідэйна-мастацкай мэтазгоднасцю яны ўводзяцца ў тэкст. Пры ўжыванні гэтых моўных самацветаў нельга, аднак, кіравацца вядомай прыказкай *Кашы маслам не сапсуеш*, бо фразе-

алагічная перанасычанасць твора не павялічвае яго мастацка-выяўленчай вартасці. Я.Ф.Карскі слушна зазначыў, што ў оперы В.Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка» мова войта Навума, «як у славутага збраяносца Дон-Кіхота Санча Пансы, не ў меру перасыпана масай народных прыказак і прымавак» [28, с. 50].

З другога боку, адсутнасць у творы фразеалагізмаў ці слабае выкарыстанне гэтага найбагацейшага сродку мастацкай выразнасці пазбаўляе мову нацыянальнага каларыту, часам робіць яе бледнай і бясколернай, падобнай на няўдалы пераклад з чужой мовы. Менавіта ў адсутнасці «чыста рускіх зваротаў» В.Р.Бялінскі бачыў слабасць стылю Карамзіна, які «пагарджаў ідыёмамі рускай мовы, не прыслухоўваўся да мовы прасталюдзінаў і не вывучаў наогул родных крыніц». І наадварот, адной з крыніц славы І.А.Крылова, якая «ўсё будзе расці і пышней квітнець», Бялінскі лічыў тое, што байкі Крылова ўвабралі ў сябе «невычэрпнае багацце ідыём, русізмаў, якія складаюць народную фізіяномію мовы, яе арыгінальныя сродкі і самабытнае, самароднае багацце», і што вялікі байкапісец змог перадаць такую асаблівасць «рускага нацыянальнага духу», як здольнасць «коратка, ясна і разам кучарава выказвацца» (цыт. па: [51, с. 148, 155]).

Майстры слова пры выбары фразеалагізма кіруюцца не толькі крытэрыем яго мэтазгоднасці ў пэўным кантэксце, але і імкненнем не паўтараць самога сябе. Хоць фразеалагізмы з'яўляюцца агульнанароднымі сродкамі выразнасці, але калі той ці іншы з іх (за выключэннем некаторых тыпу *ўсё роўна*) неаднаразова сустракаецца ў адным творы, то гэта не можа не кідацца ў вочы, не ствараць уражання стандартнага выказвання. Таму многія мастакі слова, паслядоўна прытрымліваючыся «няпісанага правіла», з належным пачуццём меры выкарыстоўваюць фразеалагізмы, не паўтараючы іх без пэўнай стылістычнай матывацыі ў адным творы.

Напрыклад, у Купалавай трагікамедыі «Тутэйшыя» 176 фразеалагізмаў. 140 з іх маюць адзінкавую частотнасць. Астатнія – паўтараюцца, але амаль усе паўторы ўнутрана апраўданыя, матываваныя. Сярод выразаў, выкарыстаных па 2–5 разоў і болей, найперш трэба вылучыць групу фразеалагізмаў, якія і на агульнамоўным узроўні маюць найбольшую частотнасць. Гэта, як правіла, бязвобразныя адзінкі, часта мнагазначныя, кожны раз ужытыя з іншым значэннем (*усё роўна, так сабе* і інш.). Сюды ж адносяцца зварот ветлівасці *калі ласка*, прывітальныя звароты *дзень добры, добры вечар*. Некаторыя

выразы паўтараюцца ў аўтарскіх рэмарках пры аднолькавай сітуацыі (*браць пад казырок, на мігі*) або ў дзвюх суседніх рэпліках як рэакцыя суразмоўніка на пачуты выраз (*псаваць кроў, пяты закараткі, сэрца не ляжыць*). Шмат якія іншыя фразеалагізмы выкарыстоўваюцца для індывідуальнай маўленчай характарыстыкі персанажаў. Так, толькі Спічыні паўтарае *чорным па белым*, Усходні вучоны – *чорт падзяры*, Заходні вучоны – *пся крэў*, Зносак – *маё шанаванне, к чорту* і знакамітае *медждy протчым*, гэты своеасаблівы моўны пашпарт персанажа, ужыты больш як 250 разоў і звычайна недарэчна, без пэўнай сэнсавай і мадальнай нагрузкі; напрыклад: «Дзень добры, мамзель, медждy протчым!», «Я заўсёды схіляю перад імі сваю, медждy протчым, галаву».

Гаворачы пра багацце маўлення, нельга абмінуць і **прыказкавае** маўленчае багацце. У выніку шматгадовага вывучэння мовы, быту, звычаяў свайго народа І.І.Насовіч зазначыў: «Беларусы ўсе факты, усе выпадковасці чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і дрэнныя, і ўсякае нават меркаванне пра што-небудзь падводзяць пад мерку прыказак сваіх... Паміж простых людзей ёсць шмат такіх здольных, якія на ўсякую падзею, на ўсякі выпадак, вясёлы, спрэчны, сумны, – адразу ж і дарэчы выдаюць прыказку, нібы яны знарок вывучалі іх, як тыя, хто, авалодваючы лацінскай мовай, завучвае на памяць дыстыхі Катонавы» [53, с. III-IV]. Шырокую вядомасць, распаўсюджанасць і ўжывальнасць прыказак у народзе падмеціў і К.Крапіва: «Ёсць такія аматары прыказак, якія чуць не кожны свой крок апраўдваюць прыказкаю, чуць не кожны свой выраз аздабляюць ёю. Пра такіх нават і знарочыстая прыказка ўтварылася: *Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца*» [30, с. 217].

Гэта пашыранасць прыказак у народзе знаходзіць сваё адлюстраванне і ў мастацкіх тэкстах. Так, у трылогіі Я.Коласа «На ростанях» выкарыстана 109 прыказак, у п’есах Я.Купалы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» іх адпаведна 18 і 21, у раманах «Сокі цаліны» Ц.Гартнага – 29, «Людзі на балоце» І.Мележа – 26, «Птушкі і гнёзды» Я.Брыля – 32, «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава – 30, у аповесцях «Рудабельская рэспубліка» С.Грахоўскага – 24, «Шануй сваё імя» В.Блакіта – 12.

Ступень стылістычнай актыўнасці прыказак (як, дарэчы, і фразеалагізмаў) у мастацкіх творах розных аўтараў залежыць ад індывідуальнай схільнасці таго ці іншага пісьменніка, яго прыналежнасці да пэўнага літаратурнага напрамку, ад таго, як добра

валодае пісьменнік парэміялогіяй, ад яго парэмійнага запасу. Залежыць гэта, відаць, і ад таго, ці звяртаецца аўтар пры напісанні твора да слоўнікаў і іншых даведнікаў. Так, вядома, што Л.Талстой перад пачаткам працы над раманам «Вайна і мір» спісаў два аркушы прыказкамі і прымаўкамі (на адным 29, на другім 33), а затым увёў гэтыя і шмат якія іншыя выслоўі ў твор. Пра карыстанне слоўнікамі і даведнікамі гаворыць і К.Крапіва: «У працэсе напісання твораў я спецыяльна звяртаўся да зборнікаў Насовіча і Ляцкага. З гэтымі зборнікамі я знаёміўся ў розныя часы раней. Трапныя выразы з гэтых зборнікаў (і не толькі з гэтых), а таксама з жывой народнай гаворкі адкладваліся ў памяці і ў патрэбны момант прыходзілі на думку» (З пісьма К.Крапівы ад 25 мая 1971 г. аўтару гэтых радкоў).

У часопісе «Дзеяслоў» (2005. №№ 15, 16) змешчаны адказы некаторых пісьменнікаў на анкету, у якой ёсць дзесяткі пытанняў. Адно з іх такое: «Ці звяртаецеся падчас напісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедый?» Вось некалькі адказаў. *Я.Брыль*: «Даведачнай літаратурай карыстаюся і чытаючы, і пішучы. Сабраныя за многія гады энцыклапедыі на мове роднай, рускай, польскай і ўкраінскай незаменна служаць у пажыццёвай самаадукацыі». *Н.Гілевіч*: «У слоўніках капаюся часта, без іх сваёй працы проста не ўяўляю... Да энцыклапедычных выданняў на розных мовах... таксама звяртаюся часта. Прафесійная праца абавязвае». *Р.Барадулін:* «Слова для мяне – усё... З маладых гадоў люблю слоўнікі». *А.Вярцінскі:* «Да слоўнікаў і даведнікаў звяртаюся. Люблю гэта рабіць. Гэта адначасова – і праца, і адхланне».

Ужыванне пэўнай прыказкі ў любым маўленні, і мастацкім у тым ліку, абумоўліваецца зместам выказвання, адпаведнай сітуацыяй, неабходнасцю больш дакладна і пераканаўча выказаць тую ці іншую думку. У мастацкім творы пісьменнік звычайна пазбягае паўтарэнняў адных і тых жа прыказак, знаходзіць належную замену ім. Калі ж прыказка ўжыта неаднойчы, то паўтарэнне, як правіла, матываванае. Пакажам гэта на двух прыкладах.

У трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя» выкарыстана 8 прыказак (дарэчы, палова з іх – у маўленні Янкі Здольніка). Ніводная прыказка не паўтараецца.

У рамане К.Крапівы «Мядзведзічы» ёсць 37 прыказак. Дзве з іх паўтараюцца. Адна – *Выйдзе праўда наверх* – служыць сродкам маўленчай характарыстыкі дзеда Агея, які ўжывае яе ў розных

сітуацыях двойчы: «– Пачакайце, *выйдзе праўда наверх.* Папомніце маё слова, хіба я жыў не буду, – гарачыўся Агей, стукаючы палкаю ў мёрзлы снег»; «– Вось, сынку, казаў я тады – *выйдзе праўда наверх*, – лагодна пыхкае Агей цыгаркаю. – Вось яна і выйшла, на маім стала...» Трэці раз прыказка выкарыстана пры апісанні далейшых вясковых падзей, калі «ўспомнілі, што і тады, пасля суда Соміка з Наздрэйкамі, ён [Агей] усё на штосьці намякаў, кажучы, што злодзея шукаюць не там і што *праўда наверх выйдзе*». Другая прыказка – *Свая кашуля бліжэй к целу* – адзін раз ужыта Аўдоляй, якая са злосцю гаворыць Зосі: «Здурнеў Юзік твой... Але дзе ж, *свая кашуля бліжэй к целу*»; другі раз – у маўленні Зосі, якая пераказвае Юзіку: «Яна яшчэ сказала, што табе *свая кашуля бліжэй к целу.* Але я ведаю, што гэта няпраўда».

Рэдкасць ужывання адных і тых жа прыказак у творы, як, дарэчы, і фразеалагізмаў, вытлумачваецца нежаданнем пісьменніка некалькі разоў эксплуатаваць гатовы матэрыял і імкненнем шукаць і шукаць новыя сродкі выразнасці, у тым ліку і сярод нявыкарыстаных парэмійных ці фразеалагічных рэсурсаў.

Звяртаючы ўвагу на дзесятак прыказак, ужытых у дзелавой перапісцы – у «Лістах Філона С.Кміты-Чарнабыльскага», Я.Ф.Карскі ў адным з сямі выпускаў сваёй капітальнай працы «Беларусы» пісаў у 1916 г., што «ў XVI ст. да прыказак зварочваліся асобы вышэйшай інтэлігенцыі, а не толькі просты народ, як цяпер» [27, с. 472]. Гэтае супастаўленне «як цяпер» вымушае сказаць, што вельмі многія сучасныя аўтары, асабліва маладзейшага пакалення, пазбягаюць ужывання прыказак у сваіх творах (відаць, і іхні парэмійны запас невялікі, і да розных даведнікаў не звяртаюцца). Так, у часопісе «Полымя» (2004. № 7) змешчаны аповесць, апавяданні, п'еса і іншыя творы, а прыказак тут усяго тры: дзве ў апавяданні У.Дамашэвіча (*Пасмяяўся кацёл з гаршка; Маслам кашы не сапсуеш*) і адна (*Сарока на хвасце прынесла*) у сямейнай хроніцы І.Дуброўскага. У «Полымі» (2004. № 10) – толькі адна прыказка – у аповесці А.Бароўскага «Вужык». У часопісе «Маладосць» (2004. № 9) – толькі дзве прыказкі, абедзве у апавяданні Л.Левановіча.

Тут ужо так і просіцца на язык Багдановічаў радок-прыказка: *Няма таго, што раньш было.*

Часам на поўным сур'ёзе раяць чытаць, перачытваць і запамінаць прыказкі, бо «чым часцей чытач звяртаецца да гэтай

скарбніцы народнай мудрасці, тым шырэй будзе запас яго слоў» [2, с. 11]. Але ці так гэта?

Прыказкі толькі зрэдку складаюцца з двух кампанентаў (12 прыказак з 1 500 прааналізаваных): *Госць – нявольнік; Пажывём – пабачым* і інш. Часцей сустракаюцца трохкампанентныя прыказкі (іх 81), напрыклад: *Добрае далёка чуваць; Можа надвое варожа.* Колькасць слоў-кампанентаў у астатніх прыказках значна большая – ад 4 да 18: *І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.* Агульная ж колькасць лексічных адзінак, якія, з рознай ступенню актыўнасці, удзельнічаюць ва ўтварэнні прыказак, невялікая. У 1 500 прыказках выкарыстана (з далёка не аднолькавай частотнасцю) усяго 2 596 лексічных адзінак з ліку паўназначных і службовых часцін мовы. Прычым прыназоўнікі, злучнікі і часціцы з'яўляюцца найбольш актыўнымі будаўнічымі элементамі прыказак. Іншымі найбольш частотнымі выступаюць шматлікія назоўнікі (*бог* – у 62 прыказках, *чорт* – у 44, *конь* – у 39, *хлеб, галава, рука, нага, рот* і інш.), дзеясловы (*быць* – у 94 прыказках, *бачыць, баяцца, ведаць, браць* і г.д.).

Як бачым, усе гэтыя і іншыя словы, што сустракаюцца ў прыказках, добра вядомыя ўсім моўнікам. А таму ад чытання і перачытвання прыказак «запас слоў» у чытача нічуць не павялічыцца і яго актыўны слоўнікавы склад ніяк не можа ўзбагаціцца. Карысць ад чытання і запамінання прыказак – у іншым: ва ўменні іх прымяняць у маўленчай практыцы.

**Сінтаксічнае** багацце выяўляецца ў выкарыстанні разнастайных сінтаксічных канструкцый – словазлучэнняў рознай структуры, неаднатыпных простых, ускладненых і складаных сказаў. Гэта можна бачыць у наступным урыўку з аповесці Я.Брыля «У Забалоцці днее».

На лузе – ні душы. Вунь далёка толькі вяртаецца з вёскі ліса. Рудая плямка сунецца па снежнай нерушы, нібы строчыць на кужалі ўзор сваіх дробных слядоў.

А вось і лес. Цёпла пад снегам маленькім елачкам, яны быццам ватай абкладзены. Многа снегу на лапках ялін. Дуга чапляецца за голле, і на конскую спіну церушыцца белы іскрысты пыл. Я прыгінаюся, заплюшчваю вочы і радасна ўспамінаю словы майго сваяка: «Лясы і нетры – усё цяпер наша, народнае!..»

Калі ж два суседнія сказы будуюцца па аднолькавай схеме і пачынаюцца, напрыклад, з дзеепрыслоўных словазлучэнняў, то гава-

рыць пра багацце маўлення ўжо не выпадае: «*Гледзячы на зробленае*, бачым, што ў скарбонку духоўнай культуры кіно і тэлебачанне ў садружнасці з літаратурай унеслі нямала. Але, *звяртаючыся яшчэ і яшчэ да твораў пісьменнікаў*, разумееш – экран у іх прачытанні зрабіў толькі першыя крокі». Аднастайнасць, беднасць маўлення можна бачыць і ў такім урыўку з аднатыпнымі даданымі часткамі: «Сучасная мова даволі багата сінанімічнымі і варыянтнымі сродкамі, *што дае магчымасць пазбегнуць такіх паўтораў*. Нярэдкія ў мове газет няправільныя калькаванні з рускай мовы, *што вядзе да сінтаксічных памылак*».

Далей варта больш падрабязна спыніцца на адным правіле, якое цесна звязана з сінтаксічным багаццем і без практычнага валодання якім вучні і студэнты наўрад ці змогуць правільна выкарыстоўваць у вусным і пісьмовым маўленні складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі. Гаворка пойдзе пра **ўжыванне аднолькавых злучнікаў** у згаданых сказах.

Як вядома, складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі вызначаюцца разнастайнай структурай і характарам сувязі паміж часткамі і ў адпаведнасці з гэтым падзяляюцца на сказы з сузалежным аднародным, сузалежным неаднародным і паслядоўным падпарадкаваннем. Асноўным сродкам сувязі ў гэтых сказах выступаюць злучнікі і злучальныя словы.

Ужыванне адных і тых падпарадкавальных злучнікаў ці злучальных слоў у складаназалежных сказах з сузалежнымі аднароднымі часткамі з'яўляецца апраўданым, неабходным, бо ў сувязь з галоўнай часткай уступаюць аднатыпныя (скажам, толькі дапаўняльныя) часткі: «З якой зайздрасцю і непакоем пазіралі Валодзькавы вочы, *як* каля хлява запрагаў старэйшы брат рудога Гуза, пагрозна пакрыкваючы, *як* дзед укладваў касу, *як* маці прывязвала торбу з харчамі і абгортвала ўкінутай у воз травою дубовую біклажку з вадой» (І.Мележ).

Даданыя часткі ў сказах з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем звычайна разнатыпныя (напрыклад, адна азначальная, другая дапаўняльная), а таму звязваюцца з галоўнай часткай неаднолькавымі сродкамі сувязі. Зрэдку сустракаюцца ў сказах з неаднародным падпарадкаваннем і аднатыпныя часткі. У такіх выпадках выкарыстанне аднолькавых злучальных сродкаў таксама неабходнае, матываванае і, як правіла, адзіна магчымае. «Не запальваючы святла, Астап схадзіў у істопку, *дзе* стаялі гладышы з

малаком, не спяшаючыся павячэраў і ўлёгся спаць у сенцах, *дзе* было не так душна, як у хаце» (М.Лынькоў).

Што да сказаў з паслядоўным падпарадкаваннем, то іх даданыя часткі бываюць і разнатыпныя, і аднатыпныя. У такіх сказах, незалежна ад таго, з разнатыпных ці аднатыпных частак яны складаюцца, ужыванне аднолькавых падпарадкавальных злучнікаў або злучальных слоў стварае нематываваную таўталагічнасць і лічыцца стылістычнай памылкай, парушэннем моўнай нормы. Падобныя канструкцыі часам выкарыстоўваюцца ў мастацкіх тэкстах з гумарыстычнай мэтай, служаць, напрыклад, сродкам маўленчай характарыстыкі пэўнага персанажа. Так, І.Мележ у рамане «Завеі, снежань» з насмешкай і непрыхільнасцю малюе вобраз Дубадзела, зазначаючы, што для гэтага «гарачага прамоўцы... не так важныя самі словы, думкі, якія ішлі часта без ладу, паўтараліся, – колькі тон прамовы, той запал, якім ён не даваў прытухаць ні на секунду»: «... Бо сваім паступкам... вы паказалі ўсяму народу, *якое* ў вас яшчэ мужыцкае, некалхознае нутро, *якое* думае толькі пра сваю выгаду і *якому* напляваць на тое, што робіцца ў перадавом нашым раёне і ў нашым окрузе, а також ў нашым Савецкім Саюзе, *які* ў даны момант акружаны з усіх бакоў рознай буржуазіяй, *якая* з усіх сіл стараецца задушыць наш Савецкі Саюз, а іменна – стараецца, штоб сарваць нашу пяцілетку, нашу індустрылізацыю і калекцівізацыю, *якія* наносяць ёй смярцельны ўдар!»

Калі ў сказах з паслядоўным падпарадкаваннем без якой-небудзь спецыяльнай мэты нанізваюцца адна на адну аднатыпныя часткі, то гэта робіць маўленне бедным і аднастайным, цяжкім для ўспрымання і немілагучным. Акадэмічная граматыка беларускай мовы слушна кваліфікуе такія сказы як «стылістычна заганныя» [21, с. 668] (у любым стылі). Вось толькі некалькі прыкладаў з вялікага мноства: 1) Толькі людзі тэхнічна няграматныя, нядбайныя аварыйшчыкі могуць дапусціць такі фантан, *які* пры такім ціску, *які* даюць рэчыцкія скважыны, быў бы катастрофай (у гэтым прыкладзе замест другога *які* лепш ужыць злучальнае слова *што*); 2) Гэта былі так званыя хапуны, *якія* рабілі аблавы на моладзь, *якая* ўхілялася ад пасылкі ў Германію; 3) Я прымыкаў іменна да гэтай «тэрытарыяльнай групоўкі», *якая* была антаганістам той, суверэнітэт *якой* я хацеў парушыць; 4) Павел падаўся да сямікласнікаў, ад *якіх* адмаўлялася Таццяна Сяргееўна, *якую* ўрэшце і паслухалі – далі ёй сёлета ў

кіраўніцтва чацвёрты клас; 5) Калі Маша пачала раіць, *якія* закускі можна згатаваць з тых прадуктаў, *якія* Тарас выцягнуў з пограба, Валянціну Андрэеўну здзівілі яе кулінарныя веды.

Апрача злучальнага слова *які* нярэдка паўтараецца *што*. Аднак неаднаразовае ўжыванне слова *што* не заўсёды заганнае, бо гэта лексічная адзінка выступае то як займеннік у ролі злучальнага слова, то як злучнік. Фактычна гэта не адно слова, а два (так і падаюцца гэтыя словы-амонімы ва ўсіх нашых слоўніках). Таму ў сказах з паслядоўным, а таксама з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем выкарыстанне амонімаў – злучальнага слова *што* і злучніка *што* – звычайная з'ява, якая не павінна разглядацца як таўталогія. У пададзеных ніжэй сказах злучальнае слова *што* свабодна замяняецца іншым – *які*: 1) А сёння раніцой людзі казалі, *што* нашы часці ідуць ужо назад па гэтай дарозе, трымаючы кірунак на масты, *што* (= якія) ніжэй па рацэ (М.Лынькоў); 2) У момант вока ён хватае карабін з рук старшага легіянера, *што* (= які) ішоў наўзбоч ззаду, і б'е яго з такою сілаю прыкладам па галаве, *што* ложа карабіна ломіцца (Я.Колас); 3) Чалавек, *што* (= які) жыве акрай таго лесу, гаварыў пасля, *што* ён якраз у той час хадзіў кудысьці, паставіўшы ў яго каня (К.Чорны).

Калі ж у сказах з паслядоўным падпарадкаваннем сустракаецца паўторнае ўжыванне злучніка *што*, то гэта – парушэнне нормы: «Яна была так задумаўшыся, *што* не заўважыла, *што* маці згатавала сняданак».

У школе пры вывучэнні складаназалежных сказаў з некалькімі даданымі часткамі неабходна на канкрэтных прыкладах паказаць вучням, калі можна і трэба, а калі нельга ўжываць аднолькавыя сродкі сувязі ў такіх сказах.

## ВЫРАЗНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

Маўленне выразнае, калі яно пабудавана так, што асаблівасцямі сваёй структуры, падборам моўных сродкаў уздзейнічае не толькі на свядомасць, але і на пачуцці чалавека, калі яно «падтрымлівае ўвагу і цікавасць слухача або чытача» [19, с. 186].

Выразнасць патрэбна ўсім функцыянальным стылям. Але найбольш ярка яна праяўляецца (павінна праяўляцца) у мастацкім, гутарковым і публіцыстычным маўленні.

Асноўнымі крыніцамі маўленчай выразнасці з'яўляюцца словы, фразеалагізмы, прыказкі. Выкарыстоўваюцца таксама фанетычныя і сінтаксічныя сродкі выразнасці. Найчасцей выразнасць ствараецца такімі сродкамі (тропамі), як параўнанне, метафара, эпітэт і г.д.

У структуры **параўнання** заўсёды ёсць тры лагічна неабходныя элементы: суб'ект параўнання (тое, што параўноўваецца), аб'ект параўнання (тое, з чым параўноўваецца) і аснова параўнання (агульная прымета дзвюх з'яў). Так, у сказе з «Новай зямлі» Я.Коласа «Уперавалку, як бы качка, у хату йдзе кума-сваячка» *кума-сваячка* – суб'ект параўнання, *як бы качка* – аб'ект параўнання, а асновай параўнання з'яўляецца прымета *ўперавалку*. Звычайна адны асобы, прадметы, з'явы супастаўляюцца з другімі, добра знаёмымі чытачу. У выніку тое, што параўноўваецца, становіцца відавочным і выразным, канкрэтызуецца. Сувязь паміж аб'ектам параўнання і асновай параўнання граматычна афармляецца найчасцей пры дапамозе злучніка *як*. Выкарыстоўваюцца і іншыя злучнікі.

У мастацкім маўленні ўвагу прыцягваюць не збітыя, банальныя параўнанні, а такія, у якіх ёсць элемент вынаходлівасці, навізны, нечаканасці. Напрыклад, у «Новай зямлі» Я.Коласа тоўстая, непаваротлівая і вельмі цяжкая «кадушка-Зося» параўноўваецца з глінай, а закінуты дзедаў човен супастаўляецца з сенатарам у адстаўцы: «Кадушка-Зося сонцам ззяе; Міхал ёй злазіць памагае. Яна ж, *як гліна*, надта цяжка, пад ёю ўкрэхча каламажка»; «Дзед Юрка быў рыбак скарбовы, скарбовай чайкай карыстаўся, а ўласны човен так валяўся, *як бы ў адстаўцы той сенатар*».

Малюючы горад з яго хабарнікамі-чыноўнікамі, «таўшчэразнымі, пузатымі» панамі, Я.Колас у раздзеле «Дзядзька ў Вільні» падае ўсё гэта праз успрыманне Антося – вясковага простага чалавека. Адсюль усе параўнанні носяць канкрэтны характар, маюць сялянска-бытавы каларыт, адпавядаюць сатырычным задачам паэта. Некалькі прыкладаў: «чыноўнік буркнуў штосьці сярдзіта, *бы той япрук каля карыта*», «махнуў чыноўнік барадою, *як саламянаю мятлою*», «сядзяць пісцы, *як гною кучкі*, скрыпяць іх пёры, ходзяць ручкі, трашчаць, *як конікі на сене* ці *тыя шашалі ў палене*», пісарчук вынік «перад сябрамі, *як тая порхаўка часамі па цёплым дождзыку з зямлі*», гарадавы «стаіць, *як той пастух над статкам*, і наглядае за парадкам», у пана, «*як студзень*, карк трасецца», адны з паноў «круглыя, *як бровны*», «другія выпетрылі *ў палку*».

Іншы раз параўнанне не проста стварае вобразнасць у межах аднаго вершаванага радка, а распаўсюджвае моцную «радыяцыю» на далейшы тэкст, дзе таксама выразна адчуваецца як бы працяг таго самага вобраза. Так, Я.Колас параўноўвае шулы з салдатамі, а затым ужывае ў дачыненні да тых жа шул «намагнічаныя» параўнаннем словы з незвычайнай семантыкай *зухаваты, башлык, шапкі*: «Ў парканах шулы, *як салдаты*, стаяць у струнку, *зухаваты, башлык* высокі, *шапкі* новы, *«Ура!» гукнуць табе гатовы*».

Вобразнае пераасэнсаванне атрымалі многія словы і словазлучэнні ў байцы К.Крапівы «Жаба ў каляіне», дзе яны, «намагнічаныя» параўнальным зваротам, выступаюць сродкам мяккага гумару пры апісанні селяніна з яго «бухматым возам», які не едзе, а, «нібы ў зялёным моры, плыве». Ужыўшы такое параўнанне, аўтар разгортвае яго ў цэласную карціну: воз, што плыве, «*як паміж рыфаў*, паміж коп», параўноўваецца з параходам, конь становіцца рухавіком з «адзінай конскай сілай», селянін – «лахматым капітанам», які «важнасць твару надае»:

І, каб не стала, загадзе
Сваёй адзінай «конскай сіле»,
Якая й так напружвае ўсё жылле,
Ён пугай пары паддае.

Дарэчы, тут тэхнічны тэрмін *конская сіла* трапляе ў нязвычнае акружэнне, напаўняецца новым сэнсам, служыць сінонімам да слова *конь* (з яго «адзінай «конскай сілай»), а фразеалагізм *пары паддае*, на фоне параўнання з параходам, набывае адначасова і канкрэтны сэнс.

Шмат цікавых і нечаканых параўнальных зваротаў ёсць у творах Р.Барадуліна. «Загартаваны працаўнік» у аднайменным вершы «прывык да загадаў, *як лозунг да клічнікаў*, і да вымоў, *як спіна да гарчычнікаў*: астыне стары – гарачэйшы новы, ад скразнякоў саграваюць вымовы». Або: «З пустым рукавом сын вярнуўся дамоў, а маці, *як яблыня*, белая з гора...» («Палата мінёраў»); «Беларусь, *як палатніну*, кроілі на мундзіры ды на каптаны» («Да беларусаў свету»).

Разнастайныя асацыяцыі і багаты падтэкст выклікаюцца мініяцюрай «Глісты» Р.Барадуліна (з нізкі «Палітлірыка»): «Піў з аднадумцамі з балеі і з цэбра партадвар густы. Камуністычныя ідэі выходзяць цяжка, *як глісты*». Тут і нечаканае параўнанне, і двухпланавае ўжыванне дзеяслова *выходзяць*, і яшчэ што-нішто. А ў дадатак – аўтарскі неалагізм *партадвар.*

Часта Р.Барадулін бярэ для асновы параўнання мнагазначнае слова і нібы паварочвае яго сваімі сэнсавымі гранямі то да суб'екта параўнання, то да аб'екта параўнання. Два значэнні адначасова рэалізуе прыметнік *голая* ў сказе «Бяроза голая, *як ісціна*» («Прадчуванне вясны»). Тут *голая* ў дачыненні да бярозы абазначае 'бязлістая', а да ісціны – 'абсалютная, чыстая'. Падвойны змест атрымлівае дзеяслоў *асушылі* ('зрабілі сухімі, адвёўшы лішак вады' і 'выпілі') у вершы «Балаты на хаду асушылі…»: «Балаты на хаду асушылі, *як вітальную чашу*, да дна. Перацялі лясам сухажыллі – перспектыва далёка відна». Гэтак жа чытач адчувае двухсэнсавасць дзеяслова *парадзець* ('стаць менш частым' і 'паменшыцца колькасна') у вершы «Сельскія інтэлігенты»: «Парадзелі, *як і лясы*, сельскія інтэлігенты».

Асобна варта спыніцца на разгорнутых параўнаннях. Яны складаюцца з аднаго ці некалькіх сказаў. Такіх параўнанняў вельмі многа ў Коласавай «Новай зямлі». Аўтар, напрыклад, параўноўвае хату, якая сярод запушчанай будовы выглядала зухавата, з засцянковай шляхцянкай і дае падрабязнае апісанне гэтай шляхцянкі – аб'екта параўнання (гэты ўрывак прыведзены ў раздзеле «Чысціня маўлення»).

Многія разгорнутыя параўнанні па сваёй структуры з'яўляюцца развітымі параўнальнымі часткамі: «І покі дзядзька распісаўся, на лбе буйны пот паказаўся, *бы дзядзька летняю парою прайшоў па купінах з касою*». Шмат якія параўнанні структурна арганізаваныя як складаныя сказы: «Ўпярод не ступіш ані кроку – прапала вуліца ды годзе! Таўчэцца дзядзька, *як у бродзе той сом, прыціснуты плытамі, што ў букце жыў век пад карчамі*». Ёсць і іншыя разгорнутыя параўнанні, цікавыя ў структурных адносінах. У адрозненне ад папярэдніх, дзе аб'ект параўнання стаіць услед за суб'ектам параўнання, тут спачатку ідзе разгорнутае параўнанне, а затым гаворыцца пра суб'ект параўнання; другая частка параўнання пачынаецца словам *так*: «*Як у калысачцы дзіцятка, калі ўжо трошкі акрыяе, сваю галоўку падымае і навакол глядзіць здзіўлёна,* – так гэта збожжайка зялёна да сонца цягнецца літкамі, *бы к матцы дзіцятка рукамі*». У канцы ўрыўка – яшчэ адно параўнанне.

У аснове некаторых параўнанняў падчас ляжыць гіпербала або літота, напрыклад: 1) У пакоіку быў ложак, *як поле бою пад*

*Койданавам* (У.Караткевіч); 2) Яшчэ раз Яська азірнуўся, павесіў шапку, распрануўся – *як вузел*, хлопец невялічкі! (Я.Колас).

Сродкам мастацкай выразнасці даволі часта выступаюць **эпітэты**: 1) Ціха на мяккай траве *сінявокая* ноч прахадзіла (М.Багдановіч); 2) Восень – *бяззубая, лысая* восень! (Н.Гілевіч).

Верш П.Панчанкі «Беларуская мова» пачынаецца радкамі: «Ільняная і жытнёвая. Сялянская. Баравая ў казачнай красе. Старажытная. Ты самая славянская. Светлая, як травы у расе». Тут – незвычайныя эпітэты ў дачыненні да мовы. *Ільняная і жытнёвая, баравая* – гэта словы з сэнсавым прырашчэннем. За імі – багатая прастора для думкі і пачуццяў. Паэт гэтымі эпітэтамі хоча сказаць, што наша мова склалася не на базе, скажам, царкоўнаславянскай і не ў выніку зліцця якіх-небудзь двух дыялектаў, а мае глыбокія народныя карані, народную аснову, нарадзілася і сфармавалася непасрэдна ў нетрах народа, у асяроддзі сялян, якія спрадвеку сеялі лён ды жыта, жылі ў атачэнні бароў казачнай прыгажосці.

**Метафары, увасабленні, метанімії і сінекдахі** таксама яркія сродкі маўленчай выразнасці: 1) Недзе з-за пагоркаў *выкатваецца* аранжавы *бохан* сонца. Высокія яліны *мачаюць у чырвань* свае вяршаліны (Л.Калодзежны); 2) Адразу стала цяніста і прахалодна. Часам *уздыхалі* над галавой кедры (У.Караткевіч); 3) Каліны *спалілі* бярозавы гай (В.Гардзей); 4) Здаецца, тут недзе павінен быў пачынацца Грышвіцкі лес – знаёмая, бяспечная мясціна, іх партызанская *парафія* (В.Быкаў); 5) Быў сенакос. *Пойдзень* Сібіры касіў (Я.Сіпакоў); 6) Ступіў наш дзядзька крокам смелым, ідзе к сталу, што быў паблізкай, да *барады* счырвона-рыжай – і перад тою *барадою* схіліўся нізка галавою (Я.Колас).

Між іншым, наконт апошняга прыкладу (з «Новай зямлі» Я.Коласа) можна зрабіць адну заўвагу тэксталагічнага кшталту. У першай публікацыі раздзела «Дзядзька ў Вільні» (1918) паэт пісаў пра Антося: «І дзядзька крокам йдзе *нясмелым...*» Ва ўсіх наступных публікацыях прыметнік *нясмелы* заменены яго супрацьлегласцю: «Ступіў наш дзядзька крокам *смелым*». Такая замена была, хутчэй за ўсё, вымушанай: нечаканая смеласць дзядзькі Антося ніяк не стыкуецца з яго паводзінамі і прыгнечаным настроем, рэалістычна апісаным на папярэдніх старонках паэмы, і з такімі, напрыклад, радкамі: «Забіты дух яго вякамі ўжо чуе страх перад панамі». Поўнасцю паэма была ўпершыню апублікаваная ў 1923 г., у савецкі

час, калі ўжо трэба было пабойвацца пільнай бальшавіцкай цэнзуры. І паэт, відаць, мусіў па ўказцы цэнзара або па волі «ўнутранага рэдактара» надаць дзядзьку Антосю адвагі і рашучасці.

Можна прывесці сотні прыкладаў з мастацкіх тэкстаў, дзе метафарычна ўжытае слова набывае семантычныя зрухі, няслоўнікавае значэнне, асацыятыўна звязанае з зыходным значэннем і з вобразнай сістэмай пэўнага твора.

Даволі часта словы атрымліваюць «сэнсавыя абертоны» (Б.А.Ларын) у вершаваным маўленні Р.Барадуліна. Гэта дасягаецца разнастайнымі шляхамі: выкарыстаннем агульнанароднага слова ў незвычайным, нехарактэрным для яго акружэнні, у спецыфічнай маўленчай сітуацыі і г.д. Так, у літаратурнай мове дзеяслоў *адпяваць* мае адзінае значэнне ‘спраўляць над нябожчыкам абрад адпявання’, а ў Р.Барадуліна – свежае, арыгінальнае ўжыванне гэтага слова: «*Адпяваюць* паяльнай лямпай чорнага вепрука» («Нясвіж па-восеньску»). І яшчэ: «Пераспелае бабіна лета *адпяваюць* манахі-гракі» («Лінія перамены дат»). У першым прыкладзе *адпяваюць* – ‘смаляць (толькі што заколатага вепрука)’; у другім – праз параўнанне гракоў з манахамі – гэта ‘развітваюцца (з бабіным летам)’.

Нельга думаць, што індывідуальна-аўтарскае пераасэнсаванне слоў бывае толькі ў вершаваных творах. Ёсць яно і ў прозе, асабліва, скажам, у Я.Брыля, В.Адамчыка. Між іншым, пададзім выказванне В.Адамчыка з яго дзённікавых старонак «Чорны адбітак на белай сцяне». Чытаючы аповесці Я.Коласа «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся», пісьменнік «спачатку быў жахнуўся ад праставатасці ці скупасці мастацкіх сродкаў і з жалем і шкадаваннем загарнуў... І ўсё ж коласаўская проза на нейкую прыступку вышай за бясконцае, нястрыманае пісанне таго-сяго з нашых народных. У іх ці знойдзеш нават такое: «мудрая маўклівасць далечыні», «танюткая намітка сінечы», «срэбна-шэрае жыта», «вятрак з паднятымі і знямелымі ў вячэрняй цішы крыллямі».

Калі словазлучэнне складаецца з некалькіх унутрана звязаных метафар, то перад намі разгорнутая метафара. Напрыклад, у вершаваных радках В.Зуёнка «*Частуецца пойлам атрутным* народ наш *з катлоў* тэлерадыё» выдзеленыя словы – разгорнутая метафара. Яе сэнс – ‘атрымлівае скажоную, аднабаковую, небяспечную інфармацыю’. Шматлікія разгорнутыя метафары знаходзім у «Новай зямлі» Я.Коласа. Так, у радках «Час у Парэчча зноў вярнуцца і *ў* іншых

